Ідэя кнігі *Алесь Бяляцкі, Ірына Пракопчык, Саша Кулаева*
Аўтар-укладальнік *Ірына Пракопчык*
Стыль-рэдактар *Эдуард Акулін*
Дызайн і вёрстка *Аўгіння Багдановіч*
Карэктар *Наталля Лукашова*

Фотаздымкі: Аляксей Лапіцкі, Андрэй Шаўлюга, Гіём Бюк (Guillaume Bück / FIDH), Сюзанна Лёф (Susanna Loof / OSCE), Сяргей Балай, Сяргей Грыц, Сяргей Гудзілін, Уладзь Грыдзін, Штэфан Роль (Stephan Röhl / Heinrich-Böll-Stiftung), Эрхан Арык (Erhan Arik / FIDH), Юлія Дарашкевіч, Юра Сідун

“Альбом салідарнасці” распавядае гісторыю зняволення і вызвалення палітычнага вязня ў адной аўтарытарнай краіне працягласцю ў 1052 дні.

У цэнтры гэтай гісторыі — беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі. У выніку сфабрыкаванай справы за праваабарончую дзейнасць ён быў асуджаны на чатыры з паловай гады зняволення, але выйшаў на свабоду раней за прысуджаны тэрмін. Гэта адбылося дзякуючы надзвычай шырокаму руху інтэрнацыянальнай салідарнасці ў падтрымку праваабаронцы.

У альбоме сабраныя і апісаныя вельмі важныя і больш сціплыя, стратэгічныя і сімвалічныя, скаардынаваныя і спантанныя крокі мноства людзей і арганізацыяў з розных краінаў свету, якія паказалі глыбіню і моц чалавечай неабыякавасці. Насамрэч дзеянняў у падтрымку Алеся Бяляцкага было больш, але цяжка ахапіць неабдымнае. Гэтая кампанія міжнароднай салідарнасці з беларускім палітычным зняволеным, праваабаронцам застанецца ў гісторыі змагання за правы чалавека і дэмакратыю ў Беларусі.

Электронную версію выдання глядзіце на сайце spring96.org

Праваабарончы цэнтр “Вясна” (Беларусь), Östgruppen (Швецыя), 2017

Сталася так, што першыя старонкі «Альбома салідарнасці» з’явіліся 4 лютага 2016 года — у дзень, калі, паводле судовага прысуду, павінен быў скончыцца тэрмін зняволення праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Чатыры гады і шэсць месяцаў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму — так беларускія ўлады “ацанілі” ягоны ўнёсак у абарону правоў чалавека ў краіне.

> *«4 лютага. Вось і настаў гэты дзень. Колькі разоў я паўтараў на праверцы ў жодзінскім СІЗА гэтую фразу: Асуджаны Бяляцкі Аляксандр Віктаравіч. Год нараджэння 25.09.1962. Артыкул 241 частка 2. Тэрмін 4 гады 6 месяцаў. Пачатак тэрміну 04.08.2011. Заканчэнне тэрміну 04.02.2016. Уключаны тады гадзіннік цікаў да сённяшняга дня. Вось жа ўрэшце я на свабодзе. Ці не?»* — такі тэкст у гэты дзень напісаў Алесь Бяляцкі ў Фэйсбуку.

«Нарэшце Алесь на свабодзе! Ці не?» — падобную нясмелую радасць зведалі шмат людзей, адначасна ў розных краінах, калі праз мабільную сувязь ці глабальнае сеціва да іх прыляцела нечаканая вестка. Як зараз памятаю сваё здранцвенне ў тое імгненне, калі атрымала такое тэлефанаванне — была субота, 21 чэрвеня 2014 года. “У 15.05 электрычкай прыбывае на «Інстытут культуры»” — навіна-“маланка” ў атмасферы Мінска ў той дзень працяла кожнага, хто чакаў Алеся на свабодзе ўсе 2 гады, 10 месяцаў і 17 дзён.

«Без вашае дапамогі нічога б не было. Міжнародная і ўнутраная падтрымка прывялі да таго, што мяне адпусцілі раней на год і восем месяцаў», — так праваабаронца адказаў на пытанне пра прычыну яго датэрміновага вызвалення ўсім, хто прыйшоў сустракаць яго на чыгуначную платформу. Гэтую думку ён пасля шматкроць паўтараў на ўсіх прэс-канферэнцыях і сустрэчах, дзе ішла гаворка пра яго вызваленне.

Дапамога, міжнародная і ўнутраная падтрымка — за гэтымі словамі стаіць сукупнасць шматлікіх намаганняў многіх людзей і арганізацыяў у розных краінах, якія прыкладаліся дзеля дасягнення агульнай мэты. Было два асноўныя цэнтры канцэнтрацыі гэтых намаганняў — Праваабарончы цэнтр “Вясна” ў Беларусі і Міжнародная

федэрацыя за правы чалавека за межамі краіны, для якіх вызваленне Алеся Бяляцкага стала мэтай жыцця і штодзённай працы на ўвесь час зняволення праваабаронцы. Безумоўна, жонка і сям'я палітвязня, якія не толькі разам з ім праходзілі цяжкое выпрабаванне, але змагаліся і рабілі ўсё ад іх залежнае, каб падтрымаць яго за кратамі і дабіцца яго вызвалення. І было шырокае кола ўключаных у гэты працэс арганізацыяў і ініцыятываў, кожная з якіх зрабіла свой унёсак у агульную кампанію па вызваленні беларускага праваабаронцы.

Напаўненне кампаніі рознымі кампанентамі, канкрэтнымі адвакатыўнымі дзеяннямі адбывалася разам з развіццём падзеяў. Кампанія з'яўлялася хуткай мерай рэагавання на арышт знанага праваабаронцы. Надзвычайная сітуацыя патрабавала імклівай мабілізацыі на нацыянальным і на міжнародным узроўні. Кола актораў хутка пашыралася. На гэта ўплывала некалькі істотных чыннікаў: праблема мела шырокі розгалас і выразны эмацыйны аспект. Пры гэтым ставілася пытанне пра існаванне законнасці ў беларускім грамадстве. На кожнай стадыі крымінальнай справы і зняволення Алеся Бяляцкага падключаліся новыя праваабарончыя арганізацыі, ініцыятывы з розных краінаў, якія праводзілі свае мерапрыемствы ў падтрымку праваабаронцы. Гэтыя мерапрыемствы не мелі паміж сабой асаблівай каардынацыі, але яны ўдала ўпісваліся ў агульную канву кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага і дапаўнялі адно адное, ствараючы новыя энергетычныя хвалі, якія жывілі і мацавалі кампанію, натхняючы на далейшыя дзеянні ўсіх яе ўдзельнікаў.

Амаль за тры гады зняволення Алеся Бяляцкага яго калегамі з FIDH і "Вясны", беларускай грамадзянскай супольнасцю і міжнароднай грамадскасцю было зроблена столькі, што пералічыць усё папросту немагчыма. У гэтай кнізе хацелася б прайсціся пункцірам і распавесці пра самыя важныя і яскравыя меры і акцыі на кожнай стадыі кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага — пасля арышту, падчас суда і вынясення прысуду, падчас адбывання турэмнага тэрміну.

Распавядаючы пра падзеі, мы будзем імкнуцца не пакінуць па-за ўвагай эмацыйную карціну тых дзён, увесь спектр пачуццяў і перажыванняў, што стаялі за кожным дзеяннем і паведамленнем у абарону Алеся Бяляцкага і зыходзілі ад яго ў адказ. Захаваліся дзясяткі тысяч лістоў, паштовак, тэлеграмаў, грандыёзны архіў чалавечай падтрымкі, якія былі дасланыя Алесю Бяляцкаму з усяго свету за амаль тры гады зняволення рознымі людзьмі, знаёмымі Алесю і незнаёмымі, аб'яднанымі адзіным духам салідарнасці.

*Ірына Пракопчык*

# КАНТЭКСТ ПЕРАСЛЕДУ

Арышт Алеся Бяляцкага адбыўся на хвалі рэпрэсіяў супраць грамадзянскіх актывістаў у Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года, якія скончыліся сілавым разгонам мірнай дэманстрацыі пратэсту супраць фальсіфікацыяў. Адбыліся масавыя затрыманні яе ўдзельнікаў. У спісах Праваабарончага цэнтра "Вясна" значылася больш за 700 затрыманых. Упершыню ў Беларусі была заведзеная крымінальная справа аб масавых беспарадках, напачатку ў дачыненні да 61 чалавека. "Вясна" аказвала дапамогу ахвярам рэпрэсіяў ды іх сем'ям, публічна заявіўшы, што ўсіх асуджаных прызнае палітычнымі вязнямі і патрабуе іх неадкладнага вызвалення. Па выніках маніторынгу самой прэзідэнцкай кампаніі праваабаронцы заявілі пра масавыя парушэнні выбарчых працэдураў.



Валянцін Стэфановіч і Алесь Бяляцкі падчас прэс-канферэнцыі кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары". 20 снежня 2010 г. Фота з архіва ПЦ "Вясна"

У папярэднія гады супраць Праваабарончага цэнтра "Вясна" ды яго кіраўніка Алеся Бяляцкага праводзілася масавая паклёпніцкая кампанія на дзяржаўных тэле- і радыёканалах, у друкаваных выданнях, дзе на праваабаронцаў навешвалі ярлыкі "пятай калоны", "ворагаў" Беларусі. З красавіка 2011 года пайшла новая хваля дэзінфамарцыі, пік якой прыпаў ужо на час суда над праваабаронцам.

У лютым 2011 года Генеральная пракуратура Беларусі вынесла Алесю Бяляцкаму афіцыйнае папярэджанне, дзе сцвярджалася, што яго дзеянні ад імя праваабарончай арганізацыі "Вясна", якая не прайшла ва ўста-

ноўленым парадку дзяржаўнай рэгістрацыі, супярэчаць заканадаўству. Праваабаронцу папярэдзілі, што ў выпадку далейшай дзейнасці яго могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці. Затым гэтае папярэджанне падтрымаў і суд, дзе яно абскарджвалася.

З гэтай нагоды Рада арганізацыі нагадала Генеральнай пракуратуры, што ліквідацыя ў 2003 годзе Вярхоўным Судом Праваабарончага цэнтра "Вясна" была прызнананая Камітэтам па правах чалавека ААН парушэннем права яго заснавальнікаў на свабоду асацыяцыяў. А крымінальны артыкул 193-1, які мог быць ужыты супраць Алеся Бяляцкага і іншых сябраў "Вясны", супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і ратыфікаваным ёй міжнародным актам, бо таксама з'яўляецца сведчаннем грубейшага парушэння дзяржавай свабоды асацыяцыяў. Рада "Вясны" выказала рашучы пратэст і заявіла, што расцэньвае іх як спробу запалохвання актывістаў арганізацыі і ўсяго праваабарончага руху Беларусі. "Мы лічым сваю праваабарончую дзейнасць абсалютна законнай, запатрабаванай беларускай грамадскасцю і заяўляем, што не спынім яе", — заявілі праваабаронцы. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі запатрабавалі ад Генеральнай пракуратуры Беларусі адмены ганебнага рашэння.

# ХРАНАЛОГІЯ СПРАВЫ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

Кіраўнік Праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнт FIDH (Міжнародная федэрацыя за правы чалавека са штаб-кватэрай у Парыжы) быў затрыманы 4 жніўня 2011 года ў цэнтры Мінска супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю, якія паведамілі, што затрыманне адбылося ў межах крымінальнай справы аб ухіленні ад падаткаў. Ад гэтага дня да суда Алесь Бяляцкі заставаўся пад арыштам і ўтрымліваўся ў следчым ізалятары № 1 у Мінску.

Судовы працэс распачаўся 2 лістапада 2011 года. 24 лістапада, у выніку несправядлівага судовага разбіральніцтва, якое выразна выявіла палітычны матыў крымінальнага пераследу, праваабаронца быў прысуджаны

да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі па сфабрыкаваным абвінавачванні ва «ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры». Падставай для пераследу сталі сродкі на рахунках Алеся Бяляцкага ў банках Літвы і Польшчы, інфармацыя пра якія была перададзеная ўладамі гэтых краінаў беларускім спецслужбам. Суд праігнараваў аб'ектыўныя сведчанні пра тое, што замежныя сродкі накіроўваліся выключна на мэтавую праваабарончую дзейнасць "Вясны" і таму не падпадалі пад падаткаабкладанне, і залічыў іх у асабісты прыбытак Алеся Бяляцкага. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў. Абарона настойвала на яго апраўданні і вызваленні. Міжнародная супольнасць прызнала Алеся Бяляцкага вязнем сумлення.




Тамы справы Алеся Бяляцкага ў судзе. Фота Аляксея Лапіцкага

Праз два месяцы, 24 студзеня 2012 года, Мінскі гарадскі суд, які разглядаў справу ў касацыйнай інстанцыі, адхіліў скаргі асуджанага і абароны і пакінуў прысуд Алесю Бяляцкаму без зменаў.

Перад гэтым, 1 снежня, з мінскага СІЗА № 1 праваабаронцу перавялі ў жодзінскую турму № 8. Падчас этапавання ў калонію, з 17 лютага 2012 года, ён яшчэ 11 дзён правёў у мінскім СІЗА. З 28 лютага 2012 года палітвязень знаходзіўся ў папраўчай калоніі № 2 горада Бабруйска Магілёўскай вобласці. З гэтай калоніі ён быў адпушчаны на свабоду 21 чэрвеня 2014 года.




*З серыі партрэтаў паліт-вязняў мастачкі Марыны Напрушкінай. 2012 год. З сайта office-antipropaganda.com*

Навіна пра арышт Алеся Бяляцкага разляцелася імгненна. Пасля тэрміновых паведамленняў Праваабарончага цэнтра "Вясна" і FIDH (Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека) своечасовай была і рэакцыя міжнароднай грамадскасці. Пайшла хваля заяваў з патрабаваннем да беларускіх уладаў неадкладна вызваліць праваабаронцу.

Ужо 5 жніўня з сумеснай заявай пад эгідай Сеткі Дамоў правоў чалавека выступілі каля 50 няўрадавых арганізацый з розных краінаў. Сярод іх — Беларускі Дом правоў чалавека ў выгнанні ў Вільні (Літва), Грамадзянская Беларусь і Людзі ў бядзе (Чэхія), Дацкі Хельсінкскі камітэт па правах чалавека і Дацкі інстытут па правах чалавека (Данія), Civil Rights Defenders і Östgruppen (Швецыя), Хельсінкскі камітэт Нідэрландаў (Нідэрланды), Libereco (Германія-Швейцарыя), Міжнароднае партнёрства па правах чалавека (Брусель), Human Rights Watch (ЗША), Індэкс цэнзуры (Вялікабрытанія), Украінскі Хельсінкскі саюз па правах чалавека і МАРТ (Украіна), Моладзевы праваабарончы рух (Расія), арганізацыі-сябры Дамоў правоў чалавека з Нарвегіі, Азербайджана, Босніі і Герцэгавіны, дзевяць арганізацыяў з Арменіі. З асобнымі заявамі, у прыватнасці, выступілі Міжнародны фонд па абароне праваабаронцаў Front Line Defenders (Дублін, Ірландыя), Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў (Парыж — Жэнева), Нарвежскі Хельсінкскі Камітэт (Осла, Нарвегія), Сусветны альянс за грамадзянскі ўдзел CIVICUS (Жэнева), Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, Антыдыскрымінацыйны цэнтр "Мемарыял" (Санкт-Пецярбург, Расія), Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі, Беларуская асацыяцыя журналістаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў, сябрам якіх з'яўляецца Алесь Бяляцкі, Партыя БНФ і Аб'яднаная грамадзянская партыя.

10 жніўня кааліцыя сусветна вядомых няўрадавых праваабарончых арганізацый накіравала ліст Пракурору горада Мінска Мікалаю Куліку: "Мяркуем, што крымінальны пераслед





*Алесь Бяляцкі паміж вобшукам на офісе "Вясны" і дастаўкай у ДФР. 4 жніўня 2011 г. Фота з архіва ПЦ "Вясна"*



Хэза Макгіл, даследчык Amnesty International па Беларусі. Фота — europalibera.org

*«Абвінавачванні, прад'яўленыя Алесю Бяляцкаму, палітычна матываваныя. Ён — вязень сумлення, затрыманы за ажыццяўленне праваабарончай працы, і ён павінен быць неадкладна вызвалены».*

*"Арышт Алеся Бяляцкага — частка даўняга падаўлення актывістаў грамадзянскай супольнасці і праваабаронцаў, што ўзмацніўся ў звязку з рэпрэсіямі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года".*

*Эксперт Amnesty International па Беларусі Хэза Макгіл*

Алеся Бяляцкага з'яўляецца палітычна матываваным, і патрабуем яго вызвалення і спынення ў дачыненні да яго крымінальнай справы. На час прыняцця рашэння аб спыненні крымінальнай справы, настойліва просім пра неадкладнае вызваленне Алеся Бяляцкага пад падпіску аб нявыездзе".

У гэтую міжнародную хвалю актыўна ўлучылася ўплывовая праваабарончая арганізацыя Amnesty International, адным з асноўных накірункаў дзейнасці якой з'яўляецца абарона правоў вязняў сумлення ва ўсім свеце. 8 жніўня ў паведамленні з нагоды затрымання Алеся Бяляцкага арганізацыя выказала занепакоенасць тым, што яго пераследуюць за прафесійную дзейнасць, а праз тры дні абвясціла пра прызнанне беларускага праваабаронцы вязнем сумлення.

Арышт Алеся Бяляцкага таксама асудзілі прадстаўнікі ўплывовых міжнародных палітычных структураў, асобных еўрапейскіх краінаў і ЗША. З такімі заявамі выступілі старшыня Еўрапарламента Ежы Бузэк, вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза Кэтрын Эштан, старшыня АБСЕ і міністр замежных справаў Літвы Аўдронюс Ажубаліс, дакладчык ПАСЕ па Беларусі Андрэс Херкель, брытанскі міністр па справах Еўропы Дэвід Лідынгтан, упаўнаважаны федэральнага ўрада Германіі Маркус Лёнінг, амбасада ЗША ў Мінску ды іншыя.

Нягледзячы на рэзкае асуджэнне і настойлівыя патрабаванні міжнароднай супольнасці да беларускіх уладаў вызваліць праваабаронцу, Алесь Бяляцкі працягваў заставацца ў няволі. 12 жніўня яму афіцыйна прад'явілі абвінавачванне ва "ўтойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры" паводле часткі 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Максімальна магчымая санкцыя гэтага артыкула — пазбаўленне волі на сем гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Тэрмін утрымання пад вартай быў працягнуты яшчэ на два месяцы. 16 жніўня суд Першамайскага раёна горада Мінска адхіліў скаргу адваката Алеся Бяляцкага на абраную следствам меру стрымання. Паколькі разгляд скаргі праходзіў у закрытым рэжыме, то матыў следчых заставаўся невядомым для грамадства. Палічылі, што абавязкова вырашыць збегчы з краіны, ці ўбачылі ў ім "пагрозу грамадству"? Так паўжартам здзіўляліся многія, хто добра ведаў Алеся.

З развіццём падзеяў, для яго калегаў было відавочна, што афіцыйныя заявы, звароты, скаргі ў розныя дзяржаўныя інстанцыі не дадуць хуткіх вынікаў. Гэта, зрэшты, толькі пацвярджала палітычны матыў крымінальнай справы. У гэты час намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" Валянцін Стэфановіч выступіў з публікацыяй, у якой распавёў пра ўсе акалічнасці пераследу свайго калегі і паспрабаваў даць аргументаваны адказ на пытанне — чаму арыштавалі Алеся Бяляцкага.

Сітуацыя з арыштам Алеся Бяляцкага вымагала энергічных публічных дзеянняў. Ягоныя калегі неадкладна правялі некалькі грамадскіх кампаніяў, якія атрымалі шырокую падтрымку беларускай і міжнароднай супольнасці. Грамадскія кампаніі вылучаліся сваёй навізной і арыгінальнасцю прынамсі для беларускіх рэаліяў.



*Валянцін Стэфановіч. Фота Аляксея Лапіцкага / licviny.info*

## НА АРЫШТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

*8 жніўня 2011 г.*

4 жніўня 2011 г. у Менску быў затрыманы і ўзяты пад варту старшыня Праваабарончага цэнтра "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі. Здарылася тое, што, напэўна, не магло не здарыцца з кіраўніком адной з найбольш актыўных праваабарончых арганізацыяў ва ўмовах жорсткага аўтарытарызму, у якіх знаходзіцца Беларусь на працягу апошніх 17 гадоў. Аднак пры гэтым узнікае шэраг пытанняў: чаму гэта адбылося зараз, а не, скажам, у 2006-м ці 2008-м гадах? Тым больш, што фармальная падстава для крымінальнага пераследу Алеся

і іншых сяброў “Вясны” з 2006-га заўсёды была пад рукой — сумнавядомы артыкул 193.1 Крымінальнага кодэкса. Балазе, ні Алесь, ні я, ні іншыя сябры “Вясны” не хавалі, што працягваюць дзейнасць у межах арганізацыі, нягледзячы на яе ліквідацыю Вярхоўным Судом Беларусі ў 2003 годзе.

Тое, што Праваабарончы цэнтр “Вясна” аказвае ў тым ліку і матэрыяльную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэння правоў чалавека, ні для каго не было сакрэтам. Пра месца знаходжання офіса “Вясны” ведаюць практычна ўсе грамадска-палітычныя актывісты краіны, якія патраплялі пад пераслед з боку ўладаў. За 15 гадоў свайго існавання ПЦ “Вясна” аказаў дапамогу тысячам беларусаў. Пра гэта ведаюць сваякі палітвязняў, сваякі зніклых у 1999-м годзе палітыкаў, тысячы беларусаў, якія падвяргаліся розным адміністрацыйным спагнанням за сваю грамадска-палітычную дзейнасць.

Падчас падзеяў 2006-га, пост-снежаньскіх падзеяў 2010-га і лета 2011-га ПЦ “Вясна” засведчыў, што можа дзейсна аказваць дапамогу рэпрэсаваным нават ва ўмовах, калі гэтыя рэпрэсіі набываюць масавы характар. Падчас маўклівых акцыяў пратэсту менавіта ў ПЦ “Вясна” былі перададзеныя грашовыя сродкі, сабраныя грамадзянамі ў дапамогу рэпрэсаваным удзельнікам акцый. Для мяне асабіста гэта было праявай поўнага і абсалютнага даверу да арганізацыі з боку беларускай грамадзянскай супольнасці і пацверджаннем высокага аўтарытэту “Вясны” ў Беларусі. Усе апошнія месяцы на офісе “Вясны” не сканчаўся наплыў людзей, якія былі арыштаваныя ці аштрафаваныя за тое, што пасмелі пляскаць у далоні на вуліцах родных гарадоў. Прычым працавалі мы і працягваем працаваць фактычна адкрыта, нікуды не хаваючыся.

Ведалі пра гэта і спецслужбы краіны. Недарэмна падчас апошніх ператрусаў на офісе “Вясны” і асабістай кватэры Бяляцкага супрацоўнікаў КДБ цікавілі выключна фінансавыя дакументы: распіскі, квітанцыі і г.д. Таму логіка ўладаў мне падаецца тут абсалютна зразумелай. Летнія “маўклівыя акцыі” засведчылі пра павелічэнне пратэстных настрояў у грамадстве, асабліва на фоне эканамічнага крызісу, ахапіўшага краіну. Улады знаходзяцца ў прадчуванні “гарачай” восені, зімы, а, магчыма, і вясны 2012 г. Знішчэнне структуры, якая аказвае рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсій, у дадзенай сітуацыі — прыярытэт для спецслужбаў. У “Вясне”, якая так доўга муляла ім вочы, беларускія ўлады ўгледзелі сур’ёзную пагрозу. Прычым настолькі сур’ёзную, што, нават разумеючы і ведаючы пра вялікі негатыўны розгалас і магчымыя не менш негатыўныя наступствы, вырашылі-такі ізаляваць Бяляцкага. А гэта не жарты — узяць ды пасадзіць дзейнага віцэ-прэзідэнта адной з найстарэйшых і ўплывовых міжнародных арганізацый — Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека. Горш было толькі з прэзідэнтам FIDH, які быў расстраляны падчас фашыстоўскай акупацыі Францыі ў гады другой сусветнай вайны.

Я ўжо не кажу пра такія рэчы, як праваабарончая міжнародная салідарнасць, якая па сваёй сіле не саступае салідарнасці журналісцкай.

Тым не менш, улады пайшлі на гэтыя крокі, прычым адразу пасля менскіх падзеяў 19 снежня 2010 г. Менавіта з гэтага дня пачаўся асаблівы інтарэс спецслужбаў да "Вясны" — дваператрусы на офісе,ператрусы на асабістай кватэры і лецішчы Алеся. Усяго за апошнія сем месяцаў офіс "Вясны" перажыў пяць уварванняў прадстаўнікоў міліцыі і КДБ. А чаго вартая пастаянная дэзінфармацыя Бяляцага і "Вясны" ў дзяржаўных СМІ... Вядома, што "Вясна" і асабіста Алесь Бяляцкі — прынцыповыя і жорсткія крытыкі дзеючага рэжыму. Бяляцкі неаднаразова заклікаў да жорстскіх санкцыяў з боку ЕС у дачыненні да рэжыму Лукашэнкі — у сувязі з сістэматычнымі і грубымі парушэннямі правоў чалавека ў краіне. Адзін з такіх выступаў Бяляцкага ў ПАСЕ выклікаў асабліва негатыўную рэакцыю Лукашэнкі і дзяржаўнага тэлебачання. Пасля гэтага мне здалося, што расправа над Алесем — гэта пытанне часу...

Трэба адзначыць, што ўлады даўно і грунтоўна рыхтаваліся да гэтай "спецаперацыі". Прычым прапрацоўвалі розныя варыянты яе практычнага ажыццяўлення. Ад ужывання артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса ў дачыненні, найперш, да кіраўніка арганізацыі "Вясны" (пра што сведчыць папярэджанне Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, вынесенае Алесю Бяляцкаму ў лютым гэтага года) да іншых магчымых варыянтаў. І гэты іншы магчымы варыянт быў прадастаўлены спецслужбам Беларусі Мінюстам суседняй Літвы. Вядома, варыянт адправіць Бяляцкага за краты за нібыта ўтойванне падаткаў мае значна больш перавагаў для ўлады, чым ужыванне відавочна палітычнага артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса. Беларускай і міжнароднай грамадскасці заўсёды можна паспрабаваць растлумачыць, што арыштаваны не праваабаронца, а звычайны "ўкланіст", які чамусьці не хацеў сплочваць у бюджэт роднай дзяржавы падаходны падатак з замежнай дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій гэтай жа дзяржавы.

Інфармацыя аб нашых банкаўскіх рахунках у Вільні была перададзеная Мінюстам Літвы ў Беларусь яшчэ ў сакавіку гэтага года. Толькі напрыканцы чэрвеня я і Алесь былі выкліканыя ў раённыя аддзяленні Міністэрства па падатках і зборах, дзе нам былі прад'яўленыя акты камеральных праверак і раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў. Прычым на ўсіх дадзеных раздрукоўках стаялі штампы ДФР. Такім чынам, фармальна ДФР мог узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да Алеся як мінімум у чэрвені — на пачатку ліпеня. Аднак, не ўзбудзіў. Прычым ні мне, ні Алесю не было абмежавана права на выезд за межы краіны, хаця фармальныя падставы для гэтага былі. У Алеся складалася ўражанне, што ўлады адмыслова праз падатковую інспецыю паказалі яму гэтыя да-

кументы — даючы такім чынам час на роздум. Вядома, для ўладаў Беларусі было б лепей, калі б Бяляцкі сам вырашыў іх праблему — выехаўшы за мяжу, эміграваўшы пад пагрозай крымінальнага пераследу. Скажу шчыра, што мы, сябры Рады ПЦ "Вясна", прапаноўвалі яму такі варыянт, паколькі прадбачылі магчымае развіццё падзеяў. Аднак, Алесь адмёў нашыя прапановы. Ён сказаў, што ніколі не з'едзе з краіны, і калі ўлады хочуць пасадзіць яго ў турму за тое, што ён дапамагае людзям, то гэта праблема ўладаў.

Аднак, зараз у следства складаная задача. Ім трэба даказаць, што сумы грошай, пералічаныя на рахунак Бяляцкага, з'яўляліся яго асабістым даходам. Згодна з нашым падатквым заканадаўствам, менавіта даход падлягае падаткаабкладанню. У дадзеным выпадку гэтыя грошы паступалі на канкрэтна акрэсленыя фондамі мэты і расходваліся выключна на іх. Мы маем пераканаўчыя доказы таго, што дадзеныя грошы не з'яўляліся асабістым даходам Бяляцкага. Хоць наўрад ці гэтыя доказы будуць пераканаўчымі для нашых суддзяў, якія ўжо даўно ператварыліся ў "хлопчыкаў і дзяўчынак па выкліку" для абслугоўвання чарговых "хапуноў"-сілавікоў. Суд у Беларусі — рэч вельмі прадказальная.

Я ўсведамляю, што арышт Бяляцкага — гэта не апошнія захады ўладаў у дачыненні да "Вясны". Калі задача ўладаў заключаецца ў разгроме арганізацыі, то гэта вымагае новых і новых арыштаў. Аднак, лепшае, што зараз мы можам зрабіць для Алеся, гэта захаваць дзеяздольнасць арганізацыі. Мы павінны прыкласці намаганні, каб дапамога ахвярам рэпрэсій не спынялася, як і іншыя накірункі нашай дзейнасці. За 15 гадоў свайго існавання мы пабачылі і зведалі рознае. Мы мусім ісці наперад, бо людзям патрэбная нашая дапамога, бо мы патрэбныя людзям. Як кажуць на Усходзе, "Прокопов лает, а караван идёт". Мы будзем змагацца за вызваленне ўсіх палітвязняў, за вызваленне Алеся. І я проста ўпэўнены, што мы хутка ўсіх іх пабачым на волі.

А "таварышам чэкістам і лукашыстам" я хацеў бы сказаць: вы падавіцеся Бяляцкім, і мы, "вясноўцы", прыкладзем для гэтага ўсе намаганні.

*Валянцін Стэфановіч*

Алесь Бяляцкі:
Пакуль я ўсё ўспрымаю як нешта нерэальнае

«Жыццё працягваецца, я паступова асвойваюся і вывучаю няхітрыя навукі жыцця ў СІЗА. Устаём рана ў 6, кладземся таксама рана — у 22. Дзіўным чынам арганізм хутка прыстасоўваецца да забытага ўжо з часоў службы ў войску распарадку. Тут усё робіцца не спяшаючыся, але вельмі дакладна і «са смакам». Прагулка — «са смакам», паход у лазню — «са смакам».

…Вадзілі да доктара, зрабілі флюараграфію, “адкаталі” пальчыкі ўжо другі раз за гэтыя тры дні, завялі медыцынскую картку. Скаргаў на здароўе ў мяне няма.

…Пакуль я ўсё ўспрымаю, як штосьці нерэальнае, паглядзім, якія адчуванні з’явяцца пазней.

…У гэтую гарачыню было троху душнавата, але прайшоў дождж, і на выгуле паветра было свежым і чыстым. Добра, што вялікія светлыя дні, у мяне на святло заўсёды добрая рэакцыя».

*З першага ліста з СІЗА-1*
*да жонкі Наталлі Пінчук ад 8 жніўня*

Алесь Бяляцкі:
Рыхтую сябе да любога развіцця падзеяў

“Тут болей няма чаго і рабіць, як лісты чытаць і пісаць самому (што не рабіў ужо гадоў 15). У мяне ўсё добра. Уцягнуўся ў тутэйшае жыццё збольшага, гляджу тэлевізар (тут два каналы бярэ), вучу (падвучваю) ангельскую, чытаю”.

“Я тут раблю розныя фізічныя практыкаванні, каб хоць троху трымаць сябе ў форме. Хаджу па прагулачным дворыку, адціскаюся, падскокваю, размінаюся”. “У мяне зноў з’явіўся апетыт, першы тыдзень зусім не хацелася есці. Здароўе ў мяне пакуль нармальнае, настрой — таксама”.

“Я сам настройваюся да суда — месяцаў на шэсць. Калі атрымаецца раней — будзе добра. Пакуль я да гэтага не рыхтуюся, не спяшаюся, буду рыхтавацца пазней. Таксама я вывучаю мясцовыя правілы паводзінаў: калі есці, калі хадзіць на “дальняк” — тут усё рэгламентавана, але вельмі паважаецца асабістая недатыкальнасць (прастора) вакол цябе і нашая ўбогая ўласнасць, калі толькі ты сам не назаляеш іншым…

…Жыццё для мяне тут спынілася, калі параўнаць з апошнім годам, але ў гэтым таксама ёсць свой пазітыўны сэнс, бо ёсць час шмат думаць. Але я сябе не накручваю, не будую ніякіх вялікіх планаў, усведамляючы, што багата, што зараз у маім жыцці, залежыць не ад мяне асабіста, а ад знешніх фактараў. Адным словам, я плыву па рацэ лёсу і рыхтую сябе да любога развіцця падзеяў”.

*З лістоў з СІЗА-1 да калегаў з ПЦ “Вясна”*

# КАМПАНІЯ ПА ЗБОРЫ ПАРУЧАЛЬНІЦТВАЎ ЗА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

FIDH і Праваабарончы цэнтр “Вясна” 8 жніўня абвясцілі збор паручальніцтваў грамадзянаў за вызваленне Алеся Бяляцкага з-пад варты. Паручальніцтвы збіраліся для перадачы ў пракуратуру, якая на іх падставе магла прыняць рашэнне пра вызваленне.

“Шаноўнае спадарства, “Вясне” патрэбна Ваша салідарнасць!” На сайце праваабарончага цэнтра быў апублікаваны зварот, у якім, апроч заклiку да салiдарнасцi, падавалася юрыдычнае абгрунтаванне гэтай меры, быў далучаны файл з узорам хадайнiцтва ў пракуратуру i ўказаныя адрасы, дзе можна было яго падпiсаць. Акрамя офіса “Вясны”, грамадзяне маглі прыйсці ў мінскія офісы партнёрскіх арганізацыяў — Беларускага Хельсінкскага камітэта, Беларускай асацыяцыі журналістаў і Цэнтра па правах чалавека. Праваабаронцы і грамадзянскія ініцыятывы ў рэгіёнах таксама падтрымалі кампанію.

За першы дзень кампаніі ў Мінску праваабаронцы сабралі 100 паручальніцтваў. Улічваючы рэпрэсіўную атмасферу тых дзён і агульную прыгнечанасць грамадства пасля падзеяў 19 снежня 2010 года, такія вынікі не маглі не радаваць. Сярод першых падпісантаў былі літаратуразнаўца і палітолаг Аляксандр Фядута, палітык Анатоль Лябедзька, журналіст і грамадскі актывіст Сяргей Вазняк, пісьменнік і грамадска-палітычны дзеяч Уладзімір Някляеў, а таксама дзясяткі праваабаронцаў і журналістаў-сяброў БАЖ. Розгаласу пра кампанію спрыялі незалежныя медыя, якія з першых дзён пільна сачылі за справай Алеся Бяляцкага і сітуацыяй вакол “Вясны”.



*На сайце "Вясны" таксама была апублікавана петыцыя за вызваленне Алеся Бяляцкага. Фота Юліі Дарашкевіч*

# СВАБОДУ Алесю Бяляцкаму!

**Петыцыя за неадкладнае вызваленне старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага**

24 лістапада 2011 выбітны праваабаронца, адзін з пачынальнікаў і лідараў грамадзянскай супольнасці незалежнай Беларусі, чалавек, чыя дзейнасць вядомая сотням і тысячам людзей не толькі на радзіме, але і ў замежжы, Алесь Бяляцкі быў несправядліва і мэтанакіравана асуджаны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі. Шматгадовая дзейнасць Алеся Бяляцкага зрабіла яго сябрам тых, хто цярпеў ад прыніжэння правоў чалавека ў Беларусі, і ворагам для тых, хто санкцыянаваў і здзяйсняў тыя прыніжэнні. Яго прызналі вінаватым у быццам бы здзейсненым "ухіленні ад выплаты сум падаткаў у асабліва буйным памеры".

Распачынанне крымінальнай справы супраць Алеся Бяляцкага, наступнае яе вядзенне і вынясенне прысуду мелі неправавы характар. Парушэнні працэсуальнага заканадаўства стала прысутнічалі падчас следства і судовага разбіральніцтва. Так, незаконна ў дачыненні да Алеся Бяляцкага была ўжыта мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. Следства, не імкнучыся да ўстанаўлення ісціны па справе, адмовілася звярнуцца да фундацыяў, якія пералічвалі сродкі Алесю Бяляцкаму, з запытам аб іх мэтавым прызначэнні, ігнаруючы адпаведнае прадпісанне з боку пракуратуры.

Пад час судовага працэсу стала відавочным, што прычынаю распачынання крымінальнага пераследу Алеся Бяляцкага стала ягоная шматгадовая дзейнасць на ніве абароны правоў чалавека ў Беларусі. Разам са сваімі калегамі з праваабарончага цэнтру "Вясна" ён непахісна станавіўся на абарону тых, чые правы парушаліся дзяржаўнай машынай. Асуджэнне Алеся Бяляцкага стала яшчэ адным крокам у шматгадовай рэпрэсіўнай палітыцы ўладаў Беларусі ў дачыненні да праваабарончых арганізацый. Да прымусовага пазбаўлення афіцыйнага статусу праваабарончых арганізацыяў, забароны іх ўтварэння ў краіне, крыміналізацыі дзейнасці незарэгістраваных арганізацый, стварэння разнастайных перашкодаў і ціску з боку спецслужбаў цяпер дадаўся і такі надуманы спосаб абвінавачваць і засуджаць абаронцу правоў чалавека, які быў выкарыстаны супраць Алеся Бяляцкага.

Мы выказваем сваё рашучае абурэнне вынесеным Алесю Бяляцкаму прысудам і лічым, што крымінальная справа супраць яго не мае нічога агульнага з агучанымі ў судзе мэтамі, і была распачатая выключна як сродак ціску і рэпрэсій супраць праваабаронцы, яго калег з цэнтру "Вясна" і ўсяго праваабарончага руху краіны ў прыватнасці. Мы перакананыя, што прысуд мае незаконны характар. Мы патрабуем адмены незаконна вынесенага прысуду і неадкладнага вызвалення Бяляцкага.

Падпісваючы петыцыю, мы выказваем сваю шчырую падтрымку Алесю і спадзяемся на ягонае хутчэйшае апраўданне і вызваленне справядлівым судом. Мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі, прадстаўнікоў міжнароднай супольнасці выступіць у падтрымку Алеся Бяляцкага і патрабаваць ягонага найхутчэйшага вызвалення.

Падпішы петыцыю на сайце **http://freeales.spring96.org**



*Уладзімір Някляеў падпісаў хадайніцтва ў пракуратуру ў офісе "Вясны". 9 жніўня 2011 года. Фота — gazetaby.com*

*“Калі мы цяпер не дапаможам «Вясне», то будзем жыць у доўгай, халоднай і цёмнай зіме. Натуральна, што ўсё дэмакратычнае грамадства змагаецца за вызваленне Бяляцкага. Брутальны разгон праваабарончага руху тоіць у сабе велізарную небяспеку. Я па сабе ведаю, што палітвязні ў турмах, перш за ўсё, думаюць пра сваіх родных і баяцца за бацькоў, жонак, дзяцей, якія засталіся на волі. Калі ёсць мінімальная ўпэўненасць у тым, што яны абароненыя — гэта адная сітуацыя ў турме. А калі гэтай упэўненасці няма — чалавек лягчэй ламаецца, улады абыходзяцца з ім як хочуць”.*

*З інтэрв’ю інтэрнэт-газеце “Салідарнасць”*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

Сябры “Вясны” запланавалі інфармацыйны тыдзень, падчас якога збіраліся распавесці пра палітычна матываваны арышт Алеся Бяляцкага грамадзянам Беларусі. З гэтай мэтай у мясцовыя выканкамы былі пададзеныя заяўкі на пікеты ў 18 гарадах, практычна па ўсёй Беларусі. У выніку, усе пікеты ў падтрымку Алеся Бяляцкага былі забароненыя мясцовымі ўладамі па надуманых прычынах. Праваабаронцы, тым не менш, правялі некалькі несанкцыянаваных інфармацыйных пікетаў. Яны былі затрыманыя міліцыяй і асуджаныя да штрафаў.

“19 жніўня з Алесем Бяляцкім у следчым ізалятары №1 на Валадарскага сустрэўся адвакат… Выявілася, што Бяляцкаму не перадаюць лісты. Ён пакуль не атрымаў ніводнага ліста — ні з тых, якія пісала яму жонка, ні з тых, якія пісалі яму мы».

З інтэрв’ю БелаПАН сябра Рады ПЦ “Вясна”
Уладзіміра Лабковіча ад 22 жніўня 2011 г.

Тым часам FIDH арганізавала збор паручальніцтваў сярод вядомых асобаў па ўсім свеце.




ШЫРЫН ЭБАДЗІ — іранская юрыстка, праваабаронца і былая суддзя. Была адвакатам у гучных судовых працэсах у Іране ў 1990-х гадах. За гэта патрапіла на пяць гадоў у турму, пазней гэты прысуд адмянілі. Заснавала і ўзначаліла ў Іране дзве праваабарончыя арганізацыі, якія былі зліквідаваныя ўладамі. У 2003 годзе стала лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру “за ўнёсак у развіццё дэмакратыі і змаганне за правы чалавека, асабліва жанчынаў і дзяцей у Іране”. Іранскія ўлады гвалтоўна забралі ў яе нобелеўскую ўзнагароду. З 2009 года жыве ў выгнанні.

*Шырын Эбадзі, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру.*
*Фота з архіва FIDH*



МАХАМЕД МУЛДЗІ КЕФІ — з Алесем Бяляцкім ён пазнаёміўся незадоўга да яго зняволення — у сакавіку 2011 года падчас міжнароднай канферэнцыі “Пераход да дэмакратыі ў Тунісе”, у якой беларускі праваабаронца браў удзел як эксперт FIDH. Падчас сустрэчы яны абмяркоўвалі праблему захавання правоў чалавека ў Беларусі.

*Алесь Бяляцкі і Махамед Мулдзі Кефі.*
*Туніс, сакавік 2011. Фота з архіва FIDH*



СТЭФАН ЭСЭЛЬ — пісьменнік, дыпламат, праваабаронца, удзельнік французскага і англійскага руху Супраціву, вязень Бухенвальда. Адразу пасля вайны быў запрошаны Элеанорай Рузвельт у склад экспертаў ААН па складанні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай у 1948 годзе. Падчас працы ў ААН выступаў пасярэднікам пры ўрэгуляванні дэкаланізацыйных канфліктаў у розных краінах свету. Адным з найважнейшых прыярытэтаў яго дзейнасці заўсёды заставалася абарона правоў і свабодаў людзей ва ўсім свеце. 95-гадовы Стэфан Эсэль пайшоў з жыцця 26 лютага 2013-га, калі яшчэ Алесь Бяляцкі знаходзіўся за кратамі.

*Стэфан Эсэль, адзіны з жывых на той момант*
*суаўтараў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.*
*Фота DAPD News Agency*

Не толькі вядомыя асобы, але і кіраўнікі праваабарончых арганізацыяў з розных краінаў і кантынентаў, якія ўваходзяць у FIDH, паручыліся за свайго калегу перад беларускай пракуратурай. Адначасна яны дасылалі цёплыя і эмацыйныя лісты падтрымкі Алесю і спрабавалі заклікаць да сумлення тых, хто паспрыяў пераследу праваабаронцы.




*Суэр Белхасэн. Фота з архіва FIDH*

"Шаноўны Алесь.
Усе мы ў FIDH абураныя Вашым арыштам і прыкладаем усе намаганні, каб вызваліць Вас. Мы насамрэч робім усё, што ад нас залежыць.
Мы атрымалі з "Вясны" добрыя навіны пра Вас і пра тое, колькі ў Вас мужнасці.
Я хацела, каб Вы ведалі, што Вас падтрымліваюць усе арганізацыі-сябры FIDH пад кіраўніцтвам Міжнароднага бюро, дасылаючы Вам свае самыя сардэчныя словы салідарнасці.
У думках мы з Вамі, шаноўны Алесь.

Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн"

Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн звярнулася з адкрытым лістом да літоўскага прэм’ер-міністра Андруса Кубілюса, дзе сцвярджала:

*“Інфармацыя, выдадзеная Міністэрствам юстыцыі Літвы, можа спрычыніцца да далейшага судовага пераследу сп. Бяляцкага. Мы абураныя з прычыны таго, што Міністэрства юстыцыі Літвы, краіны-ўдзельніцы Еўрапейскага саюза, не прыняла пад увагу бяспеку сп. Бяляцкага пры перадачы інфармацыі адносна ягонага рахунку ў літоўскім банку ўладам Беларусі. Адзначаючы нядаўнія заявы Міністэрства юстыцыі аб прыпыненні юрыдычнай дапамогі Беларусі па гэтай справе, Абсерваторыя выказвае шкадаванне з прычыны таго, што праз перадачу гэтых даных Літва паставіла пад пагрозу лёс сп. Бяляцкага, парушыўшы тым самым рэкамендацыі ЕС па абароне правоў праваабаронцаў”.*

З сайта fidh.org

Актыўна падтрымалі Алеся Бяляцкага чэшскія калегі, якія перадалі больш за паўсотні хадайніцтваў, падпісаных вядомымі грамадскімі дзеячамі і праваабаронцамі. Сярод іх былі дэпутат парламента Чэхіі, лінгвіст і перакладчык Даніэл Кортэ, журналіст Лібар Дворжак, дысідэнтка і падпісантка Хартыі’77 Петрушка Шустрава.

За тры тыдні кампаніі толькі праз офісы праваабарончых арганізацыяў было сабрана больш за 800 паручальніцтваў з патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага з-пад варты, якія адвакат перадаў у следчыя органы. Яшчэ частку людзі дасылалі адрасатам самі наўпрост. Следчыя органы адхілілі пададзеныя хадайніцтвы. Паручальнікам яны дасылалі фармальныя адпіскі: “на падставе таго, што 05.08.2011 у адносінах да Бяляцкага А. В. абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту, падставаў для змены дадзенай меры стрымання няма”.

Хоць гэтая кампанія і не прынесла жаданага выніку, але адназначна адыграла вялікую ролю, паколькі ад самага пачатку задала вельмі высокую планку салідарнасці і беларускай, і міжнароднай супольнасці з Алесем Бяляцкім. Яна выразна паказала ўладам, што арышт праваабаронцы не пройдзе незаўважна ні ў Беларусі, ні ў свеце. Жаданне ўладаў адным махам вырашыць праблему з Праваабарончым цэнтрам “Вясна” абярнулася для іх яшчэ большым недаверам з боку грамадства ў Беларусі і сур’ёзнымі іміджавымі стратамі на міжнароднай арэне.

# КАМПАНІЯ «МЫ ЎСЕ ЗА АЛЕСЯ»

Нямецка-швейцарскае партнёрства за правы чалавека Libereco падтрымала заклік кааліцыі міжнародных праваабарончых арганізацыяў да неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і распачала кампанію "Мы ўсе за Алеся" (We all are Ales) на Facebook з яднальным пасылам "Усе мы абараняем правы людзей — мы ўсе за Алеся!".




Арганізацыя заклікала міжнародную і беларускую грамадскасць выказаць салідарнасць са зняволеным праваабаронцам, і для гэтага прапанавала наступныя крокі:

1. Далучыцца да фота-петыцыі: змясціць у Facebook свой фотаздымак з раздрукаваным лозунгам "Свабоду Алесю Бяляцкаму" ці самастойна сфармуляваць сваё патрабаванне. Прапанаваць далучыцца сябрам і калегам. Пераслаць фатаграфіі на старонку кампаніі.
2. Даслаць зварот на імя прэзідэнта Лукашэнкі з патрабаваннем вызваліць Алеся.
3. Запоўніць паштоўкі з патрабаваннем яго вызвалення.

*Фота-петыцыі са старонкі кампаніі “Мы ўсе за Алеся” ў Фэйсбуку*







4. Выказаць сваю салідарнасць з Алесем на фэйсбуку.
5. Распавесці пра гэтую акцыю ўсім сваім сябрам і знаёмым.

Таксама на старонцы былі змешчаныя банэры кампаніі для вэб-сайтаў.

Стужка старонкі напаўнялася навінамі пра Алеся ды іншых беларускіх палітвязняў з сайтаў ПЦ “Вясна”, іншых праваабарончых арганізацыяў, беларускіх і замежных СМІ. Акрамя ўласна фота-петыцыяў, там збіраліся фотаздымкі з акцыяў салідарнасці ў розных краінах.

Цягам усяго тэрміну зняволення Libereco праводзіла акцыі салідарнасці з Алесем Бяляцкім з кожнай важнай нагоды, а таксама падтрымлівала акцыі іншых ініцыятываў. Старонка была папулярнай асабліва сярод еўрапейскіх карыстальнікаў і дзейнічала да дня вызвалення Алеся Бяляцкага.

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ | 5 ВЕРАСНЯ 2011 ГОДА — МЕСЯЦ ПАД АРЫШТАМ

Каля амбасадаў Беларусі ў шасці сталіцах — Маскве, Кіеве, Бішкеку, Ерэване, Вільні і Стакгольме — грамадскія актывісты і праваабаронцы патрабавалі вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітвязняў краіны.

Акцыі салідарнасці былі ініцыяваныя арганізацыямі-ўдзельніцамі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі.

Маскоўскія гарадскія ўлады адмовілі ва ўзгадненні пікета ў падтрымку беларускага праваабаронцы. Таму арганізатары былі вымушаныя правесці серыю адзіночных пікетаў, змяняючы адзін аднаго кожныя пяць хвілінаў.

Удзельнікі пікетавання збіралі подпісы пад зваротам да амбасадара Беларусі Васіля Далгалёва. Праз гадзіну праваабаронца Юрый Джыбладзэ перадаў зварот з сабранымі подпісамі ў амбасаду Беларусі. У акцыі прынялі ўдзел каля 20 чалавек з розных гарадоў Расіі.






*Фота Вольгі Захаравай з архіва ПЦ «Вясна»*

Прадстаўнікі амбасады Беларусі ў Кіеве, да якой прыйшлі больш за два дзясяткі пікетоўцаў, адмовіліся прыняць іх зварот, таму ён быў дасланы ў амбасаду поштай.





Фота maidan.org.ua

У Стакгольме супрацоўнікі беларускай амбасады таксама адмовіліся прыняць ліст з патрабаваннямі вызвалення праваабаронцы, які старшыня арганізацыі Östgruppen Марцін Угла планаваў перадаць амбасадару Андрэю Грынкевічу. Пікетоўцы апусцілі ліст у паштовую скрыню дыпламатычнага прадстаўніцтва.





Фота Östgruppen

Тым часам у Ерэване Мікаэл Даніелян, які выйшаў на пікет з іншымі калегамі-праваабаронцамі, змог перадаць зварот пікетоўцаў з патрабаваннем вызвалення Алеся Бяляцкага першаму сакратару беларускай амбасады спадару Гарэлку.

На акцыю да беларускай амбасады ў Вільні сабраліся прадстаўнікі Фонду падтрымкі абароны грамадзянаў, беларускіх арганізацый Літвы, грамадзянскіх актывістаў, а ў Бішкеку — актывісты кыргызстанскага праваабарончага цэнтра “Грамадзяне супраць карупцыі”.

У гэты ж дзень Міжнароднае таварыства “Мемарыял”, якое аб’ядноўвае дзясяткі праваабарончых, асветніцкіх і даследніцкіх арганізацый у Расіі, Казахстане, Латвіі, Украіне і Грузіі, выступіла з заявай з патрабаваннем свабоды для Алеся Бяляцкага.






*Фота з архіва ПЦ «Вясна»*

СВАБОДУ АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ!

Заява Міжнароднага таварыства «Мемарыял»

Месяц таму ў Рэспубліцы Беларусь быў арыштаваны наш сябар і калега, праваабаронца Алесь Бяляцкі, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна».
Фармальна яго вінавацяць у эканамічным злачынстве — нявыплаце падаткаў са сродкаў, атрыманых на рахунак у замежным банку. Аднак, любому непрадузятаму назіральніку ясна, што ён арыштаваны менавіта за праваабарончую дзейнасць — за тое, што сродкі з гэтага рахунку трапіліся на прававую і матэрыяльную дапамогу палітвязням і іх сем'ям.
Хаваць палітычныя рэпрэсіі за крымінальнымі абвінавачваннямі — тыповая звычка рэпрэсіўных рэжымаў. Вось і Бяляцкага абвінавачваюць не ў абароне палітвязняў, а ў тым, што для фінансавання працы сваёй арганізацыі, для абароны правоў беларускіх грамадзян ён быў вымушаны карыстацца адчыненым у суседняй краіне рахункам.
Рэпрэсіўны рэжым увёў у дзеянне на тэрыторыі Беларусі нямала антыпраўных па сутнасці законаў, якія выкарыстоўваюцца ўладамі, каб пазбавіць рэгістрацыі незалежныя грамадскія арганізацыі, каб не даць ім магчымасці весці сваю дзейнасць легальна. Дзейнасць жа незарэгістраваных арганізацый па гэтых законах лічыцца крымінальна караным дзеяннем.
Праваабарончая арганізацыя «Вясна» была зачынена ўладамі яшчэ ў 2004 годзе, але Алесь Бяляцкі і яго калегі працягвалі маніторынг сітуацыі з правамі чалавека, аказвалі дапамогу, у тым ліку і ахвярам палітычных рэпрэсій. Гэтая праца стала асабліва важнай пасля падзеяў снежня мінулага года, — менавіта таму рэпрэсіям падвяргаецца цяпер сам Алесь Бяляцкі.
Міжнароднае таварыства «Мемарыял» патрабуе ад уладаў Рэспублікі Беларусь неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага з-пад арышту і спынення крымінальнай справы, узбуджанай супраць яго.
Міжнароднае таварыства «Мемарыял» патрабуе ад уладаў Рэспублікі Беларусь вызвалення ўсіх палітычных зняволеных.
Міжнароднае таварыства «Мемарыял» патрабуе ад уладаў Расійскай Федэрацыі прыняць усе магчымыя крокі з тым, каб дамагчыся вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх іншых палітычных зняволеных у Рэспубліцы Беларусь.

5 верасня 2011 г."

Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці Азербайджана накіравалі ліст прэзідэнту Беларусі з патрабаваннямі вызваліць Алеся Бяляцкага:

> “Паважаны Спадар Прэзідэнт!
>
> Арышт праваабаронцы наносіць відавочныя страты рэпутацыі рэспублікі і ставіць пад пытанне прыхільнасць Урада прынцыпам справядлівасці, палітычнай талерантнасці, ліберальным свабодам і вяршэнству закона, замацаваным у Канстытуцыі краіны і міжнародных дамовах, ратыфікаваных Беларуссю. Мы заклікаем Вас, як гаранта Канстытуцыі, узяць крымінальную справу супраць спадара Бяляцкага пад свой асабісты кантроль і зрабіць усё для неадкладнага вызвалення і забеспячэння бяспекі гэтага выбітнага прадстаўніка беларускага народа.
>
> *Баку, 08.08.2011”*

Зварот падпісалі 23 найбольш вядомыя азербайджанскія праваабаронцы і грамадскія дзеячы, сярод якіх былі Анар Мамедлі, Лэйла Юнус, Інтыгам Аліеў, якія самі неўзабаве стануць палітычнымі вязнямі ў Азербайджане.

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

Удзельнікі міжнароднай канферэнцыі “Шостая платформа праваабаронцаў” (The Sixth Platform for Human Rights Defenders), якую ў Дубліне 15–17 верасня 2011 года праводзіла арганізацыя Front Line Defenders, выказалі салідарнасць з Алесем Бяляцкім.

Словы падтрымкі беларускаму калегу перадалі праваабаронцы з Бахрэйна, Сірыі і Кот д’Івуара.



*Злева на права: генеральны сакратар Бахрэйнскага праваабарончага таварыства Абдула аль Дэразі, Жэнеўева Дыало (Кот д’Івуар), Кэтрын Алталі (Сірыя), Жульена Люсанж — на заднім плане (Дэмакратычная Рэспубліка Конга, Жаночая салідарнасць дзеля міру і развіцця), Шырын Эбадзі (іранская праваабаронца, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі 2003-га года), Хайтам аль Малех (Сірыя) і Сухэйр Белхасэн, прэзідэнт FIDH (Парыж). Фота з архіва FIDH*

FRONT LINE DEFENDERS
THE INTERNATIONAL FOUNDATION FOR THE PROTECTION OF HUMAN RIGHTS DEFENDERS

*Міжнародны фонд Front Line Defenders быў заснаваны ў Дубліне ў 2001 годзе для абароны праваабаронцаў, якія займаюцца негвалтоўнай дзейнасцю па абароне любога з правоў, абвешчаных Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека. Адна з мэтаў дзейнасці — пабудзіць палітыкаў агульнаеўрапейскага, нацыянальнага і міждзяржаўнага ўзроўняў да прыняцця неадкладных мераў і стварэння бяспечных умоваў для праваабаронцаў, якія ажыццяўляюць сваю законную, мірную дзейнасць на карысць людзей (З сайта frontlinedefenders.org).*

---

“Бахрэйнскае праваабарончае таварыства (BHRS) асуджае арышт Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта FIDH і кіраўніка праваабарончага цэнтра «Вясна», і патрабуе ад беларускіх уладаў ягонага неадкладнага вызвалення”.

Абдула аль Дэразі, генеральны сакратар Бахрэйнскага праваабарончага таварыства

---

“Мы, сябры сірыйскай праваабарончай арганізацыі SAWASIAH, успрынялі навіну пра затрыманне віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага 4 жніўня 2011 года з вялікай занепакоенасцю наконт яго фізічнай і псіхалагічнай недатыкальнасці. SAWASIAH заклікае беларускія ўлады прыняць аператыўныя меры для неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага”.

Хайтам аль Малех, сірыйская праваабарончая арганізацыя SAWASIAH

«Сетка Мір і бяспека для жанчын краін Усходняй Афрыкі (RESPFECO), аддзяленне Кот д’Івуар, асуджае адвольны арышт віцэ-прэзідэнта FIDH уладамі Беларусі і патрабуе яго неадкладнага вызвалення.
Ад імя Сеткі, я заклікаю Алеся Бяляцкага захоўваць надзею, паколькі праваабаронцы ўсяго свету падтрымліваюць яго дзейнасць і ніколі не пакінуць яго аднаго.Я заклікаю міжнародную супольнасць умяшацца і запатрабаваць яго вызвалення, а таксама спынення парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі».

Жэнеўева Дыало, аддзяленне RESPFECO ў Кот д’Івуары



*Наста Лойка (ПЦ “Вясна”), Суэр Белхасэн (FIDH ) і Марыя Шышчанкова (Front Line Defenders). Фота з архіва FIDH*



*Суэр Белхасэн, Прэзідэнт FIDH, і Жульена Люсанж з “Жаночай салідарнасці дзеля міру і развіцця” з Конга. Фота з архіва FIDH*

## А Ф І Ц Ы Й Н А | 2 6 . 0 9 . 2 0 1 1

### ЕЎРАКАМІСАР ШТЭФАН ФЮЛЕ ПРА СПРАВУ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА:
Еўрасаюз павінен ахоўваць рахункі з дапамогай рэпрэсаваным грамадствам

“Абвінавачанні, выстаўленыя Алесю Бяляцкаму беларускімі ўладамі, беспадстаўныя і з’яўляюцца працягам рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, якія пашырыліся пасля 19 снежна 2010 года ”.

“Нагадаю, што Брусель дамагаецца неадкладнага і безумоўнага вызвалення Бяляцкага і зняцця ўсіх абвінавачанняў з яго”.

“Я падзяляю вашыя меркаванні аб важнасці прадухілення падобных сітуацый у будучыні, у Беларусі і ў іншых месцах. Бясспрэчна, што інтарэсы тых няўрадавых арганізацый, якія былі вымушаныя адкрыць прыватныя банкавыя рахункі ў краінах-сябрах Еўрасаюза для атрымання дапамогі ў рамках праектаў ЕС, мусяць ахоўвацца адпаведным чынам. Еўрапейская служба знешнепалітычнай дзейнасці і Еўрапейская камісія цяпер вывучаюць пытанне, якога тыпу і памеру забеспячэнні можна ўвесці ў гэтым выпадку”.

*З адкрытага ліста Штэфана Фюле, камісара Еўрасаюза па пытаннях пашырэння і палітыкі суседства, Форуму грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства*

# НОБЕЛЕЎСКАЯ КАМПАНІЯ

Ідэя пра намінацыю Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру з’явілася неўзабаве пасля арышту. Ужо дагэтуль кіраўнік “Вясны” вылучаўся на самую прэстыжную міжнародную ўзнагароду двойчы — у 2006 і 2007 гадах. Калегі і паплечнікі вязня сумлення разглядалі гэтае вылучэнне на прэмію як інструмент ціску на ўлады з тым, каб спыніць у краіне пераслед праваабаронцаў за іх прафесійную дзейнасць.

Пра стварэнне Міжнароднага арганізацыйнага камітэта па вылучэнні кіраўніка Праваабарончага цэнтра “Вясна” і віцэ-прэзідэнта FIDH на Нобелеўскую прэмію міру за 2012 год на прэс-канферэнцыі ў Мінску 3 кастрычніка 2011 года абвясцілі лідары вядомых няўрадавых аб’яднанняў — страшыня Беларускай Асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, старшыня Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Сяргей Мацкевіч, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак, намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра “Вясна” Валянцін Стэфановіч і лідар Руху “За свабоду”, грамадска-палітычны дзеяч Аляксандр Мілінкевіч.

Прыблізна за два месяцы да гэтага была створаная ініцыятыўная група ўнутры Беларусі, куды ўвайшлі вядомыя ў краіне людзі. Пасля распачалося фарміраванне міжнароднага камітэта, да працы якога падключыліся сусветна вядомыя праваабаронцы і грамадскія дзеячы — сузаснавальніца і старшыня Маскоўскай Хельсінкскай групы Людміла Аляксеева, прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Суэр Белхасэн, прэзідэнт Freedom House Дэвід Крамер, дырэктар Human Rights Watch Кенэт Рот, прадстаўнікі кіраўніцтва Amnesty International, дэпутат Германскага Бундэстага, сябра ПАСЕ Марылуізэ Бэк, старшыня Рады БНР у эміграцыі Івонка Сурвіла. У спісе таксама стаялі імёны генеральнага сакратара Нарвежскага Хельсінкскага камітэта Б’ёрна Энгесланда, выканаўчага дырэктара нарвежскага Фонду Дамоў правоў чалавека Марыі Дале.

Агулам на момант правядзення прэс-канферэнцыі ў пералік сяброў міжнароднага аргкамітэта ўвайшлі 29 асобаў, з часам іх колькасць паступова павялічвалася. Да яго працы ў хуткім часе далучыліся суаўтар. Усе-

агульнай дэкларацыі правоў чалавека Стэфан Эсэль, які дагэтуль хадайнічаў за вызваленне Алеся Бяляцкага з-пад варты, і мэр Парыжа Бертран Дэланаэ.



*“Пасля хвалі рэпрэсіяў супраць лідараў палітычнай апазіцыі, пад ціскам апынуліся журналісцкая і праваабарончая супольнасць. Я асабіста Алеся ўспрымаю як вельмі мужнага, адкрытага, сумленнага чалавека. Я з вялікай павагай паставілася да таго факта, што на працягу пэўнага перыяду ён мог з’ехаць з краіны, мог пазбегнуць затрымання і гэтага лёсу, але ён гэтага не зрабіў. Гэта цвёрдая грамадзянская пазіцыя. Нашае грамадства без дзейнасці праваабарончых арганізацый, без працы Алеся Бяляцкага шмат бы страціла. Менавіта беларускія праваабаронцы і цэнтр “Вясна” ўзялі на сябе пасля 19 снежня 2010 года клопат пра палітрэпрэсаваных і іх сем’і, дзякуючы чаму людзі справіліся са страхам і бездапаможнасцю”.*

Жанна Літвіна, старшыня БАЖ (1995 — красавік 2015; фота з архіва БАЖ)



*“Беларусы сціплыя людзі, празмерна сціплыя. Нобелеўская прэмія нам здаецца чымсьці касмічным, далёкім, недасягальным для нас. Я перакананы, што беларусы, якія столькі гадоў адстойваюць свае правы на лепшае жыццё, змагаюцца за тое, каб жыць у свабоднай дзяржаве, заслужылі, каб сярод іх быў лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Для мяне Алесь Бяляцкі — без сумневаў, чалавек, які адпавядае ўсім крытэрам, якія павінны быць здзяйсняльныя пры вылучэнні на Нобелеўскую прэмію. Ён чалавек высокамаральны, грамадскі, чалавек моцнага духу. Ён сваім прыкладам паказвае, якім павінен быць сапраўдны грамадзянін. Я лічу, што ад нас — грамадскіх лідараў, палітыкаў, журналістаў, праваабаронцаў — многае залежыць. Мы ўсе павінны аб’яднацца, каб падтрымаць кандыдатуру Алеся Бяляцкага. Людзям, якія змагаюцца за свабоду, вельмі патрэбныя прызнаныя ў свеце аўтарытэты”.*

Аляксандр Мілінкевіч, лідар Руху “За свабоду”, лаўрэат прэміі Еўрапарламента імя Андрэя Сахарава “За свабоду думкі” (фота з сайта be.wikipedia.org)



*“Алесь Бяляцкі — не толькі беларускі праваабаронца. Варта памятаць, што ён з’яўляецца віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, сусветнавядомай міжнароднай няўрадавай арганізацыі, і ён — міжнародны праваабаронца. У складзе праваабарончых місій ён быў на Кубе, у Кыргызстане і іншых краінах, дзе ўзнікалі праблемы з правамі чалавека. Ён змагаўся за правы чалавека ва ўсім свеце”.*

Алег Гулак, старшыня БХК (фота з сайта belhelcom.org)

---

Паводле працэдуры прысуджэння прэміі, вылучэнне намінантаў праходзіла да канца студзеня 2012 года. Пасля Міжнародны камітэт праводзіў кампанію, каб заручыцца падтрымкай свайго вылучэнца ад як мага шырэйшага кола суб’ектаў, якія могуць намінаваць на прэмію міру. Такім правам валодаюць урады, сябры міжнародных судоў, прафесары, рэктары, лаўрэаты прэміі міру або былыя сябры Нобелеўскага камітэта.

Сярод асобаў сусветнага маштабу пра сваю гатоўнасць падтрымаць кандыдатуру Алеся Бяляцкага заявілі лаўрэаты Нобелеўскай прэміі міру - іранская праваабаронца Шырын Эбадзі, лідар польскага руху “Салідарнасць” і першы прэзідэнт посткамуністычнай Польшчы Лех Валенса, а таксама першы прэзідэнт Чэхіі, былы палітычны вязень і ўплывовы грамадскі дзеяч Вацлаў Гавел.

«Дзякую за запрашэнне далучыцца да міжнароднага камітэта ў падтрымку вылучэння Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру 2012 года. Я з радасцю прымаю запрашэнне, і мне асабліва прыемна, што гэта будзе міжнародная ініцыятыва», — пісаў 30 верасня 2011 года сябрам камітэта Вацлаў Гавел.

“...Працуючы цягам усяго свайго жыцця дзеля больш справядлівага свету, Алесь служыць выдатным прыкладам служэння і салідарнасці для іншых.
...«Вясна» адыгрывала ключавую ролю ў аказанні дапамогі тысячам ахвяраў масавых рэпрэсій пасля акцый пратэстаў супраць зфальсіфікаваных прэзыдэнцкіх выбараў у сакавіку 2006-га і ў снежні 2010 года.
...Сп. Бяляцкі і «Вясна» знаходзяцца ў авангардзе аказання прававой, медыцынскай і гуманітарнай дапамогі пацярпелым.

…Больш чым калі-небудзь, імя Алеся Бяляцкага стала сімвалам барацьбы за захаванне правоў чалавека як у Беларусі, так і ўва ўсім рэгіёне Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі.

Дзякуючы сваёй працы, як у краіне, так і за яе межамі, часта з вялікай рызыкай, сп. Бяляцкі даказаў, што з'яўляецца выдатным прыкладам сілы абароны правоў чалавека і негвалтоўнага супраціву ў барацьбе з тыраніяй, якая замінае мірнаму развіццю ў Беларусі, Еўразіі і па ўсім свеце. З'яўляючыся сімвалам маральнай мужнасці і міру ў Беларусі, ён таксама спрыяе ўмацаванню міжнароднай салідарнасці і садзейнічанню ўніверсальнасці правоў чалавека", — пісала Шырын Эбадзі 18 студзеня 2012 года ў намінацыйным лісце ў Нарвежскі Нобелеўскі камітэт.

Падчас разгортвання кампаніі ў падтрымку Алеся Бяляцкага праявілі ініцыятыву дэпутаты Вярхоўнай Рады Украіны, сярод іх Мустафа Джамілеў — вядомы савецкі дысідэнт і праваабаронца, украінскі палітычны дзеяч, адзін з лідараў крымскататарскага нацыянальнага руху. Актыўна выказваліся палітыкі з Еўрапейскага саюза. Так у канцы студзеня 2012 года пра вылучэнне беларускага праваабаронцы афіцыйна заявілі дэпутаты польскага Сейма, пад гэтай заявай таксама паставілі подпісы прадстаўнікі 27 краін-сяброў Савета Еўропы. У лютым 2012 года праваабаронцу вылучыла прэм'ер-міністр Славакіі Івэта Радзічава, пасля яго кандыдатуру падтрымалі і дэпутаты літоўскага Сейма.

ПАСЕ: "Мы, парламентарыі дзяржаваў-сябраў Савета Еўропы, рашуча падтрымліваем ідэю аб прысуджэнні Нобелеўскай прэміі міру вядомаму беларускаму актывісту і праваабаронцу Алесю Бяляцкаму.
Алесь Бяляцкі, асуджаны на чатыры з паловай гады катаргі, ніколі не быў палітыкам. Адзіная яго віна ў тым, што ён, як чалавек неабыякавы, стаяў побач з ахвярамі антыдэмакратычнага рэжыму, дапамагаў ім і клапаціўся пра іх сем'і. Мы патрабуем яго вызвалення.
Народ Свабоднай Еўропы ніколі не пакіне грамадзянаў Беларусі, якія маюць поўнае права карыстацца такімі ж правамі, як і мы".







## САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

# ПІЦЕРСКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ПАДТРЫМАЛІ ВЫЛУЧЭННЕ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА НА НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ

24 траўня 2012 года Антыдыскрымінацыйны цэнтр «Мемарыял» у Санкт-Пецярбургу правёў пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага.

Спачатку пікет планаваўся насупраць консульства Беларусі, але згоды на яго праваабаронцы не атрымалі. Паўгады таму "мемарыяльцы" спрабавалі правесці каля консульства акцыю з нагоды вынясення прысуду Бяляцкаму, але былі разагнаныя паліцыяй.

Гэтым разам месцам для пікета праваабаронцы абралі скрыжаванне Малой Канюшневай вуліцы і Шведскага завулка, насупраць генконсульства Швецыі. "Хоць прэмія міру даецца ў Нарвегіі, але сам Нобель быў шведам, і мы хацелі такім чынам яшчэ раз прыцягнуць увагу не толькі расійскай, але і сусветнай грамадскасці да лёсу палітвязняў у Беларусі", — адзначыла старшыня АДЦ "Мемарыял" Стэфанія Кулаева.

З лозунгам "Нобелеўскую прэмію вязню сумлення!" суседнічалі іншыя: «Свабоду Алесю Бяляцкаму!», «Не — палітычным рэпрэсіям!», «Вясна прыйдзе і ў Беларусь», «Не — паліцэйскай дзяржаве». Былі і паэтычныя цытаты. «Усы, усы, вы что-то проглядели, вы что-то недопоняли, усы!» — радкі папулярнага паэта-дысідэнта Юрыя Дамброўскага нагадвалі пра часы сталінскага тэрору. Пад гэтымі радкамі былі карыкатурныя партрэты Сталіна і Лукашэнкі, перакрэсленыя ў чырвоным коле. "Гэтым мы хацелі паказаць, што рэжым Лукашэнкі так жа сама, як і рэжым Сталіна, прыгавораны да суда гісторыі і падзення", — тлумачыла журналістам Стэфанія Кулаева.

Удзельнікі акцыі надрукавалі больш за сотню паштовак з яркім пейзажам і надпісам “Вясна краса”, каб усе жадаючыя маглі напісаць на іх словы падтрымкі Алесю Бяляцкаму і апусціць у спецыяльную скрыню. Актывісты “Мемарыяла” абавязаліся адправіць карэспандэнцыю па прызначэнні — у бабруйскую калонію.




Фота з архіва АДЦ "Мемарыял"

Гэтым разам акцыя піцерскіх праваабаронцаў у падтрымку Алеся Бяляцкага абышлася без затрыманняў. Пікет праходзіў каля помніка “гарадавога”. Гэту статую, якая выклікала абурэнні і кпіны грамадзянскіх актывістаў, улады ўсталявалі на Малой Канюшневай у 1998 годзе. Стаяўшыя побач сяржанты паліцыі тым часам уважліва вывучалі ўлётку з заклікам «Свабоду Алесю Бяляцкаму!». На адваротным баку ўлёткі было напісана: “Сітуацыя з Алесем Бяляцкім і іншымі палітычнымі зняволенымі ў Беларусі абурае людзей ва ўсім свеце. У той жа час расійскія ўлады — часам недвухсэнсоўным маўчаннем, а часам і адкрытай падтрымкай — заахвочваюць аўтарытарны рэжым суседзяў, ставячы тым самым палітычныя гульні вышэй за правы чалавека і грамадзянскія свабоды. У гэты дзень мы хочам заявіць: падтрымка рэжыму Лукашэнкі — недапушчальная!”

Напрыканцы пікетоўцы адпусцілі ў неба вялікі надзіманы шар з выявай расчыненых турэмных кратаў і прывязаным да яго плакатам з пушкінскай цытатай “Темницы рухнут — и свобода”. Удзельнікі пікета іранізавалі: а раптам даляціць да Бабруйска!



У красавіку 2012 года Алесь Бяляцкі быў афіцыйна зарэгістраваны Нобелеўскім камітэтам у якасці кандыдата.

Дзякуючы шматлікім намаганням у межах міжнароднай кампаніі, Алесь Бяляцкі ўвайшоў у шорт-ліст і з'яўляўся адным з верагодных прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію міру 2012 года. У дзень абвяшчэння лаўрэата прэміі намесніку старшыні ПЦ "Вясна" Валянціну Стэфановічу тэлефанавалі замежныя журналісты, каб дамовіцца з ім на ўключэнне ў прамы эфір, паколькі "паводле інсайдарскай інфармацыі" ўзнагарода мусіла дастацца Алесю.

У тым годзе на Нобелеўскую прэмію міру былі вылучаны больш за 230 кандыдатаў. Сярод намінантаў былі расійскія праваабаронцы — Святлана Ганушкіна, Людміла Аляксеева, Праваабарончы цэнтр "Мемарыял", вядомая ў свеце кубінская дысідэнтка і блогерка Ёані Санчэс, такія буйныя палітычныя дзеячы як экс-канцлер Германіі Гельмут Коль і экс-прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. Былі намінаваныя экс-прэм'ер Украіны Юлія Цімашэнка і амерыканскі салдат Брэдлі Мэнінг — адзін з асноўных пастаўшчыкоў сакрэтнай інфармацыі парталу WikiLeaks.

12 кастрычніка Нобелеўскі камітэт у Осла афіцыйна абвясціў, што лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру за 2012 год стаў Еўрапейскі Саюз "за шэсць дзесяцігоддзяў унёску ў прасоўванне міру і прымірэння, дэмакратыі і правоў чалавека ў Еўропе".

> «Алесь, безумоўна, уваходзіў у апошні шорт-ліст. Яго кандыдатура актыўна абмяркоўвалася, бо была прапанаваная нобелеўскімі лаўрэатамі і падтрыманая па ўсім свеце. Яго называлі адным з самых верагодных лаўрэатаў.
>
> Няхай Алесь не атрымаў прэмію, але прызнанне яго дзейнасці неверагодна шырокае, і якраз гэта важна. Гэта з'яўляецца сігналам і для ўсяго свету, і для ўрада Беларусі.
>
> Зараз у першую чаргу вельмі вялікая адказнасць ускладзеная на Еўрасаюз. Паводле шэрагу сваіх дакументаў, ЕС гарантуе абарону праваабаронцаў. Таму павінен успрымаць гэтую прэмію не як заслужаную ўзнагароду за нешта ўжо дасягнутае, а як надзею і ўпэўненасць у тым, што яго роля ў абароне праваабаронцаў вельмі вялікая, а магчыма, і мусіць быць павялічаная!»

*З інтэрв'ю Сашы Кулаевай, кіраўніка аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі FIDH, для "Еўрарадыё"*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

2 кастрычніка 2011 года падчас закрыцця V Міжнароднага фестывалю праваабарончых фільмаў у Бішкеку Алесь Бяляцкі, разам з калегамі-вязнямі Азімжанам Аскаравым з Кыргызстана і Яўгенам Жоўцісам з Казахстана, быў узнагароджаны дыпломам “За мужнасць і барацьбу за свабоду”.

На знак салідарнасці ўдзельнікі і гледачы фестывалю паглядзелі дакументальную стужку “Свечка праўды Алеся Бяляцкага”, якую прадстаўляла сябра міжнароднага журы з Беларусі Паліна Сцепаненка.




*Ілюстрацыйнае фота ўзнагароды фестывалю з сайта birduino.kg*

## ДЭКЛАРАЦЫЯ ПАСЕ Ў ПАДТРЫМКУ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

Пісьмовая дэкларацыя ў падтрымку праваабаронцы была складзеная падчас восеньскай сесіі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, якая праходзіла ў Страсбургу з 3 па 7 кастрычніка 2011 года. Яе ініцыяваў дакладчык ПАСЕ па Беларусі, эстонскі дэпутат Андрэс Херкель.

> Пасля арышту Алеся Бяляцкага ён заклікаў беларускія ўлады гарантаваць праваабаронцу фізічную і псіхалагічную недатыкальнасць і спыніць усе формы прыгнёту праваабаронцаў. «Арышт спадара Бяляцкага — яшчэ адзін выпадак у мазаіцы пераследу і запалохвання грамадзянскай супольнасці. Надышоў час, каб злоўжыванне крымінальным правам у Беларусі спынілася», — гаварылася ў заяве дакладчыка на сайце ПАСЕ.

Дэкларацыю ў падтрымку Алеся Бяляцкага падпісалі дзясяткі прадстаўнікоў усіх парламенцкіх фракцый і краінаў Савета Еўропы.

## ЗАЯВА ШЫРЫН ЭБАДЗІ ПА СПРАВЕ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

*Брусель, 5 кастрычніка 2011 года*

> «Сітуацыя праваабаронцаў па ўсім свеце застаецца крытычнай. Прыкладам таму служыць сітуацыя майго сябра і калегі, беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта FIDH, які быў арыштаваны 4 жніўня гэтага года і ўсё яшчэ неабгрунтавана знаходзіцца пад вартай.

Дыктатары трымаюцца адзін за аднаго, таксама павінны рабіць і мы! Міжнародная супольнасць павінна не толькі выкарыстоўваць усе наяўныя ў яе распараджэнні сродкі па абароне правоў чалавека і дэмакратыі, але і ўзмацняць іх, рашуча і згуртавана.

Што ж такое дыялог, калі ён не заснаваны на павазе правоў чалавека і ўсіх тых, хто абараняюць іх, часта з рызыкай для ўласнага жыцця?

Алесь Бяляцкі павінен быць неадкладна вызвалены і атрымаць магчымасць працягваць сваю мужную і легітымную працу, гэтак патрэбную людзям яго краіны і ўсяго рэгіёна».

Заява зробленая падчас візіту Шырын Эбадзі ў Брусель па запрашэнні кіраўніка Еўракамісіі Жазэ Мануэля Барозу.




*Ілюстрацыйнае фота са старонкі @councilofeurope ў Фэйсбуку*




*Шырын Эбадзі на прэс-канферэнцыі ў офісе FIDH у Бруселі 5 кастрычніка 2011 г. Фота з архіва FIDH*

Тым часам з мінскага СІЗА №1 даходзілі весткі пра пагаршэнне стану здароўя Алеся Бяляцкага. Следчыя адмаўлялі жонцы палітвязня, Наталлі Пінчук, у спатканні з мужам. Следства ў справе Алеся Бяляцкага фактычна было завершанае. З 23 верасня ён разам са сваім адвакатам пачалі знаёміцца з матэрыяламі справы. 5 кастрычніка 2011 года пракуратура перадала справу ў суд.




*Створаны FIDH падчас судовага працэсу плакат з заклікам да вызвалення праваабаронцы за час кампаніі з'яўляўся ў розных кутках свету*

20 кастрычніка была абвешчаная дата пачатку судовага працэсу па “справе Бяляцкага” — 2 лістапада 2011 года.

Да суда рыхтаваліся ўсе.

Алесь з адвакатам знаёміліся з матэрыяламі справы і выбудоўвалі лінію абароны, адбіраючы доказы ў абгрунтаванне сваёй пазіцыі.

Сябры “Вясны” пільна сачылі за кожным рухам і надавалі шырокі рэзананс кожнаму кроку ўладаў у гэтым працэсе, спрабуючы паўплываць на тое, каб суд, які быў наперадзе, праходзіў адкрыта. Насуперак перашкодам вясноўцы працягвалі інфармацыйную кампанію па ўсёй краіне.

FIDH вяла актыўную працу ў еўрапейскіх і міжнародных структурах дзеля аказання знешняга ціску на беларускія ўлады, а таксама мабілізавала шматлікія сяброўскія арганізацыі па ўсім свеце на маральную падтрымку свайго віцэ-прэзідэнта.

Міжнародная супольнасць рабіла афіцыйныя заявы на адрас кіраўніка Беларусі з патрабаваннем вызвалення праваабаронцы і выказвала салідарнасць з Алесем Бяляцкім, яго сям’ёй і “Вясной”.

У гэты час у беларускім грамадстве адбываецца асэнсаванне асобы Алеся Бяляцкага як праваабаронцы міжнароднага ўзроўню. Дагэтуль ён найперш успрымаўся як беларускі грамадскі дзеяч, дэмакратычны актывіст, які заўжды выступаў за незалежнасць краіны і захаванне нацыянальнай мовы і культуры, як заснавальнік і кіраўнік “Вясны”. Праваабарончы цэнтр “Вясна” апублікаваў падрабязнае інтэрв’ю пра працу Алеся Бяляцкага ў межах FIDH з яго калегай, кіраўніцай аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі FIDH Сашай Кулаевай.



*Саша Кулаева. Фота з сайта capefrance.com*

“Важная асаблівасць — перакананасць Алеся ў выключнай важнасці сумеснай працы праваабаронцаў Беларусі з рэгіянальнымі і міжнароднымі калегамі і міжнароднай салідарнасці як такой. Я ўспамінала пра гэта, калі неўзабаве пасля арышту Алеся сабраліся за некалькі дзён, у час жнівеньскіх вакацыяў, усе калегі “Вясны” з усёй Еўропы, каб абмеркаваць сумесныя дзеянні па мабілізацыі ўсіх сілаў на дапамогу Алесю і “Вясне” ў крытычны момант пасля яго арышту, на хвалі масавых рэпрэсій. Прыехалі ўсе — ніхто не застаўся ўбаку. Гэта, вядома, вынік усёй дзейнасці Алеся, пастаянных кантактаў, даверу, які ён і ягоная каманда выклікаюць ва ўсіх партнёраў, яго асабістых якасцяў — шырыні поглядаў, дыяпазону ведаў, — і многіх гадоў працы па ўмацаванні салідарнасці паміж праваабаронцамі.

Магчыма, у Беларусі менш ведаюць пра яго міжнародную дзейнасць. Яна таксама была скіраваная на ўмацаванне салідарнасці, грунтавалася на ўніверсальнасці правоў чалавека, а значыць, і барацьбы за іх. Алесь ездзіў назіральнікам на выбары ў самыя розныя куткі Еўропы, гэтак жа, як і яго калегі, ездзіў з місіямі салідарнасці на Кубу, дзе падтрымліваў дэмакратычных актывістаў ...

...Так, ён быў у Тунісе адразу пасля рэвалюцыі, а вось у Егіпце пабываў яшчэ раней, да таго, як у краіне змянілася ўлада. Памятаю, што пасля яго паездкі ў Егіпет дзяржтэлебачанне нават падрыхтавала чарговы пасквіль — вось, маўляў, добра жывецца праваабаронцам, па курортах ездзяць... А гэта было экстраннае паседжанне Міжнароднага праўлення FIDH, мы там арганізоўвалі прыкладна тое ж, што і ў Мінску ў 2004 годзе, сход мясцовых актывістаў, якія ў той момант знаходзіліся ў вельмі складаных умовах. Алесь да таго часу быў ужо абраны ў Міжнароднае праўленне FIDH, яе кіруючы орган. І гэта таксама быў значны момант — ягонае абранне ў 2007 годзе віцэ-прэзідэнтам FIDH. Бо гэта самы першы прадстаўнік краінаў былой савецкай прасторы, які быў абраны на кангрэсе, што сабраў усе сяброўскія арганізацыі з усяго свету. Гэта адлюстроўвае і само развіццё нашай арганізацыі, і прагрэс рэгіёна — заснаваная на прынцыпе сяброўства, Федэрацыя не мела прадстаўнікоў за «жалезнай заслонай», і ў гады пасля яе падзення ландшафт грамадзянскай супольнасці моцна змяняўся. Але невыпадкова, што менавіта Алесь, з яго імкненнем да абмену досведам, салідарнасцю і падтрымкай, так актыўна ўключыўся ў жыццё Федэрацыі і заслужыў там усеагульную падтрым-

ку і павагу. Ён стаў віцэ-прэзідэнтам праз тры гады ўступлення "Вясны" ў Федэрацыю, гэта вельмі рэдкі выпадак...

...На рэгіянальным узроўні ўсіх паездак і не пералічыць! Тут Алесь выдатна валодаў сітуацыяй, гаварыў з людзьмі на адной мове, і справа была не толькі ў салідарнасці: Алесь удзельнічаў у справаздачы па маніторынгу, працаваў над стратэгічным развіццём рэгіянальнай сеткі FIDH, выступаў з ініцыятывамі даследчых місій і сам прымаў у іх удзел. Мы ездзілі з ім у Грузію адразу пасля вайны з Расіяй у 2008 годзе, сустракаліся з сем'ямі палітвязняў, праводзілі сустрэчы па міжнародным правасуддзі, ездзілі ў лагер для перамешчаных у выніку канфлікту асобаў. У Арменіі Алесь таксама працаваў з праблемай палітвязняў пасля разгону дэманстрацыі ў 2008 годзе, якая скончылася смерцю 10 чалавек. Ён ездзіў у даследчую місію ў Кыргызстан у разгар міжэтнічнага канфлікту на поўдні краіны ў чэрвені 2010 года. Тады ён, дарэчы, ледзь не загінуў — пасля наведвання вёскі Папан, радзімы мэра горада Ош, дзе Алесь і прадстаўніцы дзвюх кыргызскіх арганізацый-сяброў FIDH праводзілі расследаванне, ім падпілавалі заднюю вось машыны, і колы адляцелі, калі яны паехалі праз горы. На шчасце, усё скончылася добра. Тады ж адну з нашых калегаў выклікалі ў пракуратуру, бо казаць праўду пра падзеі на Поўдні краіны і цяпер яшчэ небяспечна. Вядома, Алесь пайшоў разам з ёй на допыт. Наогул, паняцце салідарнасці і тут для яго было важнейшым складнікам, у гэтай паездцы на ахоплены гвалтам Поўдзень Кыргызстана. Перад такой бядой, лічыў ён, мы не маем права пакідаць нашых калегаў сам-насам. Мы таксама павінны быць там.




*Алесь Бяляцкі на міжнароднай канферэнцыі "Пераход да дэмакратыі ў Тунісе". Туніс, сакавік 2011 г. Фота з архіва FIDH*

Гэта тычылася і яго актыўных намаганняў па стварэнні ўзаемадапамогі і салідарнасці з праваабаронцамі-ахвярамі рэпрэсій. Ён ездзіў разам з Уладзімірам Лабковічам, юрыстам "Вясны", назіраць за судом над старшынёй праўлення праваабарончага цэнтра "Мемарыял" Алегам Арловым, калі супраць яго падаў у суд кіраў-




*Праваабаронцы Талекан Ісмаілава і Алесь Бяляцкі прэзентуюць даклад па выніках місіі FIDH на поўдзень Кыргызстана пасля чэрвеньскага міжэтнічнага канфлікту. Бішкек, снежань 2010 г. Фота з архіва FIDH*

нік Чачні Кадыраў. Ездзіў у Усць-Каменагорск, у далёкі край Казахстана, у калонію, дзе знаходзіўся ў зняволенні Яўген Жоўціс, кіраўнік казахстанскага Бюро па правах чалавека, і дамогся спаткання з ім. Наведваў у снежні 2010 года ў турме ў Бішкеку Азімжана Аскарава, кыргызскага праваабаронцу ўзбекскага паходжання, асуджанага да пажыццёвага зняволення пасля міжэтнічных сутыкненняў на поўдні краіны. Таму мяне не здзіўляюць лісты, якія ідуць Алесю ад праваабаронцаў з усяго свету: з Калумбіі, ад Луіса-Гільерма Пэрэса, генеральнага сакратара FIDH, якога Алесь вазіў па Беларусі, калі той прыязджаў для сустрэчаў з ахвярамі правапарушэнняў; ад Жоўціса, што ўсё яшчэ знаходзіцца ў Усць-Каменагорскай калоніі, ад сябраў ПЦ "Мемарыял"… Што пасееш, тое і пажнеш, гэта справядліва як у дрэнным, так і ў добрым. Алесь заўсёды быў там, дзе была патрэбная салідарнасць. У пэўным сэнсе, ён і цяпер там, дзе патрэбна салідарнасць… у беларускай турме. Гэта таксама вынік яго працы, хоць і страшны, і несправядлівы, але гэта ацэнка яго дзейнасці цяперашнім рэжымам".

*З інтэрв'ю з Сашай Кулаевай, запісанага Таццянай Снітка ў кастрычніку 2011 года*

---

З набліжэннем суда, настаў той самы час, калі праваабарончая салідарнасць была неабходная самому Алесю Бяляцкаму. І яго калегі з розных краінаў усё актыўней уключаліся ў агульную кампанію за вызваленне беларускага вязня сумлення. Мабілізаваліся ўсе. Розныя арганізацыі дзейнічалі па-рознаму, з мінімальнай каардынацыяй, але ўсе салідарныя дзеянні надзвычай удала дапаўнялі адно адное і стварылі неверагодны эфект "адзінага фронту", што рабіла кампанію маштабнай і моцнай.

# «ПУСТОЕ КРЭСЛА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА»
## НА ПРЭЗЕНТАЦЫЯХ ШТОГАДОВАЙ СПРАВАЗДАЧЫ АБСЕРВАТОРЫІ ПА АБАРОНЕ ПРАВОЎ ПРАВААБАРОНЦАЎ

Прадстаўнікі сяброўскіх арганізацыяў FIDH выказвалі салідарнасць са зняволеным беларускім калегам падчас прадстаўлення ў сваіх краінах, на розных кантынентах, штогадовай справаздачы Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў “Упартасць сведчання”.

У кастрычніку 2011 года выйшаў 14-ы выпуск справаздачы Абсерваторыі, у якім былі сабраныя самыя сур’ёзныя факты парушэнняў правоў праваабаронцаў. Справаздача была апублікаваная на пяці мовах (англійскай, арабскай, іспанскай, французскай і рускай) і з’яўлялася ўнікальным адвакатыўным інструментам для абароны праваабаронцаў. У дакуменце прыводзіліся сотні прыкладаў актаў рэпрэсій супраць праваабаронцаў, іх сем’яў і калегаў — пераследу, нападкаў, пагрозаў і арыштаў, уключаючы адвольныя затрыманні, паклёпніцкіх кампаній, абмежа-

*Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў — сумесная праграма дзвюх няўрадавых арганізацыяў, Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў (OMCT), створаная ў 1997 годзе. Даследуе, дакументуе і распаўсюджвае інфармацыю пра выпадкі замахаў на асноўныя правы праваабаронцаў, аказвае падтрымку тым, хто знаходзіцца ў небяспецы, і садзейнічае ўмацаванню патэнцыялу міждзяржаўных механізмаў іх абароны.*




*Вокладка справаздачы “Упартасць сведчання”. З архіва FIDH*




*Упершыню пустое крэсла Алеся Бяляцкага з'явілася ў Нью-Ёрку. Фота з архіва FIDH*




*Побач з крэслам Алеся Бяляцкага — Спецдакладчыца ААН па становішчы праваабаронцаў Маргарэт Секагія, справа ад яе — Джэральд Стэйбрак, Генсакратар ОМСТ, і Суэр Белхасэн, Прэзідэнт FIDH. Фота з архіва FIDH*

ванняў свабодаў, у прыватнасці, свабоды асацыяцый і выказвання, ды іншых. Усе гэтыя прыклады цягам 2010/2011 гадоў былі зафіксаваныя ў тэрміновых зваротах Абсерваторыі, што пацвярджала неадкладную неабходнасць аказання падтрымкі гэтым людзям ды іх змаганню.

Міжнародная прэзентацыя справаздачы адбылася 24 кастрычніка ў Нью-Ёрку і была прымеркаваная да штогадовага выступу на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН спадарыні Маргарэт Секагіі, Спецдакладчыка ААН па пытаннях пра становішча праваабаронцаў.

У наступныя месяцы справаздача была прадстаўленая на рэгіянальных канферэнцыях у Банжуле (Гамбія), Вашынгтоне (ЗША), Дакары (Сенегал), Мехіка (Мексіка), Нью-Дэлі (Індыя), Маскве (Расія), Каіры (Егіпет), Тунісе (Туніс), Бужумбуры (Бурундзі) і Кампале (Уганда). У кампанію ўключыліся 30 арганізацыяў-сябраў FIDH па ўсім свеце.

На кожнай канферэнцыі, прысвечанай прэзентацыі гадавой справаздачы, стаяла пустое крэсла, на якое была “апранутая” футболка з выявай Алеся Бяляцкага — горкі напамін пра “тых, хто не з намі”. Алесь Бяляцкі дагэтуль вельмі актыўна ўдзельнічаў у працы Абсерваторыі і менавіта ён прадстаўляў папярэдні даклад у Вене сумесна з АБСЕ.

“Сотні праваабаронцаў, пазбаўленыя права на свабоду выказвання, будуць сімвалічна прадстаўлены пустым крэслам, якое па праву павінен быў заняць Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт FIDH і прэзідэнт Праваабарончага цэнтра «Вясна», які з 4 жніўня 2011 года знаходзіцца пад вартай пасля адвольнага арышту і 24 лістапада 2011 года быў прысуджаны да 4,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці”, — тлумачылася падчас прэзентацыі ў постсавецкім рэгіёне, якая праходзіла ўжо пасля суда над праваабаронцам.




Дакар, Сенегал.
2 лістапада 2011 г.
Фота з архіва FIDH

У гэтай справаздачы ўпершыню агучвалася праблема, праз якую Алесь Бяляцкі патрапіў за краты, і пошук шляхоў вырашэння якой патрабаваў мабілізацыі міжнароднай супольнасці:

“На працягу ўсяго года працягвала выклікаць асаблівую заклапочанасць узмацненне кантролю за фінансаваннем, уключаючы фінансаванне з міжнародных крыніцаў арганізацый грамадзянскай супольнасці. Праблема пагаршаецца адсутнасцю доступу да фінансавых крыніцаў унутры краіны ў сувязі або страхам палітычных ці эканамічных рэпрэсіўных мераў у выпадку іх адкрытага выкарыстання. Фінансаванне ад міжнародных арганізацый або садзейнічанне развіццю праваабарончых групаў звонку краіны зачастую застаецца адзіным выратавальным колам для актывістаў грамадзянскай супольнасці, таму міжнародная супольнасць павінна прыкласці максімум намаганняў да абароны гэтых крыніцаў фінансавання. Але атрыманне фінансавання з-за мяжы можа быць выкарыстана ўрадам як нагода для дыскрэдыта-



Хельсінкі, Фінляндыя. 15 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH



Мехіка, Мексіка. 28 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH

цыі і падрыву грамадскай легітымнасці дзейнасці праваабаронцаў, асабліва ў тых выпадках, калі яны актыўна займаюцца дакументаваннем парушэнняў правоў чалавека і заклікаюць органы ўлады да адказнасці, як гэта было, напрыклад, у Беларусі". Так ставілася праблема ў частцы справаздачы, якая называлася "Прыйшоў час устаць на абарону правоў праваабаронцаў".



*Баку, Азербайджан. 27 снежня 2011г. Фота з архіва FIDH*

У наступныя гады Абсерваторыя падрабязна даследвала новыя негатыўныя тэндэнцыі, якія перашкаджалі эфектыўнай працы праваабаронцаў, і ў 2013 годзе прадаставіла поўны агляд парушэнняў правоў няўрадавых арганізацый па доступ да фінансавання пры дапамозе розных абмежаванняў з боку дзяржаваў. У справаздачу "Парушэнне права НДА на фінансаванне: ад пераследу да крымінальнага пакарання" ўвайшла і "справа Бяляцкага".



*Майка з партрэтамазербайджанскага праваабаронцы-палітвязня Анара Мамедлі на працоўным месцы Алеся Бяляцкага. З архіва ПЦ "Вясна"*

Беларускія праваабаронцы накіравалі злабадзёную справаздачу Абсерваторыі ў дзяржаўныя органы — Адміністрацыю прэзідэнта, Міністэрства юстыцыі, Міністэрства эканомікі і Міністэрства па падатках і зборах.

Гэтая кампанія таксама дала вельмі моцны імпульс для праваабаронцаў ва ўсім свеце. Ідэя, пакладзеная ў яе аснову, пасля працягвала жыць сваім жыццём.

Спачатку на розных мерапрыемствах у розных краінах з'яўлялася пустое крэсла з футболкай Алеся Бяляцкага, пасля ставілі крэсла ўжо без футболкі — сімвал усіх зняволеных праваабаронцаў. Далей гэтая ідэя пераходзіла ў шэраг іншых кампаніяў. І ўжо пасля вызвалення Алеся Бяляцкага ў офісе "Вясны" з'явіліся крэслы з футболкамі азербайджанскіх праваабаронцаў-палітвязняў.




*З архіва FIDH*

*“Справаздача была прысвечаная тэме фінансавання праваабарончых арганізацый і выкарыстання сітуацыі з грантамі для выціскання людзей з легальнага поля дзейнасці з дапамогай законаў, якія забараняюць заходняе фінансаванне, тым самым фактычна крыміналізуюць праваабарончы рух, які вымушаны ісці на неправавыя дзеянні. Але — тыя прававыя акты, на якіх грунтуецца «неправамернасць» дзеянняў праваабаронцаў, яны самі па сабе супярэчаць нормам міжнароднага права і з’яўляюцца парушэннем. Таму нельга лічыць парушэннем тое, што чалавек парушае закон, які парушае міжнародныя стандарты.*

*Гэта была ўнікальная справаздача. Да яе падрыхтоўкі гэтую тэму неяк усе стараліся сарамліва абыходзіць — хто адкуль грошы атрымлівае. І вось у адной брашуры былі сабраныя сітуацыі ў 35 краінах свету, дзе такія законы існуюць — схемы паўсюль вельмі падобныя. І паколькі якраз ішла справа Алеся, то яна стала адным з ключавых прыкладаў гэтай справаздачы”.*

*Саша Кулаева, FIDH*

# КАМПАНІЯ ШЭФСТВА НАД ПАЛІТВЯЗНЕМ

Кампанію шэфства вядомых еўрапейскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў над палітычнымі зняволенымі Беларусі няўрадавая арганізацыя Libereco сумесна з Amnesty International распачалі яшчэ ў красавіку 2011 года, пасля прысудаў апазіцыйным актывістам і палітыкам у выніку падзеяў 19 снежня 2010 года. Мэтай кампаніі было знайсці для кожнага беларускага палітвязня, еўрапейскага палітыка, які апекаваўся б ім і ўвесь час, а не толькі ў дзень вынясення абвінаваўчага прысуду, і патрабаваў бы неадкладнага вызвалення.

У кастрычніку 2011 года, калі Алесь Бяляцкі быў пад арыштам, віцэ-прэзідэнт Бундэстага Германіі Катрын Герынг-Экардт афіцыйна далучылася да кампаніі і ўзяла шэфства над праваабаронцам.

“Як і беларускія, а таксама міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, я мяркую, што яго ўтрыманне пад вартай з’яўляецца палітычна матываваным і мае намер перашкодзіць яго законнай дзейнасці ў якасці праваабаронцы. Вось ужо больш за два месяцы Алесь Бяляцкі знаходзіцца ў турме, а ў цяперашні час яму не дазваляецца пісаць і атрымліваць лісты. Таму я лічу Алеся Бяляцкага вязнем сумлення Лукашэнкі і заклікаю да яго неадкладнага і безумоўнага вызвалення і гарантыі абароны яго жыцця і фізічнага стану”, — заявіла спадарыня Герынг-Экардт.

Актыўны ўдзел у гэтай кампаніі брала і дэпутат Бундэстага ад партыі «Саюз-90 /Зялёныя» Марылуізэ Бэк. Яна ўзяла шэфства над экс-канды-

*“Па-першае, яны інфармуюць грамадскасць аб тым, што ўзялі шэфства над беларускім палітвязнем. Затым кожны палітык накіроўвае ліст-заклік з патрабаваннем аб вызваленні свайго падшэфнага на адрас прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, а таксама ў пасольства Беларусі ў сваёй краіне. Акрамя гэтага дэпутат можа весці ліставанне з палітвязнем і членамі яго сям’і. Самае важнае — гэта тое, што палітыкі праводзяць кампанію па вызваленні беларускіх палітвязняў у межах сваёй паўсядзённай працы. Яны размаўляюць пра гэта з людзьмі ў сваіх выбарчых акругах, арганізуюць мерапрыемствы, прысвечаныя сітуацыі ў Беларусі. Бо далёка не ўсе ў Еўропе ведаюць, што ў Беларусі людзей саджаюць у турму за іх погляды. Не ўсе ведаюць, у якіх жудасных умовах яны адбываюць пакаранне. Наша мэта — дамагчыся вызвалення палітвязняў. Кожны дзень, праведзены ў турме, цісне на псіхіку гэтых людзей, падрывае іх здароўе. Мы не маем права маўчаць”.*

*З інтэрв’ю Deutsche Welle кіраўніка Libereco Ларса Бюнгера*

датам у прэзідэнты Андрэем Саннікавым, пасля яго вызвалення — над праваабаронцам Алесем Бяляцкім, а калі праваабаронца выйшаў на волю — над актывістам-анархістам Ігарам Аліневічам. Паводле яе словаў, на імя прэзідэнта Лукашэнкі з Германіі было адпраўлена каля 100 тысяч лістоў з патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага. Падобную працу прарабілі калегі Бэк, якія прымалі ўдзел у лёсе іншых палітвязняў: «Гэта надавала ім сілы. Кожны ліст — гэта невялікі палітычны інструмент ціску».




*У цэнтры — Катрын Герынг-Экардт і Ларс Бюнгер у акцыі падтрымкі беларускіх палітвязняў падчас Нямецкага пратэстанцкага дня. Травень 2013 года.*
*Фота з архіва Libereco*

Калі пасля вызвалення Алесь Бяляцкі прыехаў у Берлін, ён сустрэўся са сваёй палітычнай апякункай. Па словах праваабаронцы, такая падтрымка шмат для яго значыла: «Калі знаходзішся ў ізаляцыі і з табой гадамі забараняюць размаўляць іншым зняволеным, кожны сігнал звонку дае сілы, каб не зламацца. У вялікай ступені гэта дапамагае застацца самім сабой».

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ



Цырымонія ўзнагароджання. Фота Stephan Röhl / Heinrich-Böll-Stiftung

Нямецкія “зялёныя” паслядоўна падтрымлівалі Алеся Бяляцкага ў часы яго зняволення. У 2012 годзе палітычны вязень быў узнагароджаны прэміяй Петры Келі, якую яму прысудзіў Фонд імя Генрыха Бёля “за шматгадовую і нястомную працу па захаванні правоў чалавека ў аўтарытарнай Беларусі”. Фонд з’яўляецца няўрадавай арганізацыяй, якая цесна ўзаемадзейнічае з партыяй “Саюз 90/Зялёныя”, і падтрымлівае праекты ў галіне развіцця грамадзянскай супольнасці, экалогіі, правоў чалавека.

Узнагарода заснавана ў памяць пра вядомую палітычную дзяячку Петру Келі (1947-1992), якая брала ўдзел у стварэнні ў Германіі Партыі зялёных, і з 1998 года прысуджаецца асобам або групам за актыўны ўдзел у барацьбе за захаванне правоў чалавека, негвалтоўнае вырашэнне канфліктаў і абарону навакольнага асяроддзя.

“Прэмія з’яўляецца знакам салідарнасці з Алесем Бяляцкім і ўсімі іншымі палітычнымі зняволенымі ў Беларусі і зноў заклікае да іх неадкладнага вызвалення”, — адзначалася ў паведамленні Фонду пра асобу лаўрэата.

Для атрымання ўзнагароды 22 лістапада 2012 года ў Берлін была запрошаная жонка праваабаронцы Наталля Пінчук, а таксама яго калегі — намеснік старшыні “Вясны” Валянцін Стэфановіч і старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта Алег Гулак. Урачыстую цырымонію вялі Ральф Фукс, прэзідэнт Фонду Генрыха Бёля, і Марылуізэ Бэк, якая прадстаўляла партыю “Саюз 90/Зялёныя”.

«Сардэчна віншую яго з гэтай узнагародай, якую ён заслужыў у асаблівай ступені. Імя Алеся Бяляцкага сімвалізуе асабістую прыстойнасць і самаадданасць у барацьбе за правы тых, хто падвяргаецца рэпрэсіям», — напісаў у лісце да жонкі палітзняволенага Крыстаф Вайль, былы амбасадар Германіі ў Беларусі.




Марылуізэ Бэк. Фота Stephan Röhl / Heinrich-Böll-Stiftung




# НАЗІРАННЕ — У АБЫХОД “ВІЗАВАГА БАР‘ЕРА”

Напярэдадні суда над Алесем Бяляцкім праваабаронцы з міжнародных арганізацыяў падалі заявы на беларускія візы, каб асабіста назіраць за судовым працэсам. З дзясятак вядомых асобаў афіцыйна заявілі ў беларускія пасольствы і консульствы ў сваіх краінах, што ў Мінску будуць судзіць іх калегу, і яны жадаюць трапіць на суд. Ад FIDH у Францыі па візы звярнуліся нобелеўская лаўрэатка Шырын Эбадзі, прэзідэнт арганізацыі Суэр Белхасэн, ганаровы прэзідэнт Патрык Бадуэн, дырэктар Антуан Бернар. Усім адмовілі. Персонамі non grata для беларускіх уладаў сталі таксама кіраўнік праграмаў шведскай арганізацыі Civil Right Defenders Мары Мэнсан, нарвежскія праваабаронцы Ане Бондэ і Дайва Петкевічутэ з Фонду Дамоў правоў чалавека і Бэрыт Ліндэман з Нарвежскага Хельсінкскага камітэта, якой спачатку ў тэлефанаванні паведамілі, што віза гатовая і яе можна ў любы час забраць. Пра атрыманне адмоваў у візе таксама паведамлялі Марыяна Роча з Partnership for Human Rights з Бруселя і Рэйчэл Дэнбер з Human Rights Watch з Нью-Ёрка.

Супрацоўнікі беларускіх амбасадаў у розных краінах пры адмовах прыдумлялі дзіўныя тлумачэнні. Прадстаўнікам FIDH, да прыкладу, сказалі, што ў Беларусь у гэты час едзе вялікая каманда французскіх спартсменаў, і для іх, вядома, больш прыярытэтнае афармленне візаў гэтым спартсменам, таму яны, «на жаль», ніяк не паспяваюць па часе.

Але ў FIDH быў “план Б” на такі выпадак: дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў з краінаў постсавецкай прасторы, што здымала пытанне неабходнасці візаў. Таксама зрабілі іншыя міжнародныя арганізацыі. У выніку, у Мінск на суд прыехалі праваабаронцы з FIDH, Human Rights Watch, Front Line Defenders, Хельсінскага фонду па правах чалавека, сябры назіральных місій ад Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў і Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі.

Прадстаўнікі дыпламатычных місій краінаў Еўрасаюза — Германіі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Францыі, Швецыі, а таксама ЗША публічна прадэманстравалі пільную ўвагу да справы Алеся Бяляцкага з першага дня судовага разбіральніцтва.

“Мы як прадстаўнікі Еўрасаюза заўсёды намагаемся прымаць удзел ва ўсіх працэсах, якія палітычна матываваныя. Я думаю, што гэты працэс менавіта такі. Вы бачыце тут шмат прадстаўнікоў розных дыпламатычных місій. У нас яшчэ асаблівая адказнасць, бо мы маем за сабой грэх, а менавіта тое, што мы спрычыніліся да таго, што спадар Бяляцкі сядзіць у турме. Беларускі бок не апраўдаў нашага даверу, бо закон, які мы падпісвалі, быў скіраваны супраць крымінальных злачынстваў. А тут гэта выкарыстоўваецца для таго, каб пасадзіць у турму праваабаронцу. Мы лічым, што пасадзіць у турму праваабаронцу — гэта непрымальна”.

*З інтэрв’ю пасла Польшчы ў Беларусі Лешака Шарэпкі Беларускаму Радыё Рацыя*

Rzeczpospolita Polska
Ministerstwo
Spraw Zagranicznych

URM
LIETUVOS RESPUBLIKOS
UŽSIENIO REIKALŲ
MINISTERIJA

“Літва будзе ўважліва назіраць за працэсам. Нашыя дыпламаты актыўна будуць удзельнічаць і ўдзельнічаюць у працэсе, які пачаўся сёння. З таго, як ён будзе праходзіць, якім будзе абвінавачанне, мы будзем рабіць высновы і будзем адпаведным чынам рэагаваць”.

*Заява міністра замежных спраў Літвы Аўдронюса Ажубаліса парталу Delfi.lt*



*Фота Юліі Дарашкевіч*

Такім чынам, улады не здолелі зрабіць адкрыты судовы працэс па “справе Бяляцкага” схаваным ад міжнароднай грамадскасці. Яны вымушаныя былі падрыхтавацца да прысутнасці замежных праваабаронцаў, журналістаў і дыпламатаў на судзе. Таму, мабыць, месцам паседжанняў суда Першамайскага раёна Мінска, які разглядаў справу, быў абраны новы, прэзентабельны, будынак суда Маскоўскага раёна.

У першы дзень працэсу зала судовых паседжанняў, разлічаная на 80 месцаў, была цалкам запоўненая. У судзе, апроч родных Алеся Бяляцкага і сяброў “Вясны”, сабраліся кіраўнікі дыпламатычных місій еўрапейскіх краінаў, беларускія і міжнародныя праваабаронцы, журналісты, палітыкі, грамадскія і культурныя дзеячы, актывісты і былыя палітвязні. На пачатак паседжання больш за поўсотні чалавек не змаглі патрапіць у залу. Затое лёгка патрапілі каля дваццаці невядомых маладых людзей, якія на пытанні журналістаў — хто яны і адкуль, адказалі, што з’яўляюцца студэнтамі юрыдычнага факультэта.

Улады ўсяляк імкнуліся паказаць, што крымінальны перaслед Алеся Бяляцкага не быў палітычна матываваным, што ён стаў перад судом не за праваабарончую дзейнасць, а за ўхіленне ад выплаты падаткаў, значыць, за эканамічнае злачынства, прычым “асабліва цяжкае”.

Тым не менш, сам судовы працэс быў абстаўлены далёка не як для шараговага грамадзяніна. Праваабаронцу дастаўлялі з СІЗА ў суд з “пашанаю”, з картэжам з чатырох машын. Наперадзе ехала машына ДАІ з уключанымі мігалкамі, за ёй аўтазак, следам аўтобус з аховай, і замыкала працэсію яшчэ адна машына ДАІ. На чырвоны сігнал светлафора



*У першых шэрагах — дыпламаты, прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў, сваякі і калегі Алеся Бяляцкага. Фота Аляксея Лапіцкага / licviny.info*

картэж праносіўся не змяншаючы хуткасці. Аўтобус з міліцыяй заставаўся дзяжурыць насупраць уваходу ў будынак суда. У калідорах суда дзяжурылі ўзмоцненыя нарады АМАПу.

Падчас судовых паседжанняў праваабаронца знаходзіўся ў металічнай клетцы, куды яго прыводзілі ў кайданках. Побач з клеткай стаялі міліцыянеры-ахоўнікі. Хадайніцтвы падсуднага і яго адваката Дзмітрыя Лаеўскага з просьбай змяніць меру стрымання на падпіску аб нявыездзе суддзя Сяргей Бандарэнка адхіліў, матывуючы тым, што Бяляцкі абвінавачваецца ў здзяйсненні "асабліва цяжкага злачынства". *"Аднак, дзяржаўны пракурор адразу ж пасля гэтага прапанаваў спадару Бяляцкаму "шчыра адказваць на пытанні". Ён адзначыў, што ў такім выпадку пракуратура падтрымае ці нават ініцыюе хадайніцтва аб змене меры стрымання. Гэтая сітуацыя відавочна ілюструе, што абраная мера стрымання ніяк не звязана з тым, што абвінавачваны можа паспрабаваць ухіліцца ад адказнасці, а па сутнасці з'яўляецца рэпрэсіўнай і палітычна матываванай мерай, якая супярэчыць міжнародным стандартам і прынятаму ў Беларусі заканадаўству ў дачыненні да абрання меры стрымання падчас расследавання"*, — адзначалі пасля ў сваёй справаздачы назіральнікі Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў.



*Алесь Бяляцкі крывіцца ад болю: з яго здымаюць кайданкі перад судовым паседжаннем. Фота Аляксея Лапіцкага / licviny.info*

"Пільнасць" міліцыянтаў праяўлялася і да людзей, якія прыходзілі падтрымаць Алеся Бяляцкага. Каб патрапіць на суд, кожны мусіў прайсці трайны кантроль. Першы — на ўваходзе ў будынак суда, праз арачны металашукальнік, затым міліцыянты правяралі торбы, кішэні, перапісвалі асабістыя звесткі. Другі — за некалькі метраў да залы судовага паседжання, дзе ўжо людзі ў цывільнай вопратцы ізноў усіх прапускалі праз арачны металашукальнік, даглядалі торбы, загадвалі журналістам паказваць сваю апаратуру, некаторых прасілі ўключаць ноўтбукі, усіх здымалі на відэа. Трэці — на ўваходзе ў судовую залу, дзе стаялі два супрацоўнікі ў цывільным з ручнымі металашукальнікамі, работнік суда і дзяўчына, якая пад яго кантролем запісвала прозвішчы і статус жадаючых патрапіць на суд.

*"«Справа Бяляцкага» слухаецца судом Першамайскага раёна ў сценах Маскоўскага суда. Выклікана гэта было, напэўна, не столькі клопатам пра стварэнне ўмоваў для працы журналістаў — працэс, бясспрэчна, рэзанансны; залы Першамайскай раённай Феміды разлічаны не больш чым на дзясятак-іншы пасадачных месцаў. Але і гэта яшчэ не самае страшнае. У Першамайскага суда, у адрозненне ад Маскоўскага, што звонку, што знутры выгляд, мякка кажучы, непрэзентабельны. Мабыць, улады, вырашылі не ганьбіцца перад прадстаўнікамі пасольстваў і замежных арганізацый, якіх сёння таксама было шмат у зале".*

*"Дело Беляцкого. Один правозащитник опасней тридцати коррупционеров?". Naviny.by, 02.11.2011*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

## У ДЗЕНЬ СУДА НАД АЛЕСЕМ БЯЛЯЦКІМ У МАГІЛЁВЕ НАГАДАЛІ ПРА ПАЛІТВЯЗНЯ

2 лістапада магілёўскія актывісты кампаніі “Гавары праўду!» выйшлі на праспект Міра, каб распавесці гараджанам пра суд над праваабаронцам. Яны раздалі каля 1000 улётак з заклікам да салідарнасці:




*«Ён думаў пра цябе гады, падумай пра яго хаця б хвіліну...» Такія ўлёткі 6 лістапада з'явіліся ў Брэсце. Фота belaruspartisan.org*

«Адказнасць за палітычных зняволеных кладзецца не толькі на чыноўнікаў. Абыякавасць да лёсу дэмакратычных актывістаў, праваабаронцаў, журналістаў і палітыкаў — гэта абыякавасць да будучыні нашай Радзімы. Алесь Бяляцкі — праваабаронца, які пацярпеў за сваю дзейнасць. Не будзь абыякавым!»

З кожным наступным днём судовага працэсу дагляд узмацняўся. На ўваходзе людзей прымушалі паказваць, што на іх апранута пад верхняй вопраткай, некаторым нават загадвалі распранацца да бялізны. Прычынай стала тое, што ў першы дзень сябры "Вясны", у знак салідарнасці, прыйшлі ў суд у цішотках з выявай праваабаронцы і надпісам "Свабоду Алесю Бяляцкаму". Прадстаўнікі іншых арганізацый, грамадскія актывісты тут жа падхапілі гэтую ідэю. Яшчэ ў СІЗА па просьбе Алеся яму перадалі цішотку з лагатыпам "Вясны", якую ён апранаў зараз у кожны дзень судовага разбіральніцтва.

Таксама ў суд людзі прыходзілі з сімваламі свабоды — бел-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня" на цішотках, шаліках, значках, нашыўках — ім таксама не дазвалялі праходзіць у будынак, а калі прапускалі, дык адбіралі "забароненую" атрыбутыку. Самых спрытных, хто змог пранесці яе ў суд і там апрануць на сябе, выдалялі з залы паседжанняў. Для некаторых актывістаў такія выпадкі скончыліся затрыманнем. Для выяўлення "парушальнікаў" у зале пастаянна прысутнічалі "судовыя распарадчыкі" ад міліцыі, якія пільна сачылі за людзьмі.

## АФІЦЫЙНА

У вядомай французскай газеце Le Monde, у рубрыцы "Трыбуна", 3 лістапада быў апублікаваны зварот лідараў міжнароднай грамадскасці да Еўрапейскага Саюза з заклікам "заняць агульную, выразную і прынцыповую пазіцыю, патрабаваць неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных зняволеных, таксама як і незваротных дэмакратычных зменаў, каб больш не аказвацца адным з бакоў такога ганебнага па сваёй сутнасці гандлю".

*Лога з сайта lemonde.fr*

Пад зваротам падпісаліся прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн, пасол Францыі, ганаровы прэзідэнт Камітэта сяброў FIDH Стэфан Эсэль, сустаршыня групы "Зялёныя — Еўрапейскі Свабодны Альянс" у Еўрапейскім Парламенце Даніэль Кон-Бендзіт, пісьменнік, лаўрэат Ганкураўскай прэміі Джонатан Літтэл.

Падчас судовага працэсу ў дзяржаўных СМІ была разгорнута кампанія па ачарненні падсуднага. У першы дзень судовага разбіральніцтва, 2 лістапада, сайт дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА ў рубрыцы "Каментары" апублікаваў "выкрывальніцкі" артыкул пад назвай "Сакрэты палітычнага бізнэсу: як праваабаронца Бяляцкі зладзіў сабе прыгожае жыццё". Пасля яго пачалі перадрукоўваць рэспубліканскія і мясцовыя газеты. Нехта Дзяніс Паляванаў называў праваабаронцу "крымінальнікам", які "прысвоіў чужыя грошы і, адпаведна, падмануў замежных падаткаплацельшчыкаў, выдаючы сябе не за таго, кім ён з'яўляецца на самой справе".

*Гэтая выява стала адным з самых пазнавальных візуальных элементаў кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага і разляцелася літаральна па ўсім свеце. Паштоўка выпрабленая Беларускім Домам правоў чалавека*




5 лістапада на канале СТВ быў паказаны відэасюжэт, у якім Алесь Бяляцкі быў названы "старшынёй незарэгістраванай у Беларусі арганізацыі "Вясна". У матэрыяле намякалася на тое, што ён наўмысна не рэгістраваў арганізацыю, каб мець магчымасць асабіста зарабіць на гэтым. У відэасюжэце ні слова не казалася пра тое, што Міністэрства юстыцыі Беларусі забараніла "Вясну" ў 2003 годзе за назіранне за папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі, і адмаўляла ў кожнай наступнай спробе праваабаронцаў зарэгістравацца. Аўтары відэасюжэта, не дбаючы пра права на прыватнасць інфармацыі, паказвалі, відавочна атрыманыя ад КДБ з канфіскаваных у "Вясны" ў 2010 годзе кампутараў прыватныя фотаздымкі сяброў "Вясны".

Яшчэ некалькі паклёпніцкіх артыкулаў з'явіліся ў Інтэрнэце, у прыватнасці, на сайце predateli.com, дзе досыць рэгулярна з'яўляліся "кампраматы" на палітычных актывістаў і праваабаронцаў Беларусі. У чатах і на форуме сайта былі размешчаны каментары "грамадскасці" з заклікамі да вынясення жорсткага прысуду. Стылістыка ўсіх гэтых каментароў давала падставы меркаваць, што за іх напісаннем стаіць адзін чалавек.

З нагоды дэзінфармацыйнай кампаніі супраць Алеся Бяляцкага Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў распаўсюдзіла тэрміновы зварот, сярод адрасатаў якога значыліся прэзідэнт Беларусі, кіраўнік яго адміністрацыі, генпракурор, міністр юстыцыі, старшыня Вярхоўнага суда. *"Гэтая кампанія ўяўляе сабой сур'ёзную пагрозу, паколькі можа аказаць уплыў на суддзю і парушыць права спадара Бяляцкага на справядлівае судовае разбіральніцтва"*, — заяўляла ў звароце Абсерваторыя і нагадвала ўладам пра права Алеся Бяляцкага на абарону яго асабістага жыцця ад адвольных абвінавачванняў і пра прынцып прэзумпцыі невінаватасці.




*Наталля Пінчук у атачэнні журналістаў у будынку суда. Фота Аляксея Лапіцкага / licviny.info*

Інфармацыя з залы суда па "справе Бяляцкага" ішла фактычна ўжывую. У медыя з'яўляліся рэпартажы з каментарамі з розных нагодаў ад праваабаронцаў, дыпламатаў, вядомых грамадскіх дзеячаў. Па выніках кожнага дня судовага працэсу Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў, Міжнародная назіральная місія Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі выпускалі прэс-рэлізы. Ці ні кожны дзень судовага разбіральніцтва суправаджаўся заявай адной з міжнародных праваабарончых арганізацыяў з выкрыццём палітычнай падаплёкі пераследу праваабаронцы і патрабаваннем яго неадкладнага вызвалення. Кіраўнікі гэтых арганізацый на старонках уплывовых заходнееўрапейскіх выданняў звярталіся да міжнародных палітычных структураў з заклікам паўплываць на ўрад Беларусі і з адкрытымі пасланнямі салідарнасці беларускаму палітвязню. У сацыяльных сетках актывісты Libereco і Моладзевага праваабарончага руху ладзілі фотафлэшмобы ў падтрымку Алеся Бяляцкага.

Атмасфера салідарнасці, якая панавала ў сценах суда і шырока транслявалася па-за імі, была для ўладаў бяльмом на воку. Але нішто ўжо не магло спыніць гучны міжнародны рэзананс "справы Бяляцкага".

## НАПЯРЭДАДНІ СУДОВАГА ПРАЦЭСУ

**HUMAN RIGHTS WATCH:**
**Абвінавачванні з Алеся Бяляцкага павінны быць знятыя**
Праваабаронцу збіраюцца судзіць па палітычна матываванай справе

*Лога hrw.org*

"Крымінальная справа супраць Бяляцкага — гэта спроба канчаткова перакрыць кісларод праваабарончай дзейнасці ў краіне".

На працягу многіх гадоў беларускія ўлады на розных падставах адмаўляюць незалежным праваабарончым арганізацыям у агульнанацыянальнай рэгістрацыі (за адзіным выключэннем). У выніку такія групы, як «Вясна», не могуць адкрыць уласны рахунак у Беларусі і выконваць патрабаванні фінансавага заканадаўства. "Узнікае сітуацыя, калі праваабаронцы, падобна Бяляцкаму, вымушаны

дзейнічаць на мяжы закона, і ўрад выкарыстоўвае гэта як нагоду для пераследу. Насамрэч у выпадку з Бяляцкім мае месца сапраўдная прававая пастка", — заявіў дырэктар HRW па Еўропе і Цэнтральнай Азіі Х'ю Уільямсан.

*1 лістапада 2011 г. Масква, Расія.*

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ СУДОВАГА ПРАЦЭСУ

*Лога frontlinedefenders.org*

### ЗАЯВА FRONT LINE DEFENDERS ПРА СУД НАД АЛЕСЕМ БЯЛЯЦКІМ

Сёння ў Мінску пачаўся суд над праваабаронцам Алесем Бяляцкім. Намеснік дырэктара Front Line Defenders Эндру Андэрсан не змог трапіць у Беларусь, каб сустрэцца з членамі яго сям'і і калегамі з «Вясны». Калі Эндру Андэрсан даведаўся пра тое, што яму адмоўлена ва ўязной візе, запісаў у Дубліне відэазварот і заявіў: «Тое, што ўрад Беларусі працягвае спробы пераследу любога, хто выказваецца ў абарону правоў чалавека ў краіне, кажа пра тое, што яны ўжо прыйшлі ў адчай».

Front Line Defenders заклікае міжнародную супольнасць садзейнічаць неадкладнаму вызваленню Алеся Бяляцкага і зняццю з яго ўсіх абвінавачванняў. Front Line Defenders таксама заклікае міжнародныя выданні апублікаваць матэрыялы па ягонай справе, пра тое, што звычайна называецца «апошняя дыктатура ў Еўропе».

*2 лістапада 2011 г. Дублін, Ірландыя.*

# ДРУГІ ДЗЕНЬ СУДОВАГА ПРАЦЭСУ

*Лога amnesty.org*

### AMNESTY INTERNATIONAL ЗАКЛІКАЕ ВЫЗВАЛІЦЬ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА НЕАДКЛАДНА І БЕЗУМОЎНА

«Алесь Бяляцкі быў схоплены на хвалі жорсткага пераследу абаронцаў правоў чалавека і актывістаў у Беларусі. Беларускія ўлады маюць права караць за ўхі-

ленне ад выплаты падаткаў як за злачынства, але гэтыя абвінавачванні відавочна з'яўляюцца палітычна матываванымі і былі выстаўленыя для таго, каб спыніць ягоную праваабарончую дзейнасць», — сказаў Джон Далхусэн, намеснік дырэктара Amnesty International па Еўропе і Цэнтральнай Азіі.

*3 лістапада 2011 г. Лондан, Вялікабрытанія*

# ТРЭЦІ ДЗЕНЬ СУДОВАГА ПРАЦЭСУ

**АБСЕРВАТОРЫЯ: 3-і дзень суда над Алесем Бяляцкім — відавочныя прыкметы палітычна матываванага працэсу**

Лога fidh.org

"...3-га лістапада слуханні скончыліся прадстаўленнем суду матэрыялаў справы супраць спадара Бяляцкага, уключна з падрыхтаванай КДБ запіскай пад назвай "Пра арганізацыю «Вясна» і яе кіраўнікоў". У прыватнасці, у запісцы згадвалася, што спадар Бяляцкі і спадар Валянцін Стэфановіч маюць банкаўскія рахункі за мяжой, як ілжыва сцвярджаецца, «у мэтах фінансавання радыкальнай апазіцыі». Фактычна, менавіта гэты ліст паслужыў асновай запыту, які быў накіраваны ўладам Літвы і Польшчы з мэтай атрымання інфармацыі пра банкаўскія рахункі, адкрытыя спадаром Бяляцкім для атрымання сродкаў на фінансаванне дзейнасці арганізацыі «Вясна». І ўжо сам па сабе гэты факт падкрэслівае сапраўдную, чыста заказную, прычыну праследу спадара Бяляцкага.

4 лістапада — у трэці дзень слуханняў справы ў судзе — прагучала згадка пра ананімны ліст, які нібыта быў атрыманы КДБ і прывёў да згаданага пачатку расследавання дзейнасці Алеся Бяляцкага. Абарона заявіла, што ў адпаведнасці з КПК Беларусі, ананімныя лісты не могуць служыць падставай для пачатку расследавання..."



## ЗАЯВА ВІЦЭ-ПРЭЗІДЭНТА FIDH КАРЫМА ЛАХІДЖЫ ПА СПРАВЕ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

“Па сутнасці, гаворка ідзе пра загадзя спланаваную сфабрыкаваную справу супраць віднага праваабаронцы, нашага сябра Алеся, які пераследуецца праз яго нястомную дзейнасць у абарону правоў чалавека ў Беларусі. Па форме гэты працэс вельмі далёкі ад справядлівага суда ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі: напрыклад, Алесь павінен быў адказваць на пытанні пракурора на працягу больш як дзвюх гадзінаў стоячы і ўвесь дзень ён быў пазбаўлены харчавання...”

*10 лістапада 2011, г. Парыж (фота Erhan Arik / FIDH)*

*Фота з архіва FIDH*



## ВІДЭАПАСЛАННЕ САЛІДАРНАСЦІ ГЕНСАКРАТАРА FIDH ХАДЗІЖЫ ШЭРЫФ

“FIDH знаходзіцца ў стане падвышанай мабілізацыі па справе Алеся. Мы ўсе вельмі турбуемся за нашага віцэ-прэзідэнта, несправядліва затрыманага ў драматычных умовах. Паклёпніцкая кампанія, разгорнутая супраць яго, толькі ўскладняе сітуацыю. Суд ідзе вельмі дрэнна, і мы ўсе, прадстаўнікі міжнароднага камітэта FIDH, салідарныя з Алесем і пойдзем да канца, каб дамагчыся яго вызвалення. Гэта выпадак абуральнага беззаконня, і мы зробім усё, каб Алесь быў вызвалены як мага хутчэй”.

*22 лістапада 2011 г. Парыж*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

## “НІ ДНЯ БЕЗ ЗАЯЎКІ Ў АБАРОНУ БЯЛЯЦКАГА!”



Актывісты-выпускнікі “Адукацыйнага курса па правах чалавека” з 26 верасня 2011 года распачалі бестэрміновую акцыю для прыцягнення ўвагі грамадскасці да арышту Алеся Бяляцкага. Акцыя была разлічаная на ўвесь час знаходжання праваабаронцы за кратамі. Далучыцца мог любы жадаючы ў любы момант — накіраваўшы заяўку.

Як паведамлялі арганізатары, на студзень 2012 года ў Мінгарвыканкам было пададзена больш за 60 заявак. Усе яны былі забароненыя. Заяўляльнікі атрымалі практычна ідэнтычныя адмовы, якія па сутнасці былі фармальнымі адпіскамі. Скаргі заяўнікоў на адмовы ў пікетах суды таксама не задаволілі.

*Ілюстратыўнае фота prava-by.info*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

*Ілюстрацыя politiken.dk*



Адна з найбуйнейшых дацкіх газетаў Politiken Daily ўганаравала Праваабарончы цэнтр “Вясна” і Алеся Бяляцкага Прэміяй Свабоды за 2011 год.

Пра ўзнагароду сябры камітэта прэміі паведамілі “Вясне” 20 кастрычніка. Публічная цырымонія ўручэння праходзіла ў Капенгагене 14 лістапада, з удзелам дацкіх праваабаронцаў, літаратараў, журналістаў розных СМІ і чытачоў газеты Politiken. Ад імя «Вясны» прэмію атрымаў намеснік кіраўніка арганізацыі Валянцін Стэфановіч.

«Ганаровы госць не можа прысутнічаць, калі Politiken уручае сваю прэмію свабоды». Гэтая думка праходзіла рэфрэнам падчас імпрэзы. Прысутнасць лаўрэата на цырымоніі ўзнагароджання была сімвалічнай — у зале вісеў плакат з выявай Алеся Бяляцкага.

---

“Ён стварае праваабарончую арганізацыю, якую ўлада забараняе; ён заклікае да палітычнай волі, а рэжым спрабуе падпарадкаваць сабе, каб выжыць; ён салідарны з палітвязнямі, на якіх беларускі рэжым хоча забыцца; і ён прынцыпова размаўляе на сваёй мове, беларускай, ад якой улады адмаўляюцца на карысць рускай. Ён і «Вясна» атрымалі прэмію свабоды Politiken за самаадданыя намаганні па абароне права беларусаў на дэмакратыю».

З артыкула «Мы абавязаныя сваёй павагай Алесю Бяляцкаму»,<br>які выйшаў у Politiken Daily 14 лістапада

---

Прэмія Свабоды дацкай газеты Politiken Daily (Politiken Freedom Prize) штогод уручаецца асобам і арганізацыям, “якія служаць выдатным узорам негвалтоўнай барацьбы за каштоўнасці, увасобленыя ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека”.

Абвяшчэнне прысуду было прызначанае на 24 лістапада 2011 года. Гэтая дата стала днём экстраннай мабілізацыі міжнароднай праваабарончай супольнасці ў падтрымку беларускага калегі.

Кожны, хто ішоў у гэты дзень у суд, адчуваў вялізнае эмацыйнае напружанне ад чакання, якім будзе прысуд. Да ўсяго яшчэ не ўляглося хваляванне, выкліканае папярэднім паседжаннем, падчас якога адбыліся спрэчкі бакоў. У спрэчках пракурор Валерый Сайкоўскі запатрабаваў для Алеся Бяляцкага пяць гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Адвакат Дзмітрый Лаеўскі ў сваім выступе абвергнуў усе пункты пракурорскага абвінавачвання і папрасіў суд цалкам апраўдаць свайго падабароннага. Алесь Бяляцкі ў сваім апошнім слове заявіў, што адчувае сябе невінаватым і не шкадуе ні пра адзін свой крок у праваабарончай дзейнасці.

*“Справа Бяляцкага развалілася, следства адкрыта парушала законы і рабіла падтасоўкі, спадзеючыся, што суд будзе на іх баку. Патрабаванне пракурора — гэта драконаўская мера... Яго на адзін дзень няма за што садзіць. І вось ні за што чалавек зараз можа атрымаць пяць гадоў. Гэта павінна стаць нагодай для грамадскай кампаніі, нагодай для абурэння ўва ўсім свеце і ціску на рэжым у Беларусі”.*

*Каментар “Свабодзе” Алега Арлова, кіраўніка расійскага ПЦ «Мемарыял» і сябра місіі Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў, 23 лістапада 2011 г.*



*Фота са старонкі Алега Арлова ў Фэйсбуку*



*Фота Юліі Дарашкевіч*

# АПОШНЯЕ СЛОВА
## ЯК ПРАГРАМНАЯ ПРАМОВА ПРАВААБАРОНЦЫ

Апошняе слова Алеся Бяляцкага было вытрыманае, як кажуць, у лепшых традыцыях жанра — як прамова падсуднага ў “палітычным” працэсе. Гэтая традыцыя пашырылася з часоў савецкага дысідэнцтва. Як пісала ў сваіх “Занатоўках адваката” адна з абаронцаў палітычных зняволеных тых часоў Дзіна Камінская, для яе падабаронных апошняе слова часта было “галоўнай стадыяй працэсу”, бо давала ім магчымасць “сказаць усё тое, што лічаць важным і карысным для сваёй абароны, у тым ліку пра матывы, якія імі кіравалі”, бо “ніхто з удзельнікаў працэсу не меў права ў гэтай стадыіі задаваць ім пытанні, перапыняць іх, не меў права абмяжоўваць падсудных у часе”. Вось жа гэтая традыцыя савецкіх дысідэнтаў перайшла ў беларускую сучаснасць.

Апошняе слова Алеся Бяляцкага доўжылася сорак пяць хвілінаў. Гэтая акадэмічная гадзіна — урок ад чалавека, які мае грамадзянскую пазіцыю і не баіцца яе выказаць. Прамова, з дакладна выбудаванай канструкцыяй, дзе кожны выраз — прадуманы і ўзважаны, была звернутая ўжо не столькі да суддзі Сяргея Бандарэнкі, які час ад часу ці то з цікавасцю, ці то са здзіўленнем, пазіраючы на падсуднага, уздымаў бровы. Прамова праваабаронцы была звернутая да тых, хто здатны быў пачуць і зразумець.

---

“Я згодны з кожным словам адваката. Лічу, што тыя аргументы, якія ён прывёў, маюць дастатковае юрыдычнае абгрунтаванне і дастатковa падставаў для сур’ёзных адносінаў да іх. У той жа ж час я знаходжуся ў даволі складанай сітуацыі, бо выдатна разумею, што гэтая справа ад пачатку да канца мае палітычны падтэкст, і выступлен-

не адваката і маё апошняе слова, на жаль, нагадваюць голас чалавека, які крычыць у пустыні і якому вельмі цяжка дакрычацца. І я сябе адчуваю зараз тым, які крычыць у пустыні, спрабуючы дакрычацца да сонца. Тым не менш, я маю, што сказаць". Так ён пачаў.

---

Алесь Бяляцкі казаў пра стаўленне ўладаў да праваабаронцаў і палітычны кантэкст пераследу за праваабарончую дзейнасць у Беларусі, пра дэзінфамарцыйную кампанію супраць яго ў афіцыйных СМІ, пра працу і пераслед Праваабарончага цэнтра "Вясна", пра папярэдні 2010-ы як год "палявання" на арганізацыю.

Напрыканцы падсудны заявіў: *"Усе пазнакі сведчаць пра тое, што існаваў кантроль за сродкамі з боку партнёраў "Вясны", указваліся мэты расходу гэтых сродкаў. Таксама відавочна, што я не распараджаўся гэтымі сродкамі, гэтыя сродкі прызначаліся не для мяне, а для "Вясны". Што датычыцца актаў падаткавай інспекцыі, я лічу іх незаконнымі. Гэтыя акты грунтуюцца на несапраўдных звестках, на поўным неразуменні сэнсу гэтых звестак супрацоўнікамі Міністэрства па падатках і зборах, якія складалі гэтыя акты.*

*З 16-га чэрвеня, калі такі акт быў прадстаўлены мне, па 4-га жніўня, дзень майго арышту, я выязджаў з Беларусі і вяртаўся ў Беларусь як мінімум шэсць разоў. Таму ўсе меркаванні, што я магу знікнуць падчас расследвання гэтай справы, застацца за мяжой, не маюць ніякіх падставаў. Я адчуваю сябе абсалютна невінаватым. І, мяркую, што наадварот, гэтыя ўмовы свабоднага выезду і ўезду былі прадастаўлены мне для таго, каб, магчыма, я з'ехаў і такім чынам ускосна пацвердзіў сваю віну ва ўтойванні так званых падаткаў".*

І расставіў кропкі над "і": *"Праваабарончай дзейнасцю, і ўвогуле грамадскай дзейнасцю, я займаюся практычна ўсё маё жыццё. У гэтым годзе — 30 гадоў як я займаюся грамадскай дзейнасцю. І перыяд, калі я адчуваў сябе больш-менш спакойна і свабодна — гэта з 1991-га па 1995-ы год. Пры такой кепскай сітуацыі, якая склалася ў краіне перманентна на працягу апошніх гадоў, натуральна, што крымінальны пераслед мог пачацца ў кожную хвіліну, у кожны год. І тое, што магло адбыцца — адбылося. Таму я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у справе абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў свядома".*

Апошняе слова Алеся Бяляцкага было кульмінацыяй у спрэчках бакоў. Яго цытавалі медыя, якія асвятлялі судовы працэс. Поўны тэкст прамовы быў апублікаваны на сайце "Вясны" (spring96.org) і адмыслова створаным пасля арышту Алеся сайце Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (freeales.fidh.net), адкуль іх

Фота з архіва FIDH



*“Судовы выступ Алеся Бяляцкага — праграмная прамова праваабаронцы. На жаль, пасля гэтага працэсу Беларусь можа ўвайсці ў спіс краінаў, дзе праваабаронцаў асуджаюць на працяглае турэмнае зняволенне адназначна за іх праваабарончую дзейнасць».*

*Каментар “Свабодзе” Сашы Кулаевай, прадстаўніцы FIDH і сябра місіі Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў. 23 лістапада 2011 г.*

узялі іншыя інтэрнэт-рэсурсы. Пасля тэкст прамовы выйшаў па-за межы інтэрнэта: рэгіянальныя аддзяленні “Вясны” надрукавалі яго ў сваіх бюлетэнях, каб пашыраць інфармацыю пра праваабаронцу-палітвязня сярод мясцовага насельніцтва. А пазней “Апошняе слова Алеся Бяляцкага” ўвайшло ў яго турэмную кнігу “Іртутнае срэбра жыцця”.

# САЛІДАРНАЕ АСУДЖЭННЕ ПРЫСУДУ

“<…> Бяляцкага Аляксандра Віктаравіча прызнаць вінаватым ва ўхіленні ад сплаты сумаў падаткаў <…> і на падставе часткі 2 артыкула 243 КК прызначыць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін чатыры гады шэсць месяцаў з канфіскацыяй маёмасці без пазбаўлення права займаць пэўныя пасады альбо займацца пэўнай дзейнасцю, з адбыццём пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.
Меру стрымання Бяляцкаму А.В. у выглядзе ўзяцця пад варту пакінуць без зменаў.
Тэрмін адбыцця пакарання вылічваць з 24 лістапада 2011 года.
Залічыць у тэрмін пакарання час знаходжання абвінавачанага пад вартай з 4 жніўня 2011 года па 23 лістапада 2011 года.
Спагнаць з Бяляцкага А.В. нанесеную злачынствам шкоду ў бюджэт Рэспублікі Беларусь у суме 721 454 017 рублёў і дзяржаўную пошліну ў прыбытак дзяржавы ў суме 36 072 700 рублёў”.

Такі прысуд праваабаронцу быў вынесены “імем Рэспублікі Беларусь” і зачытаны безуважным манатонным голасам суддзі Сяргея Бандарэнкі. У судовай зале яго сустрэлі воклічамі: “Ганьба суду!” Пракурор Валерый Сайкоўскі пакідаў залу пад саркастычныя апладысменты. Міліцыянты, якія ахоўвалі Алеся Бяляцкага, прыспешвалі яго, каб хутчэй вывесці з судовай залы. Вязень-праваабаронца перад тым, як на яго ўздзелі кайданкі, узняў угору кулак і выгукнуў: “Жыве Вясна!” Так скончылася гэтае ганебнае судовае паседжанне.

Перад разглядам касацыйнай скаргі на прысуд у Мінскім гарадскім судзе, які праходзіў праз два месяцы, дзяржаўны абвінаваўца пайшоў на павышэнне. З крэсла начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем падатковага і мытнага заканадаўства пракуратуры горада Мінска Валерый Сайкоўскі перасеў у крэсла намесніка начальніка Управы Следчага камітэта РБ па горадзе Мінску.

“Відаць, такім чынам улады аддзячылі яму за «добрасумленную» працу. Гэта пацвярджае, што “справа Бяляцкага” была не звычайнай справай, як сцвярджаюць улады, а палітычна матываванай”. Так пракаментаваў “Свабодзе” кар’ерны рост пракурора намеснік старшыні “Вясны” Валянцін Стэфановіч: “Яго аргументы на судзе былі непераканаўчымі, а некаторыя пытанні прама сведчылі пра тое, што ён слаба арыентуецца ў спецыфіцы праваабарончай дзейнасці ў прынцыпе. Напрыклад, яго пытанне, ці зарэгістраваўся Бяляцкі як індывідуальны праваабаронца… Як юрыст можа задаваць пытанні такога кшталту?”.

У далейшым шмат пытанняў наконт законнасці, абгрунтаванасці і справядлівасці суда над Алесем Бяляцкім будуць ставіць грамадзянская супольнасць краіны і міжнародная грамадскасць.



*Таццяна Рэвяка разгарнула плакат «Свабоду Бяляцкаму» пасля абвяшчэння прысуду. Ахова і суддзя ніяк не рэагуюць. Сашы Кулаевай удалося пакрыёма зрабіць гэты здымак на тэлефон.*

# ПЕРШЫЯ Ж РЭАКЦЫІ — РЭЗКАЕ АСУДЖЭННЕ

У дзень вынясення прысуду Алесю Бяляцкаму, ПЦ “Вясна” і FIDH правялі прэс-канферэнцыю ў Мінску з удзелам прадстаўнікоў Human Rights Watch, назіральніцкіх місій Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў і Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. У офісе “Вясны” сабраліся журналісты беларускіх і замежных медыя, прадстаўнікі замежных пасольстваў, грамадскія дзеячы. Праваабаронцы ў сваіх выступах падвялі рысу пад ходам і вынікам судовага працэсу.



Фота з архіва FIDH

*«Цяжка назваць гэта судом, таму што сцэнар таго, што павінна адбыцца, быў першапачаткова зададзены ўладамі Беларусі. Што б там ні гаварылася, якія б абарона не прыводзіла аргументы, усё гэта ніяк не ўлічвалася, — адвакат быў вельмі добра падрыхтаваны, у яго была выдатная прамова, і ў яго былі ўсе дакументы, якія пацвярджаюць невінаватасць Бяляцкага, былі дакументы, якія пацвярджалі, што грошы Алесь Бяляцкі выдаткаваў на праваабарончую дзейнасць. Пракуратура абсалютна нічога не зрабіла для таго, каб даказаць, што грошы гэтыя з'яўляліся прыбыткам. Загадзя былі падрыхтаваныя дакументы аб тым, пад які артыкул падвесці справу Алеся Бяляцкага. Дастаткова выразна было відаць, што сам прысуд першапачаткова ўзгоднены з уладамі. Гэта хутчэй фарс, чым суд».*

*З інтэрв'ю "Каўказскаму вузлу" Артака Кіракасяна, генсакратара FIDH і сябра місіі Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў. 4 снежня 2011 года.*

"Гэты прысуд выклікае наймацнейшы гнеў і абурэнне. Гэта, безумоўна, палітычная помста і расправа з мэтай прымусіць замаўчаць усе крытычныя галасы ў Беларусі". "Менавіта становішча праваабаронцаў з'яўляецца барометрам сітуацыі з правамі чалавека ў той ці іншай краіне: калі іх становішча пагаршаецца — значыць, з правамі чалавека далёка не ўсё ў парадку".

*Саша Кулаева, прадстаўнік FIDH і сябра місіі Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў*

"Гэта, безумоўна, ганебны працэс, ганебны прысуд, які мае палітычны характар. Усе спробы ўладаў, якія ажыццяўляліся для таго, каб схаваць палітычны характар гэтага працэсу пад нібыта эканамічнымі абвінавачваннямі, праваліліся".

*Алег Арлоў, старшыня ПЦ "Мемарыял" і сябра місіі Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў*

"Асаблівыя меры бяспекі да чалавека, якога абвінавачваюць нібыта ў эканамічным злачынстве выклікаюць вялікае пытанне. Ён знаходзіцца ў клетцы, а людзі, якія прыходзяць на суд, вымушаныя прайсці ганебную працэдуру асабістага дагляду невядомымі асобамі ў цывільным, статус, якіх не вызначаны. Яны ж ў вялікай колькасці знаходзіліся і ў судовай зале... Такія элементы сведчаць пра асаблівыя адносіны да працэсу па "справе Бяляцкага", што ў чарговы раз пацвярджае палітычны характар крымінальнага пераследу праваабаронцы".

*Вольга Саламатава, прадстаўнік польскага Хельсінкскага фонду па правах чалавека і сябра місіі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі*

“Як і нашы калегі, мы прыйшлі да высновы, што працэс над Бяляцкім меў палітычны характар, і, больш за тое, лічым, што само судовае паседжанне было замовай. У нас склалася ўражанне, што вінаватасць Бяляцкага была прадвызначаная задоўга да заканчэння працэсу”.

*Юлія Гарбунова, даследчыца Human Rights Watch*

---

“Хацелася б адзначыць у цэлым палітыку дзяржаўных СМІ, якая ярка падкрэслівае палітычны кампанент гэтай справы. У апошнія тыдні ішла моцная дэзінфармацыйная атака, фактычна кожная „раёнка“ передрукавала артыкул пра Бяляцкага, таксама з’яўляліся дзіўныя фотаздымкі, на якіх можна пазнаць наш офіс... Усё гэта падаецца так, быццам бы Бяляцкі скраў нейкія грошы і зрабіў сабе “прыгожае жыццё”.

*Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні ПЦ “Вясна”*

---

“Выкананне загадаў не апраўдвае іх выканаўцаў, калі загады злачынныя і парушаюць правы чалавека”.

*Аляксандра Матвійчук, кіраўнік украінскага “Цэнтра грамадзянскіх свабод”*
*і сябра місіі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй*
*з правамі чалавека ў Беларусі.*

---

“Вясна” і FIDH падчас прэс-канферэнцыі распаўсюдзілі заявы з нагоды прысуду Алесю Бяляцкаму.

З рэзкімі ацэнкамі вынікаў суда выступілі праваабарончыя арганізацыі з розных краінаў. Неадкладнага вызвалення беларускага палітвязня запатрабаваў Савет Еўропы. Сваё абурэнне прысудам выказалі прадстаўнікі Еўрасаюза і ЗША.

*“Пакаранне Алесю Бяляцкаму — гэта рэакцыя ўладаў на цвёрдую і паслядоўную пазіцыю ўсіх праваабаронцаў Беларусі па ацэнцы сітуацыі з правамі чалавека ў краіне.*
*Мы перакананыя, што прысуд Алесю Бяляцкаму мае выключна незаконны характар і таму падлягае безумоўнай адмене.*
*Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказвае падзяку ўсім грамадзянам, праваабаронцам, палітыкам, урадам і парламентам розных краін, якія выказалі рашучы пратэст незаконнаму пераследу Алеся Бяляцкага і беларускіх праваабаронцаў.*
*Са свайго боку, заяўляем, што Праваабарончы цэнтр «Вясна» працягне сваю праваабарончую дзейнасць, так як гэта наш абавязак перад усім грамадствам Беларусі, якое пакутуе ад масавых парушэнняў правоў.*
*Свабоду Алесю Бяляцкаму!*
*Свабоду ўсім беларускім палітвязням!”*

*З заявы ПЦ “Вясна”.*
*Мінск, 24 лістапада 2011года.*

*«Мы асуджаем гэтае рашэнне беларускага суда як незаконнае і палітычна матываванае. Больш за тое, самі слуханні ў чарговы раз даказалі, што гэты судовы працэс быў прамой замовай кіруючага рэжыму: агучаны ліст КДБ, які паслужыў падставай судовага праследу, з'яўляецца прамым доказам гэтага», — заявіла Суэр Белхасэн, прэзідэнт FIDH. «Гэты ліст, датаваны 28 кастрычніка 2010 года, таксама паказвае, што сапраўдны разгром беларускай грамадзянскай супольнасці, самым абуральным і наглядным прыкладам якога стала справа Бяляцкага, быў запланаваны і падрыхтаваны яшчэ напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года тых, якія абярнуліся катастрофай, з мэтай прымусіць замаўчаць праваабарончыя галасы. Алесь знаходзіцца ў незаконным зняволенні праз сваю праваабарончую дзейнасць. Мы заклікаем усе ўплывовыя бакі прыняць тэрміновыя і моцныя меры, каб дамагчыся яго неадкладнага і безумоўнага вызвалення», — працягнула яна. «Мы асцерагаемся, што пераслед закране і іншых сяброў «Вясны» ў кантэксце рэпрэсій, якія працягваюцца ў краіне. FIDH выказвае сваю поўную салідарнасць з Алесем, яго сям'ёй і ўсімі сябрамі «Вясны»», — падагульніла Суэр Белхасэн.*

*З заявы FIDH .*
*Мінск — Парыж, 24 лістапада 2011 года.*

**Абсерваторыя: прысуд Алеся Бяляцкага да 4.5 гадоў турэмнага зняволення — сумны дзень для абароны правоў чалавека ва ўсім свеце**

*«Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў сурова асуджае прысуд да турэмнага зняволення Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта FIDH і прэзідэнта Праваабарончага цэнтра «Вясна», і выкрывае гэтае рашэнне як спробу прымусіць замаўчаць грамадзянскую супольнасць Беларусі.*
*Абсерваторыя заклікае беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць яго, паколькі яго зняволенне незаконнае, гарантаваць яго безумоўную фізічную і маральную цэласнасць і спыніць усе віды пераследу, у тым ліку на юрыдычным узроўні, супраць праваабаронцаў у адпаведнасці з Дэкларацыяй ААН аб праваабаронцах, Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і міжнароднымі праваабарончымі нарматывамі, ратыфікаванымі Беларуссю».*

*Парыж-Жэнева, 24 лістапада 2011 года.*

**47 грамадскіх арганізацый Беларусі: патрабуем адмены незаконнага прысуду праваабаронцу Алесю Бяляцкаму.**

*Мінск, 24 лістапада 2011 года.*

**Civil Rights Defenders: Грамадзянская супольнасць Беларусі атрымала сёння моцны ўдар.**

*Стакгольм, 24 лістапада 2011 года.*

**Нарвежскі Хельсінкскі Камітэт: «Перліна» беларускай праваабарончай супольнасці асуджаны да 4,5 гадоў пазбаўлення волі.**

*Осла, 24 лістапада 2011 года.*

**Human Rights Watch: Прысуд праваабаронцу з'яўляецца ўдарам па вяршэнстве права.**

*Масква, 24 лістапада 2011 года.*

**IDEA-Еўразія заяўляе аб салідарнасці з калегам Алесем Бяляцкім.**

*Алматы, 24 лістапада 2011 года.*

**Сетка Дамоў правоў чалавека: Тэрмінова вызваліць і рэабілітаваць Алеся Бяляцкага! Патрабаванне 64 праваабарончых арганізацый — сяброў і партнёраў Сеткі.**

*Осла, 25 лістапада 2011 года.*

**Front Line Defenders: Гэты вердыкт — спроба спыніць працу «Вясны» і запалохаць праваабарончы рух Беларусі.**

*Дублін, 26 лістапада 2011 года.*

**Міжнароднае таварыства «Мемарыял» выступіла з заявай з нагоды прысуду Алесю Бяляцкаму**

*Судовы працэс у Мінску яшчэ раз прадэманстраваў: у самым цэнтры Еўропы існуе палітычны рэжым, які спрабуе рэгламентаваць грамадскае жыццё ў сваёй краіне пры дапамозе нарматыўных актаў, якія супярэчаць самой сутнасці права.*

*Гістарычны досвед дваццатага стагоддзя вучыць, што афармленне такіх антыправавых актаў у выглядзе «законаў» не робіць іх законамі ў вачах сусветнай супольнасці. І што ніякі суверэнітэт не пазбаўляе аўтараў і выканаўцаў гэтых «законаў» ад адказнасці.*

*Мы лічым, што Еўропа і свет павінны нагадаць Лукашэнку пра гэтыя ўрокі гісторыі і прымусіць яго да нармалізацыі прававых падстаў грамадскага жыцця ў Беларусі».*

*Масква, 25 лістапада 2011 года.*

**Украінскія праваабаронцы заклікалі сваю ўладу афіцыйна адрэагаваць на зняволенне Алеся Бяляцкага**

*Прадстаўнік Цэнтра грамадзянскіх свабодаў і Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі Аляксандра Матвійчук заклікала Украіну даць афіцыйную ацэнку сітуацыі з палітычным пераследам у Беларусі і паведаміла, што арганізацыі-сябры Камітэта ініцыявалі выключэнне Беларусі з АБСЕ. «Пасля прыняцця ўзгодненага рашэння Камітэта, у выпадку згоды ўсіх сябраў, мы будзем разглядаць гэты працэс выключэння», — патлумачыла праваабаронца, адзначыўшы, што ў склад Камітэта ўваходзіць больш за 40 праваабарончых арганізацый з 11 краінаў-удзельніц АБСЕ. «Правы чалавека ўніверсальныя і сусветныя. І кожны грамадзянін павінен выступаць у абарону тых, каго пераследуюць за перакананні ў любой іншай краіне... Калі Дзяржава Украіна не адрэагуе на факты парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі, то яна становіцца парушальнікам Хельсінкскага працэсу», — заявіў Васіль Аўсіенка з Харкаўскай праваабарончай групы.*

*Кіеў, 25 лістапада 2011 года.*

**БАЖ рашуча пратэстуе супраць прысуду сябру арганізацыі Алесю Бяляцкаму**

*«ГА «БАЖ» заклікае беларускую судовую ўладу адмяніць абвінаваўчы прысуд ад 24 лістапада, пакуль пастанова суда Першамайскага раёна г. Мінска не ўступіла ў законную сілу.*

*ГА «БАЖ» патрабуе неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага і выказвае салідарнасць і падтрымку яго калегам, сябрам і сям'і. Заклікаем грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, замежных калегаў і партнёрскія арганізацыі падтрымаць гэты пратэст».*

*Мінск, 28 лістапада 2011 года.*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў заклікаў да міжнароднай падтрымкі сябра арганізацыі Алеся Бяляцкага.**

*Мінск, 25 лістапада 2011 года.*

**Шэсць апазіцыйных палітычных арганізацый патрабуюць вызвалення Алеся Бяляцкага.**

*З супольнай заявай выступілі Партыі БНФ, АГП і "Справядлівы свет", Рух "За свабоду", кампанія "Гавары праўду" і аргкамітэт па стварэнні партыі БХД.*

*Мінск, 25 лістапада 2011 года.*

**Польскія праваабаронцы пратэстуюць супраць жорсткага прысуду Алесю Бяляцкаму**

*«Мы заклікаем улады Польшчы і Еўрапейскага Саюза прыняць рашучыя меры ў дачыненні да Мінска, якія прывядуць да вызвалення асуджаных і дазволяць грамадзянам Беларусі карыстацца правамі, якія ім належаць. Гэтыя дзеянні павінны быць балючымі для рэжыму, аднак не могуць ставіць пад удар шэраговых грамадзянаў.*

*Мы выказваем салідарнасць з усімі затрыманымі і іх сем'ямі. Мы будзем працягваць дапамагаць нашым беларускім сябрам і падтрымліваць іх намаганні па ўвядзенні ў іх краіне дэмакратыі». Пад заявай Рабочай групы па справах Беларусі пры Групе «Замежжа» падпісаліся 19 арганізацый.*

*Варшава, 29 лістапада 2011 года.*

**Форум грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства рашуча асудзіў прысуд Алесю Бяляцкаму.**

*Удзельнікі форуму заклікалі дзяржавы-сябры Еўрапейскага Саюза прыняць сумесныя меры па вызваленні Бяляцкага.*

*Познань, 29 лістапада 2011 года.*

**Дацкі інстытут па правах чалавека асудзіў прысуд Алесю Бяляцкаму.**

*Капенгаген, 5 снежня 2011 года.*

Адразу пасля вынясення прысуду прэзідэнт Еўрапарламента Ежы Бузэк заявіў: “Я асуджаю вынясенне прысуду, згодна якога Алесь Бяляцкі асуджаны на чатыры з паловай гады пазбаўлення волі. Еўрапейскі парламент надзвычай занепакоены ў сувязі з неабгрунтаваным крымінальным пераследам і асуджэннем Алеся Бяляцкага за як быццам бы ўхіленне ад уплаты падаткаў у Беларусі… Мы заклікаем беларускія ўлады тэрмінова і безумоўна вызваліць Алеся Бяляцкага, а таксама ўсіх палітзняволеных, якія яшчэ ўтрымліваюцца пад вартай і зняць з іх усе абвінавачванні”.

Тэрмінова з заявай выступіла Вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па замежных справах Кэтрын Эштан: “Мы глыбока шкадуем пра суровы прысуд, які сёння быў вынесены вядомаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму. Мы лічым, што сённяшні прысуд яўна палітычна матываваны. Ён карае Алеся Бяляцкага і Праваабарончы цэнтр “Вясна” за іх мужную падтрымку ахвяраў рэпрэсій у Беларусі. Гэты прысуд з’яўляецца праявай ўсё больш жорсткага падаўлення грамадзянскай супольнасці ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Мы заклікаем Беларусь неадкладна і безумоўна вызваліць і рэабілітаваць Алеся Бяляцкага і ўсіх іншых палітычных зняволеных у Беларусі”.

Старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс у гэты ж дзень заклікаў беларускія ўлады неадкладна вызваліць Алеся Бяляцкага і заявіў: “Гэты выпадак павінен разглядацца як частка больш шырокай карціны пераследу і ціску на праваабаронцаў у Беларусі. Дзеянні, за якія Алесь Бяляцкі быў прызнаны вінаватым, з’яўляюцца прамым вынікам неапраўданых абмежаванняў на свабоду аб’яднанняў у краіне і яго дзейнасці ў якасці праваабаронцы, і здаецца, што суд неадпаведным чынам разгледзіў матывы спадара Бяляцкага”.

Дакладчыкі па Беларусі ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Андрэс Херкель і Марылуізэ Бэк 24 лістапада таксама заявілі: “Мы лічым, што судовы працэс над спадаром Бяляцкім і трыманне яго ў зняволенні з 4 жніўня 2011 года прыроўніваюцца да судовага пераследу праваабаронцы за яго законную праваабарончую дзейнасць, якая знаходзіцца пад абаронай усіх міжнародных інструментаў па абароне правоў чалавека”. Яны заклікалі беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць Алеся Бяляцкага.

Прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных пракаментаваў заявы замежных палітыкаў з нагоды вынясення прысуду праваабаронцу

> «Заявы, якія мы чуем у сувязі з прысудам Алесю Бяляцкаму, з'яўляюцца прыкладам самага крывадушнага выкарыстання двайных стандартаў. Прысуд суда не мае дачынення да праваабарончай дзейнасці асуджанага, а звязаны з яго ўхіленнем ад выплаты падаткаў.
> Распачатая на Захадзе кампанія характарызуецца адкрытым палітычным ціскам на судовыя органы Беларусі, што супярэчыць стандартам сучаснай сістэмы правасуддзя. У Беларусі абскарджанне судовага рашэння па крымінальнай справе можа быць рэалізавана толькі ў судовым парадку. Заклікі да адвольнай адмены судовага рашэння дэманструюць вельмі выбарчы прававы нігілізм і проста цынізм іх аўтараў».

*Мінск, 24 лістапада 2011 года.*

Калегі Алеся Бяляцкага з "Вясны" ў аналітычнай запісцы па выніках маніторынгу канстатавалі: *"Судовы працэс, у выніку якога Алесю Бяляцкаму вынесены прысуд, не з'яўляўся справядлівым"*. Яны ўказалі на парушэнне гарантый прэзумпцыі невінаватасці, парушэнне прынцыпу спаборнасці, права на роўнасць перад судом, парушэнне права на абарону, відавочна адвольны характар у ацэнцы фактаў і доказаў, парушэнне права прыняць суд у сваёй прысутнасці. Кожны з гэтых пунктаў быў абгрунтавана раскрыты. У выніку, вясноўцы заявілі: *"Алесь Бяляцкі з'яўляецца асобай еўрапейскага маштабу, яго ўклад у развіццё беларускай культуры і праваабарончая дзейнасць непарыўна звязаныя. І спроба зганьбіць яго імя і намаганні па абароне правоў чалавека ў Беларусі шляхам несправядлівага абвінавачвання загадзя асуджаная на правал"*. Пазней гэтая аналітыка выкарыстоўвалася прадстаўнікамі FIDH пры падрыхтоўцы скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН.

Экспертнае заключэнне па справе Алеся Бяляцкага падрыхтавала і Амерыканская асацыяцыя юрыстаў (American Bar Association, ABA) — вядучая арганізацыя юрыстаў у ЗША. Як рэзюмавалі эксперты ABA, абвінавачванне Алеся Бяляцкага з'яўляецца вынікам незаконнага распараджэння пра ліквідацыю яго арганіза-

цыі па абароне правоў чалавека «Вясна». Вынесены яму прысуд парушае яго права на свабоду аб’яднанняў у адпаведнасці з Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, падпісаным Рэспублікай Беларусь (МПГПП), і таму падлягае адмене”. Копію свайго заключэння, прадстаўленага “ў якасці аб’ектыўнай, юрыдычна абгрунтаванай і праўдзівай экспертнай заявы — на падставе матэрыялаў справы і ў адпаведнасці з нормамі міжнароднага права”, АВА лічыла важным перадаць у Мінскі гарадскі суд напярэдадні разгляду касацыйнай скаргі на прысуд Алесю Бяляцкаму. Суд далучыў заключэнне амерыканскіх экспертаў да матэрыялаў справы.



## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: «НЕ БОЙЦЕСЯ!»

Пасля судовага працэсу, 30 лістапада, Алесь Бяляцкі даслаў ліст сябрам з “Вясны”, у якім напісаў, што пачаў вяртацца да сваіх звычайных заняткаў — вывучэння ангельскай мовы, чытання і адказаў на лісты, якіх набралася даволі шмат. Напісаў, што адчувае сябе спакойна, чаго жадае і ўсім сваім калегам.

Алесь адзначыў, што падчас суда “магутная падтрымка розных знаёмых і незнаёмых людзей моцна дапамагла”: *“Такое адчуванне, што гэты суд быў патрэбны, каб праверыць, што мы рабілі ўсе гэтыя 15 гадоў. А на 10 снежня мне хочацца паўтарыць для ўсіх: “Не бойцеся!”. Гэта тое, што сказаў у 80-я папа Ян Павел ІІ, калі прыехаў у камуністычную Польшчу. Больш ён нічога тады не сказаў, але і гэтага хапіла”.*

Таксама палітвязень напісаў, што рыхтуецца да этапу, а “паколькі Беларусь маленькая краіна, значыць — далёка не павязуць”.

Ён дасылае ўсім паплечнікам гарачае прывітанне і падзяку: *«У мяне такое адчуванне, асабліва пасля таго, як на судзе шмат каго ўбачыў, што я ўвесь гэты час быў з вамі…».*

*Публікацыя сайта spring96.org*

*Фота Юліі Дарашкевіч*

# ГЛАБАЛЬНАЯ МАБІЛІЗАЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ FIDH




Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) загадзя папярэдзіла свае сяброўскія арганізацыі з розных кантынентаў, а таксама арганізацыі-партнёры, што напрыканцы лістапада будзе абвешчаны прысуд віцэ-прэзідэнту Федэрацыі Алесю Бяляцкаму і заклікала выступіць у яго падтрымку.

Цэнтральная акцыя салідарнасці была арганізаваная ў Парыжы, дзе знаходзіцца штаб-кватэра FIDH. Дэманстрацыя адбылася на наступны дзень пасля вынясення прысуду, 25 лістапада, перад будынкам амбасады Беларусі. Якраз у тыя дні праходзіла праўленне FIDH, на якое з’ехаліся сябры праўлення з ўсіх кантынентаў. Яны выдатна ведалі Алеся Бяляцкага, бо ён ужо двойчы абіраўся віцэ-прэзідэнтам Федэрацыі, і ў знак салідарнасці ўзялі ўдзел у дэманстрацыі. Праваабаронцы FIDH таксама заручыліся падтрымкай уладаў Парыжа.




*Маніфестацыя FIDH перад амбасадай Беларусі ў Парыжы 25 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH*

MAIRIE DE PARIS

Paris, 25 novembre 2011

**COMMUNIQUÉ DE PRESSE**
**de Bertrand Delanoë**

C'est avec indignation et consternation que j'apprends la condamnation à 4 ans et six mois d'emprisonnement d'Aliaksandr Bialiatski, Vice-président de la Fédération Internationale des Droits de l'Homme (FIDH) et Président du Centre de défense des Droits de l'Homme « Viasna » en Biélorussie.

Aliaksandr Bialiatski s'est battu pour la défense des Droits de l'Homme sans relâche, malgré les menaces. Arrêté par les autorités biélorusses en août dernier et accusé d'*"évasion fiscale particulièrement importante"*, il est victime comme d'autres prisonniers d'opinion en Biélorussie de la désinformation de l'Etat.

Pierre Schapira, mon adjoint chargé des relations internationales, des affaires européennes et de la francophonie, se joindra au rassemblement organisé aujourd'hui devant l'Ambassade de Biélorussie pour contester cette condamnation, aux côtés de Souhayr Belhassen, Président de la Fédération Internationale des Droits de l'Homme.

Au nom de Paris, attaché au respect des droits de l'Homme et des libertés fondamentales dans le monde, j'appelle les autorités biélorusses à la libération immédiate et sans condition d'Aliaksandr Bialiatski et de tous les prisonniers d'opinion.

**Contact presse**
Giles Spence : 01 42 76 49 61
service.presse@paris.fr

Мэр французскай сталіцы Бертран Дэланаэ 25 лістапада распаўсюдзіў камюніке з заклікам да беларускіх уладаў аб неадкладным і безумоўным вызваленні Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных вязняў у краіне, а яго намеснік па міжнародных справах П'ер Шапіра ўдзельнічаў у дэманстрацыі.

---

Камюніке мэра Бертрана Дэланаэ:

"З абурэннем і крайняй занепакоенасцю даведаўся я сёння пра прысуд да 4 гадоў і 6 месяцаў зняволення Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта FIDH і прэзідэнта Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў Беларусі.
Алесь Бяляцкі няспынна змагаўся за правы чалавека, нягледзячы на навіслыя над ім пагрозы. Арыштаваны ў жніўні гэтага года праваабаронца, які абвінавачваецца ва «ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйных памерах» — чарговая ахвяра дзяржаўнай дэзінфармацыі, нароўні з іншымі вязнямі сумлення ў Беларусі. П'ер Шапіра, мой намеснік па міжнародных справах, еўрапейскай і франкафонскай палітыцы, далучыўся сёння да дэманстрацыі перад пасольствам Беларусі, каб выказаць сваё абурэнне побач з Суэр Белхасэн, Прэзідэнтам Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека. Ад імя горада Парыжа, глыбока адданага справе правоў чалавека і асноўных свабодаў, я заклікаю беларускія ўлады да неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных вязняў".

---

Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн у сваім выступе ад імя ўсіх сяброў арганізацыі выказала "глыбокае абурэнне" неправамерным прысудам Алесю Бяляцкаму, вынесеным у ходзе "замоўленага ўла-

дамі судовага працэсу”, і заявіла: “Мы хочам, каб беларускія ўлады ведалі, што мы будзем штодня працягваць дамагацца вызвалення Алеся — да тых часоў, пакуль ён не апынецца на свабодзе». Амбасадар Беларусі ў Францыі адмовіўся прыняць дэлегацыю FIDH, таму адкрыты ліст прэзідэнту Лукашэнку дэманстранты перадалі праз паштовую скрыню амбасады, да якой дапусцілі толькі двух прадстаўнікоў FIDH.




Ліст прэзідэнта FIDH да прэзідэнта Беларусі. Фота з архіва FIDH

“Спадар Прэзідэнт,

Я звяртаюся да Вас з заклікам неадкладна зняць усе абвінавачванні і без усялякіх умоваў вызваліць спадара Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і прэзідэнта Праваабарончага цэнтра «Вясна», які ўчора быў асуджаны судом Першамайскага раёна г. Мінска да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці, уключаючы офіс арганізацыі “Вясна”, па абвінавачванні ва “ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры”.
Спадар Бяляцкі займаўся законнай праваабарончай дзейнасцю, накіраванай на абарону асоб, якія пацярпелі ад рэпрэсій, пры гэтым яго дзейнасць праходзіла ў атмасферы поўнай адкрытасці і празрыстасці.
Спадар Бяляцкі быў асуджаны на падставе не маючых дачынення да справы доказаў і паказанняў сведак у рамках справакаванага КДБ палітычнага працэсу з мэтай спыніць ягоную праваабарончую дзейнасць і дзейнасць праваабарончай арганізацыі “Вясна”.
Спадар Бяляцкі стаў ахвярай адвольнага затрымання і знаходзіўся пад вартай з 4 жніўня 2011 года. Я была ўзрушаная, калі даведалася, што ў ходзе разгляду справы ў судзе спадар Бяляцкі стаў мішэнню шырокамаштабнай кампаніі паклёпу, арганізаванай падкантрольнымі ўладзе СМІ, якія ў сваіх матэрыялах навесілі на яго ярлык ворага народа і здрадніка нацыі.
Я заклікаю ўлады Рэспублікі Беларусь неадкладна вызваліць нашага віцэ-прэзідэнта, зняць з яго ўсе абвінавачванні і дазволіць народу Беларусі карыстацца ўсімі правамі чалавека ў адпаведнасці з міжнародным правам. Сістэматычнае падаўленне праваабарончай дзейнасці шкодзіць прэстыжу Беларусі ў сусветным маштабе.
Я шчыра спадзяюся, што Вы прымеце пад увагу нашыя заклікі і просьбы!

*Са шчырай павагай, Суэр Белхасэн,*
*Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH)”*

Напрыканцы дэманстранты адпусцілі ў неба сотні белых і чырвоных паветраных шароў як сімвал салідарнасці з беларускім палітвязнем.

На заклік FIDH акцыі ў падтрымку Алеся Бяляцкага прайшлі ў розных краінах Лацінскай Амерыкі, Азіі, Афрыкі, Усходняй і Заходняй Еўропы. Праваабаронцы ладзілі пікеты, перадавалі лісты амбасадарам Беларусі ў сваіх краінах, накіроўвалі звароты прэзідэнту Лукашэнку з патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага.

## ЕРЭВАН, Арменія







*Акцыя ля амбасады Беларусі ў Ерэване 25 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH*

Актывісты Хельсінкскай асацыяцыі Арменіі, арганізацый “Жонкі палітвязняў”, “Закон і права” і “Сацыяскоп” сабраліся перад будынкам амбасады Беларусі з плакатамі “Свабоду вязням сумлення!”, “Свабоду Алесю!”, “За нашу і вашу свабоду!” і перадалі ліст амбасадару Беларусі. 25 лістапада 2011года.



Праваабаронца Мікаэл Даніелян (1959–2016). Фота з архіва FIDH

*«Трэба змагацца далей, Алесь — наш сябар і калега. Мы абавязаны яго падтрымаць. І я ўпэўнены, што заўтра, калі мы апынемся на месцы Алеся, іншыя праваабаронцы выйдуць і падтрымаюць нас. А ў Беларусі сітуацыя з выкананнем правоў чалавека вельмі складаная. Мы спадзяемся, што ціск міжнародных арганізацый, грамадзянскай супольнасці на дыктатарскі рэжым Лукашэнкі, у дадзеным выпадку звязаны з Алесем, прывядзе да станоўчага выніку. Гэта доўгі шлях. Савецкі Саюз развалілі за 70 гадоў, а Беларусь дагэтуль знаходзіцца ў Савецкім Саюзе».*

Мікаэл Даніелян, старшыня Хельсінкскай асацыяцыі Арменіі.

---

**БАКУ, Азербайджан**



Фатоздымак Эміна Хусейнава з Twitter

У працяг кампаніі ў абарону Алеся Бяляцкага азербайджанскія праваабаронцы накіравалі лісты пратэсту ў амбасаду Беларусі, звароты ў структуры Еўрасаюза з заклікам павысіць увагу да “справы Бяляцкага”.

*“Дэмакратычная грамадскасць усіх краінаў постсавецкай прасторы павінна ўзголас пратэсту супраць несправядлівага прысуду ў дачыненні да беларускага праваабаронцы. І не толькі таму, што гэта з’яўляецца абуральным фактам парушэння права чалавека, але і з пункту гледжання небяспекі падобнай негатыўнай тэндэнцыі і для іншых краінаў СНД. У прыватнасці, практыка ціску на незалежных адвакатаў вельмі хутка распаўсюдзілася і на наш рэгіён, Паўднёвы Каўказ. Цяпер і ў нас сталі арыштоўваць праваабаронцаў».*

Эмін Хусэйнаў, дырэктар Інстытута свабоды і бяспекі рэпарцёраў.

## ТБІЛІСІ, Грузія



*Пікет-перформанс у падтрымку Алеся Бяляцкага ў Тбілісі 1 снежня 2011 г. Фота з архіва FIDH*

Сябры Цэнтра правоў чалавека (HRIDC) патрабавалі вызвалення Алеся Бяляцкага падчас пікету-перформансу, гледзячы ў аблічча Лукашэнкі, наклеенага на скрынку-“тэлевізар”. Пасля праваабаронцы распаўсюдзілі відэасюжэт пра акцыю ў Інтэрнэце. 1 снежня 2011года.

## БІШКЕК, Кыргызстан

У пікеце каля амбасады Беларусі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Праваабарончага цэнтра “Грамадзяне супраць карупцыі”, грамадскага фонду “Кылым Шамы”, Юрыдычнай клінікі “Адылет”, а таксама валанцёры і студэнты. Пікет доўжыўся гадзіну. Прадстаўнікі амбасады так і не выйшлі да яго ўдзельнікаў. 25 лістапада 2011 года.



## АНКАРА, Турцыя



Сябры турэцкай арганізацыі Human Rights Association (IND) падчас пікету перад амбасадай Беларусі зачыталі заяву з патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага. 25 лістапада 2011 года.

*Пікет у Анкары 25 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH*

## БРУСЕЛЬ, Бельгія

Прадстаўніцтва FIDH у Брусэлі правяло акцыю салідарнасці з Алесем Бяляцкім каля будынка Еўрапейскай Камісіі — каб нагадаць Еўрапейскаму Саюзу пра яго ўплыў і абавязкі ў галіне правоў чалавека. 25 лістапада 2011года.




*Акцыя брусельскага аддзялення FIDH каля Еўрапейскай Камісіі 25 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH*

**ЗАГРЭБ, Харватыя**

“Грамадзянскі камітэт за правы чалавека” правёў прэс-канферэнцыю з удзелам суддзі Вярхоўнага Суда і амбудсмэна Харватыі Юрыца Мальчыча, кіраўніка арганізацыі Зорана Пусіча і Таміслава Якіча, сябра арганізацыі і Дарадцы прэзідэнта па пытаннях знешняй палітыкі ў 2000-2010 гадах. Прамоўцы звярнуліся да кіраўніка сваёй краіны з поўнай інфармацыяй па справе Алеся Бяляцкага і просьбай пра падтрымку з яго боку. 25 лістапада 2011 года.

**ХЕЛЬСІНКІ, Фінляндыя**




*Фінскія праваабаронцы перадалі зварот амбасадару Літвы 13 снежня 2011года. Фота з архіва FIDH*

Паколькі Беларусь не мае дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Фінляндыі, прадстаўнікі Фінскай лігі правоў чалавека (FLHR) наведалі амбасады суседніх краінаў, каб перадаць пісьмовы зварот з нагоды прысуду Алесю Бяляцкаму і агульнай сітуацыі ў Беларусі.

Амбасадар **Літвы** Арунас Евалтас прыняў дэлегацыю цёпла і паабяцаў звязацца з міністэрствам, каб інфармаваць пра зварот праваабаронцаў. Ён запэўніў, што літоўскі бок будзе ўважліва і з вялікай пільнасцю сачыць за справай Алеся і звяртацца да беларускіх уладаў з пытаннем пра яго вызваленне.

На просьбу пра сустрэчу з амбасадарам Расіі ў Хельсінкі прадстаўнікі FLHR адказу не атрымалі. Таму ліст-зварот пакінулі ў паштовай скрыні каля будынка пасольства. Трэці зварот быў накіраваны ў амбасаду Польшчы ў Фінляндыі. У перададзеным лісце праваабаронцы звярнуліся да трох краінаў з заклікам зрабіць усё ад іх залежнае для вызвалення Алеся Бяляцкага і спынення пераследу сяброў “Вясны”. 13 снежня 2011года.

**ХАРАРЭ, Зімбабвэ**

Прадстаўнікі Асацыяцыі правоў чалавека (ZimRights) гэтай паўднёва-афрыканскай рэспублікі далучыліся да глабальнай кампаніі FIDH з заявай, у якой рашуча асудзілі незаконны прысуд і турэмнае зняволенне Алеся Бяляцкага:

“Мы все очень хорошо знакомы с репрессивными режимами, которые подрывают право и правовые системы с целью преследования защитников прав человека. Беларусь является одной из таких стран”.



Campaigners For Human Rights

BELARUS: ZIMRIGHTS CONDEMNS THE FALSE CONVICTION AND IMPRISONMENT OF ALES BIALIATSKI

*ARARE, November 25, 2011. The Zimbabwe Human Rights Association ZIMRIGHTS) joins the global human rights defenders community in strongly condemning the false trial, conviction and sentencing to prison of Mr. Ales Bialiatski, FIDH Vice-President and President of the Human Rights Centre (HRC) Viasna".*

We are all too familiar with repressive regimes that subvert the law and legal systems to persecute human rights defenders. Belarus is one such country" said that the Executive Director of **ZIMRIGHTS** Mr. Okay Machisa.

**Ales Bialiatski** was convicted by the Pervomaiski District Court of Minsk on spurious and flimsy charges related to tax evasion and sentenced to four and a half years of imprisonment with hard labour.

**ZIMRIGHTS** agrees with the **The Observatory** that the trial and detention of Mr. Ales Bialiatski, held since August 4, 2011 at the preventive detention centre No. 1 in Minsk, amounts to judicial harassment of a human rights defender for carrying out purely legitimate human rights activities, protected under all international human rights standards.

Of particular concern in this matter is the witting or unwitting role played by the Polish authorities to facilitate the persecution of a human rights defender despite the EU's well publicized position and guidelines on human rights defenders. The matter calls for an urgent review of how the guidelines are being implemented and how the EU countries should address incompatibilities between their obligations to protect human rights defenders and other bilateral or multilateral commitments" said Arnold Tsunga of **ZIMRIGHTS** and FIDH Vice President.

**ZIMRIGHTS** therefore calls upon the Belarusian authorities to immediately and unconditionally release Mr. Ales Bialiatski

For more information, please contact

*Заява праваабаронцаў з Зімбабве ад 25 лістапада 2011 г. З архіва FIDH*

**БУЭНАС-АЙРЭС, Аргентына**




*Пікет сябраў CAJ у Буэнас-Айрэсе 25 лістапада 2011 г. Фота з архіва FIDH*

Дэлегацыя Камітэта прававога дзеяння (CAJ) правяла пікет перад амбасадай Беларусі, куды перадала адрасаваны прэзідэнту Лукашэнку ліст FIDH з патрабаваннем неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага. 25 лістапада 2011года.



To the attention of the President of Belarus,

Mr. Alexander Lukashenko,

Your Excellency,

On behalf of the Moroccan Organization for Human Rights (OMDH), I urge you to immediately release Ales Bialiatski, FIDH Vice-President and President of the Belarusian Human Rights Center "Viasna" (Viasna), who has unjustly been condemned to 4 and a half years of strict regime detention, the payment of a fine, and the confiscation of his property, including Viasna's offices and property registered with members of his family.

As President of Viasna, and vice President of the FIDH, Mr. Bialiatski has always uphold the most complete transparence in all his activities and there is no doubt that the totality of the charges held against him have to be dropped.

The weakness of the accusation, often out of topic, and the KGB's involvement in this affaire is the sign of an unacceptable political involvement which can only be condemned and which reflects the actual regime's tendency to muzzle human rights activists, journalists and lawyers. My organization was also particularly dismayed with the reaction of state owned medias who slandered his name and labeled Mr. Bialiatski as an enemy of the state.

Mr. Bialiatski has now been illegally detained since the 4th of August 2011 and I urge you to proceed to his immediate release and to abandon all charges against him. We hope that your Excellency will promptly take our demands in consideration and end the media smear campaign targeting him.

*Ліст прэзідэнту Беларусі ад праваабаронцаў з Марока ад 29 лістапада 2011 г. З архіва FIDH*

## РАБАТ, Марока

Прэзідэнт Мараканскай арганізацыі правоў чалавека (OMDH) і віцэ-прэзідэнт FIDH Аміна Буаяш накіравала ліст прэзідэнту Беларусі з просьбай вызваліць беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага. "Спадар Бяляцкі быў незаконна затрыманы з 4 жніўня 2011 года, і я настойліва заклікаю вас прыступіць да яго неадкладнага вызвалення і адмовіцца ад усіх вылучаных супраць яго абвінавачанняў. Мы спадзяемся, што Вашае Правасхадзіцельства неадкладна разгледзіць нашыя патрабаванні і спыніць кампанію паклёпу ў СМІ, скіраваную на яго". 29 лістапада 2011года.

## САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ, Расія




У некаторых несвабодных краінах самі акцыі салідарнасці з беларускім праваабаронцам-палітвязнем падвяргаліся нападкам. Так здарылася ў Санкт-Пецярбургу. 25 лістапада 2011 года.

Сяброў АДЦ «Мемарыял» Ганну Удзьяраву і Філіпа Кастэнку затрымалі каля будынка консульства Беларусі і даставілі ў аддзяленне паліцыі. Нягледзячы на тое, што затрыманне адбывалася з прымяненнем сілы, парваабаронцаў абвінавачвалі ў непадпарадкаванні паліцыі. Сітуацыя была наступная: арганізатары спрабавалі ўзгадніць з гарадскімі ўладамі запланаваны пікет за чатыры дні да правядзення, але ім адмовілі з фармальных прычынаў. Тады яны заявілі пра намер правесці адзіночныя пікеты ў знак пратэсту супраць асуджэння Алеся Бяляцкага.

У заяўлены час пікетаў да беларускага консульства пад'ехалі машыны з людзьмі ў форме. Калі туды падышлі праваабаронцы з «Мемарыялу», якія сталі на адлегласці больш за 30 метраў адзін ад аднаго (паколькі пікеты былі адзіночныя) і разгарнулі свае плакаты, да іх адра-

зу падышлі супрацоўнікі паліцыі. Плакаты спрабавалі забраць як «незаконныя», Ганну і Філіпа затрымалі і гвалтам (Філіпа неслі) даставілі да машыны, каб везці ў аддзяленне паліцыі. Падставай абвясціць іх дзеянні незаконнымі прызналі тое, што, хоць яны на адлегласці адзін ад аднаго, але пікетавалі «той жа юрыдычны адрас», то бок консульства, а значыць — разам, два чалавекі, а не адзін!

Пасля затрымання Філіпа і Ганны да консульства Беларусі накіравалася адна з заяўніц пікета, дырэктар АДЦ «Мемарыял» Вольга Абраменка, якая стала сведкай затрымання. У яе ў руках былі паветраныя шары і прымацаваны да іх плакат «Свабоду Алесю Бяляцкаму!». Да яе таксама падышлі супрацоўнікі паліцыі, перапісалі дакументы, выведалі, хто такі Алесь. Вольгу спрабавалі абвінаваціць у незаконным шэсці — паколькі яна ішла да консульства, а не стаяла на месцы. Усё ж яе не затрымалі, бо яна сапраўды засталася ў поўнай адзіноце, але запатрабавалі, "каб стаяла, а не ішла".

Затрыманых уначы адпусцілі з аддзялення паліцыі — пасля шматлікіх зваротаў іх калегаў і адвакатаў, а таксама ўмяшання парыжскага офіса FIDH.

«Вясна» выступіла з заявай, у якой выказала шкадаванне з нагоды затрымання піцерскіх калегаў і падзякавала ім за вельмі каштоўны для арганізацыі жэст салідарнасці.

Інфармацыя, фотаздымкі з пікетаў сяброўскіх арганізацый FIDH аператыўна публікавалася на адмысловым сайце "Свабоду Алесю Бяляцкаму!", які з'яўляўся крыніцай свежай інфармацыі для міжнароднай грамадскасці, якая сачыла за лёсам зняволенага праваабаронцы.

Ініцыятыву FIDH падтрымалі іншыя праваабарончыя арганізацыі ў замежжы.






*Акцыя сябраў АДЦ "Мемарыял" 25 лістапада 2011 года ў Санкт-Пецярбургу была разагнаная. Фота з архіва FIDH*

**СТАКГОЛЬМ, Швецыя**

Прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Östgruppen, Civil Rights Defenders, шведскага аддзялення Amnesty International і SILC каля будынка амбасады Беларусі патрабавалі неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага ды іншых палітвязняў. 25 лістапада 2011 года.

**ВІЛЬНЮС, Літва**

*“Сённяшні прысуд Алесю Бяляцкаму з'яўляецца трывожным знакам кампаніі помсты, якая вядзецца з боку ўладаў Беларусі супраць праваабаронцаў”. “Абвінавачванні былі відавочна палітычна матываванымі, і яго не мусілі арыштоўваць або судзіць. Алесь Бяляцкі з'яўляецца вязнем сумлення і павінен быць неадкладна і безумоўна вызвалены”.*

*Намеснік дырэктара Amnesty International па Еўропе і Цэнтральнай Азіі Джон Далхусэн. 24 лістапада 2011 года*

На пікет каля беларускай амбасады, арганізаваны Беларускім Грамадзянска-палітычным прадстаўніцтвам у Літве (HUB), Беларускім Домам правоў чалавека ў Вільні і арганізацыяй Belarus Watch, прыйшлі каля трох дзясяткаў чалавек з нацыянальнымі сцягамі, партрэтамі Алеся Бяляцкага і расцяжкай “Вясну не спыніць!”. З амбасады да пікетоўцаў ніхто не выйшаў, але яго супрацоўнікі актыўна фатаграфавалі акцыю праз вокны.

*«Мы пратэстуем супраць асуджэння Алеся Бяляцкага і выказваем салідарнасць з усімі палітвязнямі Беларусі. Вядома, можна казаць аб тым, што мы не можам паўплываць на сітуацыю, але вельмі важна паказваць, што мы салідарныя з тымі, хто зараз знаходзіцца за кратамі ў Беларусі па палітычных матывах. Такім чынам мы дэманструем уладам, што мы ёсць і што мы сочым за сітуацыяй».* Ганна Герасімава, дырэктар Беларускага Дома правоў чалавека. 25 лістапада 2011года.

Amnesty International, якая пасля затрымання прызнала Алеся Бяляцкага вязнем сумлення і выступіла з асуджэннем прысуду праваабаронцу, з 1 снежня абвесціла тэрміновую кампанію.

Арганізацыя звярнулася з просьбай да сваіх сяброў ва ўсім свеце дасылаць звароты ў Беларусь — прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку і генеральнаму пракурору Аляксандру Канюку, а таксама дыпламатычным прадстаўнікам у сваіх краінах: *“Заклічце ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць Алеся Бяляцкага, спыніць пераслед і пагрозы на адрас праваабаронцаў і нагадайце, што ўлады абавязаныя аказваць падтрымку праваабаронцам у адпаведнасці з патрабаваннямі Дэкларацыі ААН аб праваабаронцах, у якой праваабарончая дзейнасць прызнаецца неабходнай і законнай”.* Такія звароты, па задуме арганізацыі, беларускія ўлады мусілі атрымліваць цэлы месяц.

Нямецка-швейцарская арганізацыя Libereco-Partnership for Human Rights далучылася да кампаніі за неадкладнае і безумоўнае вызваленне праваабаронцы-палітвязня і на старонцы кампаніі “Усе мы за Алеся” (We all are Ales) у Фэйсбуку запусціла акцыю фота-петыцый. Па ўмовах акцыі, кожны жадаючы мог зрабіць фотаздымак з раздрукаваным на аркушы патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага і змясціць яго ў сацыяльнай сетцы. Першую такую фота-петыцыю прадставіла Катрын Герынг-Экардт, віцэ-прэзідэнт Бундэстага Германіі, якая раней па прапанове Libereco ўзяла на сябе апякунства над Алесем Бяляцкім.

*“Нашая салідарнасць скіраваная да Алеся Бяляцкага, яго сваякоў, сяброў і ўсіх іншых палітычных зняволеных у Беларусі. Мы і надалей будзем прыкладаць намаганні дзеля іх свабоды, якая таксама з’яўляецца і нашай”.* Ларс Бюнгер, старшыня Libereco.

Тым часам Алесь Бяляцкі на тэрмін абскарджання судовага прысуду быў пераведзены ў турму № 8 горада Жодзіна. Частка турмы выкарыстоўваецца пад СІЗА. Яна вядомая больш жорсткімі ўмовамі ўтрымання вязняў. Праваабарончы цэнтр “Вясна” і сайт FIDH “Свабоду Алесю Бяляцкаму!” апублікавалі адрас турмы з просьбай дасылаць лісты падтрымкі палітвязню: “Мы заклікаем усіх не пакідаць Алеся Бяляцкага ў адзіноце за каменнымі сценамі. Чалавек, які на працягу 15 гадоў абараняў правы іншых, заслугоўвае некалькіх цёплых словаў падтрымкі ў такі няпросты для яго момант”.

*Ларс Бюнгер і Катрын Герынг-Экардт, віцэ-спікер бундэстага ФРГ, Мануэль Сарацын, дэпутат бундэстага і сябра ПА Савета Еўропы, Ангеліка Граф, намесніца старшыні сацыял-дэмакратычнай фракцыі па пытаннях правоў чалавека і гуманітарнай дапамогі, Рубен Лоадтс, генеральны сакратар Маладых еўрапейскіх федэралістаў (JEF).*



Пазней, ужо з бабруйскай калоніі, Алесь напіша сябрам на волю пра свой жодзінскі этап:

*“На малюнку, які даслаў невядомы мне канадскі хлопчык Філіп, багата розных сімвалаў: два сцяжкі — лукашэнкаўскі і канадскі, каля першага — замок, каля другога — ключ. Здаецца, усё зразумела. Пакуль жа ключ — у зусім іншых руках...*
*Год таму, калі я сядзеў у СІЗА ў Жодзіне, каб прайсці з камеры да кабінета на сустрэчу з адвакатам, трэба было прамінуць 21 дзверы — у падземных калідорах, у пераходзе паміж будынкамі. І ўсе яны адчыняліся перада мной, а затым з лязгатам зачыняліся за спінай. Я ніколі не забуду гэты лязгат цяжкіх, жалезных, тоўстых дзвярэй. Яны дзялілі прастору на кароткія адрэзкі. Імі былі адрэзаныя і будучыня, і мінулае. А ты заставаўся ў цяперашнім часе, без мінулага і будучага. Толькі з ахоўнікам, у руках якога быў ключ”.*

Тым часам калегі Алеся рабілі захады, кожны з якіх, пры пэўных абставінах, мог стацца ключом ад свабоды.

# КАМПАНІЯ ПА ЗБОРЫ СРОДКАЎ
## НА ПАГАШЭННЕ “ШКОДЫ” ПАВОДЛЕ ПРЫСУДУ

Праваабарончыя арганізацыі Беларусі ініцыявалі кампанію па зборы сродкаў, прысуджаных Алесю Бяляцкаму да выплаты ў якасці «шкоды, нанесенай злачынствам». Праваабаронцы ўлічвалі палітычны матыў “справы Бяляцкага”, а таксама тое, што кіраўнік “Вясны” не прызнае сваёй віны ў інкрымінаваным яму злачынстве і настойвае на сваім апраўданні. Калегі і паплечнікі Алеся Бяляцкага разглядалі пагашэнне “шкоды” як неабходны крок для зняцця перашкодаў для яго вызвалення. Кампанія мела тэрміновы характар, бо сродкі важна было ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе.

На прэс-канферэнцыі, якую 15 снежня ў Мінску сабралі кіраўнікі вядомых няўрадавых арганізацыяў — Алег Гулак (БХК), Жанна Літвіна (БАЖ), Сяргей Мацкевіч (Асамблея НДА), Аляксандр Мілінкевіч (Рух "За свабоду") і Валянцін Стэфановіч (ПЦ "Вясна") быў агучаны зварот да грамадскасці, у якім, сярод іншага паведамлялася:

---

> «Мы, прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці, асуджаем незаконны прысуд Алесю Бяляцкаму і, улічваючы палітычную матываванасць справы, лічым, што ў дадзенай сітуацыі неабходна прыкласці ўсе намаганні для найхутчэйшага яго вызвалення.
> Мы заклікаем беларускае грамадства праявіць салідарнасць з Алесем Бяляцкім і Праваабарончым цэнтрам «Вясна», які ў экстрэмальных умовах вось ужо 15 год бароніць правы беларускіх грамадзянаў.
> У сувязі з гэтым, з мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага ці як мінімум змены меры стрымання альбо змякчэння надзвычай жорсткага прысуду, мы распачынаем кампанію па зборы сродкаў, якія былі пастаўленыя ў віну Алесю Бяляцкаму і спагяняюцца з яго ў якасці «шкоды, нанесенай злачынствам»…
> Мы падкрэсліваем, што пералічэнне гэтых грашовых сродкаў не азначае прызнання віны Алесем Бяляцкім — гэта толькі нашая салідарная акцыя, накіраваная на вызваленне незаконна асуджанага праваабаронцы».

---

Дзякуючы агульным намаганням, неабходная сума была своечасова сабраная. Сродкі ад грамадзянаў Беларусі паступалі на рахунак жонкі Алеся Бяляцкага, а затым яна пераваляла іх на пагашэнне "шкоды, учыненай злачынствам" дзяржаве.

Надзеі на тое, што кампенсацыя "шкоды" паўплывае на рашэнне Мінскага гарадскога суда, які змякчыць прысуд праваабаронцу, не апраўдаліся. 24 студзеня 2012 года Мінскі гарадскі суд не задаволіў касацыйную скаргу Алеся Бяляцкага і пакінуў прысуд у сіле.

# УЗНАГАРОДЫ

## ЯК ЖЭСТ ПАДТРЫМКІ МІЖНАРОДНАЙ ГРАМАДСКАСЦІ

Пасля вынясення прысуду пайшла наступная хваля кампаніі па вылучэнні Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міра. Сябры міжнароднага камітэта кампаніі заручаліся падтрымкай новых асобаў і арганізацый у гэтай справе. Гэтую ідэю падтрымалі многія ўдзельнікі канферэнцыі лаўрэатаў прэміі імя Андрэя Сахарава ад Еўрапейскага парламента (Saharov Debate 2011). Збор подпісаў пад адкрытым лістом на форуме арганізавалі беларускія ўдзельнікі: старшыня БАЖ Жанна Літвіна і кіраўнік Руху "За свабоду" Аляксандр Мілінкевіч. *"Мы, лаўрэаты прэміі Сахарава, выказваем салідарнасць з Алесем Бяляцкім і рашуча асуджаем любы абвінаваўчы прысуд у дачыненні да яго. Мы патрабуем яго неадкладнага вызвалення, рэабілітацыі і аднаўлення яго добрага імя...".*




*Далей былі гады за турэмнымі мурамі. Турма №8 у Жодзіне. Фота Аляксея Лапіцкага / licviny.info*

## САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

## СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ЎЗНАГАРОДА МЗС ПОЛЬШЧЫ PRO DIGNITATE HUMANA

У канцы 2011 года Алесь Бяляцкі атрымаў спецыяльную ўзнагароду міністра замежных справаў Польшчы, заснаваную для абаронцаў правоў чалавека. Дыплом 12 снежня ў Варшаве атрымала жонка палітвязня Наталля Пінчук. На цырымоніі ўручэння кіраўнік польскай дыпламатыі Радаслаў Сікорскі адзначыў, што ўзнагарода Алесю Бяляцкаму — гэта знак падтрымкі беларускай дэмакратычнай супольнасці і прызнання справядлівага чалавека.




*Фота з сайта www.eu.thenews.pl*

---

“Паважаная Спадарыня Наталля,
Паважаныя Госці,

Збігнеў Херберт напісаў: “...Гэта зусім не вымагала вялікага характару — нашая адмова, нязгода і ўпартасць, нам хапала крыхі неабходнай адвагі... ”
Словы паэта “Салідарнасці» скіроўваюць да чалавека адважнага, трывалага, шляхетнага, абаронцы правоў чалавека, закаханага ў беларускую мову — Алеся Бяляцкага. Вернага грамадзяніна Беларусі. Той Беларусі, якая абавязалася прытрымліваццa прынцыпаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ААН і Парыжскай Хартыі АБСЕ.
Бяляцкі здзейсніў найзвычайнейшы ў свеце ўчынак, хаця ў беларускіх умовах — незвычайны: сказаў уладзе — правяраю!
І што аказалася?
Навонкі рэжым дэкларуе пашану панадчасовых, універсальных каштоўнасцяў, каб на практыцы змагацца з імі на кожным кроку.
Бяляцкі не страціў надзеі. Заснаваў Цэнтр абароны правоў чалавека “Вясна”, каб мірным шляхам пачаць змаганне за грамадзянскія правы. Разам з іншымі дзеячамі ачоліў Міжнародную федэрацыю правоў чалавека.

За тое, што праявіў адвагу, моцны дух і сумленне, напаткаў яго пераслед з боку пазбаўленай дэмакратычнай і маральнай легітымнасці ўлады. Яго грамадская актыўнасць на тэрыторыі Беларусі стала немагчымай, таму што ўлада дэлегалізавала Цэнтр “Вясна”.
Сёння ён не можа асабіста прыняць узнагароду, якая прызнаецца абаронцам правоў чалавека, таму што зняволены на чатыры з паловай гады карнай калоніі ўзмоцненага рэжыму — асуджаны ў палітычным, паказальным працэсе.
Я вельмі балюча адчуваю ягоную адсутнасць у гэтай зале.
Працэс і прысуд Алеся Бяляцкага выклікаў міжнароднае абурэнне і пратэсты прадстаўнікоў міжнародных арганізацый, кіраўнікоў дзяржаваў, прадстаўнікоў праваабарончых арганізацый.
Я сёння чарговы раз заклікаю: “Спадар Лукашэнка — свабоду палітвязням”!
Дзейнасць Алеся Бяляцкага ўжо шмат разоў ацэньвалася.
Ён з’яўляецца лаўрэатам чэшскай узнагароды Homo Homini, ганаровым грамадзянінам Генуі. Быў двойчы намінаваны да Нобелеўскую прэміі міра.
Хацелася б, каб новая ўзнагарода Pro Dignitate Humana сталася чарговым істотным доказам прызнання асобы Алеся Бяляцкага. Хацелася б, каб была яна сімвалам салідарнасці Польшчы і свету са справядлівым чалавекам наперакор нягоднасці.
Я памятаю сказаныя Алесем словы: “Нашая краіна можа пайсці па шляху дэмакратычных пераўтварэнняў і далучыцца да сям’і цывілізаваных еўрапейскіх народаў альбо скаціцца ў стан глыбокай галечы і доўгага крызісу”.
Сёння, напярэдадні 30-х угодкаў увядзення ваеннага становішча, калі нам, палякам, здавалася, што ўсялякая надзея ўжо страчаная, я гавару з перакананнем, вынікаючым з досведу, што змены магчымыя.
Беларусы праявілі сваю волю год таму на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Польшча, якая старшынюе ў Еўрапейскім Саюзе, безупынна падтрымлівае імкненне беларускага народа да дэмакратыі.
Я веру, што гераізм Алеся Бяляцкага не будзе дарэмным, і ўрэшце ў Беларусь прыйдзе “Вясна”!
Спадарыня Наталля, прыміце гэтую ўзнагароду ад імя Вашага Мужа”.

Выступ Радаслава Сікорскага падчас уручэння ўзнагароды Алесю Бяляцкаму. 12 снежня 2011 г.

АДНА ТЫСЯЧА ПЯЦЬДЗЯСЯТ ДВА ДНІ — тэрмін, які Алесь Бяляцкі правёў за кратамі.

Гэта часавая дыстанцыя, якую выпала прайсці ўсім — самому палітычнаму вязню і яго сям'і, паплечнікам з «Вясны» і FIDH, прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці Беларусі і міжнароднай грамадскасці. Важна было прайсці яе супольна і суладна. Бо перадумоваў, каб сысці з гэтай дыстанцыі на любым яе адрэзку, хапала. Бывала і так у падобных выпадках, што напачатку ўсе ўстаюць плячо ў плячо і выказваюць сваё абурэнне з нагоды несправядлівага арышту, суда і прысуду. Але ахвяра несправядлівасці доўга сядзіць за кратамі, і гэта ўжо не выклікае бурнай рэакцыі, усе паступова звыкаюцца, зняволенне робіцца данасцю.

Свабода адваяваная для палітычнага вязня — гэта перамога каштоўнаснага падыходу. Такая перамога даецца вельмі нялёгка і патрабуе штодзённых намаганняў ад усіх, хто ўключыўся ў гэтую барацьбу як унутры краіны, так і па-за яе межамі. Важным фактарам з'яўляецца і выбар сродкаў дасягнення агульнай мэты. *«Міжнародныя арганізацыі змагаюцца за палітычнага вязня, уключаюць яго ў свае спісы, спрабуюць націснуць на ўрад яго краіны. Але для эфектыўнасці трэба, каб кіраўніцтва краіны ўвесь час адчувала ціск, які зыходзіць з боку грамадзянскай супольнасці — у тых краінах, дзе грамадзянская супольнасць мае нейкія рычагі ціску,* — канстатуе Саша Кулаева, абагульняючы свой досвед працы ў FIDH. — *І вельмі важна ў гэтым працэсе знаходзіць новыя падыходы, новыя зачэпкі, бо калі працягваць кампанію ранейшымі, няхай нават добрымі праверанымі сродкамі, то з часам яны ўжо не будуць даваць неабходнага эфекту».*

Антуан дэ Сэнт-Экзюпеdefры казаў, што сіла кожнага дня — у «мастацтве маленькіх крокаў». Такіх маленькіх, але неабходных у агульнай стратэгіі вызвалення Алеся Бяляцкага крокаў было зроблена шмат. Мы прыгадваем найбольш важкія, яскравыя, рэзанансныя, пераканаўчыя і крэатыўныя дзеянні, якія дазвалялі ўвесь час трымаць як унутраны, так і знешні фокус на «справе Бяляцкага».

# ПРАЦА З МІЖНАРОДНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Галоўным аб'ектам кампаніі па вызваленні палітычнага зняволенага, відавочна, з'яўляецца кіраўніцтва краіны — прэзідэнт і ўрад. Аднак ва ўмовах аўтарытарызму, які пануе ў Беларусі, унутранныя шляхі ўплыву на іх вельмі невялікія. Больш дзейснай у такой сітуацыі становіцца праца з міжнароднымі і рэгіянальнымі арганізацыямі, якія могуць праз фармалізаваную камунікацыю ў рамках розных механізмаў аказваць ціск на высокапастаўленых асобаў краіны з мэтай змяніць сітуацыю. Поспех справы залежаў сярод іншага ад ступені пераканаўчасці аргументаў праваабаронцаў, даводзімых да міжнародных арганізацый.

Гэты важны напрамак кампаніі вялі FIDH і «Вясна». Пастаяннымі дзеючымі асобамі тут былі прадстаўнікі абедзвюх арганізацый — Саша Кулаева і Валянцін Стэфановіч. Безумоўна, ім дапамагалі калегі. На пэўных этапах падключаліся праваабаронцы з іншых арганізацый, якія працуюць у напрамку міжнароднага адвакатавання, як, напрыклад, Фонд Дамоў правоў чалавека, а таксама прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці.

З улікам сяброўства Беларусі ў міжнародных арганізацыях, якія вызначаюць парадак дня ў сферы правоў чалавека, у праваабаронцаў акрэсліліся пэўныя адвакатыўныя маршруты. Ім перыядычна даводзілася наносіць візіты ў розныя органы і ўстановы ААН у Жэневе і Нью-Ёрку, у інстытуты АБСЕ ў Варшаве і Вене, а таксама ў Страсбург, дзе знаходзяцца структуры Савета Еўропы і Еўрапейскага Саюза, ды ў Брусель, які фактычна з'яўляецца агульнаеўрапейскай палітычнай сталіцай.

Цягам амаль трох гадоў кампаніі прадстаўнікі «Вясны» і FIDH інфармавалі пра «справу Бяляцкага» асобаў рознага рангу і з рознымі пазіцыямі, хадзілі па шматлікіх еўрапейскіх кабінетах, выступалі з высокіх міжнародных трыбунаў. Камунікацыя адбывалася ў розных фарматах: ад закрытага ліставання і сустрэчаў з высокапастаўленымі еўрачыноўнікамі да публічных дакладаў і адмыслова арганізаваных паралельных мерапрыемстваў падчас сесій Савета па правах чалавека ААН ці канферэнцый АБСЕ.

Натуральна, што для арганізацый «Вясна» і FIDH, чый страшыня і віцэ-прэзідэнт гадамі несправядліва ўтрымліваўся за кратамі, вызваленне Алеся Бяляцкага было задачай нумар адзін, аднак сутнасць працы абедзвюх арганізацый на міжнародным узроўні ніколі не звужалася выключна да вырашэння яго лёсу. «Справа Бяляцкага» заўжды падавалася міжнароднай грамадскасці ў агульным кантэксце: у наступныя гады пасля брутальных падзеяў, звязаных з разгонам дэманстрацыі пратэсту супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў — 2010, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі толькі пагаршалася. Рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці, дэмакратычнай апазіцыі і незалежных сродкаў масавай інфармацыі працягваліся, і беларускія ўлады па-ранейшаму трымалі за кратамі больш за дзясятак палітычных зняволеных, у тым ліку былога кандыдата ў прэзідэнты, актывістаў моладзевых апазіцыйных групаў і лідара праваабарончага руху. Іхняе становішча за кратамі выклікала вялікую трывогу з прычыны нарастальнага ціску на іх з мэтай дамагчыся прызнанняў віны і прашэнняў пра памілаванне.

Для адвакатыўных перамоваў праваабаронцы рыхтавалі аналітычную запіску па ўсіх палітычных зняволеных, дзе імёны былі пададзены ў алфавітным парадку і пастаянна абнаўлялася інфармацыя адносна іх.

Было вельмі важна распаўсюджваць гэтую інфармацыю сярод прадстаўнікоў Еўракамісіі, уплывовых фракцыяў Еўрапарламента, дыпламатычных місій краінаў-сябраў ЕС з тым, каб яны маглі абапірацца на яе падчас кантактаў з афіцыйным Мінскам. Праваабаронцы дамагаліся, каб безумоўнай перадумовай для такіх кантактаў з'яўлялася вызваленне ўсіх палітвязняў. Пры кожнай магчымасці для ўдзелу ў такіх сустрэчах запрашаліся сваякі тых, хто знаходзіўся за кратамі.




Жан-Мары Рог і Саша Кулаева (FIDH), Валянцін Стэфановіч («Вясна»)
падчас сустрэчы з еўракамісарам Штэфанам Фюле.
Брусель, 24 студзеня 2012 г. Фота з архіва FIDH

*«Гэтая сустрэча адбылася адразу ж пасля таго, як Мінскі гарадскі суд адмовіў у задавальненні касацыйнай скаргі найвядомейшага праваабаронцы, старшыні ПЦ “Вясна” і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алеся Бяляцкага, якога 24 лістапад 2011 года асудзілі да пазбаўлення волі па палітычна матываваным абвінавачанні, што стала следствам яго працы па падтрымцы ахвяраў палітычных рэпрэсій.*

*Еўракамісар Фюле выказаў глыбокую занепакоенасць з нагоды гэтага рашэння і яшчэ раз заклікаў беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць сп. Бяляцкага, а таксама зняць з яго ўсе абвінавачанні, таксама як і з яго намесніка Валянціна Стэфановіча».*

*З прэс-рэліза па выніках сустрэчы ў Брусэлі 24 студзеня 2012 г.*

---









*«23 студзеня 2012 года ў Брусэлі FIDH арганізавала дыскусію па сітуацыі ў Беларусі з удзелам дэпутатаў Еўрапейскага Парламента і прадстаўнікоў Еўрапейскай камісіі.*

*Еўрадэпутаты — Яцэк Пратасевіч, віцэ-прэзідэнт ЕП і кіраўнік Дэлегацыі па стасунках з Беларуссю, Барбара Лохбілер, прадстаўніца Партыі Зялёных Германіі і прэзідэнт падкамісіі па правах чалавека ЕП, Вернер Шульц, прадстаўнік Партыі Зялёных Германіі і сябра Камісіі замежных справаў ЕП, Марэк Мігальскі, дэпутат ад Польшчы і намеснік сябра Дэлегацыі па стасунках з Беларуссю — выказалі салідарнасць з беларускім праваабаронцам».*

*Інфармацыя сайта spring96.org*

Дэпутаты Еўрапарламента выказалі салідарнасць з Алесем Бяляцкім.
Брусель, 23 студзеня 2012 г. Фота з архіва FIDH

«Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Нідэрландскі Хельсінкскі Камітэт (НХК) запрасілі дэлегацыю беларускіх і расійскіх праваабаронцаў для абмеркавання з уладамі Нідэрландаў пытанні сістэматычных парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі.
У Міністэрстве замежных справаў у Гаазе праваабаронцы сустрэліся з кіраўніком Аддзела Еўропы спадарыняй Дафнэ Бергсма, паслом Нідэрландаў па правах чалавека Ліянэлем Веерам, спецыяльным прадстаўніком МЗС Нідэрландаў па Усходнім партнерстве Дзіркам Янам Копам, прадстаўнікамі аддзелаў па міжнароднай палітыцы і эканамічных сувязях».

*Інфармацыя сайта spring96.org*





«У Парламенце Нідэрландаў прайшлі слуханні на тэму "Беларусь: бізнэс і правы чалавека". Шматлікія кампаніі Нідэрландаў, якія з'яўляюцца асноўным імпарцёрам з Беларусі пасля Расіі, павінныя ведаць пра грубыя парушэнні ў Беларусі, заявіў Ханс ван Бомель, дэпутат парламента Нідэрландаў, які арганізаваў слуханні.
Саша Кулаева з FIDH распавяла парламентарыям пра вынікі даследчай місіі па ўмовах працы і элементах прымусовай працы ў Беларусі, праведзенай сумесна з ПЦ "Вясна" ў чэрвені 2013 года ў шэрагу беларускіх гарадоў. А Юрый Джыбладзэ і Вольга Захарава прадставілі даследаванні пра нідэрландскія інвестыцыі ў Беларусь і адзначылі, што ўмовай супрацоўніцтва з рэжымам Беларусі павінна быць паляпшэнне ў сферы правоў чалавека ў гэтай краіне».



*Інфармацыя сайта spring96.org*

*Сустрэчы беларускіх і расійскіх праваабаронцаў у МЗС і Парламенце Нідэрландаў, арганізаваныя FIDH і НХК. Гаага, 12 верасня 2013 г. Фота з архіва FIDH*




*Першая агульная сустрэча беларускіх і міжнародных праваабаронцаў са спецдакладчыкам ААН Міклашам Харасці. Вільня, 13 снежня 2012 года. Фота з архіва FIDH*

У працы з механізмамі і органамі ААН і АБСЕ праваабаронцы заўжды імкнуцца своечасова і паслядоўна інфармаваць іх пра выпадкі парушэнняў Беларуссю сваіх міжнародных дамоўленасцяў. Такую тактыку «Вясна» і FIDH захоўвалі і падчас кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага: пытанні пра наяўнасць палітычных зняволеных і пераслед праваабаронцаў у Беларусі ўвесь час знаходзіліся ў фокусе абедзвюх міжнародных арганізацый і паўставалі ў іх камунікацыі з дзяржаўнымі органамі. Так, гэтыя пытанні ўключаліся ў рэзалюцыі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і Савета па правах чалавека ААН, у справаздачы спецдакладчыка ААН па Беларусі. Дарэчы, вырашальную ролю ў пытанні ўвядзення мандата краінавага спецдакладчыка мела «справа Бяляцкага»: зняволенне праваабаронцы за яго прафесійную дзейнасць — найбольш яскравае сведчанне крытычнага становішча ў галіне правоў чалавека.

У выпадку з рашэннем па «справе Бяляцкага», прынятым Рабочай группай па адвольных затрыманнях, улады Беларусі абралі тактыку дэманстратыўнага адмаўлення.

Гэтая група незалежных экспертаў, якіх прызначае Савет па правах чалавека ААН, разглядае індывідульныя скаргі на затрыманні, якія не стасуюцца з міжнароднымі нормамі па гэтым пытанні, выкладзенымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ці іншых міжнародна-прававых дакументах, прызнаных адпаведнымі дзяржавамі. Падчас расследавання такіх выпадкаў Рабочая група мае паўнамоцтвы запытваць і атрымліваць інфармацыю ад урада, міжурадавых і няўрадавых арганізацый, а таксама інфармацыю ад зацікаўленых асобаў, іх сем’яў або прадстаўнікоў. Па выніках расследавання Рабочая група робіць даклад на сесіі Савета па правах чалавека і агучвае неабходныя меры для выпраўлення сітуацыі.

Пасля таго, як Рабочая група агучыла сваё рашэнне аб прызнанні затрымання Алеся Бяляцкага адвольным, падкрэсліўшы, што «адэкватны сродак прававой абароны — вызваленне спадара Бяляцкага і прадастаўленне яму права на кампенсацыю», дэлегацыя Беларусі зрабіла заяву, у якой выказала нязгоду з вынікамі разгляду Групай справы Алеся Бяляцкага. Пры гэтым дэлегацыя ўказала, што Рабочая група разгледзела гэтую справу «ў парушэнне свайго мандата», «праігнаравала інфармацыю ўрада па гэтай справе», і заявіла пра «палітычную

ангажаванасць» Рабочай групы і пра тое, што «Беларусь не бачыць сэнсу далейшага ўзаемадзеяння з Рабочай групай у яе цяперашнім складзе». Гэтая заява прагучала падчас 22-й сесіі Савета па правах чалавека ААН у Жэневе, 5 сакавіка 2013 года.



Прэзентацыя даклада Спецдакладчыка па Беларусі Міклаша Харасці на Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку. 28 кастрычніка 2013 г. Фота з архіва FIDH

Для праваабаронцаў рашэнне Рабочай групы стала важкім абгрунтаваннем далейшых заклікаў да вызвалення Алеся Бяляцкага.

Пасля апублікавання рашэння, праваабаронцы распачалі наступныя дзеянні. Фонд Дамоў правоў чалавека падтрымаў даклад Рабочай групы па адвольных затрыманнях, прадстаўнік арганізацыі ў сваім выступе 5 сакавіка 2013 года ў Савеце па правах чалавека заклікаў улады Беларусі «неадкладна і безумоўна вызваліць Алеся Бяляцкага, зняць усе абвінавачанні супраць яго і цалкам рэабілітаваць». Пры гэтым адзначалася: «Да вызвалення Алесю Бяляцкаму павінен быць забяспечаны доступ да любога кшталту патрэбнай яму медыцынскай дапамогі, а яго ўмовы ўтрымання ў турме не павінны ўплываць на яго здароўе».





*FIDH, Amnesty International і Беларускі Дом правоў чалавека імя Барыса Звозкава арганізавалі слуханні для дэлегацый ААН з удзелам беларускіх праваабаронцаў і Міклаша Харасці. Нью-Ёрк, 30 кастрычніка 2013 г. Фота з архіва FIDH*





*Канферэнцыя па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі з удзелам міжнародных і беларускіх праваабаронцаў, сваякоў палітычных вязняў і прадстаўніка Еўрапейскага Саюза ў ААН. Арганізатарам мерапрыемства, якое папярэднічала прадстаўленню даклада спецдакладчыка ААН па Беларусі, выступіў Фонд Дамоў правоў чалавека. Жэнева, 27 траўня 2014 г.*

Тым часам Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў, а таксама намеснік старшыні "Вясны" Валянцін Стэфановіч звярнуліся да міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея з патрабаваннем аб выкананні рашэння Рабочай групы па адвольных затрыманнях ААН па справе Алеся Бяляцкага, паколькі кантроль за выкананнем дзяржорганамі міжнародных дамоваў Беларусі і аказанне садзейнічання ў гэтым уваходзіць у задачы МЗС. У далейшым, у адказе на зварот Валянціна Стэфановіча МЗС указаў, што «Беларусь не мае магчымасці прыняць да разгляду меркаванні Рабочай групы, пра што Савет па правах чалавека ААН і Рабочая група па адвольных затрыманнях праінфармаваныя». У адказе таксама адзначалася, што «выкананне меркаванняў Рабочай групы па адвольных затрыманнях не падпадае пад міжнародныя абавязальніцтвы Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі, удзельніцай якіх з'яўляецца Рэспубліка Беларусь». Свае довады МЗС аргументаваў тым, што «Рабочая група не ўключыла ў свае меркаванні інфармацыю беларускага боку» і сказіла акалічнасці і факты справы Алеся Бяляцкага, тым самым перавысіла свой мандат, а таксама парушыла Кодэкс паводзінаў спецыяльных працэдураў Савета па правах чалавека ААН. У нежаданні адказваць за невыкананне сваіх абавязальніцтваў улады Беларусі прыбегнулі да банальнай «контрмеры»: «лепшая абарона — гэта напад».

fidh
International Federation for Human Rights

*«Рашэнне Рабочай групы па адвольных затрыманнях з'яўляецца знакавай перамогай, бо яно прызнае, што затрыманне Алеся Бяляцкага з'яўляецца адвольным, згодна з міжнародным правам, і рэалізуе права на фінансаванне незалежных няўрадавых арганізацый па правах чалавека... Алесь Бяляцкі павінен быць неадкладна вызвалены, "Вясна" не павінна быць прадметам далейшага праследу».*

*Прэзідэнт FIDH*
*Суэр Белхасэн*

OMCT
SOS-Torture Network

*«Гэтае рашэнне Рабочай групы па адвольных затрыманнях павінна прывесці да паляпшэння становішча праваабаронцаў і НДА ў Беларусі і па-за яе межамі».*

*Генсакратар Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў*
*Джэральд Стэйбрак*

HUMAN RIGHTS HOUSE NETWORK

*«Дагэтуль беларускія ўлады сцвярджалі, што Алесь Бяляцкі зрабіў нешта незаконнае і яго зняволенне з'яўляецца следствам яго незаконнай дзейнасці. Гэтае рашэнне знакавае, бо яно сцвярджае, што затрыманне Алеся Бяляцкага з'яўляецца следствам яго праваабарончай дзейнасці, і ён быў асуджаны на 4,5 гады пазбаўлення волі праз сваю праваабарончую актыўнасць. Гэта затрыманне было сімвалічным для ўрада ў якасці прыкладу таго, што яны могуць зрабіць з самым вядомым праваабаронцам Беларусі. Гэтае рашэнне з'яўляецца адным з тых крокаў, якія былі зроблены сіламі шматлікіх міжнародных і беларускіх НДА, каб акцэнтаваць увагу на парушэннях правоў чалавека ў Беларусі. Напрыклад, важна было аднавіць мандат Спецыяльнага дакладчыка ААН па Беларусі, цяпер у нас ёсць гэтае рашэнне Рабочай групы па адвольных затрыманнях ААН. І мы павінны працягнуць працу з пытаннямі, якія тычацца сітуацыі ў Беларусі».*

*Фларыян Ірмінгер,*
*кіраўнік па адвакацыі Фонда Дамоў правоў чалавека*



*Алесь Бяляцкі на 28 сесіі Савета па правах чалавека ААН. Жэнева, 5 сакавіка 2015 г. Фота з архіва ПЦ "Вясна"*

Праз два гады, у 2015-м, Алесь Бяляцкі ўжо сам выступаў на сакавіцкай сесіі Савета па правах чалавека ААН у якасці віцэ-прэзідэнта FIDH. У сваёй трохвілінннай прамове ад імя ўсіх праваабаронцаў свету ён палічыў неабходным адзначыць тры важныя рэчы: пра карысць краінавых спецдакладчыкаў, чый мандат можна разглядаць як пэўны абмежавальнік рэпрэсій з боку дзяржаваў, якія перманентна парушаюць правы чалавека; пра тое, што ўмяшанне міжнародных праваабарончых механізмаў дапамагае выяўляць псеўдазаконны характар пераследу, якому падвяргаюцца праваабаронцы ў многіх краінах свету; пра тое, што часта ўлады краінаў-парушальнікаў правоў чалавека прыкрываюцца канцэпцыяй культурнага рэлятывізму — спасылаючыся на традыцыі, рэлігію, пэўныя нацыянальныя каштоўнасці, таму на міжнародным узроўні вельмі важна адстойваць прынцып універсальнасці, які прадугледжвае наяўнасць агульных стандартаў правоў чалавека, прымяняльных у любым грамадстве. Праваабаронца заклікаў Савет па правах чалавека выкарыстоўваць усе свае сродкі і магчымасці для абароны грамадзянскай супольнасці ў краінах, дзе яна пераследуецца.

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

## «МАКЕЙ У ЕС — У ТУРМЕ АЛЕСЬ!»

Пікет з нагоды візіту ў Брусель кіраўніка беларускага МЗС ладзіла FIDH 22 ліпеня 2013 года. У гэты дзень Уладзімір Макей, па запрашэнні вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан і еўракамісара па пытаннях пашырэння і еўрапейскай палітыцы суседства Штэфана Фюле, браў удзел у сустрэчы кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў краінаў Усходняга партнёрства. Сустрэчы папярэднічала паседжанне Савета міністраў замежных справаў Еўрасаюза, які за месяц да гэтага прыняў рашэнне аб прыпыненні візавых санкцый у дачыненні да Уладзіміра Макея, які сярод іншых высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў быў занесены ў чорны спіс ЕС (на той момант як кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта) за датычнасць да жорсткага разгону акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года і пераследу актывістаў апазіцыі ў далейшым. Такім чынам, гэта была першая паездка У. Макея ў Еўропу пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.




Сваім пікетам FIDH хацела нагадаць удзельнікам гэтых сустрэчаў высокага ўзроўню, што ў Беларусі за кратамі па-ранейшаму знаходзіліся 12 палітычных вязняў.

Праваабаронцы выйшлі на плошчу Шумана, вакол якой размешчаны ўстановы Еўракамісіі, з партрэтамі беларускіх палітзняволеных і скандавалі лозунгі «Свабоду палітзняволеным!» і «Вызваліце іх зараз!». Пікетоўшчыкі былі апранутыя ў майкі з партрэтамі віцэ-прэзідэнта FIDH, які на той момант ужо амаль два гады знаходзіўся за кратамі.




*Пікет насупраць Еўракамісіі з нагоды візіту ў Брусель кіраўніка МЗС Беларусі Уладзіміра Макея. 22 ліпеня 2013 года. Фота з архіва FIDH*

«ЕС павінен скарыстацца гэтай ключавой магчымасцю візіту сп. Макея, каб, між іншага, патрабаваць вызвалення палітычных зняволеных. Беларусь знаходзіцца ў сістэмным крызісе з пункту гледжання правоў чалавека, і ЕС павінен займаць цвёрдую пазіцыю і настойваць на сістэмных зменах, што мусіць быць адлюстравана ў парадку дня сустрэчаў на самым высокім узроўні. Правы чалавека і палітычныя зняволеныя не з'яўляюцца козырам, якім можна гандляваць».

З заявы ад 18 ліпеня 2013 года,
якой FIDH заклікала падтрымаць палітвязняў Беларусі

«Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей прыехаў сёння ў Брусель на абед, у той час як 12 палітвязняў у Беларусі не могуць нармальна харчавацца, знаходзячыся ў турмах...
ААН у ліку іншых шматразова асуджала сітуацыю ў Беларусі, аднак ніякага прагрэсу ў апошнія два з паловай гады не назіраецца. І сёння мы хочам спытаць міністра замежных спраў Беларусі: калі палітвязні гэтак жа, як і ён, змогуць прыехаць у Брусель на абед?
ЕС вядзе дыялог з парушальнікамі права. Сапраўды, неабходна, каб яны пачулі наш голас. І калі забарона на ўезд у ЕС здымаецца, яна павінна здымацца ў абмен на забеспячэнне правоў чалавека і свабоду палітвязняў у Беларусі».

Антуан Мадэлен, дырэктар па міжнародным адвакатаванні FIDH



Янэз Ленарчыч, кіраўнік БДІПЧ АБСЕ. Фота OSCE / Susanna Loof

## КІРАЎНІК БДІПЧ АБСЕ: АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ПАВІНЕН БЫЦЬ ВЫЗВАЛЕНЫ

Янэз Ленарчыч, дырэктар Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ, 25 лістапада нагадаў беларускім уладам пра ранейшыя заклікі старшыняў АБСЕ аб вызваленні праваабаронцы Алеся Бяляцкага і далучыўся да іх, назваўшы справу Бяляцкага парушэннем абавязальніцтваў у рамках АБСЕ.
Адзначыўшы, што ў нядзелю, 24 лістапада, была другая гадавіна з моманту вынясення прысуду, Ленарчыч звярнуў асаблівую ўвагу на справу Бяляцкага, выказваючы заклапочанасць у сувязі з агульным становішчам праваабаронцаў у Беларусі.

> *«Злачынства, у якім Бяляцкі быў прызнаны вінаватым, з'явілася прамым вынікам забароны з боку ўладаў на працу яго арганізацыі па прасоўванні і абароне правоў чалавека ў Беларусі»*, — сказаў сп. Ленарчыч. *«Беларусь узяла на сябе абавязальніцтвы паляпшаць, а не замінаць магчымасцям НДА па садзейнічанні захаванню правоў чалавека і асноўных свабодаў. Але прысуд Бяляцкаму з'яўляецца вынікам менавіта такіх перашкодаў».*

Абвінавачванні яму былі прад'яўленыя пасля таго, як беларускія ўлады некалькі разоў адмовілі «Вясне» ў перарэгістрацыі ў адпаведнасці з рашэннем Вярхоўнага суда ад 2003 года аб ліквідацыі арганізацыі. У 2007 годзе Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў гэтае рашэнне парушэннем права на свабоду асацыяцый.
Тагачасны міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс і міністр замежных спраў і гандлю Ірландыі Імон Гілмар распаўсюдзілі заклікі да неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага падчас старшынстваў сваіх краінаў у АБСЕ ў 2011 і 2012 гг. адпаведна.

> *«Ні абвінавачванні, ні прысуд не адбыліся б, калі б “Вясне” неаднаразова не адмаўлялі ў рэгістрацыі, а Бяляцкаму не адмаўлялі ў карыстанні яго фундаментальным правам на свабоду асацыяцый», — сказаў Ленарчыч. «Як і ўсе іншыя дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ, Беларусь узяла на сябе абавязальніцтва гарантаваць гэтае права».*

*Прэс-рэліз БДІПЧ АБСЕ ад 25 лістапада 2013 года*

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ — ПЕРШЫ ЛАЎРЭАТ ПРАВААБАРОНЧАЙ ПРЭМІІ ІМЯ ВАЦЛАВА ГАВЕЛА




*Сайт прэміі website-pace.net*

Праваабарончая прэмія імя Вацлава Гавела была заснаваная Парламенцкай Асамблеяй Савета Еўропы ў 2013 годзе і прысуджаецца сумесна з бібліятэкай імя Вацлава Гавела і Фондам «Хартыя 77» «за выбітныя дасягненні актывістаў грамадзянскай супольнасці ў абароне правоў чалавека ў Еўропе і па-за яе межамі».

Гісторыя гэтай прэстыжнай узнагароды распачалася з адзнакі дзейнасці беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Паколькі лаўрэат знаходзіўся ў зняволенні, прэмію атрымлівала яго жонка Наталля Пінчук. Для гэтага яна была запрошаная на адмысловую цырымонію, якая праходзіла ў Палацы Еўропы ў Страсбургу 30 верасня 2013 года, у дзень адкрыцця восеньскай пленарнай сесіі ПАСЕ.

Падчас уручэння прэміі старшыня ПАСЕ і кіраўнік журы Прэміі Жан-Клод Міньён заявіў: «Сваёй штодзённай барацьбой з парушэннямі правоў чалавека, несправядлівасцю, самавольствам і аўтарытарызмам Алесь Бяляцкі няўхільна спрыяў таму, каб грамадзяне Беларусі маглі аднойчы жыць паводле нашых еўрапейскіх стандартаў».

Прыняўшы ўзнагароду, Наталля Пінчук адзначыла, што «зараз яму няпроста, ён знаходзіцца ў больш жорсткіх умовах, чым іншыя палітвязні, а ў турмах Беларусі дагэтуль яшчэ 10 палітвязняў, якія зрабілі свой выбар на карысць дэмакратыі і свабоды. Прэмія, якую атрымаў Алесь, гэта знак салідарнасці не толькі з ім, але і з усёй беларускай дэмакратычнай супольнасцю».

Падчас цырымоніі прадстаўнікі двух іншых намінантаў — Асацыяцыі маладых юрыстаў з Грузіі і Сеткі па абароне правоў з Кітая — таксама атрымалі дыпломы. Усяго ў 2013 годзе ў ПАСЕ былі пададзеныя 27 заявак, якія адпавядалі крытэрам Прэміі. Беларускага праваабаронцу-палітвязня на ўзнагароду вылучалі больш за 30 польскіх няўрадавых арганізацый па ініцыятыве Фонда Стэфана Баторыя.




*Наталля Пінчук падчас атрымання ўзнагароды. Фота civicsolidarity.org*

Dear Ales,

**Václav Havel prize**

I write with warm wishes following the news that you were recently awarded the Václav Havel prize for human rights. It was an honour for us at MDAC to be nominated and long-listed for the same prize, and we warmly congratulate you on being the first awardee.

We work with human rights defenders around the world, all of whom fight for the rights of people with mental disabilities. People such as yourself inspire us to continue to speak up against the human rights violations that many people continue to face every day. We never tire of raising the awareness of just how many people find themselves locked in institutions simply for having a disability, or those who are subjected to psychiatric treatment due to their political views.

Our staff have been following your case for some time and we believe that your continuing detention is unjust. We have also written to the Belarussian government to express our concern. I know that this may be little comfort to you, but I hope you can feel that the international community is with you.

Please accept our warmest wishes, and we look forward to the day when you regain your freedom.

Yours sincerely,

Oliver Lewis

Oliver Lewis
Executive Director

*Віншаванні Алесю Бяляцкаму ад намінантаў на прэмію Гавела з Венгрыі — Цэнтра абароны асобаў з псіхічнай інваліднасцю (Mental Disability Advocacy Center (MDAC)).*

«…Нашы супрацоўнікі сочаць за Вашай справай на працягу пэўнага часу, і мы верым, што Ваша зняволенне з'яўляецца несправядлівым. Мы таксама звярталіся да беларускага ўрада, каб выказаць нашу заклапочанасць. Я ведаю, што гэта можа быць слабым суцяшэннем для Вас, але я спадзяюся, што Вы адчуваеце, што міжнародная супольнасць разам з Вамі.
Калі ласка, прыміце нашы самыя цёплыя пажаданні, і мы з нецярпеннем чакаем таго дня, калі Вы зноў апынецеся на волі.

З павагай, Олівер Льюіс,
выканаўчы дырэктар MDAC»



*Вацлаў Гавел уручае Алесю Бляцкаму і «Вясне» прэстыжную чэшскую прэмію «Чалавек чалавеку» (Homo Homini) за 2005 год, заснавальніцай якой з'яўляецца няўрадавая арганізацыя «Чалавек у бядзе». Прага, 1 сакавіка 2006 г. Фота з архіва ПЦ «Вясна»*

## FIDH І «ВЯСНА» ШЧЫРА ВІНШУЮЦЬ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА З ВЫСОКАЙ УЗНАГАРОДАЙ

Савет Еўропы абвясціў аб прысуджэнні праваабарончай прэміі імя Вацлава Гавела за 2013 год Алесю Бяляцкаму — старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнту FIDH. Нашыя арганізацыі шчыра віншуюць лаўрэата з гэтай высокай узнагародай.

Намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч адзначыў: *«Прысуджэнне гэтай прэміі Алесю Бяляцкаму глыбока сімвалічнае. Яны сустракаліся, а за некалькі дзён да сваёй смерці Вацлаў Гавел напісаў Алесю, які ўжо знаходзіўся ў турме, ліст, у якім выказаў яму падтрымку і надзею на тое, што калі-небудзь Беларусь стане дэмакратычнай дзяржавай».*

*«Правячы ў Беларусі рэжым развязаў ганебнае цкаванне сяброў «Вясны» і іншых праваабарончых арганізацый краіны ў адплату за іх легітымную і выключна важную дзейнасць, і, без сумневаў, звяртаецца да крымінальных абвінавачванняў», — заявіў прэзідэнт FIDH Карым Лахіджы. «Я спадзяюся, што гэтая прэмія нагадае сусветнай супольнасці, і асабліва — еўрапейскім дзяржавам, што зусім непадалёк ад іх ёсць яшчэ краіны, улады якіх беспакарана падвяргаюць рэпрэсіям свой уласны народ».*

*З прэс-рэліза FIDH і ПЦ «Вясна» ад 30 верасня 2013 г.*

У сусветнай практыцы гучныя судовыя працэсы часта выкарыстоўваюцца як адзін з метадаў адвакатавання. Няўрадавыя арганізацыі праз стратэгічныя цяжбы спрабуюць спрыяць змене заканадаўства або практыкі яго прымянення з тым, каб гэта ў далейшым працавала на карысць правоў чалавека.

У выпадку са «справай Бяляцкага», міжнародная праваабарончая супольнасць адзінадушна заявіла, што крымінальны пераслед наўпрост звязаны з дзейнасцю Праваабарончага цэнтра «Вясна». Восем гадоў таму ўлады незаконна пазбавілі рэгістрацыі «Вясну» і выціснулі яе з прававога поля. Гэта было пацверджана адпаведным рашэннем Камітэта па правах чалавека ААН. Крымінальны пераслед Алеся Бяляцкага за дзеянні, звязаныя з атрыманнем і расходаваннем сродкаў на фінансаванне дзейнасці «Вясны», стаў прамым следствам парушэння яго права на свабоду асацыяцыі.

Пасля вынясення прысуду Алесю Бяляцкаму рабіліся далейшыя крокі, каб давесці на міжнародным узроўні, што нацыянальнае заканадаўства аб асацыяцыях не адпавядае міжнародным стандартам. І што праз крымінальны пераслед праваабаронцы беларуская дзяржава парушыла ўзятыя на сябе міжнародныя абавязкі ў галіне правоў чалавека.

Пасля безвыніковага абскарджання прысуду на нацыянальным узроўні — у Мінскім гарадскім, а затым у Вярхоўным судзе, судовая справа выйшла на міжнародны ўзровень. Ад імя Алеся Бяляцкага яго жонка Наталля Пінчук і Генеральны дырэктар FIDH Антуан Бернар падалі скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Камітэт разглядае індывідуальныя звароты аб парушэнні дзяржавай правоў, замацаваных Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. Паводле прынятых правілаў, скаргу ў Камітэт могуць падаваць толькі самі асобы, якія лічаць сябе ахвярамі парушэння. Аднак у выключных выпадках, як гэта было ў сітуацыі з Алесем, які знаходзіўся ў зняволенні, Камітэт прымае скаргі, пададзеныя членамі сям'і ці ўпаўнаважанай асобай, якая мае адпаведную даверанасць. Такім чынам, скарга ад імя Алеся Бяляцкага была пададзеная ў Камітэт

«У звароце абскарджваюцца парушэнні Рэспублікай Беларусь правоў, гарантаваных міжнароднай дамовай, падпісанай і ратыфікаванай гэтай дзяржавай — Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах:

- Неправамерныя абмежаванні права на свабоду асацыяцыі (артыкул 22 Пакта): адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Вясна» ў 2007 і 2009 гадах, афіцыйнае папярэджанне, вынесенае Алесю Бяляцкаму Генеральнай пракуратурай за ажыццяўленне ім дзейнасці ад імя незарэгістраванага грамадскага аб'яднання ў 2011 годзе, а таксама прымяненне крымінальнай адказнасці па абвінавачванні ў нясплаце падаткаў са сродкаў, атрыманых і выдаткаваных для легітымных мэтаў дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна»;
- Парушэнні права на справядлівае судовае разбіральніцтва (артыкул 14 Пакта): права на разгляд справы незалежным судом, прэзумпцыі невінаватасці, роўнасці і спаборнасці бакоў, правы абвінавачанага быць судзімым у яго прысутнасці;
- Парушэнне права на свабоду і асабістую недатыкальнасць (артыкул 9 Пакта) пры ўжыванні і прадаўжэнні меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту ў ходзе вытворчасці папярэдняга расследавання і разгляду крымінальнай справы па абвінавачванні Алеся Бяляцкага ў судзе.

Разгляд Камітэтам па правах чалавека ААН справы Алеся Бяляцкага і прававая ацэнка заяўленых парушэнняў гэтым кантрольным міжнародным органам значныя для ўсёй праваабарончай супольнасці Беларусі, бо вынік разгляду справы павінен уплываць на фарміраванне практыкі (як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўні) у дачыненні да сяброў беларускіх асацыяцый, наўмысна выцесненых з прававога поля і пастаўленых у тыя ж умовы, што і Алесь Бяляцкі і яго арганізацыя».

*З прэс-рэліза FIDH ад 27 чэрвеня 2012 года.*

12 красавіка 2012 года і праз два месяцы прынятая да разгляду.

Пасля таго, як скарга праходзіць кантроль на прымальнасць, яна накіроўваецца Камітэтам дзяржаве, якая на працягу шасці месяцаў мусіць даць тлумачэнні і інфармацыю па справе. Копію гэтых тлумачэнняў Камітэт дасылае заяўнікам, каб тыя таксама маглі даць свае заўвагі і каментары. Але ўжо ў ліпені 2012 года пастаянная місія Рэспублікі Беларусь пры офісе ААН у Жэневе даслала ў Камітэт ноту, у якой заявіла пра адмову дзяржавы супрацоўнічаць з Камітэтам па справе Алеся Бяляцкага. У выніку, урад Беларусі не падаў у Камітэт ніякіх паведамленняў па сутнасці справы, нягледзячы на два напамінанні з боку Камітэта. Такім чынам разгляд скаргі зацягваўся.

Прайшло больш за два гады, калі Наталля Пінчук і Антуан Бернар вырашылі звярнуцца ў Камітэт з просьбай пра хутчэйшы разгляд скаргі. Адмова дзяржавы ад камунікацыі з Камітэтам не з’яўлялася перашкодай для гэтага. Да гэтага кроку заяўнікоў падштурхнула тое, што Алесь Бяляцкі працяглы час знаходзіўся ў цяжкіх умовах папраўчай калоніі, магчымасці яго праваой абароны ўнутры дзяржавы былі вычарпаныя, і нават разгорнутая міжнародная кампанія за вызваленне палітычнага вязня на той момант не паўплывала на паляпшэнне яго становішча.



Антуан Бернар. Фота з архіва FIDH

*«Адмова ад удзелу ў працэдуры па скаргах у Камітэт па правах чалавека азначае парушэнне Рэспублікай Беларусь прынцыпу добрасумленнага выканання міжнародных дамоваў, устаноўленага артыкулам 26 Венскай канвенцыі аб праве міжнародных дамоваў, удзельніцай якой з’яўляецца Беларусь, а таксама ігнараванне яе абавязацельстваў па Факультатыўным пратаколе да Пакта. Гэта дзяржава неаднаразова дэманстравала грубыя парушэнні Пакта і Факультатыўнага пратакола, ігнаруючы, напрыклад, патрабаванні Камітэта па правах чалавека прыпыніць прымяненне вышэйшай меры пакарання да разгляду Камітэтам скаргаў, пададзеных ад імя асуджаных, а таксама і па іншых справах, разгледжаных Камітэтам. Пазіцыя, занятая па справе Алеся Бяляцкага, на жаль, працягвае гэтую тэндэнцыю. Падобнае невыкананне міжнародных дамоваў недапушчальна і фактычна азначае адмову ад супрацоўніцтва з ААН, што канчаткова падрывае аўтарытэт дзяржавы, якая парушае як правы сваіх грамадзян на ўнутраным узроўні, так і свае абавязальніцтвы на ўзроўні міжнародным».*

*Антуан Бернар, гендырэктар FIDH,*
*прафесар міжнароднага права.*

*«Алесь Бяляцкі мае патрэбу ў міжнароднай абароне. Разгляд Камітэтам яго справы дазволіць прад’явіць дзяржаве прававую аргументацыю, заснаваную на прынятых на сябе Беларуссю міжнародных абавязальніцтвах, што неабходна для далейшай працы, накіраванай на вызваленне Алеся і перагляд вынесенага яму прысуду ў рамках унутранай прававой сістэмы дзяржавы. Гэта справа таксама з’яўляецца прэцэдэнтнай, бо яна суадносіцца з пастаянным ціскам, які спазнаюць на сабе іншыя праваабаронцы ў краіне. Мы пераканаўча просім вас разгледзець дадзенае Паведамленне па сутнасці ў тэрміновым і прыярытэтным парадку пры адсутнасці каментарыяў дзяржавы да Паведамлення».*

*З адкрытага ліста Наталлі Пінчук і Антуана Бернара ў КПЧ ААН*

«Асуджаны да зняволення ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму на чатыры з паловай гады, Алесь Бяляцкі і там падвяргаецца ціску і абмежаванням.

З сакавіка па чэрвень 2012 года адміністрацыяй калоніі да Алеся Бяляцкага ўжытыя тры дысцыплінарныя спагнанні, якія ўключаюць пазбаўленне чарговага доўгага спаткання (з двух, прадугледжаных на працягу года). На падставе гэтых трох спагнанняў Алесь у канцы чэрвеня 2012 года прызнаны злосным парушальнікам устаноўленага парадку адбывання пакарання. Гэта перакрэсліла магчымасць прымянення да яго Закона «Аб амністыі», прынятага ў 2012 годзе, а таксама пацягнула змяншэнне штомесячнага памеру грашовых сродкаў на асабовым рахунку, якія можна расходаваць на набыццё прадуктаў харчавання і прадметаў першай неабходнасці, з пяці да адной базавай велічыні (з 500 000 да 100 000 беларускіх рублёў).



Фота з асабістага архіва Алеся Бяляцкага

Яшчэ два спагнанні, ужытыя да Алеся Бяляцкага ў жніўні 2012 года: пазбаўленне чарговай харчовай перадачы (з дзвюх прадугледжаных на працягу года) і пазбаўленне чарговага, ужо кароткатэрміновага, спаткання (таксама з двух прадугледжаных на працягу года).

Тым самым, да канца года Алесь Бяляцкі не атрымае ні спаткання з жонкай, ні перадачы. А колькасць грашовых сродкаў на асабовым рахунку для расходавання можа быць адноўлена толькі пры скасаванні статусу злоснага парушальніка рэжыму ўтрымання.

У цяперашні час Алесь Бяляцкі працуе ў швейным цэху шэсць дзён на тыдзень, пазменна. Яго заробак за месяц — каля 100 000 беларускіх рублёў. Пасля вылікаў з заробку ён атрымлівае ад 17 да 45 тысяч беларускіх рублёў.

> Трывожнымі з’яўляюцца і звесткі, атрыманыя ад зняволеных, якія адбывалі пакаранне ў той жа калоніі, што і Бяляцкі, і якія выйшлі на свабоду, згодна з якімі адміністрацыя калоніі ўвяла фактычную забарону на зносіны з ім. Зняволеныя, з якімі мае зносіны Бяляцкі, выклікаюцца ў штаб калоніі для прафілактычных гутарак, у якіх адміністрацыя папярэджвае асуджаных пра «наступствы» парушэння забароны.
> Такім чынам, штучна ствараецца дадатковая ізаляцыя і аказваецца псіхалагічны ціск на Алеся Бяляцкага, пазбаўленага зносін з жонкай і абмежаванага ў — і так нязначных ва ўмовах калоніі — прадуктах харчавання і грашовых сродках».
>
> *З заявы FIDH ад 24 верасня 2012 года.*

Гэты зварот быў дадатковым інструментам ціску на беларускія ўлады. Ён нагадваў ім, што міжнародная супольнасць па-ранейшаму пільна сочыць за лёсам Алеся Бяляцкага, асуджае дзяржаву за пераслед праваабаронцы і не збіраецца дараваць ёй гэта.

> *«Дадзенае рашэнне Камітэта па правах чалавека на аснове міжнароднага права прызнае легітымнасць дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна» і цалкам рэабілітуе яго кіраўніка Алеся Бяляцкага».*
>
> *Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні «Вясны»*

Урэшце ўжо пасля вызвалення Алеся Бяляцкага 24 кастрычніка 2014 года Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне па справе праваабаронцы. Яно стала важным пасланнем усім рэжымам, якія маніпулююць заканадаўствам, парушаючы тым самым свабоду асацыяцый. Прыцягненне Алеся Бяляцкага да крымінальнай адказнасці Камітэт расцаніў як парушэнне гэтага права.

Камітэт таксама заключыў, што ўтрыманне пад вартай Алеся Бяляцкага ў перыяд папярэдняга следства мела адвольны характар, што ў працэсе крымінальнага пераследу была парушаная прэзумпцыя невінаватасці. Гэта выявілася ў інфармацыях дзяржаўных СМІ і выказваннях Прэзідэнта пра вінаватасць Алеся Бяляцкага, якія з’яўляліся да ўступлення прысуду ў законную сілу, а таксама ў тым, што падчас судовых паседжанняў праваабаронцу ўтрымлівалі ў клетцы і дастаўлялі ў суд у кайданках.

Паводле рашэння Камітэта, Алесь Бяляцкі мае права на належныя сродкі прававой абароны: перагляд заявы «Вясны» аб дзяржаўнай рэгістрацыі, зняцце судзімасці, адэкватную кампенсацыю, уключаючы пакрыццё выплат, зробленых паводле судовых рашэнняў. Акрамя таго, Камітэт пастанавіў, што дзяржава павінна перагледзець сваё ўнутранае заканадаўства аб асацыяцыях і прывесці яго ў адпаведнасць з артыкулам 22 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Такім чынам, Рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН па справе Алеся Бяляцкага стварыла прэцэдэнт: яно ясна дэманструе, што дзеянні дзяржавы, накіраваныя на перашкоды дзейнасці праваабарончай арганізацыі — ад адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі асацыяцыі да прыцягнення да адказнасці яе сяброў за ажыццяўленне імі права на асацыяцыю — з'яўляюцца парушэннем міжнароднага права. Ніякія маніпуляцыі з унутраным заканадаўствам з боку дзяржаўных органаў не хаваюць гэтага парушэння перад абліччам міжнароднай супольнасці. FIDH і «Вясна» разглядаюць гэтае рашэнне як аўтарытэтную крыніцу прававых аргументаў супраць узмацніўшагася ціску на праваабаронцаў і іх арганізацыі.

*«Камітэт апавясціў аб сваім рашэнні дзяржаву, якая павінна даць сродкі прававой абароны, названыя Камітэтам... Гэтае рашэнне мае найвялікшую важнасць для «Вясны», усіх беларускіх праваабарончых арганізацый і для свабоды асацыяцый ва ўсім свеце ў момант, калі шматлікія рэжымы спрабуюць заглушыць любую крытыку ў свой адрас».*

*Карым Лахіджы, Прэзідэнт FIDH*

Сам Алесь Бяляцкі рашэнне Камітэта ААН успрыняў як пацверджанне асабістай невінаватасці.

Беларуская дзяржава не выконвае рашэнні КПЧ ААН. Яны даюць, хутчэй, маральнае задавальненне. Беларускія суды залежаць ад выканаўчай улады, таму наўрад ці варта спадзявацца на адмену прысуда, зыходзячы з гэтага рашэння. Тым не менш, Алесь Бяляцкі і Антуан Бернар накіравалі ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, якое кантралюе выкананне дзяржаўнымі органамі міжнародных дамоваў, зварот з патрабаваннем прыняць меры па выкананні асноўных патрабаванняў Камітэта — рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна» і анулявання судзімасці кіраўніка арганізацыі.

Адказу дасюль яшчэ не было...

«Гэтае рашэнне КПЧ ААН доказвае маю невінаватасць, тое, пра што я сцвярджаў усе гэтыя гады — перад зняволеннем, падчас суда, у зняволенні. Камітэт па правах чалавека ААН — найвышэйшая міжнародная інстанцыя, на сённяшні дзень даступная беларускаму грамадству, і ў Камітэт уваходзяць юрысты з розных краінаў, таму іх ацэнка ўспрымаецца як аб’ектыўная і важкая. Таму, вядома, я задаволены тым, што міжнародная грамадскасць расцаніла гэты прысуд як несправядлівы. Такім чынам, я адчуваю сябе вельмі ўпэўнена…
Што б там ні казалі беларускія ўлады ці як бы ні рабілі выгляд, што іх гэтае рашэнне не датычыцца, такія рэчы моцна б’юць па аўтарытэце “незалежнага” беларускага суда. І прынамсі, хацелася б думаць, што беларускія ўлады будуць дзейнічаць больш узважліва і абачліва і спыняць пераслед праваабаронцаў, грамадскіх актывістаў за нашую дзейнасць.
І яшчэ адзін важны момант — па падобных артыкулах былі асуджаныя праваабаронцы ў іншых краінах, не толькі постсавецкіх. Такія прысуды мы бачылі ў Азербайджане і Іране, у Расіі яны таксама намячаюцца.
І гэтае рашэнне сапраўды можа паслужыць абгрунтаваннем для абароны праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў, якія могуць апынуцца ў падобных сітуацыях у іншых краінах. Гэта ясны пасыл Камітэта па правах чалавека ААН пра тое, што падобныя прысуды не маюць ніякіх перспектываў быць апраўданымі і прынятымі як законныя з боку шырокай міжнароднай супольнасці, якая ўключае не толькі еўрапейскія краіны, а фактычна прадстаўляе ўвесь свет. Магчыма, іншыя дзяржавы пачнуць больш лічыцца з пагрозай непрызнання такіх палітычных прысудаў. Будзем спадзявацца, што гэта абмяжуе сваволле ўладаў аўтарытарных краінаў».



*Фота Сяргея Грыца*

# ІНФАРМАВАННЕ І ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ З МЕДЫЯ

Праца па інфармаванні шырокіх колаў грамадскасці пра справу Алеся Бяляцкага вялася фактычна ў рэжыме non-stop не толькі ўсе гады зняволення праваабаронцы, але і пэўны перыяд пасля яго вызвалення. Пры гэтым былі два асноўныя цэнтры акумуляцыі рознабаковай інфармацыі — «Вясна» ўнутры Беларусі і FIDH у міжнародным асяродку. Адпаведна, уся публічная інфармацыя з’яўлялася на сайце «Вясны» Spring96.org пад тэгам «крымінальная справа Алеся Бяляцкага» і на адмыслова створаным FIDH сайце Freeales.fidh.net.

Для зручнасці пошуку, на сайце Spring96.org быў змешчаны флэш-банер са здымкам зняволенага кіраўніка «Вясны» і дынамічным надпісам «Ён бараніў твае правы 15 гадоў — падумай пра яго, хаця б 15 секунд», пад якім збіралася інфармацыя, пазначаная адмысловым тэгам «крымінальная справа Алеся Бяляцкага». Гэта была інфармацыя пра самыя розныя аспекты становішча палітычнага вязня: стратэгічную судовую цяжбу па яго справе, умовы ўтрымання ў зняволенні, сітуацыю ў яго сям’і, ліставанне з сябрамі і калегамі, усемагчымыя захады па яго вызваленні і падтрымцы, рэакцыі афіцыйнага Мінска на крытыку міжнароднай супольнасці і гэтак далей.

Пра другі інтэрнэт-рэсурс і яго функцыянальнае значэнне варта распавесці больш падрабязна. Сайт «Свабоду Алесю Бяляцкаму!» (Freeales.fidh.net) быў створаны FIDH у першыя дні пасля арышту віцэ-прэзідэнта арганізацыі і распавядаў пра пераслед, умовы ўтрымання ў зняволенні і міжнародную кампанію за яго вызваленне на трох мовах — рускай, англійскай і французскай. Сярод асноўных рубрык — «Навіны ад Алеся Бяляцкага», «Рэакцыя міжнароднай супольнасці», «Салідарнасць». Паколькі «справа Бяляцкага» стала сімвалам пастаяннага пераследу прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці ўладамі, то тэматыка сайта паступова пашырылася, і ён атрымаў назву «Беларусь: грамадзянская супольнасць пад ударам». Адпаведна, стала больш шырока асвятляцца становішча грамадзянскай супольнасці ў краіне, дзеянні, якія прадпрымаліся на міжнародным узроўні для спынення пераследу супраць яго, а таксама паведамлялася пра тое, што яшчэ можна зрабіць з гэтай мэтай.

Важнай на сайце Freeales.fidh.net была рубрыка «Дзейнічайце!», дзе распавядалася, як па ўсім свеце далучыцца да кампаніі салідарнасці з Алесем Бяляцкім і грамадзянскай супольнасцю Беларусі. «FIDH і Праваабарончы цэнтр “Вясна” выступаюць гарантамі невінаватасці Алеся Бяляцкага і заклікаюць да мабілізацыі на ўсіх узроўнях, каб дамагчыся яго неадкладнага вызвалення і зняцця з яго ўсіх прад’яўленых абвінавачванняў». Пасля гэтага закліку прапаноўваліся магчымыя дзеянні:




*Сайт freeales.fidh.net*

- Напісаць ліст падтрымкі Алесю ў калонію на ўказаны адрас.
- Падпісаць петыцыю за яго неадкладнае вызваленне.
- Арганізаваць акцыі салідарнасці і даслаць для публікацыі на сайце фота-справаздачы. Пры гэтым арганізатарам акцый прапаноўвалася раздрукаваць і распаўсюдзіць:
  - постары FIDH з заклікам вызваліць Алеся Бяляцкага на рускай, беларускай і англійскай мовах;
  - інфармацыю пра Алеся і яго праваабарончую дзейнасць з раздзела «Пра Алеся Бяляцкага і Чаму Алесь у турме».
- Сачыць за інфармацыяй пра Алеся Бяляцкага і беларускіх праваабаронцаў на сайце і распаўсюджваць яе сярод знаёмых і ў Інтэрнэце. Для гэтага:
  - падпісацца на e-mail рассылку сайта;
  - распаўсюдзіць інфармацыю пра сайт Freeales.fidh.net у блогах праз адмыслова створаныя банеры на рускай і англійскай мовах;
  - дапамагаць у абнаўленні сайта, дасылаючы новыя матэрыялы;
  - чытайць Twitter @FreeAles і выкарыстоўвайць #FreeAles для сваіх паведамленняў пра правы чалавека і грамадзянскую супольнасць у Беларусі;
  - актыўнічаць у сацыяльных сетках і СМІ, ствараючы і падтрымліваючы цікавасць да праблемаў грамадзянскай супольнасці ў Беларусі;

- далучацца да іншых кампаніяў салідарнасці (4 жніўня — Дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю ў Беларусі; PicBadges: Free human rights defender Ales Bialiatski; Twibbon: Free Ales Bialiatski!);
- далучацца да абнаўлення і перакладу на іншыя мовы артыкулаў Вікіпедыі «Беларусь» і «Алесь Бяляцкі».

Таксама прапаноўвалася падтрымаць іншых палітвязняў Беларусі, чые імёны і адрасы можна было знайсці па спасылцы, якая вяла на сайт «Вясны».

Статыстыка наведвальнасці пацвярджала чаканні: у пераважнай колькасці карыстальнікі інтэрнэт-рэсурса прыходзілі не з Беларусі, а з замежжа. Такім чынам, сайт Freeales.fidh.net стаў інфармацыйна-мабілізацыйнай платформай для заходніх журналістаў, дыпламатаў і шырокіх колаў міжнароднай грамадскасці.

Эфектыўным камунікатыўным інструментам таксама стаў буклет FIDH пра Алеся Бяляцкага, рэалізаваны адным французскім выдавецкім домам. Буклет быў разлічаны на шырокую публіку. У ім былі прадстаўлены біяграфія Алеся і гісторыя «Вясны», асноўныя дэталі крымінальнай справы супраць праваабаронцы, інфармацыя пра розныя атрыманыя ім прэміі, пра ўмовы зняволення, а таксама выказванні вядомых дзеячаў і арганізацый за яго вызваленне. Галоўная задача гэтага буклета была ў тым, каб данесці інфармацыю пра «справу Бяляцкага» ў фармаце «коратка і даступна». Кампазіцыйна ён складаўся з вялікай колькасці фotaздымкаў, што распавядалі пра дзейнасць Алеся і некаторыя акцыі салідарнасці, арганізаваныя па ўсім свеце з часу яго арышту, з мінімальнымі тэкстамі да іх. Немалаважным пры гэтым быў дызайн буклета, які ўдала спалучаў усе элементы, паляпшаў успрыманне інфармацыі, а таксама прыцягваў да сябе ўвагу і выклікаў зацікаўленасць. Яшчэ адна зручная асаблівасць такога інфармацыйнага выдання ў тым, што яно, надрукаванае на адным аркушы і складзенае ў некалькі столак, у разгорнутым выглядзе выконвае ролю плаката, які можна змясціць на стэндзе, але, у адрозненне ад плаката, буклет лёгка перасылаць па пошце без рызыкі яго сапсаваць.

Каб базавая інфармацыя пра Алеся Бяляцкага разышлася як мага шырэй, былі падрыхтаваныя тры моўныя варыянты буклета — французскі, англійскі і рускі, выдадзеныя шматтысячным накладам. FIDH і «Вясна» выкарыстоўвалі буклет на розных сустрэчах, дзе важна было ўзняць тэму Алеся Бяляцкага, коратка прадставіць яго ролю на міжнародным узроўні або яго справу як прыклад агульнага становішча палітвязняў у Беларусі. Таксама буклет з’яўляўся ў розных краінах на ўручэнні прэміяў і ўзнагародаў для Алеся і быў карысным пры Нобелеўскім лабіяванні яго кандыдатуры. Паводле водгукаў, гэта было ўдалае рашэнне: «прачытаў па дыяганалі — і ўсё зразумеў».







*Інфармацыйны буклет пра Алеся Бяляцкага. З архіва FIDH*

З мэтай пашырэння месцаў выкарыстання гэтага інфармацыйнага выдання на сайце Freeales.fidh.net была апублікаваная прапанова для аўдыторыі: замаўляць у FIDH экзэмпляры буклета для сваіх акцый і лабіявання, указаўшы неабходную колькасць і моўны варыянт, каб атрымаць іх па пошце.

Адным з асноўных каналаў распаўсюду інфармацыі заўжды былі і застаюцца медыя, і ўзаемадзеянне з імі з'яўлялася важным складнікам інфармацыйнай працы ў межах кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага. З улікам шырокага рэзанансу «справы Бяляцкага», любыя паведамленні адносна яе ключавых этапаў — арышту, следства, суда, абскарджвання прысуду, этапавання Алеся ў месцы пазбаўлення волі, а таксама рэакцыі на пераслед праваабаронцы з боку міжнародных арганізацый, уплывовых еўрапейскіх структураў і палітыкаў, вядомых грамадскіх і культурных дзеячаў разыходзіліся імгненна, якая б форма падачы ні была — прэс-канферэнцыя, афіцыйная заява, тэрміновы зварот ці іншая публікацыя на сайце «Вясны». Цягам усяго тэрміну зняволення, безумоўна, усе пільна сачылі і збіралі па крупінках звесткі пра ўмовы зняволення і стан здароўя вязня. І тут важна было, каб як мага часцей з'яўлялася інфармацыя пра будні Алеся за кратамі. Тэмы для паведамленняў былі самыя разнастайныя: перапіска вязня з сябрамі і калегамі, з якой можна было даведацца штосьці пра яго настрой, здароўе, распарадак дня, працу ды бытавыя ўмовы ў калоніі; яго заняткі ў вольны ад працы час; водгукі Алеся на розныя грамадсказначныя падзеі і на праявы салідарнасці з ім; яго публіцыстычныя нататкі, падрыхтаваныя за кратамі. Асобнай тэмай, канешне ж, было жыццё сям'і Алеся ў яго адсутнасць.



*Фота з сайта mahilyowspring.org*

У КАЛОНІІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА НАВЕДАЎ ПРАВААБАРОНЦА

5 чэрвеня сябра праўлення Магілёўскага праваабарончага цэнтра Віктар Сідарэнка наведаў Бабруйскую выпраўленчую калонію № 2, дзе сустрэўся з Алесем Бяляцкім.

Магчымасць наведаць бабруйскую калонію і асуджанага праваабаронца з'явілася ў Віктара Сідарэнкі ў сувязі з тым, што ён з'яўляецца старшынёй грамадскай назіральнай камісіі пры Галоўным упраўленні юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама па наглядзе за месцамі пазбаўлення волі ў Магілёўскай вобласці, піша ПЦ «Вясна».

Падставай для сустрэчы была скарга праваабаронцы Анастасіі Лойка з нагоды таго, што да Алеся Бяляцкага не даходзіла паштовая карэспандэнцыя. Дзеля праверкі гэтай інфармацыі ўпраўленне юстыцыі дало дазвол камісіі ўдакладніць гэты факт.

Віктар Сідарэнка кажа, што сустрэча праходзіла на працягу 30 хвілін у прысутнасці супрацоўнікаў адміністрацыі калоніі.

*«Алесь Бяляцкі паведаміў, што ў яго ўсё адносна добра, харчаванне ў калоніі неблагое. Ён па-ранейшаму працуе пакавальшчыкам на швейнай вытворчасці. Пагаварыць сам-насам нам не далі, хоць па законе гэта зрабіць былі абавязаныя. Правесці анкетаванне, якое звычайна камісія праводзіць са зняволенымі, таксама не дазволілі. Верагодна, калі б мы былі ў памяшканні сам-насам, ён бы распавёў нешта цікавае»*, — паведаміў Віктар Сідарэнка.

Сябар праўлення Магілёўскага праваабарончага цэнтра таксама распавёў пра тое, што дзеля Алеся Бяляцкага ў Бабруйскай выпраўленчай калоніі № 2 заведзены асобны журнал уліку ягонай карэспандэнцыі. Штотыдзень Алесь Бяляцкі атрымлівае 4–5 лістоў, у некаторыя тыдні — больш за дзясятак.

Справаздачу грамадскай камісіі па выніках візіту ў калонію атрымае Дэпартамент выканання пакаранняў і праваабаронца Анастасія Лойка.

*Інфармацыя сайта spring96.org ад 6 чэрвеня 2012 года.*

---

## ЛЕТА Ў БЕЛАРУСКІХ ТУРМАХ: ДУХАТА Ў КАМЕРАХ І ЧОРНЫЯ РОБЫ

З канца чэрвеня ў Беларусі ўсталяваліся высокія тэмпературы. У некаторыя дні паветра пpагравалася да +34°C. Такую спёку нялёгка пераносіць жыхарам буйных гарадоў, але яшчэ складаней даводзіцца зняволеным у беларускіх турмах і калоніях. Сайт charter97.org даведаўся ў жонак беларускіх палітвязняў, як яны пераносяць спёку ў месцах пазбаўлення волі.

*«Інфармацыі пра сітуацыю ў гэтым годзе, на жаль, няма ніякай. Алесь асабліва не апісвае, што зараз адбываецца ў яго жыцці. Але я памятаю мінулы год, калі мужа рабілі "злосным парушальнікам". Тым летам таксама стаяла*

*спёка, і яна пераносілася вельмі цяжка. Зняволеных прымушаюць хадзіць у цёмнай форме. Алесь Бяляцкі атрымаў спагнанне толькі за тое, што зняў яе. І калі нам цяжка перажыць гэтую спёку, то можна зразумець, што сітуацыя зняволеных цяжэйшая ў некалькі разоў. Таксама вечная праблема — гэта камары і мошкі. Яны не даюць жыцця, калі прыходзіць сезон. І кіраўніцтва не дазваляе перадаць зняволеным прыборы, якія адганяюць камароў. Калі я спытала, чаму нельга іх перадаваць, мне сказалі, што яны не ўключаныя ў абавязковы пералік»*, — распавяла жонка палітвязня Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук.

З публікацыі charter97.org, ліпень 2013.

## ЖОНКА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА: ЗВАНОК ЯК МОМАНТ СУСТРЭЧЫ

Праваабаронца Алесь Бяляцкі, якога трымаюць у Бабруйскай калоніі, працягвае ліставанне з домам і сябрамі, а часам мае магчымасць патэлефанаваць, паведаміла жонка палітвязня Наталля Пінчук.

*«Раз на тыдзень, бывае раз на два тыдні ад яго прыходзяць лісты. Калі нейкі час я не атрымліваю, то пытаюся ў сяброў ды знаёмых і даведваюся, што ім таксама піша. Таму бачу, што ліставанне ідзе, з ім нібыта ўсё нармальна, больш-менш. Часам бывае і звоніць. Настрой у званках заўсёды добры, бадзёры. Вось як і ў апошнім спатканні быў бадзёры, гэтак і падчас тэлефонных размоў. Званок — гэта заўсёды як момант сустрэчы, і голас таму радасны. А так, у яго тое ж самае — праца, праца. Рэжым у яго вызначаны на ўвесь тэрмін і не мяняецца, хіба толькі з пагаршэннем і вяртаннем да вызначанага парадку».*

Паводле Наталлі Пінчук, яе муж можа патраціць у турэмнай краме толькі 100 тысяч рублёў штомесяц. *«Гэта вельмі малыя грошы і, безумоўна, "атаваркі" яму не хапае»*, — мяркуе жонка Алеся Бяляцкага.

*З публікацыі Радыё Свабода, верасень 2013.*

Сувязямі з заходнееўрапейскай прэсай займалася FIDH, а таксама іншыя праваабарончыя арганізацыі ў сваіх краінах — Ostgruppen і Civil Rights Defenders у Швецыі, Нарвежскі Хельсінкскі камітэт і Фонд Дамоў правоў чалавека ў Нарвегіі, лакальныя аддзяленні Amnesty International.



Politis

2 IMPASSE DELAUNAY
75011 PARIS - 01 55 25 86 86

Les manuels scolaires sont à la gloire du président Loukachenko, « réélu » depuis 1994.



Le Monde

80 BOULEVARD AUGUSTE-BLANQUI
75707 PARIS CEDEX 13 - 01 57 28 20 00

12/13 FEV 12

# Le cas d'Ales Bialiatski, militant des droits de l'homme détenu en Biélorussie, divise l'Union européenne

## L'Europe débat de l'opportunité de maintenir des sanctions contre Minsk, jugées inefficaces

Ça porte malheur, paraît-il, de présenter des vœux avant l'heure. Lorsque Ales Bialiatski a reçu au parloir, le 27 janvier, la visite de Natalia, son épouse, la veille de l'anniversaire de cette dernière, il a dérogé à cette superstition. Il ne savait pas quand il la reverrait à nouveau. Condamné à quatre ans et demi de prison, le militant biélorusse des droits de l'homme ne pouvait lui raconter ses conditions de détention, visiblement rudes. Sur la vitre, entre les époux, figurait un avertissement: interdiction d'utiliser une langue étrangère, d'évoquer la vie carcérale ou le contenu de l'instruction.

En visite à Paris mercredi 8 février à l'initiative de la Fédération internationale des ligues des droits de l'homme (FIDH), dont son mari est le vice-président, Natalia raconte cet entretien avec pudeur. En octobre, lors du procès de son mari, elle avait été choquée de voir à quel point Ales, 49 ans, avait maigri. « Il portait les mêmes vêtements que le jour de son arrestation, le 4 août, mais il flottait dedans. »

Natalia ne veut pas parler de politique. Employée dans le secteur public, elle craint pour son emploi. Sa seule préoccupation est la santé de son mari. C'est de cela

Le militant des droits de l'homme Ales Bialiatski, lors de son procès à Minsk, le 24 novembre 2011.

est ainsi ciblé en raison de l'influence de l'ONG biélorusse, vigie en matière d'élections truquées et d'arrestations arbitraires.

Lorsque Natalia a épousé Ales, il y a plus de vingt ans, elle savait qu'ils ne seraient pas seuls dans

Réélu pour un 4e mandat, le 19 décembre 2010, le chef de l'Etat a savouré sa victoire en déclenchant une vague de répressions contre l'opposition politique, les médias et les organisations non gouvernementales, à commencer par Viasna. Arrêté le 4 août 2011 pour fraude

espoir fou, celui de le voir honoré du prix Nobel de la paix 2012.

Pour les Occidentaux, les moyens de pression sur le régime de Minsk sont limités. Les sanctions adoptées par l'Union européenne (UE) – qui a dressé une liste d'environ 200 hauts fonctionnai-

**Des milliers d'activistes ont perdu leur travail, surtout depuis le scrutin de 2010 et les manifestations avant et après le vote.**

*mulation de revenus et de fraude fiscale. »*

**Lors de sa création en 1996,** Viasna a été enregistré comme association. Puis l'enregistrement a été annulé, la privant de tout statut légal. Officiellement, elle n'existe plus, elle n'est que tolérée. « *Aux yeux de la loi, nous sommes des criminels, comme la trentaine d'opposants et de militants qui sont déjà en prison. Parmi eux, trois personnes qui ont osé se présenter contre Loukachenko à la présidentielle de 2010. Nous nous efforçons de les aider, de soutenir leurs familles, de leur faire parvenir des médicaments, de leur procurer des avocats, mais ce n'est pas facile. Nous ne sommes*

perdu leur travail, surtout depuis le scrutin de 2010 et les manifestations qui se sont déroulées avant et après le vote.

**Le professeur d'anglais** Konstantin Staradubets, qui se réjouit d'avoir par miracle, et pour l'instant, conservé son emploi, approuve quand Vladizmir précise : « *Il y a aujourd'hui plus de démocratie au Maroc, en Tunisie, en Égypte et même en Libye qu'en Biélorussie. Mais la seule réaction de l'Occident est une interdiction de voyager en Europe et aux États-Unis pour le président biélorusse, une quarantaine de ministres et de hauts fonctionnaires. Cela ne suffit pas. Nous avons besoin de faire connaître notre combat et de bénéficier de l'appui actif de l'opinion publique occidentale. Quand au gouvernement russe, la question des droits de l'homme ne l'intéresse pas.* »

## Iryna Khalip, opposante en danger



Il y a les Biélorusses qui sont en prison, ceux qui perdent leur travail pour délit d'opinion, ceux qui fuient à l'étranger, puis ceux que l'on empêche de travailler en les assignant à résidence. C'est le cas d'Iryna Khalip, qui a travaillé jusqu'à son arrestation comme responsable du bureau à Minsk du seul journal russe indépendant, *Novaïa Gazeta*. Elle a été arrêtée le 19 décembre 2010 pour avoir voulu couvrir la manifestation de protestation contre l'élection truquée du Président Loukachenko. Circonstance aggravante : son mari, Andrey Sannikov, Ce qui lui a valu cinq ans de prison pour « provocation de troubles ». Iryna, après avoir passé plus d'un mois aux mains du KGB, a désormais retrouvé son fils de 3 ans, mais elle ne peut ni travailler, ni voir (officiellement) ses amis, ni quitter son domicile. Une vie difficile qu'elle supporte mal, surtout avec un mari en prison et la menace d'être elle-même réincarcérée puisqu'elle a été condamnée en mai dernier à deux années de prison qui ne sont que suspendues. S'ajoutent les menaces qui pèsent sur son existence, depuis que les services spéciaux lui ont fait savoir, il y a deux ans : *« Vous rejoindrez un jour Anna Politkovskaïa »*, la journaliste de Novaïa Gazeta assassinée en 2006 à Moscou.

C. M. V.

**Klättrare föll till sin död**

De två erfarna norska klättrare som omkom i Rogaland i förra veckan föll troligen 50–60 meter sedan något i utrustningen fallerat. Eftersom de dog omedelbart i fredags spelade det mindre roll att de kunde bärgas först i söndags.

– Ingenting tyder på att de överlevde fallet. Detta har skett snabbt, säger Edvard Middelthon, vakthavande vid räddningscentralen för södra Norge, till Stavanger Aftenblad. TT-NTB

**94**

**procent** av de röstande i den polska turistorten Mielno vid Östersjökusten sade i en lokal folkomröstning nej till byggandet av ett kärnkraftverk i kommunen. Polen har ingen kärnkraft, men planerar en anläggning för att minska beroendet av gas från Ryssland. SVD

Man riskerar att få hjärnan stekt.

Danske kommissarien **Bjarne Christensen** kommentar till att flera ungdomar var nära att förlora livet på grund av knarkkonsumtionen i samband med ett stort rejv vid Nikolaj Plads i Köpenhamn den gångna helgen. Festen väntas leda till över 100 åtal. TT-RITZAU



Valentin Stefanovitj och Olga Smoljanko från medborgarrättsrörelsen Vjasna i Vitryssland är i Sverige för att berätta om det svåra läget för medborgerliga rättigheter i hemlandet. 2011 är det värsta året hittills – men de befarar att 2012 blir än värre.



Medborgarrättskämpen Ales Bjaljatski vid en förhandling i november. FOTO: SERGEI GRITS/AP



Vitrysk polis griper demonstranter vid en aktion i staden Minsk i slutet av juni förra året. FOTO: SERGEI GRITS/AP



Alexander Lukasj…

# ПУБЛІЧНЫЯ КАМПАНІІ І АКЦЫІ

Трымаць «справу Бяляцкага» на слыху таксама дапамагалі розныя публічныя мерапрыемствы і салідарныя дзеянні як у Беларусі, так і ў замежжы. Пры гэтым, у пераважнай большасці выпадкаў, наўрад ці можна сказаць, што нагоды трэба было ствараць адмыслова. Як правіла, іх ці само жыццё падносіла, ці правакавалі пэўныя захады з боку ўладаў. Усе нагоды ўмоўна можна падзяліць на цыклічныя (паўтараліся з года ў год) і разавыя (выкліканыя асобнымі акалічнасцямі), лакальныя (мясцовага значэння) і глабальныя (упісаныя ў міжнародны кантэкст). Сярод іх былі гадавіны арышту і прысуду Алеся Бяляцкага, яго дні народзінаў, форумы праваабаронцаў, якія праходзілі без удзелу палітычнага вязня, папулярныя міжнародныя спартыўныя і культурныя мерапрыемствы, з нагоды якіх варта было паказаць сапраўдны твар афіцыйнай Беларусі як іх удзельніцы ці прымаючага боку. Спынемся на тых публічных кампаніях і акцыях салідарнасці, якія прыцягнулі да сябе ўвагу сваім размахам і гучнасцю, альбо, нягледзячы на фільтр часу, захаваліся ў памяці, дзякуючы крэатыўным ідэям, смелым рашэнням, нечаканым падыходам ці папросту вельмі шчырай чалавечай неабыякавасцю да чужых пакутаў.

## АБВЯШЧЭННЕ ДНЯ САЛІДАРНАСЦІ Ў ГАДАВІНУ АРЫШТУ

Дата арышту Алеся Бяляцкага 4 жніўня была абвешчаная Міжнародным днём салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Гэты Дзень быў ініцыяваны кааліцыяй няўрадавых арганізацый — сяброў Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Першапачаткова ў аргкамітэт увайшлі Міжнародны праваабарончы рух, Маскоўская Хельсінкская група, украінскі Цэнтр грамадзянскіх свабодаў і польскі Хельсінкскі фонд па правах чалавека. Упершыню Дзень праводзіўся ў 2012 годзе з ключавым пасланнем «Салідарнасць мацней за рэпрэсіі».




*З сайта by.soli-day.org*

«Мы— грамадскія актывісты, праваабаронцы і проста неабыякавыя людзі — лічым важным выказаць нашу падтрымку грамадзянскай супольнасці Беларусі, прадстаўнікі якой працягваюць прасоўваць і абараняць стандарты правоў чалавека і вяршэнства права, прапаноўваць новыя ідэі і ініцыятывы, дапамагаць людзям, сустракацца, размаўляць, пісаць і ствараць. І ўсё гэта — насуперак сістэматычнаму парушэнню фундаментальных правоў: свабоды сходаў, аб'яднанняў, выказвання меркаванняў — тых асноў, без якіх грамадзянская супольнасць існаваць не можа…
Мы хочам прыцягнуць увагу да сітуацыі ў Беларусі і праявіць салідарнасць з тымі людзьмі, якія змагаюцца за свабоду ва ўмовах пастаяннага ціску і пераследу…

Мы будзем адзначаць гэты дзень штогод, да таго часу, пакуль становішча грамадзянскай супольнасці ў Беларусі не зменіцца: пакуль у краіне не перастануць саджаць у турму за праваабарончую дзейнасць і пакуль у ёй не будуць гарантаваныя фундаментальныя свабоды: свабода выказвання меркавання, сходаў і аб'яднанняў», — заявілі ў сваім Маніфесце ініцыятары акцыі.

На адмыслова створаным сайце By.soli-day.org арганізатары распавялі пра зняволенне Алеся Бяляцкага ў кантэксце агульнай сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі і заклікалі ўсіх неабыякавых людзей падтрымаць ініцыятыву праз правядзенне лакальных кампаній і акцый у сваіх гарадах і краінах, якія б распавядалі пра пераслед грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, альбо праз дзеянні ў падтрымку асобных праваабаронцаў і грамадзянскіх групаў. Прапаноўваліся розныя ідэі:

- падпісваць паштоўкі беларускаму вязню сумлення, пісаць звароты ўладам краіны з патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага і спыніць рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці ў Беларусі;
- арганізоўваць кінапаказы, тэматычныя вечарыны, адкрытыя лекцыі, вулічныя фотавыставы і іншыя інфармацыйна-асветніцкія мерапрыемствы для шырокага кола людзей;







*З суполкі Дня салідарнасці ў сацыяльных сетках*

- праводзіць арыгінальныя акцыі каля пасольства ці консульства Беларусі ў сваім горадзе;
- рабіць паасобныя ці групавыя відэазвароты або фотаздымкі з постарам і пасланнем Дня, скарыстоўваючы адмыслова распрацаваныя эпіграфы;
- вывешваць банер Дня на сваім сайце ці ў блогу;
- пашыраць інфармацыю пра Дзень з запрашэннем далучыцца, публікаваць паведамленні па тэматыцы акцыі ў сацыяльных сетках з хэштэгам #4Aug;
- замацоўваць picbadge «валошка» на сваёй аватарцы ў сацыяльных сетках.

Інфармацыі пра акцыі ў розных краінах, фотаздымкі і відэаролікі з іх, якія збіраліся на адмысловую электронную скрыню, публікаваліся на сайце і ў акаўнтах Дня ў сацыяльных сетках Facebook, VKontakte і Twitter, такім чынам атакуючы інфармацыйную прастору, прыцягваючы ўвагу як мага большай колькасці людзей. Пазнавальнасці спрыяў адзіны графічны стыль усіх элементаў акцыі, у цэнтры якога была валошка — кветка-сімвал Беларусі. Дзякуючы свайму лагатыпу, Дзень салідарнасці 4 жніўня заўжды вылучаўся ў агульнай інфармацыйнай плыні.

Заява Прэзідэнта FIDH
у падтрымку Алеся Бяляцкага
з нагоды Міжнароднага дня салідарнасці
з грамадзянскай супольнасцю Беларусі

*«Сябры Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (164 праваабарончыя арганізацыі з усяго свету) ужо год актыўна ўдзельнічаюць у кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага, гадавіна арышту якога ў чарговы раз нагадвае нам пра крытычнае становішча грамадзянскай супольнасці Беларусі. Нягледзячы на цяжкія часы, якія закранулі ўсіх неабыякавых людзей гэтай краіны — журналістаў, праваабаронцаў, адвакатаў, актывістаў апазіцыі — беларускія калегі здзіўляюць нас усіх непарушнасцю сваіх перакананняў, беспрапыннай барацьбой за свабоду і чалавечую годнасць, і асабістай мужнасцю. Ад імя ўсіх сяброў Федэрацыі, я хацела б выказаць сваю падтрымку ініцыятыве "Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі", а таксама падзяку яе арганізатарам і ўдзельнікам».*

У першы год правядзення акцыі розныя мерапрыемствы прайшлі ў больш як 18 краінах свету, у тым ліку ў Арменіі, Грузіі, Італіі, Кыргызстане, Літве, Польшчы, Расіі, ЗША, Таджыкістане, Украіне, Чэхіі, Швецыі, Швейцарыі, Германіі, на Кубе, і была падтрыманая іншымі міжнароднымі арганізацыямі, у тым ліку FIDH. Пакуль Алесь Бяляцкі і іншыя палітычныя вязні знаходзіліся за кратамі, акцыі салідарнасці 4 жніўня праводзіліся таксама ў самой краіне. Напрыклад, у 2012 годзе ў Мінску прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў разам з сябрамі «Вясны» перадалі ў Адміністрацыю прэзідэнта петыцыю з патрабаваннем вызвалення свайго калегі, а рэгіянальныя аддзяленні «Вясны», якім мясцовыя ўлады не далі дазволу на пікеты ў падтрымку свайго кіраўніка, усё ж выйшлі на вуліцы, каб распавесці насельніцтву пра палітычны пераслед праваабаронцаў у краіне, і часам рабілі гэта не зусім звыклым чынам.

Варта адзначыць, што дата 4 жніўня заўжды падтрымлівалася з боку незалежных медыя — з гэтай нагоды з'яўляліся разнастайныя публікацыі на старонках друкаваных выданняў і інтэрнэт-сайтах, міжнародныя праваабарончыя арганізацыі штогод выступалі з заявамі і публікацыямі ў заходняй прэсе з асуджэннем дзеянняў беларускага рэжыму і зваротамі да прадстаўнікоў Еўрапейскага Саюза з просьбай актыўна спрыяць вызваленню палітычных вязняў Беларусі.




*Акцыя праваабаронцаў і актывістаў насупраць амбасады Беларусі ў Вільні 4 жніўня 2013 года. З архіва ПЦ "Вясна"*



*«У нас была дыскусія наконт таго, якую дату прызначаць Днём салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі — 19 снежня ці 4 жніўня. З аднаго боку, хацелася не пакінуць без належнай увагі гадавіну арышту Алеся Бяляцкага — бо гэта надзвычай важны для нас дзень, хацелася, каб тэма несупынных рэпрэсій у Беларусі прагучала ў многіх краінах. А калі казаць пра 19 снежня, дык хацелася пазбегнуць нейкай палітычнай афарбоўкі — бо найперш мы праяўляем салідарнасць не з асобнымі палітычнымі сіламі ў Беларусі, а з грамадзянскай супольнасцю. З іншага боку, несумненна, 19 снежня — знакавая дата, на якую забывацца нельга, і трэба штогод вяртацца да тых трагічных падзеяў. Але, паўтаруся, нам важней зараз казаць пра грамадзянскае дзеянне і становішча праваабаронцаў у Беларусі.*

*Ідэя нашай акцыі палягае ў тым, каб у гэты дзень не толькі выказаць салідарнасць, але і ў розных краінах і гарадах, дзе звычайныя людзі не вельмі дасведчаныя наконт сітуацыі ў Беларусі, распавесці ім пра рэальнае становішча спраў».*



*Фота з уласнага архіва Канстанціна Баранава*

*З інтэрв'ю Канстанціна Баранава,*
*каардынатара праграм Міжнароднага праваабарончага руху, сайту Spring96.org*

*У Жодзіне ў 2012 годзе велапрабег салідарнасці, ініцыяваны сябрамі «Вясны» Аляксеем і Святланай Лапіцкімі, скончыўся затрыманнямі двух удзельнікаў — Андрэя Зубры (крайні справа) і Сяргея Хамуцініна (крайні злева). Фота сайта licviny.info*







*Сябра брэсцкага аддзялення "Вясны" Уладзімір Малей некалькі гадоў запар рабіў забегі салідарнасці. «Улады не дазваляюць выказваць салідарнасць нейкім іншым чынам. Забаранілі праводзіць пікет у падтрымку Бяляцкага. Аднак бегчы яны ж мне не забароняць. Сёння споўніўся год, як зняволены кіраўнік Праваабарончага цэнтра „Вясна“. Таму я і вырашыў прабегчы па цэнтральных вуліцах і выказаць салідарнасць з праваабаронцам і іншымі палітзняволенымі». З інтэрв'ю Уладзіміра Малея Свабодзе, 4 жніўня 2012 г.*

## НАТАЛЛЯ ПІНЧУК:

### Вечар арышту Алеся быў самым страшным у жыцці

*Жонка палітвязня Наталля Пінчук дала інтэрв'ю сайту charter97.org напярэдадні гадавіны арышту свайго мужа.*




*Наталля Пінчук. Фота з архіва Civil Rights Defenders*

**— Як змянілася Вашае жыццё пасля арышту мужа?**
— 4 жніўня 2011 года цалкам змянілася маё жыццё. Іншая рэч, што паволі даводзіцца адаптавацца да новай сітуацыі, да новых рэалій, якія склаліся пасля арышту мужа. Я засталася зусім адна. Алесь знаходзіцца ў зняволенні. Пасля ягонага арышту пачаўся ціск і на нашага сына, які быў затрыманы ў тым жа месяцы. У выніку такога збегу акалічнасцей, мне даводзіцца адной развязваць праблемы, якія раней размяркоўваліся на ўсіх сямейнікаў.

**— У гадавіну арышту Алеся Бяляцкага праваабаронцы правядуць акцыі ў яго падтрымку ў розных краінах свету. Наколькі важная такая падтрымка?**
— Акцыі ў падтрымку беларускіх палітвязняў, у тым ліку і тыя, якія пройдуць 4 жніўня, вельмі важныя. Я адчула гэта на сабе. Для мяне не было больш страшнага часу, чым вечар арышту Алеся. Пасляператрусаў мы з сынам вярнуліся ў пустую кватэру і засталіся сам-насам з гэтай бядой. Было абсалютнае маўчанне — ні аднаго званка, ні аднаго голасу. І гэтая пустэча і маўчанне былі самымі страшнымі. На наступны дзень усё змянілася, таму я ведаю кошт падтрымкі.

Што да Алеся, то зразумела, што ён знаходзіцца ў значна больш складаных і цяжкіх варунках. Гэтая падтрымка вельмі важная для яго. Яна наўпрост уплывае на ягоны лёс. Досвед паказвае, што салідарнасць вялікай колькасці людзей, якія выказваюцца ў падтрымку палітычных зняволеных -- гэта тая барацьба, якая ў перспектыве дасць свой плён.

**— Як вы мяркуеце, наколькі сённяшняя пазіцыя Еўрапейскага Звязу спрыяе вызваленню палітвязняў і, у прыватнасці, Алеся Бяляцкага?**
— Што да міжнароднага фактару, то я ўважаю яго за ключавы ў пытанні вызвалення Алеся. Я б хацела нагадаць, што прысуд, які яму вынеслі, быў неправамерны нават з пункту гледжання беларускага права. Суд прыняў пастанову, кіруючыся дакументамі, сапраўднасць якіх так і не была даведзеная. Нават сведкі з боку абвінавачвання, каментуючы дакументы, на якія спасылаўся пракурор, казалі пра тое, што гэтыя паперы не могуць быць прызнаныя сапраўднымі. Парушалася і права абароны. Яе просьбы праверыць дакументы, пададзеныя абвінавачваннем, звярнуцца да пэўных арганізацый, якія маглі б пацвердзіць тыя ці іншыя словы Алеся, не былі задаволеныя.
Я спадзяюся, што краіны Еўрапейскага Звязу і далей будуць выступаць з пазіцый салідарнасці з палітычнымі вязнямі і працягнуць змагацца за іх вызваленне і рэабілітацыю.

**— Некалькі дзён таму еўракамісар Штэфан Фюле сказаў, што спадзяецца хутка ўбачыць Алеся Бяляцкага ў Бруселі. Ці падзяляеце Вы ягоны аптымізм?**
— Мне прыемна чуць такія аптымістычныя прагнозы, але да заяваў падобнага характару я стаўлюся скептычна. Размовы аб вызваленні палітычных зняволеных вядуцца ўжо больш за два гады, але сітуацыя не мяняецца. Казаць аб вызваленні Алеся можна будзе толькі тады, калі яно адбудзецца.

*Урывак з інтэрв'ю Наталлі Пінчук сайту charter97.org ад 4 жніўня 2013 года.*

# ГАНАРОВЫ ПРЭЗІДЭНТ FIDH:

## ЕС павінен зрабіць усё неабходнае, каб дамагчыся свабоды для Алеся Бяляцкага і грамадзянскай супольнасці Беларусі




*Патрык Бодуэн. Фота з архіва FIDH*

Роўна год таму беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі быў арыштаваны ў Мінску. Рэжым Лукашэнкі, які вырашыў пакласці канец яго дзейнасці, абвінаваціў Алеся ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і прысудзіў яго да чатырох з паловай гадоў турмы ў выніку несправядлівага судовага працэсу. Міжнародная грамадскасць падвергла гэтае рашэнне рэзкай крытыцы і запатрабавала ад беларускіх уладаў вызвалення Алеся Бяляцкага. Але яе заклік не быў пачуты.

Вось ужо год як Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH), пакутуе ў папраўчай калоніі горада Бабруйска. Умовы ўтрымання ў турмах Беларусі заўсёды былі вельмі цяжкімі, але за апошнія тыдні ўлады зрабілі ўсё, каб зрабіць іх яшчэ больш жорсткім Алесю. Яго жонцы — адзінаму чалавеку, якому дазволена наведваць яго ў турме, — абмежавалі колькасць спатканняў. З гэтага часу любы вязень калоніі, які адважыўся да яго звярнуцца, падвяргаецца санкцыям. У ліпені Алесь Бяляцкі атрымаў новую меру спагнання і стаў для турэмнай адміністрацыі «злосным парушальнікам». Яго правіннасць была ў тым, што хворы ён

заснуў у ложку апранутым. Гэты нявінны ўчынак пацягнуў за сабой цяжкія наступствы: Алесь не змог вызваліцца па ліпеньскай амністыі, прымеркаванай да Дня незалежнасці Беларусі.

Алесь — не першая ахвяра судовага і псіхалагічнага ціску з боку ўладаў. Ад яго ўжо пацярпелі фактычна ўсе былыя кандыдаты ў прэзідэнты на выбарах 2010 года. Сямёра з іх былі арыштаваныя на наступны дзень пасля апублікавання вынікаў выбараў. Рэжым абвінаваціў іх у «арганізацыі масавых беспарадкаў». Некаторыя з іх былі вызваленыя пад ціскам міжнароднай грамадскасці, іншыя былі вымушаныя звярнуцца да прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай аб памілаванні. Гэта выпадак Андрэя Саннікава, аднаго з галоўных апазіцыянераў, які выйшаў на волю толькі ў красавіку 2012 года. Мікалай Статкевіч, кандыдат ад сацыял-дэмакратычнай партыі, дагэтуль знаходзіцца за кратамі, паколькі ён адмаўляецца прасіць памілавання.

Рэпрэсіі, якія распачаліся пасля выбараў у Беларусі, уразілі ўвесь свет сваёй жорсткасцю і сваімі маштабамі. Праз паўтары гады антыдэмакратычныя меры ўзмацняюцца. Былі прынятыя новыя, пагібельныя для свабоды законы, якія забараняюць дэманстрацыі і душаць асацыяцыі. Офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна», заснаванага і ачоленага Алесем, неўзабаве павінен быць канфіскаваны. Гэта пазбавіць грамадзянскую супольнасць Беларусі адной з яе найбуйнейшых праваабарончых арганізацый.

У апошнія месяцы ўрад Лукашэнкі спрабуе пераканаць міжнародную грамадскасць, і асабліва Еўропу, змякчыць санкцыі, прынятыя ў дачыненні да яго. Але ЕС павінен захоўваць цвёрдасць і ставіць вызваленне ўсіх палітвязняў абавязковай умовай для аднаўлення дыялогу. Эпізадычныя вызваленні вязняў, якія дазваляюць рэжыму выгандлёўваць абмежаванне санкцый, прынятых супраць яго, недастатковыя. Трынаццаць чалавек дагэтуль знаходзяцца ў зняволенні праз сваю палітычн098 пазіцыю ці грамадскую дзейнасць, і Мінск, мяркуючы па ўсім, не збіраецца тут нешта мяняць. Гэта ясна і з тэксту амністыі, падпісанай Лукашэнкам у ліпені гэтага года: яна наўмысна выключае ўсіх палітвязняў.

Гэтым летам Савет па правах чалавека ААН прыняў рэзалюцыю па стварэнні паста спецдакладчыка па правах чалавека ў Беларусі. Раней гэтая мера тычылася толькі такіх краін, як Іран, Бірма і Сірыя. Час дзейнічаць і Еўрасаюзу. Хаця санкцыі, прынятыя вясной у дачыненні да асоб, якія аказваюць фінансавую падтрымку рэжыму Лукашэнкі, з’яўляюцца пазітыўным крокам, ЕС павінен пайсці яшчэ далей і прыняць паслядоўныя меры, якія спалучаюць санкцыі супраць фінансавых спонсараў рэжыму і еўрапейскіх прадпрыемстваў, якія інвестуюць у Беларусь. І тут ЕС павінен дзейнічаць бескампрамісна: яго словы і дзеянні не павінны быць пастаўлены пад пытанне дзяржавамі, якія шукаюць у першую чаргу эканамічнай выгады.

За тры дні да смерці былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел адправіў ліст Алесю ў турму. Ён пажадаў яму мужнасці і прывёў прыклад сваёй краіны як падставу для надзеі. Гэты ліст — перадача эстафеты Алесю, каб ён працягваў барацьбу за чалавечую годнасць, а таксама пасланне Еўропе і міжнароднай грамадскасці, каб перад тварам рэпрэсій іх падтрымка была безумоўнай, моцнай і адзінай. Менавіта ад гэтага залежыць сёння лёс Алеся Бяляцкага і беларускай грамадзянскай супольнасці, роўна як і лёс самой Еўропы.

*Артыкул Патрыка Бодуэна, ганаровага прэзідэнта FIDH,*
*на сайце выдання Le Monde.fr ад 3 жніўня 2012 года.*

Асноўным пасылам грамадзянскай супольнасці краіны і міжнароднай грамадскасці як з нагоды 4 жніўня, так і ў кожную гадавіну прысуду, было патрабаванне свабоды Алесю Бяляцкаму і ўсім палітвязням. А пасля іх вызвалення ў 2014 годзе ўвага Дня салідарнасці пачала скіроўвацца на іншыя вострыя праблемы ў галіне правоў чалавека і грамадзянскіх свабодаў у Беларусі.

АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ:
«Я — злосны парушальнік!!!»

Яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня зняволены кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі ў лісце да калегі Валянціна Стэфановіча па-прароцку напісаў: *«Здаецца, што спагнанні, якія я атрымаў у калоніі — не апошнія»*. Новыя весткі з Бабруйска, дзе адбывае пакаранне Алесь, цалкам пацвердзілі словы праваабаронцы. Так, у лісце ад 5 жніўня да Валянціна Стэфановіча ён паведамляе пра чарговыя спагнанні, накладзеныя адміністрацыяй папраўчай калоніі №2.

Алесь піша: *«Так атрымліваецца, што я працягваю парушаць "Правілы паводзінаў асуджаных". Вось, на мінулым тыдні на мяне склалі акт і пакаралі пазбаўленнем чарговай перадачы, а вось сёння, [5 жніўня] запісалі, значыць заўтра будзе хутчэй за ўсё складзены акт за вынас харчоў са сталовай (нёс сваю скібку хлеба з вячэры). А мінулатыднёвае пакаранне было за занавешванне спальнага месца. І першае, і другое з'яўляецца парушэннем Правілаў, так што ідэальнага зняволенага з мяне не атрымліваецца...»*




*Сігнал ад Алеся калегам прыйшоў поштай. З архіва ПЦ «Вясна»*

Насамрэч, прыведзеныя Бяляцкім падставы для вынясення спагнанняў не з’яўляюцца ў папраўчых калоніях з’явaю экстраардынарнай. Напрыклад, дырэктар інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа» Андрэй Бандарэнка ўзгадвае, што падчас ягонага зняволення ў Бабруйскай калоніі многія з асуджаных выносілі хлеб са сталовай. І нікога гэта не хвалявала. Аднак, калі справа тычыцца Алеся Бяляцкага — тут проста навідавоку перадузятае стаўленне кіраўніцтва калоніі і спроба маральнага і псіхалагічнага ціску на палітвязня.

Цягам гэтага года Алесю Бяляцкаму былі вынесеныя тры спагнанні, што паўплывала на абмежаванне ў спатканні (адныя суткі замест трох), на змяншэнне аб’ёму прадуктовай перадачы з 30 да 15 кг. Да ўсяго праваабаронцу адмянілі дадатковыя 5 кг гародніны і садавіны на летні перыяд. Зараз праваабаронцу пазбавілі чарговай прадуктовай перадачы.

Сам Алесь стараецца мужна пераносіць гэтыя выпрабаванні і нават жартаваць у такой няпростай сітуацыі. Яскравы прыклад таму — ягоны шарж, зроблены на таварным ярлыку тых самых рукавіцаў, упакоўкай якіх праваабаронца займаецца ў калоніі.

*Інфармацыя сайта spring96.org*
*ад 10 жніўня 2012 года.*

# ДНІ НАРАДЖЭННЯ ПАЛІТВЯЗНЯ

Праз месяц і тры тыдні пасля арышту Алесь Бяляцкі адзначаў свой першы дзень нараджэння ў няволі. 25 верасня 2011 года стала днём публічнага віншавання праваабаронцы-палітзняволенага і асуджэння беларускіх уладаў. Так было ўсе гады, што ён правёў за кратамі.

Напярэдадні дня нараджэння на сайце «Вясны» абнаўлялася віншавальная стужка, свае пажаданні Алесю перадавалі калегі — кіраўнікі няўрадавых арганізацыяў.

ЖАННА ЛІТВІНА і Беларуская асацыяцыя журналістаў:

*Дарагі спадар Алесь!*

*Віншуем з Днём нараджэння!*
*Галоўнае зараз — зберагчы сябе фізічна і маральна, не згубіць прысутнасці духу, пачуцця гумару, веры ў лепшае. І памятаць, што жыццё даўжэйшае за ўсе выпрабаванні.*
*Трымайцеся!*

*Вашыя БАЖаўцы*


Дарагі
Алесь!
Віншую цябе
з тым, што ты
годна працуеш ты адр
свайго жыцця! Кожны год
Віншую цябе з тым, што
свой юбілейны дзень нарадзіна
ты застаешся прыкладам і дл
для сваіх аднагодкаў!
Віншую цябе з тым, што м
людзі ганарацца сяброўствам з
табой! Жадаю моцы,
удачы, поспехаў!
Твой сябра
Віктар Сазонаў



Minister
Spraw Zagranicznych
Radosław Sikorski

Warszawa, 24 września 2012 r.

Pan
Aleksandr Bialacki

Szanowny Panie,

W dniu Pańskich pięćdziesiątych urodzin proszę przyjąć wyrazy najwyższego uznania dla Pańskiej niezłomnej postawy w walce o godność i poszanowanie praw człowieka na Białorusi.

Solidaryzuję się z Panem i będę nadal wykorzystywał wszelkie możliwości, aby wraz ze wszystkimi Pana przyjaciółmi oraz całym demokratycznym środowiskiem międzynarodowym zwracać uwagę świata na łamanie praw obywatelskich na Białorusi.

Życzę Panu i Pańskiemu krajowi wolności.

АЛЕГ ГУЛАК, старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта:

*Дарагі сябра!*

*Шкада, што ты не можаш адсвяткаваць свой дзень народзінаў у цеснай сяброўскай кампаніі. Ты зараз за кратамі, і гэта вялікі боль для нас усіх. Але, я спадзяюся, ты адчуваеш падтрымку мноства людзей, якім ты і твае паплечнікі з "Вясны" дапамагалі ў няпростыя для іх часы.*

*Ты нашмат мацнейшы за тых, хто цябе пераследуе, і маральная перавага на тваім баку. Веру, што гэта дае табе сілы годна трымацца ў такой няпростай сітуацыі.*

*Спадзяюся, што ты хутка будзеш з намі, зможаш адсвяткаваць дзень народзінаў разам з сябрамі, і, што найгалоўнае, зможаш працягваць сваю працу на карысць усёй Беларусі.*

РАІСА МІХАЙЛОЎСКАЯ, кіраўнік «Цэнтра па правах чалавека»:

*Калі дзесьці далёка за мяжой я гавару, што я праваабаронца з Беларусі, мне ў першую чаргу нагадваюць пра Алеся Бяляцкага. Без перабольшвання, Алесь — гэта твар беларускай праваабароны. Гэта чалавек, які ніколі не паддаецца ніякім амбіцыям. І ў той жа час ягоная роля ў праваабарончым руху Беларусі — неацэнная. Гэта чалавек справы, слова, прынцыпу і справядлівасці.*

*Я віншую Алеся з Днём нараджэння і ў першую чаргу хачу пажадаць яму здароўя і стойкасці. Спадзяюся, што гэтыя цёмныя часіны хутка пройдуць, а выпрабаванні, якімі надзяліў яго лёс, не зломяць, а толькі ўмацуюць яго.*

Зразумела, вельмі шкада, Алесь, што сёння ты не з намі, але мы ўсе вельмі спадзяемся на тваё хутчэйшае вызваленне. Самыя цёплыя, добрыя словы ад Цэнтра па правах чалавека Алесю Бяляцкаму!

З Днём нараджэння!

ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА, старшыня юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта:

*Дарагі Алесь, віншую з Днём народзінаў!*

*Трымайся! Мы — разам з табой. Табе не пазычаць мужнасці, і я спадзяюся, што ўсё скончыцца добра. За цябе змагаюцца многія вядомыя людзі, тваім лёсам занепакоена ўся праваабарончая супольнасць, і ўсе мы спадзяемся, што неўзабаве ты зноў будзеш на волі.*

*Здароўя табе! Працягвай займацца фізічнай культурай цела таксама, як ты гэта рабіў заўсёды да таго, што здарылася, працаваць над тымі дакументамі і кнігамі, якія ты задумаў. І я думаю, што мы хутка сустрэнемся. Яшчэ раз — з Днём народзінаў!*



Lietuvos Respublikos
Užsienio reikalų ministras

Gerbiamas pone Alesiau Bialiacki,

Lietuvos žmonių vardu noriu pasveikinti Jus garbingo jubiliejaus proga. Jūsų ilgametis ir neįkainojamas darbas ginant žmogaus teises Baltarusijoje yra labai vertingas bei ypač svarbus siekiant įtvirtinti demokratiją Baltarusijoje. Noriu patikinti Jus, kad Lietuvos žmonės yra kartu su Jūsų siekiais. Europos Sąjunga neketina nuleisti rankų siekdama Jūsų ir kitų Baltarusijos politinių kalinių išlaisvinimo.

Leiskite palinkėti Jums kuo geriausios sveikatos ir tvirtybės šiuo sunkiu laiku.

Su pagarba,

Audronius Ažubalis

ІНА КУЛЕЙ, кіраўнік камітэта дапамогі рэпрэсаваным «Салідарнасць»:

*Алесь, дарагі! Любім цябе вельмі!*

*Я жадаю, каб свае дні народзінаў ты больш ніколі не сустракаў за кратамі, а толькі з сябрамі. Упэўненая, што так і будзе заўсёды. Мы з табою! Чакаем!*

*Жыве Беларусь!*

АЛЕНА ТАНКАЧОВА, кіраўнік «Цэнтра прававой трансфармацыі»:

*Алесь! Ад усёй душы віншую цябе з Днём нараджэння! Нягледзячы на тое, што зараз ты знаходзішся ў тым месцы, якое не дазваляе нам убачыцца— у мяне ёсць уражанне, што мы ўсё адно побач. Таму што вялізная колькасць людзей думае пра цябе, вялізная колькасць людзей непакоіцца пра цябе, вялізная колькасць людзей захапляецца тваёй мужнасцю і паслядоўнасцю.*

*Жадаю табе высокага творчага патэнцыялу, паколькі воляю лёсу ў цябе з'явіўся вольны час, і выкарыстаць гэтую магчымасць для напісання ўсяго задуманага табой, усяго, на што не хапала часу ў адкрытай прасторы. А яшчэ — настрою на хутчэйшы выхад, дзеля гэтага мы ўсе зараз працуем і ўсе гэтага чакаем.*

*Абдымаю, і з Днём нараджэння!*

БАРЫС ЗВОЗСКАЎ, сябра праўлення «Прававой ініцыятывы»:

*Віншаванне Алесю Бяляцкаму я хацеў бы перадаць тэлеграфным стылем, у той манеры, якая звыклая для мяне і, акрамя таго, прымушае людзей думаць:*

*ПЗДР ЗДР БЗ БШ БЛ БУ.*

*БЗ*

ЛЮДМІЛА ГРАЗНОВА, кіраўнік «Праваабарончага альянсу»:

*Нягледзячы на тое, што Алесь зараз сядзіць «за решеткой в темнице сырой», мы ўсе пра яго размаўляем, пра яго думаем. Цяперашняя сітуацыя для яго — часовая. Ён выйдзе з яшчэ большым досведам і сацыяльным капіталам, зможа больш важка ўплываць на сітуацыю ў Беларусі.*

*Таму я магу яму пажадаць не адчайвацца, мацаваць сваё здароўе, быць пазітыўным, быць аптымістам. І хутка мы яго пабачым на волі!*

Deputy Prime Minister
and Minister of Foreign Affairs
of the Czech Republic

**Karel Schwarzenberg**

Dear Mr. Bialatsky,

On the occasion of your $50^{th}$ birthday, I would like to wish you good health, all the physical and moral strength you surely need, strong will and never lasting determination.

I would like to use this opportunity to express my deepest respect to the fact that you dedicated your life to tireless advocacy of human rights and dignity face to face authoritarian regimes.

I am deeply sorrowed and still outraged that my best wishes and congratulations cannot meet you at large. Please be assured that I follow your case closely and will use every opportunity not only to declare that your accusation and sentence were not just but also to request your immediate and unconditional release and rehabilitation. You and the human rights center Viasna can count on my personal support as well as the support of my Ministry.

Dear Mr. Bialatsky,

You have spent many years fighting for a free Belarus. I do very much hope that in the sixth and all the upcoming decades of your life you and your fellow Belarusians will live in freedom and democracy.

Yours sincerely,

АЛЕГ ВОЛЧАК, кіраўнік цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву»:

*Алеся я ведаю даўно, з 98-га года: калі я быў дэпутатам гарсавета, ён прыйшоў ад «Вясны» і сказаў, што міліцыя падчас мітынгаў мучыць людзей і трэба неяк разабрацца з гэтым. І вось з тых часоў мы абараняем ад катаванняў, уздымаем пытанні па правах чалавека, але ніколі не думалі, што сітуацыя можа так абвастрыцца, і праз столькі гадоў пасля нашага знаёмства ён можа апынуцца ў турме. Я лічу, што так здарылася таму, што Алесь заўсёды быў вельмі актыўны, усюды паспяваў — і адсочваць сітуацыю на міжнароднай праваабарончай арэне, і ў Беларусі дапамагаць шмат каму. А за апошнія два гады «Вясна» заслужыла вельмі вялікі аўтарытэт. Вядома, такія праваабаронцы — гэта бяльмо для праваахоўнай сістэмы, якая ставіць перад выбарам: або маўчаць, або турма.*

*Таму я хачу пажадаць Алесю трываласці, упэўненасці, што ён не адзін. І я думаю, што ён чалавек мужны і ведае, што ўсе мы з ім, і рана ці позна ён будзе разам з намі.*

Фота з архіва ПЦ "Вясна"




*«Шаноўны Алесь, з Днём народзінаў!*

*Камера СІЗА не лепшае месца для ягонага адзначэння, таму жадаем найхутчэйшага вызвалення і магчымасці працягнуць дапамагаць людзям, што Вы рабілі цягам апошніх 15-ці гадоў свайго жыцця!*

*Мужнасці, бадзёрасці, трываласці і непахіснасці Вам на ўсе часы! Няхай Бог мацуе не толькі веру, а і дадае моцы, надзейных партнёраў і прыхільнікаў, якія б разам прывялі да той Беларусі, пра якую ўсе мы марым!»*

*25 верасня 2011 года сябры “Вясны” з’ехаліся ў Мінск з усёй Беларусі, каб разам правесці вулічную акцыю салідарнасці з сваім кіраўніком. Каля сталічнага Галоўпаштампта, разам з калегамі з іншых арганізацыяў і журналістамі, вясноўцы раздавалі мінакам паштоўкі з віншаваннем для Алеся, які знаходзіўся зусім побач, у СІЗА на Валадарцы. Неабыякавыя людзі падпісвалі паштоўкі і тут жа адпраўлялі іх адрасату.*



*Ад Галоўпаштампта ўдзельнікі віншавальнай акцыі прыйшлі да СІЗА на вуліцу Валадарскага і там, пад гучныя воклічы «З Днём народзінаў, Алесь Бяляцкі!» і «Жыве Беларусь!», адпусцілі ў неба сімвалы свабоды — дзясяткі белых і чырвоных балонікаў.*









*Увечары 25 верасня невядомыя актывісты каля СІЗА, дзе сядзеў Алесь, запусцілі віншавальны феерверк. Ужо пасля вызвалення Алесь узгадваў, як дзівіўся з сукамернікамі гучным салютам — падумалі, што хтосьці святкуе штосьці ў рэстаране непадалёк ад турмы…*



*Уладзімір Някляеў. Фота з архіва ПЦ "Вясна"*

## ВЯЗНІЦА БЯЛЯЦКАГА

25 верасня — дзень народзінаў Алеся Бяляцкага. Сорак дзевяць гадоў. Паўвекавы, юбілейны год ён сустракае ў вязніцы.

За што?.. За тое, кажа Лукашэнка, што не сплаціў падаткі. Ну, няхай… Толькі ў такім разе пытанне: за што Бяляцкага затрымлівалі, арыштоўвалі, прыцягвалі да судовай адказнасці яшчэ 20 разоў?..

Пра гэта Лукашэнка не кажа.

Дык я скажу. За тое самае, за што Бяляцкі ў турме й цяпер. За любоў да Беларусі. Чыстую. Самаадданую. Тую, якая вывела людзей на Плошчу. Такую, якая й не снілася тым, хто сёння разам з нячыстай сілай правіць баль на нашай зямлі. Хто абабраў Айчыну, давёў яе да жабрацтва, хто махлюе, крадзе — і насамрэч не плаціць падаткі. Хто жыве ў палацы ў Драздах — і тыкае пальцам на хату Бяляцкага ў Ракаве.

У чалавека ў паўвека не можа быць сваёй хаты? Тады што ў яго можа быць?.. Толькі тое, што ў карыта кінуць?..

Я ведаю Алеся Бяляцкага яшчэ з часоў ягонага студэнцтва. З часоў маладзёвага аб'яднання «Талака» і літаратурнага таварыства «Тутэйшыя». Не было ў яго ні грошай, ні кута, дзе жыць, але ўсё адно былі праблемы з уладай, якая сабакам з ланцуга кідалася на ўсё сапраўды беларускае. Улада тая (у тыя часы савецкая) у Беларусі закансервавалася — і ў савецкасці сваёй (як і ў сваёй сабачнасці) не змянілася й сёння.

Што ж: перажыўшы лета гарачае, перажывём і…

Усё перажывём!

І выйдуць з вязніцаў і Бяляцкі, і Саннікаў, і Статкевіч, і ўсе, хто кінуты за краты за сапраўдную любоў да сапраўднай Беларусі.

Мацуйся, дружа мой Алесь!
Шлях не дарэшты пройдзены…
Цябе сягоння свет увесь
Віншуе з днём народзінаў!

*З блогу Уладзіміра Някляева*
*на сайце «Беларускі партызан» ад 25.11.2011*



*Суэр Белхасэн. Фота з архіва FIDH*

## ПРЭЗІДЭНТ FIDH СУЭР БЕЛХАСЭН АД ІМЯ ЎСІХ АРГАНІЗАЦЫЙ ФЕДЭРАЦЫІ ПАВІНШАВАЛА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ

У віншавальным лісце калегу — вязню сумлення Суэр Белхасэн выказала ўпэўненасць у яго хутчэйшым вызваленні. *«Мы робім усё магчымае, каб у самай бліжэйшай будучыні сустрэцца з табой і адсвяткаваць разам тваё вызваленне»*. З паштоўкамі і словамі віншавання і падтрымкі да Алеся звярнуліся і шматлікія сябры Федэрацыі з розных краінаў свету, а таксама супрацоўнікі Міжнароднага Сакратарыята, размешчанага ў Парыжы.

Для цэнтралізацыі акцый салідарнасці, арганізаваных праваабаронцамі ўсяго свету, FIDH адкрыла трохмоўны сайт, на якім будуць рэгулярна вывешвацца навіны пра Алеся, афіцыйныя заявы і дэкларацыі міжнародных арганізацый у сувязі з яго справай, інфармацыя аб акцыях падтрымкі і салідарнасці, публікацыі па сітуацыі ў Беларусі.

*«Мы таксама хацелі аддаць належнае нашаму блізкаму сябру і калегу Алесю і яго асабістым якасцям — мужнасці, абаянню, рашучасці і нястомнасці. Мы сабралі відэа-выступы і фотаздымкі, якія хоць часткова адлюстроўваюць яго дзейнасць за тыя сем гадоў, што мы мелі шчасце і гонар працаваць разам з ім*, — адзначыла Суэр Белхасэн. — *Віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі — не толькі выдатны беларускі праваабаронца, але і постаць рэгіянальнага і міжнароднага значэння.*
*Грузія 2008 года адразу пасля вайны з Расіяй, усё яшчэ агорнуты гвалтам і агнём поўдзень Кыргызтана чэрвеня 2010 года, рэвалюцыйны Туніс увесну 2011 года... Алесь заўсёды быў там, дзе чакалі яго ўдзелу і дапамогі, дзе яго досвед і ўпартасць надавалі сілы і надзею. Сёння ж сілы і надзея як ніколі патрэбныя самому Алесю, і я ад усёй душы жадаю нашаму дарагому сябру здароўя і сіл, і галоўнае — хутчэйшага вызвалення. Я ўпэўненая, што нас з ім яшчэ чакае шмат цікавых і змястоўных паездак па ўсім свеце».*

*Публікацыя сайта Freeales.fidh.net ад 25.11.2011*





*Акцыя салідарнасці з Беларуссю ў Кракаўскім прадмесці Варшавы.*
*Фота з архіва Вольгі Саламатавай з Хельсінкскага Фонду па правах чалавека*

Паштоўкі да дня нараджэння прыходзілі беларускаму вязню сумлення з блізкага і далёкага замежжа. У 2011 годзе цэнтрам віншавальнай акцыі «Салідарныя з Беларуссю. Паштоўкі для арыштаванага Алеся Бяляцкага» стала Варшава. Няўрадавыя арганізацыі, якія працуюць па Беларусі ў межах Групы «Замежжа», вырашылі распавесці ў Польшчы, што выбітны беларускі праваабаронца знаходзіцца пад арыштам у тым ліку «дзякуючы» інфармацыі, якую перадала беларускаму боку Генеральная пракуратура Польшчы.

Віншаванні Алесю Бяляцкаму перадалі больш за 1 300 удзельнікаў VI Агульнапольскага форуму няўрадавых ініцыятываў, які праходзіў тым часам у Варшаве, а таксама наведвальнікі стэндаў Групы «Замежжа» і Фонду Баторыя ў Кракаўскім прадмесці польскай сталіцы.

Да акцыі таксама далучыліся прадстаўнікі іншых краінаў, якія прыехалі ў Польшчу на штогадовую нараду АБСЕ па чалавечым вымярэнні ды на іншыя міжнародныя мерапрыемствы. Агулам было сабрана каля 4000 паштовак да дня нараджэння Алеся Бяляцкага, падпісаных вядомымі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі, прадстаўнікамі розных палітычных партый, грамадскімі актывістамі з больш як трох соцен няўрадавых арганізацый, журналістамі і вялікай колькасцю звычайных людзей, якія пажадалі выказаць салідарнасць беларускаму праваабаронцу.

*«Дасылаючы Алесю паштоўку з віншаваннямі, хочам выказаць нашую салідарнасць з ім і ўсімі актывістамі, якія пераследуюцца рэжымам Лукашэнкі, і шкадаванне, што нашыя ўлады спрычыніліся да яго зняволення. Паштоўкі з сабранымі подпісамі мы адправім у СІЗА ў Мінску, дзе ўтрымліваецца Бяляцкі. Інфармацыю пра акцыю перададзім яго калегам з «Вясны». Нам важны шырокі рэзананс, мы хочам, каб гэтых паштовак было як мага больш!»*

*Павел Багіньскі*
*з Фонду Баторыя*
*для сайта Eastbook.eu.*

Сярод гэтых паштовак было віншаванне ад Аун Сан Су Чжы — вядомай ва ўсім свеце дысідэнткі з Бірмы, лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі міру за 1991 год, якая чатырнаццаць гадоў утрымлівалася пад хатнім арыштам за супрацьстаянне ваеннай дыктатуры ў сваёй краіне. Паштоўку Алесю Бляцкаму Аун Сан Су Чжы перадала праз FIDH.







*Дарагі Алесь,*

*Спадзяюся ты зусім-зусім хутка выйдзеш на волю і апынешся сярод тваіх родных і сяброў, якіх у цябе вялікая колькасць ва ўсім свеце.*

*З найлепшымі пажаданнямі, Аун Сан Су Чжы»*

# 50-ГОДДЗЕ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА: «ВАЛЬНЕЙШЫ ЗА ТЫХ, ХТО НА ВОЛІ»

25 верасня 2012 года Праваабарончы цэнтр «Вясна» ладзіў святочную імпрэзу ў гонар свайго кіраўніка, на якую сабраліся калегі-праваабаронцы і даўнія сябры Алеся, журналісты, пісьменнікі, музыкі. Усе разам у душэўнай атмасферы гаварылі пра розныя падзеі з шматграннага жыцця юбіляра, пра яго дасягненні і заслугі як літаратуразнаўцы, музейшчыка і праваабаронцы.

*Фота з архіва ПЦ «Вясна»*



*Фота з архіва ПЦ «Вясна»*




Наведнікі імпрэзы, якія не паспелі павіншаваць Алеся, маглі падпісаць для яго паштоўкі ці запісаць відэа-віншаванне на памяць.

Ад сям'і Алеся віншаванні прымала яго родная сястра Вольга.

Святочная імпрэза ў гонар юбіляра-палітвязня, якая асвятлялася ў незалежных медыя, была працідзеяннем атмасферы ціску, якая стваралася на той час вакол яго ў калоніі.

## БЯЛЯЦКАМУ Ў КАЛОНІІ ВЕЛЬМІ ЦЯЖКА

У дзень 50-годдзя Алеся Бяляцкага былы зняволены Бабруйскай калоніі паведаміў палітвязню Паўлу Севярынцу, з якім пазнаёміўся на «хіміі», пра ціск, які чыніць на Бяляцкага адміністрацыя калоніі.

*«…Якраз учора, калі ў Алеся быў 50-гадовы юбілей, ён патэлефанаваў, бо менавіта ў гэты дзень вызваліўся. І ён паведаміў, што там Алесю вельмі цяжка, што да яго нават цяжка наблізіцца. Бо той, хто да яго падыходзіць і размаўляе, пасля гэтых людзей "вылоўліваюць" і асобна размаўляюць з імі ў атрадзе. Яго самога ціснуць, чапляюцца да яго па кожнай драбязе, і, канечне, там жыццё пад заўсёдным ціскам. Ён кажа, што ўсе разумеюць, што Алесь — "мужык", што ён стаіць за праўду, але вымушаныя яго абыходзіць, бо будзе дрэнна і яму, і ім».*

*Паводле інфармацыі «Свабоды»*
*ад 26 верасня 2012 года*

## РЫМЦЕЛІ.
*Алесю Бяляцкаму*

Калі слухаць і слухаць,
Як выюць за кратамі вецер са снегам,
Як у фортцы звініць і звініць зледзянелае шкло,
Можна ўспомніць варагаў з хазарамі і печанегаў —
Шмат чаго, што мінула, нібы не было.

Можна ўспомніць Афіны і Рым,
і падумаць пра рымлянак,
Пра гетэр — не хапае за кратамі рымскіх гетэр…

Але ўспомніўся мне
воўк у лесе зімовым пад Рымцелямі:
Як, унюхаўшы пах чалавечы, ашчэрыўся звер!

Не таму, што галодны. Я бачыў па бруху: наеты.
Ён да логвішча йшоў — і не быў я ў патрэбу яму.
Але пах, які вычуў ён,
быў не з ваўчынага свету:
Звер учуяў турму.

Можна ўспомніць, калі
зазвініць капяжамі адліга,
І за кратамі
ценькне вяснова нараніцы птах,
Як ашчэрваўся свет на Хрыста
і на Марціна Лютэра Кінга,
На любога і кожнага, хто чалавечынай пах.

Можна ўспомніць… Але
у ваўчыных вачах не пра тое…

Скрозь прапахла зямля
потам,
спермай,
мачою,
крывёю
Ад Афінаў і Рыма — і да Калымы,
Ды нішто і ніхто ў гэтым свеце не пахне турмою —
Толькі мы.

*У дзень 50-годдзя Алеся Бяляцкага паэт і былы палітвязень Уладзімір Някляеў даслаў гэты верш-прысвячэнне на «Свабоду»*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ




Экс-маршалак польскага Сейму Гжэгаж Схетына, Амбасадар Лі Файнстэйн, Наталля Пінчук і прадстаўнік Дзярждэпартамэнту ЗША. Фота svaboda.org (RFE/RL)

У дзень юбілею Дзярждэпартамент ЗША ўганараваў Алеся Бяляцкага прэстыжнай узнагародай Абаронцаў правоў чалавека (Human Rights Defenders Award). Яе ў Польшчы за свайго мужа атрымлівала Наталля Пінчук. Пра цырымонію ўручэння, якая праходзіла ў пасольстве ЗША ў Варшаве з удзелам прадстаўнікоў беларускіх няўрадавых арганізацыяў, дыпламатаў, парламентарыяў, распавяла Свабода.

Пасол Лі Файнстайн зачытаў адмысловы зварот сакратара Дзярждэпартамента Хілары Клінтан:

*«Мы жадаем Алесю моцнага здароўя і хочам, каб ён ведаў, што сакратар Дзярждэпартамента ЗША і амерыканскі народ падтрымліваюць яго, і мы ўдзячныя за ягоную ахвярнасць дзеля свабоды».*

*«Для нас, для Алеся, вельмі важна ведаць, што ЗША паслядоўна падтрымліваюць права нашага беларускага народа на свабоду. І гэтая прэмія — голас Амерыкі ў справе Алеся Бяляцкага ды іншых людзей, якія гатовыя дзеля свабоды сваёй Радзімы ахвяраваць сваёй свабодай і жыццём»*, — прамовіла ў адказ Наталля Пінчук.

Лаўрэатам Узнагароды Абаронцаў правоў чалавека за 2011 год, акрамя Алеся Бяляцкага, стала грамадзянская Кааліцыя правоў чалавека і канстытуцыйнага заканадаўства Уганды.

Віншавальная акцыя да 50-годдзя Алеся Бяляцкага была сапраўднай падзеяй. На прапанову «Вясны» дасылаць у арганізацыю свае фотаздымкі з пажаданнямі юбіляру адгукнуліся многія людзі, арганізацыі ды ініцыятывы як у Беларусі, так і ў замежжы.

Пасля дасланыя фотаздымкі былі аформленыя ў віншавальны альбом, які быў дасланы Алесю ў калонію.




*Старонкі віншавальнага альбома. З архіва ПЦ “Вясна”*




*«Дзякуй вялікі за каштоўны падарунак! Мабыць, толькі дзеля таго, каб яго атрымаць, варта было сесці ў турму.*
*Я вельмі ўражаны і расчулены…»*, — такім быў водгук адрасата.




Марыя Дале. Фота з архіва ПЦ "Вясна"

## ДЫРЭКТАР ФДПЧ МАРЫЯ ДАЛЕ ПРА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА:

## «Чалавек волі»

Што падарыць на 50-годдзе чалавеку, які страціў усё, а самае галоўнае — Свабоду? Алесю Бяляцкаму, аднаму з самых смелых праваабаронцаў Беларусі, 25 верасня споўнілася 50 гадоў. Ужо больш за год ён утрымліваецца ў беларускай папраўчай калоніі: Бяляцкі быў абвінавачаны ва ўтойванні даходаў і прысуджаны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Справа Алеся абурыла ўвесь свет і стала яшчэ адным з мноства прыкладаў таго, як беларускі рэжым падаўляе грамадзянскую супольнасць. Алесь на працягу многіх гадоў змагаўся за адмену смяротнага пакарання, дапамагаў ахвярам палітычных рэпрэсій і палітычным зняволеным абараняць свае правы, выступаў супраць законаў, якія забараняюць праваабарончую дзейнасць. У выніку ён сам стаў палітвязнем.

Алесь, які ўзначальвае Праваабарончы цэнтр «Вясна», заўсёды быў адным з самых паслядоўных крытыкаў рэжыму Лукашэнкі. У сувязі з гэтым улады ў 2003 годзе зачынілі арганізацыю, якой з таго часу прыйшлося сысці ў падполле. Алесь з тых, хто змагаецца супраць несправядлівасці мірнымі спосабамі і спрабуе прынесці змены ў сістэму, якая зрабіла Беларусь самай ізаляванай дзяржавай Еўропы.

Гэтая ізаляцыя працягваецца. Сёлета адзін за адным з Мінска былі адпраўленыя дадому паслы Польшчы, ЕС і Швецыі. Адказ ЕС на пастаянныя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі — новыя санкцыі, накіраваныя менавіта супраць прадстаўнікоў палітыка-эканамічнай эліты краіны. У цяперашні час ужо больш за дзвесце высокапастаўленых асобаў, многія з якіх нясуць адказнасць за падаўленне грамадзянскіх свабод і пераслед змагароў за дэмакратыю, пазбаўленыя права ўезду ў краіны ЕС.

Парламенцкія выбары, якія прайшлі ў верасні ў Беларусі, паказалі, што няма ніякіх прыкмет паслаблення дыктатарскай хваткі Лукашэнкі. Набліжаныя Лукашэнкі будуць па-ранейшаму мець поўны кантроль над усімі заканадаўчымі і выканаўчымі органамі ўлады. Апазіцыя заклікала да байкоту выбараў і раіла выбаршчыкам ісці ў лес  у грыбы ў дзень выбараў замест таго, каб галасаваць.

Мяркуючы па ўсім, прыступы лютасці, а не рэформы з'яўляюцца адзінай рэакцыяй прэзідэнта на патрабаванні міжнароднай супольнасці выконваць правы чалавека. Пасля таго як сёлета ў ліпені двое шведскіх актывістаў падчас палёту на аднаматорным самалёце скінулі 876 плюшавых мішак-парашутыстаў над Беларуссю, а з імі і ўлёткі ў падтрымку свабоды слова і дэмакратыі, былі звольненыя кіраўнікі беларускіх ВПС і пагранічных войскаў. Пасольства Швецыі, якое акрамя ўсяго іншага актыўна падтрымлівала мясцовых праваабаронцаў, было закрытае. Беларускіх дыпламатаў у Швецыі адклікалі на радзіму.

Нягледзячы на тое, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пагаршалася, Алесь знаходзіў сілы і энергію, каб прымаць актыўны ўдзел у абароне правоў чалавека і ў іншых краінах. Гэтая праца зрабіла яго шырокавядомым, Алесь быў уганараваны шматлікімі ўзнагародамі. Так, у 2006 годзе Алесь атрымаў прэмію Homo Homini («Чалавек чалавеку») з рук Вацлава Гавела, а таксама Прэмію свабоды імя Сахарава Нарвежскага Хельсінкскага камітэта; шведскі ўрад узнагародзіў яго прэміяй імя Пэра Ангера, а ў 2011 годзе ён быў уганараваны прэміяй свабоды слова нарвежскага саюза пісьменнікаў. Многія захапляюцца яго мужнасцю. У тым ліку і яго праціўнікі.

Арышт Алеся і вынесены прысуд не сталі нечаканасцю ні для супольнасці праваабаронцаў, ні для яго самога. На працягу многіх гадоў беларускія ўлады спрабавалі яго зламаць, абылгаць і перашкодзіць Алесю і яго паплечнікам развіваць дэмакратыю і свабоду слова ў Беларусі. Калі мы сустрэлі Алеся ў Беларускім доме правоў чалавека ў выгнанні ў Вільні ў ліпені мінулага года, следства супраць яго ўжо было распачатае, і Алесю пагражаў арышт. Мы сустракаліся, каб абдумаць план далейшых дзеянняў. Алесь, са сваёй звыклай лёгкай іскрынкай у вачах, сказаў нам: *«Я шмат насіў футболак з фотаздымкамі палітвязняў. Магчыма, хутка і мая чарга будзе».*

Беларускія праваабаронцы ганарацца Алесем і лічаць яго сваім годным прадстаўніком. Гэта шчодры чалавек з тонкім гумарам, мяккі ў абыходжанні, але рашучы ў сваёй справе. Менавіта дзякуючы гэтай рашучасці, гонару і ўпартасці Алесь не захацеў эміграваць. Ён хацеў жыць дома ў Мінску са сваёй жонкай і сынам, ён хацеў працаваць непасрэдна ў офісе «Вясны». Алесь не здзейсніў нічога крымінальнага або незаконнага. *«Захочуць арыштаваць мяне за маё легітымнае права працаваць на карысць правоў чалавека — дык няхай. Мы ўсё роўна пераможам у рэшце рэшт»*, — казаў ён з непарушным спакоем.

Санкцыі з'яўляюцца эфектыўнай мерай, і міжнародная супольнасць павінна праводзіць жорсткую палітыку адносна Беларусі. Пасля паўтарагадовай падрыхтоўчай работы ААН прыняла рэзалюцыю, якая прадугледжвае прызначэнне спецдакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

Акрамя АБСЕ, ААН з'яўляецца адзіным міжнародным форумам, на якім прадстаўлена Беларусь, і перад спецдакладчыкам ААН стаіць вельмі важная, хоць і складаная задача. Дзяржавы, якія ўваходзяць у ААН, павінны запатрабаваць, каб спецдакладчык атрымаў дазвол наведаць Беларусь і даклаў ААН аб стане грамадзянскай супольнасці, незалежных СМІ і праваабаронцаў у краіне.

Наш падарунак Алесю на яго 50-годдзе — гэта паштоўка. Сумесна з праваабаронцамі з усяго свету мы на працягу апошняга тыдня дасылалі Алесю віншаванні ў калонію, дзе ён утрымліваецца. Такім чынам мы паказваем Алесю, што мы не забыліся пра яго, і што барацьба за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі працягваецца. Але гэтага недастаткова. Мы ведаем, што Алеся асабліва строга караюць у турме проста за тое, што ён — Алесь Бяляцкі. Абмежаванне правоў на медыцынскую дапамогу, харчаванне і зносіны прывяло да крытычнага стану здароўя Алеся. Міжнародная супольнасць павінна актыўна садзейнічаць таму, каб Беларусь стала прыярытэтным пытаннем на парадку дня, і каб Алесь і астатнія 11 палітвязняў у Беларусі былі неадкладна вызваленыя.

*Марыя Дале, выканаўчы дырэктар Фонду дамоў правоў чалавека (Осла, Нарвегія)*

Самым нечаканым падарункам на 50-годдзе для Алеся Бяляцкага, як ён пасля казаў, стаў візіт да яго ў гэты дзень прадстаўніка Папы Рымскага ў Беларусі — арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці.

«На знак павагі да ўніверсальнага маральнага аўтарытэту Святога Айца і гуманітарных намаганняў Святога Пасаду, у рамках двухбаковых дыпламатычных адносін, папскаму прадстаўніку ў Мінску, арцыбіскупу Клаўдыё Гуджэроці, было дазволена наведаць некаторых зняволеных у турмах Беларусі. Гаворка ідзе пра Каваленку, Сырамолатава, Статкевіча, Бяляцкага, Дашкевіча, Лобава і Севярынца. Апостальскі нунцый сустрэўся з кожным з гэтых зняволеных у месцах пазбаўлення волі, даведаўся пра іхні стан і выслухаў іх. Ён перадаў ім малітвы Святога Айца і каталікоў за іх і іх сем'і».

*Паведамленне на сайце Радыё Ватыкана ад 27 верасня 2012 года.*



*Алесь Бяляцкі і Клаўдыё Гуджэроці ў Мінску ў 2015 годзе. Фота Уладзя Грыдзіна*

Гэтая падзея давала спадзяванне на вызваленне вязняў сумлення. Візіт апостальскага нунцыя быў вялікім сюрпрызам і моцнай маральнай падтрымкай для кожнага з іх. Апроч усяго, ён уратаваў Алеся Бяляцкага ад сумнай перспектывы сустрэць дзень нараджэння ў штрафным ізалятары. Пра гэта вязень у хуткім часе напісаў у лістах да калегаў з «Вясны», і згадваў пасля вызвалення:

«Турэмныя правілы ўнутранага распарадку няпэўныя і даюць магчымасць пакараць любога зняволенага за кожнае дробнае парушэнне, пазбавіць яго спаткання, пасылкі, накіраваць у ШЫЗА. Пытанне, што рабіць са мной, перад адміністрацыяй стаяла востра, але асабіста я з-за гэтага моцна не перажываў. Спакойна ўспрыняў сітуацыю, калі ў 2012 годзе, перад амністыяй, мне літаральна за паўтара месяца намалявалі тры парушэнні. Я стаў “злосным парушальнікам рэжыму” і, нягледзячы на тое, што стаў ганаровым грамадзянінам Парыжа, праляцеў з амністыяй, як тая фанера над ім.

Гэтыя парушэнні выпісваліся рэгулярна, а ў тым жа 2012 годзе ледзь не патрапіў у ШЫЗА. З волі жонка перадала абутак, яго на кантролі прапусцілі. Але, як толькі абуўся, адразу ж атрымаў парушэнне за “абутак нестатутнага ўзору”. Ужо рыхтаваўся ў ШЫЗА, прайшоў абавязковае ў такім выпадку медыцынскае абследаванне, і раптам — не садзяць. А праз дзень — 50-гадовы юбілей.

І вось акурат у свой Дзень нараджэння даведваюся, што да мяне завітаў Апостальскі нунцый Клаўдыё Гуджэроці. Дапусцілі, так бы мовіць, адзінага прадстаўніка міжнароднай супольнасці. Сустрэча праходзіла ў кабінеце начальніка калоніі ў прысутнасці аднаго з кіраўнікоў Дэпартамента выканання пакаранняў. Расказваць нунцыю пра сваю справу не хацелася, таму што не бачыў, якім чынам ён можа дапамагчы. Сам арцыбіскуп — гуманітары па адукацыі, выкладаў ва ўніверсітэце, таму ў нас гутарка ішла ў асноўным пра італьянскую і беларускую літаратуру. Трэба было бачыць здзіўленне на твары турэмшчыка, маўляў, пра што гэта яны гавораць… Для мяне гэта было незабыўным, выдатным сюрпрызам. Архібіскуп як звычайны шчыры чалавек падтрымаў мяне маральна. Тады я зразумеў, чаму мяне не адправілі ў ШЫЗА. Уяўляю, як бы там выглядала сустрэча з нунцыем.

Увогуле, за ўвесь час адсідкі я атрымаў 12 парушэнняў, і такі рэжым утрымання цягнуўся да студзеня 2014 года. Пасля парушэнняў я больш не атрымліваў, але былі правакацыі іншага парадку».

*«Народная воля», 1 жніўня 2014 года.*

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ПІША ПРА «АПТЫМІСТЫЧНЫ ЗНАК»

«Мне прыходзіць шмат лістоў і паштовак. Я імкнуся адказаць на ўсе, дзе ёсць зваротны адрас. Паглядзім, хто каго, але за тры дні, 25-27 верасня, прыйшло ўжо каля двухсот.
Вось пацяплела — і настрой адразу палепшыўся...
А самым вялікім сюрпрызам быў прыезд 25-га нунцыя. Вось што сабе і ўявіць не мог. Ён перадаў клопат пра нас, сядзельцаў, Папы. Як у свой час Ян Павел II з'ездзіў на Кубу — і выпусцілі больш за 100 вязняў. Пасадзілі на самалёт і адправілі ў Канаду без іхняе згоды. Спадзяюся на больш удалы варыянт. Урэшце, тое, што нунцыя пусцілі да нас, гэта даволі аптымістычны знак. Ён спытаўся, што перадаць Папу. Я сказаў — падзяку за клопат пра нас.
Але ў гэтай усёй гісторыі значна важней стварыць такую атмасферу, каб не было так, што адных выпусцяць, а новых набяруць. І пра гэта заўсёды трэба памятаць».

*З ліста Алеся Бяляцкага ад 27 верасня 2012 года,*
*апублікаванага на сайце spring96.org*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ
## ПРЭМІЯ АД ПОЛЬСКАГА ІНСТЫТУТА ЛЕХА ВАЛЕНСЫ

Юбілейны тыдзень Алеся Бяляцкага завершыўся яшчэ адным салідарным акцэнтам: ён стаў лаўрэатам прэміі Леха Валенсы за 2012 год. Гэтую ўзнагароду Інстытут Леха Валенсы прысудзіў яму «за ўнёсак у дэмакратызацыю дзяржавы, актыўнае прасоўванне правоў чалавека і дапамогу людзям, якія пераследуюцца цяперашняй уладай у Беларусі».

Прэмія прысуджаецца штогод 29 верасня, у дзень нараджэння Леха Валенсы, збіраючы ў Гданьску знакамітых гасцей з Польшчы і іншых краінаў. Урачыстая цырымонія адбываецца ў Палацы Артус, куды і была запрошаная жонка лаўрэата Наталля Пінчук. Лех Валенса, уручаючы ёй узнагароду, сказаў: «Мы ўдзячныя за тое, што да гэтага часу зрабіў Алесь Бяляцкі, за яго ахвярнасць. Адначасова мы хочам падтрымаць яго ў мірнай барацьбе за перамены ў яго краіне».




*Урачыстая цырымонія асвятлялася на афіцыйным сайце горада Гданьска gdansk.pl*

У 2012 годзе ўзнагарода ўручалася ўжо пяты раз, аднак упершыню адрасат не змог атрымаць яе асабіста. «Мы даўно з турботай думалі, што калі-небудзь настане дзень, калі ворагі свабоды і дэмакратыі не дазволяць нашаму лаўрэату атрымаць прэмію асабіста. І вось менавіта такая сітуацыя здарылася ў выпадку Алеся Бяляцкага», — сказаў з гэтай нагоды сябра камітэта, які абіраў лаўрэата, былы прэм’ер-міністр Польшчы Ян Кшыштаф Бялецкі. У склад камітэта на чале з Валенсам таксама ўваходзілі былы старшыня Вярхоўнага Са-

вета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, былы міністр замежных спраў Францыі і Польшчы — Бернар Кушнер і Уладзіслаў Барташэўскі, былы прэзідэнт Румыніі Эміль Канстанцінэску, былы прэм’ер-міністр Славакіі Мікулаш Дзурында і былы старшыня Бундэстагу Рыта Сусмут.

На наступны дзень часопіс «Wprost» апублікаваў артыкул Леха Валенсы «Dlaczego nagrodziliśmy Alesia?» («Чаму мы ўзнагародзілі Алеся?»), у якім аўтар разважае пра дэмакратыю ў сучасным свеце, пра каштоўнасці і высокую цану, якую часам даводзіцца плаціць за перамены да лепшага.

---

> «Вы можаце быць асуджаныя за клопат пра іншых — і часам плаціць высокую цану. За самаадданасць, якая дае надзею і веру ў лепшую будучыню, вы можаце падвяргацца праследу. Тым не менш, ёсць людзі, якія ўсё яшчэ вераць, нягледзячы на ўсё гэта, што можна жыць у вольным і дэмакратычным грамадстве, нават там, дзе няма рэальнай дэмакратыі. Такая пазіцыя заслугоўвае павагі. Таму сёлета журы аддало ўзнагароду нашаму сябру з Беларусі, які заразіў сваіх суайчыннікаў марай пра свабоду,— Алесю Бяляцкаму», — напісаў нобелеўскі лаўрэат міру.

---

Нестандартнай была акцыя нідэрландскага аддзялення Amnesty International 2013 года, прымеркаваная да 51-га дня нараджэння Алеся Бяляцкага. Асноўным пасылам актывістаў было асуджэнне ўмоваў утрымання вязня сумлення.

«Алесь знаходзіцца ў бабруйскай папраўчай калоніі №2. Умовы там надзвычай дрэнныя: памяшканні перапоўненыя, а харчовы рацыён бедны. Ён утрымліваецца разам з 16-цю іншымі вязнямі, але нікому з іх не дазваляюць мець з ім ніякіх стасункаў пад пагрозай пакарання з боку адміністрацыі калоніі», — адзначалася ў прэс-рэлізе з нагоды акцыі. А далей прыводзіліся словы жонкі вязня Наталлі Пінчук: «Мая галоўная занепакоенасць у тым, што доўгае зняволенне можа разбурыць яго здароўе. Ён не самотны [у атрадзе], але ён ізаляваны, што вядзе да дадатковай псіхалагічнай нагрузкі на яго. Яму даюць столькі (прадуктаў харчавання), каб пераканацца, што ён не памрэ, але ў гэтай дыеце вельмі мала вітамінаў, і яна непазбежна ўплывае на здароўе. За апошні год Алесь ні разу не атрымліваў свежай гародніны або садавіны».





Актывісты Amnesty International прыйшлі да пасольства Беларусі ў Гаазе з адмысловымі «падарункамі» для яе супрацоўнікаў амбасады. Яны прынеслі незвычайны торт-галаву Алеся Бяляцкага, скрыню са свежай садавінай і гароднінай— «каб нагадаць уладам пра абавязкі ў межах Міжнароднага пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, звязаных з забеспячэннем ажыццяўлення права асобаў, якія ўтрымліваюцца пад вартай, на належны ўзровень фізічнага і псіхічнага здароўя», а таксама — тысячы новых подпісаў пад патрабаваннем свабоды для вязня сумлення. Беларускія дыпламаты былі шакаваныя і не адважваліся прымаць такія «падарункі».








*Акцыя аддзялення Amnesty International у Гаазе 25 верасня 2013 года. З архіва ПЦ «Вясна»*

# ФОРУМЫ ПРАВААБАРОНЦАЎ

Форумы праваабарончай супольнасці — нацыянальныя, рэгіянальныя і міжнародныя на працягу трох гадоў былі важнымі пляцоўкамі, дзе паўставала пытанне незаконнага зняволення Алеся Бяляцкага і пераследу «Вясны». За гады зняволення асоба Алеся стала сімвалам ганебнага пераследу праваабаронцаў не толькі ў Беларусі, але і на ўсёй постсавецкай прасторы. У некаторых іншых постсавецкіх краінах праваабаронцаў таксама прыцягваюць да крымінальнай адказнасці па палітычных матывах за праваабарончую дзейнасць.

За 2011–2014 гады адбылося сем маштабных праваабарончых сходаў, праз якія лейтматывам праходзіла патрабаванне вызвалення Алеся Бяляцкага: тры штогадовыя нарады АБСЕ па чалавечым вымярэнні, 38-ы Кангрэс FIDH, III Беларускі праваабарончы форум і дзве штогадовыя канферэнцыі Civil Rights Defenders «Дні праваабаронцаў». У межах гэтых форумаў арганізоўваліся асобныя мерапрыемствы, прысвечаныя беларускаму вязню сумлення — ад тэматычных сайд-івентаў да вулічных акцыяў.

---

**Нарада АБСЕ па разглядзе выканання абавязальніцтваў у галіне чалавечага вымярэння —** найбуйнейшае штогадовае мерапрыемства АБСЕ па праваабарончай праблематыцы, у якім бяруць удзел афіцыйныя дэлегацыі дзяржаў-удзельніц АБСЕ, а таксама няўрадавыя арганізацыі з гэтых краінаў. Гэты форум дае магчымасць прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці наўпрост, седзячы за адным сталом, ставіць вострыя пытанні перад нацыянальнымі ўрадамі ды ўсімі замежнымі дэлегацыямі, таму праваабаронцы заўжды імкнуцца браць удзел у гэтых нарадах. Разам з тым яны «звяраюць гадзіннікі» паміж сабой — абмяркоўваюць агульныя ўстаноўкі і прынцыпы, узгадняюць пазіцыі па «гарачых» пытаннях, каардынуюць сумесныя дзеянні. Адной з такіх «гарачых» тэмаў была «справа Бяляцкага».

# АБ НЕАБХОДНЫХ ДЗЕЯННЯХ МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ Ў СУВЯЗІ СА СПРАВАЙ ВЯЗНЯ СУМЛЕННЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

*25 верасня 2013 года*

Committee on International Control over the situation with Human Rights in Belarus

*З сайта hrwatch-by.org*

Заява Міжнароднай назіральнай місіі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі

Ажыццяўляючы дзейнасць па даручэнні Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі (КМК), які аб'ядноўвае прадстаўнікоў нацыянальных і міжнародных няўрадавых арганізацый прасторы АБСЕ,

ажыццяўляючы маніторынг агульнай сітуацыі з захаваннем фундаментальных правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь,

падкрэсліваючы, што правы чалавека з'яўляюцца прадметам прамой і законнай заклапочанасці міжнароднай грамадзянскай супольнасці, а таксама дзяржаў-удзельніц АБСЕ, якія ўзялі на сябе абавязацельствы сумеснага кантролю за выкананнем стандартаў правоў чалавека і вяршэнства права,

улічваючы асаблівы міжнародна-прававы статус праваабаронцаў,

лічачы недапушчальным выкарыстанне судовай сістэмы і сістэмы выканання пакаранняў як механізмаў палітычна матываваных рэпрэсій,

Міжнародная назіральная місія і яе Прадстаўнік па становішчы праваабаронцаў

- лічаць недапушчальным той факт, што вядомы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, прызнаны вязнем сумлення, ужо больш за два гады знаходзіцца ў зняволенні, і што працягваюць паступаць паведамленні аб выкарыстанні правілаў унутранага распарадку папраўчай установы ў якасці механізму ціску, які прыводзіць да парушэння правоў як самога Бяляцкага, так і яго сваякоў;
- падкрэсліваюць, што за яго знаходжанне ў зняволенні нясуць адказнасць як улады Рэспублікі Беларусь, якія сістэматычна парушаюць свае міжнародныя абавязацельствы па стварэнні спрыяльных умоў для праваабарончай дзей-

насці, так і ўсе дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ і дзяржавы, якія падтрымалі стварэнне мандата спецдакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь;

- у сувязі з гэтым далучаюцца да заклікаў міжнароднай грамадскасці і беларускай грамадзянскай супольнасці аб неадкладным і безумоўным вызваленні Алеся Бяляцкага (агучаных, у тым ліку, 25 верасня 2013 года, у дзень яго нараджэння);
- падтрымліваюць яго вылучэнне на Нобелеўскую прэмію міру, а таксама сумеснае вылучэнне палітвязняў Беларусі на прэмію імя Андрэя Сахарава;
- лічаць неабходным сур'ёзны перагляд механізмаў міждзяржаўнага ўзаемадзеяння праваахоўных структур у частцы супрацоўніцтва з дзяржавамі, судовыя сістэмы якіх залежныя ад выканаўчай улады і не адказваюць стандартам бесстароннасці і прыхільнасці вяршэнства права;
- прапануюць накіраваць дадатковыя намаганні на развіццё незалежнага грамадскага кантролю за месцамі пазбаўлення волі, перш за ўсё ў тых дзяржавах - удзельніцах АБСЕ, у якіх утрымліваюцца вязні сумлення і палітвязні.

*Кіраўнік Місіі Андрэй Юраў*
*Прадстаўнік Місіі па становішчы праваабаронцаў Дзмітрый Макараў*

*Заява была распаўсюджана падчас працы Нарады АБСЕ па чалавечым вымярэнні ў 2013 годзе*

## МАЎКЛІВАЯ АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ З АЛЕСЕМ БЯЛЯЦКІМ НА АДКРЫЦЦІ НАРАДЫ АБСЕ ПА ЧАЛАВЕЧЫМ ВЫМЯРЭННІ 26 ВЕРАСНЯ 2011 ГОДА

Падчас адкрыцця Нарады ў якасці ганаровай госці выступала Генеральны сакратар FIDH Хадзіжа Шэрыф — адна з вядомейшых туніскіх праваабаронцаў, заснавальніца руху туніскіх жанчынаў-дэмакратак і сябра Туніскай Лігі правоў чалавека.  Падчас сваёй прамовы, у якой Хадзіжа Шэрыф казала пра ролю грамадзянскай супольнасці ўсіх краінаў як адзінай гарантыі стабільнасці, яна асобна спынілася на сітуацыі з віцэ-прэзідэн-

там FIDH Алесем Бяляцкім і заклікала да яго неадкладнага вызвалення. У гэты момант у зале ўсталі некалькі дзясяткаў праваабаронцаў у майках з выявай свайго калегі-палітвязня. Гэтая маўклівая акцыя салідарнасці выклікала гучны рэзананс.

Нарады АБСЕ па чалавечым вымярэнні традыцыйна ладзяцца ў Варшаве ў апошняй дэкадзе верасня, што па часе супадае з днямі нараджэння Алеся Бяляцкага. Ягоныя калегі з розных краінаў і міжнародных арганізацыяў скарыстоўвалі гэтую магчымасць: на пляцоўцы перад гатэлем «Сафітэль», у якім праходзіла мерапрыемства, праваабаронцы ў пікетах патрабавалі вызвалення Алеся Бяляцкага ды іншых палітычных вязняў, і такім чынам прыцягвалі ўвагу ўдзельнікаў форуму да сітуацыі ў Беларусі.




*Фота з архіва FIDH*

# САЛІДАРНЫЯ ДЗЕЯННІ

27 верасня падчас нарады АБСЕ па чалавечым вымярэнні ў Варшаве, якая сабрала каля тысячы прадстаўнікоў урадаў і актывістаў грамадзянскай супольнасці з 56 краін-удзельніц АБСЕ, прайшоў пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага. Ён быў арганізаваны Польскім Хельсінкскім фондам па правах чалавека і FIDH.

Перад варшаўскай гасцініцай «Сафітэль», дзе праходзіла сустрэча АБСЕ, сабралася каля 50 чалавек у майках з партрэтам Алеся Бяляцкага і з плакатамі «Свабоду палітычным зняволеным!». Тут былі праваабаронцы з Украіны, Расіі, Кыргызстана, Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Узбекістана, Казахстана ды шэрагу іншых краінаў. Мінакам раздавалі інфармацыю пра беларускага палітвязня і прапаноўвалі падпісаць для яго паштоўку. Лозунгі «Свабоду Бяляцкаму!», «Свабоду Беларусі!», «Ганьба дыктатарам!» гучалі на розных мовах.




*Пікет насупраць гатэля “Сафітэль”, дзе ладзіцца канферэнцыя АБСЕ. Верасень 2011 год. Фота з архіва FIDH*

«Для нас важна, каб Беларусь заўсёды знаходзілася ў фокусе міжнародных арганізацый. Адзінае, на што сёння можна спадзявацца — гэта рэакцыя міжнародных арганізацый і Еўрасаюза. Бо ўнутры Беларусі ніякіх прававых механізмаў, якія б мы маглі задзейнічаць у абароне ўсіх палітвязняў, не толькі ў справе Бяляцкага, няма. Як няма спадзяванняў на нейкі незалежны суд».

Валянцін Стэфановіч з ПЦ «Вясна», удзельнік пікету

«Незалежна ад таго, якія яму прад'яўляюць абвінавачанні, суд над Бяляцкім будзе палітычным. І адзінае, што сапраўды адыграе ролю ў ягоным лёсе, гэта палітычная воля кіраўніцтва. Кіраўніцтва, як бы яму гэтага не хацелася, залежнае шмат ад якіх фактараў эканамічных, палітычных, геапалітычных. Таму мы спадзяемся, што калі Еўропа зойме сапраўды прынцыповую пазіцыю ў справе вызвалення Алеся Бяляцкага і астатніх палітычных зняволеных, то да гэтага Лукашэнка не зможа не прыслухацца».

Саша Кулаева з FIDH, удзельніца пікету

«Частка ўрада краін-удзельніц АБСЕ дапускае час ад часу парушэнні правоў чалавека, а частка гэта робіць сістэмна. Як гэта ёсць у Беларусі».

Алег Гулак з БХК, удзельнік пікету

---

Затым удзельнікі акцыі перамясціліся да будынка Варшаўскага ўніверсітэта ў Кракаўскім прадмесці.

Падчас канферэнцыі АБСЕ Абсерваторыя па абароне правоў праваабаронцаў зняла кароткі дакументальны фільм пра становішча ў рэгіёне Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі — «Рэпрэсіі супраць праваабаронцаў узмацняюцца», у якім прадстаўнікі няўрадавых арганізацый з Беларусі, Расіі, Украіны, Узбекістана, Кыргызстана і Казахстана распавялі пра ўмовы працы ў сваіх краінах. Стужка дэманстравалася на тэматычных мерапрыемствах у АБСЕ.




*У 2012 годзе ў пікеце падчас нарады АБСЕ ў Варшаве гучалі віншаванні да юбілею Алеся Бяляцкага.*
*Фота з архіва Хельсінкскага Фонду па правах чалавека*

**Міжнародны кангрэс FIDH** — гэта маштабны форум, на які раз на тры гады збіраюцца дэлегаты сяброўскіх арганізацыяў Федэрацыі і прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці краіны, дзе праходзіць форум, дзеля абмеркавання актуальных сусветных працэсаў і выклікаў у рэчышчы правоў чалавека. На Кангрэсе арганізацыі-сябры FIDH супольна вызначаюць стратэгіі працы і абіраюць Міжнароднае праўленне Федэрацыі на наступны тэрмін.

У траўні 2013 года 38-ы Кангрэс FIDH праходзіў у Стамбуле, куды з'ехаліся прадстаўнікі звыш двухсот няўрадавых арганізацыяў са ста трыццаці краінаў. «Палітычныя пераходныя працэсы і правы чалавека: вопыт і выклікі» — такой была галоўная тэма кангрэса. Таксама актыўна ўздымалася праблема палітычна матываванага зняволення сяброў Міжнароднага праўлення FIDH — віцэ-прэзідэнта Алеся Бяляцкага з Беларусі і намесніка генеральнага сакратара Набіла Раджаба з Бахрэйна.



*Удзельнікі 38-га Кангрэсу FIDH — у падтрымку калегаў-палітвязняў. Фота з архіва FIDH*



*Шэсце ўдзельнікаў Кангрэсу FIDH у Стамбуле. Фота з архіва FIDH*

У дзень адкрыцця форуму яго ўдзельнікі зладзілі вулічнае шэсце з патрабаваннем вызвалення сваіх калегаў. «Мы прайшліся па стамбульскай вуліцы, скандуючы “Свабоду Алесю!” і “Свабоду Набілу!”, таксама патрабавалі вызвалення турэцкіх журналістаў і праваабаронцаў, якія знаходзяцца за кратамі па палітычных матывах», — распавядаў Валянцін Стэфановіч, які разам з калегам Паўлам Сапелкам прадстаўляў «Вясну» на кангрэсе.

Яшчэ адным знакам салідарнасці сяброў FIDH з Алесем Бяляцкім стала пераабранне вязня сумлення на пасадзе віцэ-прэзідэнта FIDH.

Кандыдатуру Алеся напярэдадні галасавання прадстаўляла Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн.

---

## ВЫСТУП СУЭР БЕЛХАСЭН:
## вылучэнне Алеся Бяляцкага на пасаду віцэ-прэзідэнта FIDH

*26 траўня 2013 г.*

Дарагія сябры,
Сёння мы абіраем наша Міжнароднае праўленне, і ўсе кандыдаты прадставілі свае кандыдатуры.

У якасці вялікага выключэння я выступаю, каб прадставіць аднаго дэлегата, паколькі ён не можа зрабіць гэтага сам. Ён вельмі далёка ад нас, але ў той жа час вельмі блізка, ён тут, з намі, як вы маглі бачыць гэта падчас усяго Кангрэса.

Я кажу, вядома, пра Алеся Бяляцкага, старшыню Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў Беларусі, выбітнага праваабаронцу, паважанага і вядомага далёка за межамі Беларусі і нават Усходняй Еўропы. Вы ўсе яго ведаеце, і асабліва добра вы даведаліся пра яго



*Суэр Белхасэн — у цэнтры. З левага боку — іранскі праваабаронца Карым Лахіджы, з правага боку, у майцы з выявай Алеся Бяляцкага — калумбійскі праваабаронца Луіс-Гільерма Пэрэс.*
*Фота з архіва FIDH*

ў Ерэване, дзе ў 2010 годзе праходзіў першы ва Усходняй Еўропе Кангрэс FIDH, падрыхтаваны па яго ініцыятыве.

Пачынаючы з 1980-х гадоў, малады беларускі пісьменнік Алесь Бяляцкі ўдзельнічаў у стварэнні асацыяцыі маладых пісьменнікаў. Ён таксама ўступае ў шэрагі дэмакратычнага руху і ўдзельнічае ў арганізацыі першых дэманстрацый супраць савецкай улады. Гэтыя дзеянні прыводзяць да яго арышту ў 1988 годзе — першага ў чарадзе многіх арыштаў і праследаў.

У 1996 годзе, у адказ на ўзмацненне рэпрэсій з боку рэжыму Лукашэнкі, Алесь стварае Праваабарончы цэнтр «Вясна». Арганізацыя займаецца дапамогай ахвярам палітычных рэпрэсій ды інфармуе сусветную грамадскасць аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі. Як і многія іншыя асацыяцыі, «Вясна» была ліквідаваная пастановай суда ў 2003 годзе, але працягнула працу, нягледзячы на вымушаную нелегальнасць.

У 2007 Алесь стаў першым віцэ-прэзідэнтам FIDH з Усходняй Еўропы. Ён быў пераабраны ў 2010 годзе ў Ерэване. Алесь развіў актыўную дзейнасць па ўсім рэгіёне Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі. Ад Арменіі да Казахстана, ад Украіны да Кыргызстана, у Грузіі і Расіі, ён правёў дзясяткі даследчых місій і візітаў салідарнасці. Назіранне за судовымі працэсамі, дапамога сем'ям зняволеных, расследаванне масавых злачынстваў… Яго вопыт быў і застаецца найважнейшай складовай часткай стратэгіі FIDH у рэгіёне.

Але і за межамі рэгіёна Алесь Бяляцкі актыўна ўдзельнічае ў працы па абмене вопытам і праводзіць паездкі салідарнасці з праваабаронцамі ў Егіпце, на Кубе, у Тунісе. Многія з вас бачылі яго на справе ў гэтых паездках і былі запаланёныя яго чалавечымі якасцямі і сілай перакананняў.

З 4 жніўня Алесь стаў адным з вязняў, правы якіх ён заўсёды абараняў разам са сваімі калегамі. Прад'яўленыя яму абвінавачванні ва «ўхіленні ад падаткаў» не больш як ганебная падстава, каб пазбавіцца ад асобы, якая сталай занадта непажаданай.

Але дзякуючы яму, Праваабарончы цэнтр «Вясна» працягвае існаваць, працуючы актыўна і эфектыўна пад кіраўніцтвам Валянціна Стэфановіча, намесніка Алеся, які зараз удзельнічае ў нашым Кангрэсе.

Цэнтр прадстаўлены 17 аддзяленнямі па ўсёй краіне. Сотні беларускіх грамадзян, дзякуючы ім, захавалі свабоду, здароўе і галоўнае — годнасць. І гэта — самая вялікая перамога Алеся. Нас нікольki не здзівіла, калі летась кандыдатура Алеся Бяляцкага згадвалася ў шорт-лісце Нобелеўскай прэміі міру.

Умовы зняволення Алеся суровыя. Ён знаходзіцца ў ізаляцыі нават унутры самой калоніі, нават унутры працоўнага атрада, у якім ён вымушаны працаваць. Астатніх зняволеных караюць за спробу пагаварыць з ім.

Ён актыўна сочыць за жыццём Федэрацыі і высока нясе тытул віцэ-прэзідэнта нашай Федэрацыі, які, як мы спадзяемся, збольшага і дапамагае яму.

Ці павінны мы далучыцца да кампаніі па яго ізаляцыі, развязанай беларускім рэжымам, які імкнецца да таго, каб дзейнасць Алеся перапынілася?

Мы павінны паказаць рэжыму Лукашэнкі, што Алесь па-ранейшаму адзін з нас, і зусім хутка ён будзе побач з намі і працягне сваю працу віцэ-прэзідэнта Федэрацыі.

Дзякуй.

---

У выніку гэтых выбараў спадарыня Белхасэн стала Ганаровым Прэзідэнтам FIDH, а на пасаду Прэзідэнта Федэрацыі быў абраны іранскі адвакат Карым Лахіджы. З гэтай нагоды ён сказаў: «Для мяне — велізарны гонар быць абраным Прэзідэнтам FIDH. Маё першае пасланне звернута да ўсіх праваабаронцаў, якія ва ўсім свеце адвольна ўтрымліваюцца ў зняволенні. Мы будзем няўхільна працягваць патрабаваць іх хутчэйшага і безумоўнага вызвалення. Я думаю, у прыватнасці, пра маіх калег і сяброў Алеся Бяляцкага і Набіла Раджаба, якія пакутуюць у турмах Беларусі і Бахрэйна». У далейшай працы спадар Лахіджы заставаўся верным свайму абяцанню, якое даў у першай прэзідэнцкай прамове.

## САЛІДАРНАСЦЬ НЯВОЛІ: БАХРЭЙН — БЕЛАРУСЬ







*З архіва FIDH*

Набіл Раджаб, кіраўнік Бахрэйнскага Цэнтра правоў чалавека і намеснік Генеральнага сакратара FIDH, які знаходзіцца ў зняволенні ў Бахрэйне, перадае свайму беларускаму калегу па Міжнародным праўленні FIDH, палітвязню Алесю Бяляцкаму словы салідарнасці.

2 снежня, у дзень, калі суд адхіліў яго просьбу аб датэрміновым вызваленні (на якое ён мае права ў рамках нацыянальнага заканадаўства, бо адбыў больш за тры чвэрці тэрміну), Набіл змог патэлефанаваць з бахрэйнскай турмы «Сківіцы» ў Міжнародны сакратарыят FIDH і перадаць, што ён вельмі перажывае за лёс Алеся. Першае, што, па словах Набіла, яму хацелася б зрабіць, калі ён будзе на свабодзе, — сустрэцца з сям’ёй і калегамі Алеся, паколькі «іх праблемы — мае праблемы».

Гэтыя словы Набіл Раджаб перадаў супрацоўніцы парыжскага бюро FIDH Сашы Кулаевай. У кароткай тэлефоннай размове ён спытаў пра здароўе і ўмовы ўтрымання Алеся Бяляцкага, распытаў пра сям’ю і калегаў з Праваабарончага цэнтра «Вясна» і перадаў усім словы падтрымкі.

Як падкрэслівае Саша Кулаева, Набіл Раджаб з першых дзён зняволення Алеся Бяляцкага вельмі актыўна выступаў у абарону віцэ-прэзідэнта FIDH і кіраўніка «Вясны». Жонка набіла Сумая Раджаб перадала ў ПЦ «Вясна» здымак офіса Бахрэйнскага

Цэнтра правоў чалавека, дзе ў кабінеце Набіла вісіць майка з выявай Алеся і надпісам «Freedom for Ales Bialiatski».

ПЦ «Вясна» нядаўна далучыўся да міжнароднай акцыі FIDH у падтрымку бахрэйнскага калегі, а таксама да кампаніі ў сацыяльных сетках з патрабаваннем да ўладаў Бахрэйна вызваліць палітвязня ў адпаведнасці з заканадаўствам яго краіны.

*Інфармацыя сайта spring96.org ад 4 снежня 2013 года*



---

## ЛІСТ НАБІЛА РАДЖАБА АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ

Мой калега, мой сябар, мой дарагі брат Алесь!

Я, Набіл Раджаб, пішу табе з турмы ў Бахрэйне. Я ведаю, што такі выдатны чалавек, як ты, знаходзіцца цяпер у зняволенні, таму што адмаўляецца жыць у несправядлівым свеце. Гэта так сумна, што ўсіх людзей у Беларусі пакаралі, забраўшы цябе ў іх. Бо ты — частка народа сваёй краіны, ты жывеш у змаганні за іх правы, змаганні за іх свабоду, ты шукаеш для іх справядлівасці.

Часам мне хочацца крычаць тваё імя ў маёй маленькай камеры, а часам я сціскаю рукі ад пачуцця ўласнай немачы, таму што замест гэтага я павінен быў бы зараз калясіць па свеце, усімі сіламі дамагаючыся твайго вызвалення.

Але я ўпэўнены: мы абодва выйдзем на волю, выйдзем больш моцнымі, чым былі дагэтуль, і працягнем разам наш шлях — да свабоды, дэмакратыі і сацыяльнай роўнасці для ўсіх і ўсюды.

*З любоўю і ўдзячнасцю, Набіл Раджаб*

*Ліст быў апублікаваны на сайце freeales.fidh.net 18 снежня 2013 года.*

**Беларускі праваабарончы форум** ладзіцца з ініцыятывы беларускіх праваабарончых арганізацый для абмеркавання сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, праблемаў і выклікаў, паўсталых перад праваабарончай супольнасцю, выпрацоўцы стратэгіі сумеснай дзейнасці ў краіне і на міжнароднай арэне.

У кастрычніку 2013 года ў сталіцы Літвы форум праходзіў у трэці раз. Адная з галоўных і актуальных ягоных тэмаў гучала так: «Палітычныя вязні: праблемы вызначэння і вызвалення». Пасля мінскіх падзеяў 19 снежня 2010 года некалькі дзясяткаў чалавек, палітычных дзеячаў і грамадзянскіх актывістаў, апынуліся за кратамі ў выніку крымінальнага пераследу. Яшчэ адным з вострых пытанняў для ўдзельнікаў форуму былі стасункі праваабаронцаў з уладамі, якія робяць усё магчымае для іх маргіналізацыі.

На знак салідарнасці ў зале, побач з трыбунай для выступоўцаў, пуставала крэсла Алеся. Удзельнікаў форуму ад яго імя вітала жонка Наталля Пінчук. Разам з тым, яе выступ утрымліваў заклік да міжнароднай грамадскасці ад імя сваякоў іншых палітвязняў, якія таксама былі запрошаныя на мерапрыемства:

> «Алесь быў ідэйным натхніцелем і актыўным удзельнікам Беларускага праваабарончага форуму да таго часу, пакуль не быў арыштаваны і адпраўлены ў зняволенне на чатыры з паловай гады. Дазвольце мне ад яго імені вітаць вас усіх на гэтым форуме.



*Прэзідэнт Беларускага Дому правоў чалавека Таццяна Рэвяка адкрывае форум.*
*Фота з архіва ПЦ «Вясна»*





Жонкі і маці палітвязняў — Марына Адамовіч, Марына Лобава і Наталля Пінчук. Фота Сяргея Балая з архіва БАЖ

Больш за два гады Алесь знаходзіцца за кратамі. Менавіта такім чынам улада адрэагавала на яго актыўную грамадзянскую пазіцыю. На яго прынцыповае адстойванне правоў і свабод грамадзян Беларусі. На дапамогу, якая аказвалася пацярпелым ад рэжыму. На працу, дзеля таго, каб у грамадстве было менш страху.

На сёння ў месцах зняволення знаходзяцца яшчэ восем палітычных вязняў. Розныя назвы гэтых месцаў вызначаюць розную ступень пакарання, але не мяняюць яго сутнасці. Улада імкнулася і імкнецца ізаляваць, прынізіць, дыскрэдытаваць іх на ўсіх узроўнях і этапах увязнення. І нават пасля вызвалення.

Алесеў лёс паказвае, наколькі кіраўнік дзяржавы зацяты — нават тады, калі, здаецца, яму было выгадна праявіць так званую міласэрнасць. Людзей, якія не падпісалі прашэнне аб памілаванні — Бяляцкага, Статкевіча, Аўтуховіча, Лобава і іншых, улада надалей імкнецца зламаць. Фізічна — калі не атрымліваецца маральна.

Наперадзе — саміт краін Еўрасаюза і Усходняга партнёрства тут, у Вільні. Вельмі важна пакінуць для Беларусі еўрапейскую перспектыву. Перспектыву для беларускага народа, а не для рэжыму. Рэжым, які цяпер пануе ў нашай краіне, нееўрапейскі па сваёй сутнасці. Гэта значыць, ён не падзяляе і не падзеліць ніколі, нават напаказ, дэмакратычных каштоўнасцей. З улікам гэтага, адпаведна, павінна была б выбудоўвацца палітыка дэмакратычных краін у дачыненні да афіцыйнага Мінска. Апошні разумее толькі сілу, цвёрдасць, паслядоўнасць. Хістанні, кампрамісы для яго — сведчанне слабасці апанента.

Цвёрдасці ў выкарыстанні ўсіх інструментаў мы, родныя вязняў, чакаем ад аб’яднанай Еўропы і Злучаных Штатаў Амерыкі».

Каб заверыць праваабарончую супольнасць Беларусі ў падтрымцы на міжнародным узроўні, на форум прыехала дэлегацыя FIDH на чале з нядаўна абраным прэзідэнтам Карымам Лахіджы.




*Карым Лахіджы выступае перад удзельнікамі форуму. Фота з архіва FIDH*

*26 кастрычніка 2013*

Для мяне гэта запрашэнне адначасова радаснае і сумнае. І ў любым выпадку вельмі сімвалічнае.

Больш за дзесяць гадоў таму Алесь Бяляцкі, мой сябра, арганізацыя якога, Праваабарончы цэнтр «Вясна», толькі ўвайшла ў Міжнародную Федэрацыю за правы чалавека, і якога ў тыя гады мы яшчэ не вельмі добра ведалі, прапанаваў FIDH падтрымаць першы форум беларускіх праваабаронцаў. Гэтая падрыхтоўка адразу задала рытм нашаму будучаму супрацоўніцтву з гэтым дзіўным чалавекам. Ён патлумачыў нам тады, што практычна ўсе арганізацыі якраз у тыя гады былі ліквідаваныя рашэннямі судоў, што гасцініцы адмаўляліся прадаставіць памяшканне для правядзення форуму, што многія спонсары адмаўляліся ў сітуацыі, якая склалася, фінансаваць такое мерапрыемства. А таксама, як ён лічыў, што менавіта тады было неабходна правесці такое мерапрыемства, каб падтрымаць матывацыю і рашучасць праваабаронцаў, каб не даць рэжыму спыніць іх дзейнасць.

Мы памятаем, якія дыскусіі паўсталі ў Федэрацыі, калі Алесь патлумачыў нам, як мы будзем удзельнічаць у гэтым форуме. Але яго рашучасць і жаданне правесці гэта мерапрыемства, нягледзячы ні на што, выклікалі падтрымку, і сярод шматлікіх мерапрыемстваў, якія праводзіла Федэрацыя, мы часта ўзгадваем гэты Форум, які тады адкрываў разам з Алесем Генеральны сакратар FIDH. Гэта быў першы і апошні форум, які арганізатары змаглі правесці ў самой Беларусі. У нас ад яго засталося ўражанне такое ж сумнае і цёмнае ў чымсьці, як і часы, якія перажывала на той момант Беларусь. Праваабаронцы павінны былі сустракацца ў лясах, у катэджы, які быў зняты на падставе сямейнай падзеі, удзельнікі прыязджалі нейкімі абыходнымі дарогамі, і форум быў афіцыйна адкрыты, толькі калі змаглі прыехаць амбасадары і прэса. Для замежных удзельнікаў усё было даволі экзатычна ў гэтым вельмі дрэнна

ацяпляльным цемнаватым памяшканні. І тым не менш, рашучасць, якая аб’ядноўвала ўсіх удзельнікаў для абароны правоў чалавека, была такая ж, як і ў нас.

Хто з нас тады мог меркаваць, што нават гэтая сустрэча, паўлегальная, была толькі адным з этапаў доўгай серыі новых рэпрэсій, новых парушэнняў рэжымам самых фундаментальных правоў чалавека — права на асацыяцыю, на свабоду сходаў, на выказванне меркаванняў.

Другі форум змог быць праведзены ўжо толькі ў Вільні ў 2010 годзе, бо яго арганізатары мусілі прызнаць, што такая сустрэча не магла больш мець месца ў іх краіне.

Сучасную сітуацыю вы ведаеце значна лепш за мяне. Сябры Праваабарончага цэнтра «Вясна», нашай сяброўскай арганізацыі ў Беларусі, падзялілі ўсе цяжкасці са сваімі калегамі, з усімі вамі, і з актывістамі, якіх яны абаранялі ўсе гэтыя доўгія гады. Затрыманні, арышты, ператрусы і ў 2011 годзе самае страшнае — арышт Алеся па цалкам надуманых і ганебных для рэжыму падставах. Але і «Вясна», і калегі з іншых праваабарончых арганізацый Беларусі працягнулі сваю працу, працу легітымную і больш чым калі-небудзь патрэбную на карысць беларускага грамадства, змучанага гадамі бяспраўя і адсутнасці правасуддзя. Вашая прысутнасць тут сведчыць пра рашучасць працягваць гэтую працу.

Тыя, хто працягваюць, нясуць на сабе двайны-патройны цяжар. У сітуацыі, калі СМІ таксама падвяргаюцца шматлікім абмежаванням, вынікі вашага маніторынгу часам замяняюць свабоднае слова журналістаў. У сітуацыі, калі ў адвакатаў адбіраюць ліцэнзію за тое, што яны выконвалі свой прафесійны абавязак, абараняючы ахвяраў рэжыму, вы часам арганізуеце, а часам і замяняеце сабой абарону. Вы падтрымліваеце палітычных зняволеных і іх сем’і. І галоўнае — вы падтрымліваеце надзею, надзею ўсіх ахвяраў залежнага правасуддзя, але таксама і надзею міжнароднай супольнасці на тое, што Беларусь будзе вольнай, надзею на чалавечую годнасць, якую спрабуюць растаптаць любой цаной.

Не выпадкова, што палітычныя зняволеныя, пра крытычную сітуацыю якіх FIDH увесь час гаворыць на міжнародным узроўні, сёння працягваюць быць ахвярамі здзекаў і розных парушэнняў іх правоў нават у турме. Нават знаходзячыся ў зняволенні, яны застаюцца сімваламі свабоднай краіны і грамадзянаў гэтай краіны, якія змагаюцца за свае правы. Будзь гэта праваабаронца Алесь, ці прадстаўнікі палітычных партый, ці маладыя анархісты — усе яны ахвяры залежнага правасуддзя і няправільных

судовых разбіральніцтваў. У 2008 годзе Суэр Белхасэн, якая тады была Прэзідэнтам Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека, правяла разам з беларускімі калегамі місію ў Беларусі па даследаванні ўмоваў зняволення. Алесь цяпер у сваіх лістах сумна жартуе, што ён працягвае камандзіроўку, каб пашырыць гэтае даследаванне. У 2011 годзе, праз паўтары месяцы пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года, мы вярнуліся ў Беларусь, каб правесці разам з Алесем місію наконт хвалі рэпрэсій, якая працягвала набіраць моц. Наступным этапам была місія назірання за судовым разбіральніцтвам па справе самога Алеся Бяляцкага. І мы змаглі быць на гэтым судовым разбіральніцтве ад пачатку да канца, нягледзячы на тое, што пяці сябрам міжнароднага праўлення FIDH і нашаму генеральнаму дырэктару, якія хацелі прысутнічаць на судзе, было адмоўлена ў візе на ўезд у Беларусь.

Сутыкнуўшыся з некаторай еўрапейскай інэрцыяй і недастатковымі намаганнямі па змяненні сітуацыі ў Беларусі, мы вырашылі крыху змяніць падыход і правялі ў ліпені бягучага года місію па даследаванні эканамічных і сацыяльных правоў, каб распавесці пра выкарыстанне на досыць шырокім узроўні прымусовай працы і цяжкіх эканамічных і сацыяльных умоваў, у якіх знаходзяцца многія беларускія грамадзяне. Мы змаглі пераканацца, што гэтыя рэшткі савецкай сістэмы дасягнулі яшчэ большых прапорцый і цяпер уяўляюцца проста як нейкая абсурдная грымаса рэжыму, які на міжнародным узроўні сцвярджае, што застаецца апошнім сацыялістычным раем Еўропы. Алесь заўсёды быў перакананы: толькі ўніверсалізм права і, адпаведна, міжнародная салідарнасць могуць быць гарантамі гарманічнага развіцця і зменаў у грамадстве. Менавіта гэтая ўпэўненасць прывяла яго ў Туніс адразу пасля рэвалюцыі, у Егіпет, які перажываў тады цяжкі палітычны крызіс, на Кубу для падтрымкі дысідэнтаў. Гэтая ўпэўненасць таксама дапамагала яму вельмі актыўна працаваць у рамках нашай Федэрацыі па ўсім рэгіёне Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі, дзе ён правёў дзясяткі місій, арганізоўваў семінары, а таксама сустракаўся з прадстаўнікамі міжнароднай супольнасці і з мясцовымі ўрадамі.

Мы знаходзімся ў пастаянным кантакце з Алесем, і Кангрэс FIDH, які сабраў у траўні гэтага года больш за трыста чалавек больш чым з ста краінаў свету, пацвердзіў нашу падтрымку і давер нашаму дарагому калегу, які заўсёды прысутнічае ў нашых справах і ў нашых думках, нягледзячы на яго зняволенне. Ён быў пераабраны віцэ-прэзідэнтам FIDH на гэтым Кангрэсе.

Але мне было незвычайна важна прыехаць сюды ў якасці новага Прэзідэнта Федэрацыі (мяне абралі на тым жа Кангрэсе ў траўні гэтага года), каб сказаць вам, што FIDH — гэта больш чым сетка сяброўскіх

арганізацый. Мы хацелі б падтрымліваць вас усіх, наколькі гэта магчыма, быць з усімі вамі ў кантакце, і таму мы адразу адказалі станоўча на просьбу падтрымаць гэты Форум, як і ў 2004 годзе.

Мне б хацелася, каб вы ведалі, што мы падзяляем і вашыя надзеі, і вашае непрыманне таго, што прыняць нельга, вашае абурэнне. І мы б хацелі, каб вы ведалі, што мы паўсюль, дзе можам, на ўсіх застаўшыхся ў нашым распараджэнні міжнародных платформах уздымаем пытанне правоў чалавека ў Беларусі.

Мы ведаем, што наша дзейнасць, на жаль, мае свае ліміты, мы ведаем, чаго мы не змаглі пакуль дасягнуць, мы ведаем імя кожнага, хто па-ранейшаму застаецца ў зняволенні, нягледзячы на вашую і нашую агульную мабілізацыю, працягвае цярпець недапушчальны зневажальны ціск. Мы ведаем таксама, што дзясяткі людзей у Беларусі па-ранейшаму, нягледзячы на тое, што яны вызваленыя, пазбаўлены свабоды перамяшчэння, а сотні і тысячы — свабоды выказвання і мірных сходаў.

Як лепш за ўсё адказаць на ўсе гэтыя выклікі, як палепшыць нашую сумесную працу, якія механізмы і інструменты нам трэба яшчэ развіць дзеля дасягнення нашай агульнай мэты? Вызначэнне гэтых вельмі канкрэтных задач для мяне з'яўляецца сэнсам нашай сённяшняй прысутнасці тут. Але таксама сэнс для мяне заключаецца і ў тым, каб усе мы адчулі сябе разам і гэта дапамагло б надаць новы стымул нашай рашучасці працягваць свае намаганні.

І таму з велізарным энтузіязмам я гатовы да таго, каб слухаць вас усіх, размаўляць з вамі, абменьвацца досведам.

Я хацеў бы пажадаць вам усім поспеху. Дзякую.

Сярод патрабаванняў дэлегатаў III Беларускага праваабарончага форуму, выкладзеных у выніковай рэзалюцыі, было неадкладнае і безумоўнае вызваленне палітычных зняволеных, аднаўленне іх правоў, у тым ліку шляхам перагляду іх спраў незалежным судом, а таксама спыненне ціску на палітычных і грамадскіх дзеячаў у месцах пазбаўлення волі і адмова ад практыкі неабгрунтаваных арыштаў актывістаў дэмакратычных арганізацый.

**Міжнародныя Дні праваабаронцаў у Швецыі** — міжнародная канферэнцыя, якую ладзіць шведская праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders для пашырэння магчымасцяў і ўмацаванне патэнцыялу актывістаў праваабарончага руху, якія працуюць ва ўмовах небяспекі. Яны з’язджаюцца ў Стакгольм з усяго свету, з розных рэгіёнаў і кантэкстаў, каб паўдзельнічаць у практычных трэнінгах, семінарах, дыскусіях, атрымаць карысныя веды ад вядучых спецыялістаў у галіне бяспекі, міжнародных экспертаў, наладзіць карысныя кантакты ды абмяняцца думкамі, ідэямі, вопытам. Прадстаўнікі Праваабарончага цэнтра «Вясна» там заўсёдныя госці.

На адкрыцці першай канферэнцыі, якая праходзіла ў 2013 годзе, выканаўчы дырэктар Civil Rights Defenders Роберт Хорд паставіў на сцэну пустое крэсла — сімвал адсутнага на мерапрыемстве Алеся Бяляцкага, як і іншых зняволеных калег-праваабаронцаў, а таксама быў вывешаны банер з яго выявай. Як паведамляла незалежная прэса, імя Алеся Бяляцкага з вуснаў удзельнікаў з усяго свету гучала на канферэнцыі штодня.

Кульмінацыяй мерапрыемства з’яўляецца ўручэнне прэміі «Абаронца грамадзянскіх правоў года». Арганізатары прысуджаюць гэтую ўзнагароду вядомаму праваабаронцу, які працуе ў рэпрэсіўным грамадстве і, нягледзячы на рызыку для ўласнай бяспекі, імкнецца да таго, каб грамадзянскія і палітычныя правы людзей прызнаваліся і абараняліся. Пры гэтым ён павінен ажыццяўляць сваю дзейнасць негвалтоўнымі спосабамі і ў межах незалежнай праваабарончай арганізацыі.

Падчас другога форуму, узнагародай «Абаронца грамадзянскіх правоў 2014» была адзначана дзейнасць Алеся Бяляцкага і Праваабарончага цэнтра «Вясна». Алесь усё яшчэ заставаўся за кратамі. На цырымонію ўзнагароджання ў Стакгольм разам з сябрамі Рады «Вясны» Валянцінам Стэфановічам, Таццянай Рэвяка, Уладзімірам Лабковічам была запрошана жонка палітвязня Наталля Пінчук.

Адначасова з уручэннем узнагароды, Роберт Хорд прэзентаваў даклад Civil Rights Defenders па сітуацыі ў Беларусі — «Дзяржава супраць праваабаронцаў: несумленная гульня», і, паколькі набліжаўся чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску, заклікаў шведскіх журналістаў «скарыстацца гэтай магчымасцю, каб апісаць і пашырыць інфармацыю пра тое, што адбываецца ў Беларусі па-за спартыўнымі арэнамі, не дазволіўшы прапагандзе рэжыму ўвесці сябе ў зман».






*Фота з архіва Civil Rights Defenders*

# ПАДТРЫМКА Ў ЛІТАРАТУРНЫХ КОЛАХ

Літаратурная сцежка ў біяграфіі Алеся Бяляцкага, на якую ён, дарэчы, вярнуўся якраз у турме, бо, як сам казаў, там з'явіўся «вольны» час, прывяла ў кампанію за яго вызваленне пісьменніцкія арганізацыі і асобных аўтараў. За час знаходжання Алеся за кратамі свет пабачылі дзве яго кнігі — зборнік літаратуразнаўчых артыкулаў і эсэ «Асвечаныя беларушчынай», у якім, між іншага, аўтар разглядае такую з'яву як беларуская турэмная літаратура. І кніга эсэ «Іртутнае срэбра жыцця», у якіх ён распавядае пра нялёгкі перыяд у жыцці «Вясны» і ўсяго праваабарончага сектара краіны ў другой палове 2010 і першай палове 2011 года, акурат да моманту яго зняволення. Дарэчы, абодва выданні былі пэўным чынам ацэнены: першае — канфіскавана мытнікамі на мяжы, а затым беларускім судом забаронена на тэрыторыі Беларусі, а другое — у 2014-м годзе, ужо пасля вызвалення аўтара, сярод шасці лаўрэатаў адзначана літаратурнай прэміяй імя Францішка Аляхновіча, якую Беларускі ПЭН-цэнтр і беларуская рэдакцыя Радыё «Свабода» прысуджаюць за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні.




*Паэт Генадзь Бураўкін (1936–2014) на прэзентацыі кнігі «Асвечаныя беларушчынай». Мінск, 6 сакавіка 2013 г. Фота з архіва ПЦ «Вясна»*

На прэзентацыях гэтых «турэмных» кніжак, якія «Вясна» ладзіла з удзелам літаратараў, гучалі не толькі расповяды пра асобу Бяляцкага-літаратара і водгукі на яго творы, але і рэакцыі на зняволенне аўтара. Час ад часу даўнія сябры і калегі Алеся па пісьменніцкай справе віталі яго актыўнае вяртанне ў літаратуру, але перадусім было пажаданне, каб Бяляцкі найхутчэй выйшаў на свабоду.

Як паказала кампанія, пра свабоду для Алеся Бяляцкага дбалі пісьменнікі не толькі з Беларусі, але і з блізкага і далёкага замежжа, адкуль у «Вясну» і бабруйскую калонію ішлі лісты са словамі салідарнасці і аўтарскімі прысвячэннямі. А тым часам маштабныя міжнародныя мерапрыемствы кніжнага свету рабіліся пляцоўкамі для праяваў салідарнасці з палітвязнем.




*Тым часам, у 2013 годзе ў серыі «Бібліятэка Свабоды» выйшла кніга Валерыя Каліноўскага, героем якой стаў сам Алесь Бяляцкі.*

*«“Справа Бяляцкага” — раман-рэпартаж пра чалавека, якога адны параўноўваюць з Вацлавам Гавелам, другія мяркуюць, што ён павінен сядзець у турме, а трэція не бачаць тут супярэчнасці» — распавядае кароткая анатацыя да выдання.*

*Фота з архіва ПЦ «Вясна»*

## АЛЕГ МІНКІН: «ТАКІХ ЛЮДЗЕЙ, ЯК АЛЕСЬ, НІ ДУХОВА, НІ ФІЗІЧНА ЗЛАМАЦЬ НЕМАГЧЫМА»

«Самотны»… Верш з такой назвай паэт Алег Мінкін яшчэ на пачатку 80-х прысвяціў Алесю Бяляцкаму. Мяркуючы з лістоў, якія Алесь з-за кратаў дасылае сябрам, ці ні адзінай уцехай для яго зараз з’яўляюцца ўспаміны. Відаць, складаючы спіс асобаў і падзеяў, што, напэўна, дапамагае прыглушыць адзіноту, упісаў туды імя свайго даўняга знаёмага — добрага паэта, як ён піша пра спадара Мінкіна. Беларускі пісьменнік, перакладчык паэзіі і выдавец, які родам з Магілёўшчыны, ужо каля двух дзесяцігоддзяў стала жыве ў Вільні. Магчыма, паэта здзівіў e-mail з роспытамі пра прыроду самоты Алеся Бяляцкага, якую ён адчуў шмат год таму…



*Праз доўгі час Алег Мінкін і Алесь Бяляцкі пабачыліся з нагоды 30-годдзя літаратурнага Таварыства «Тутэйшыя» у Мінску 14 снежня 2016 г. Фота з архіва ПЦ «Вясна»*

САМОТНЫ
Алесю Бяляцкаму

Мне рэжа слых хлусня прамоў траскотных,
Мне слепіць вока яркасць кумача —
Даўно мне ўсё абрыдла, апрача
Маўклівай непрытомнасці самоты.

Ды ўсё ж, калі б у цішы безвыходнай
Турыны рог прызыўна загучаў,
І на лязе узнятага мяча
Запалымнелі водсветы паходняў, —

Я ўсе сумненні адгарнуў бы разам
І стаў пад белы сцяг з чырвоным пасам:
Пад бел-чырвона-белы вольны сцяг…

Чырвоны пас на белым тле Радзімы,
Ты клічаш нас за волі міг адзіны
Узняцца і загінуць без разваг!

«Ці то напрыканцы 70-х, ці то на самым напачатку 80-х на семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах (традыцыйнае на той час месца правядзення тых семінараў) пазнаёміўся з Анатолем Сысам, “пачынаючым паэтам”. Дамовіліся аб спатканні ў Гомлі. Ходзіць чутка пра тое, што напачатку 80-х “нацыяналістаў” у Беларусі было так мала, што яны, бадай, асабіста ведалі адзін аднаго, а не, дык завочна. У Гомлі, як нам здавалася, беларускага асяродка не было. Вось мы туды неўзабаве й паехалі з Вінцэсем Мудровым, каб спаткацца з Анатолем Сысам ды перазнаёміцца з гомельскімі студэнтамі, з мэтаю пашырыць “беларускае кола” (тады кожны “нацыяналіст” дбаў пра гэта). Зайшліся да Анатоля ў ягоны інтэрнацкі пакойчык, а ён і прывёў нам Алеся Бяляцкага, а яшчэ Эдуарда Акуліна. Аказалася, што яны ўжо цалкам сфармаваныя “беларусы”. Так і пачалося нашае знаёмства, якое амаль не перапынялася да таго часу, пакуль ён (Алесь) цалкам не занурыўся ў праваабарончую дзейнасць. Уражанне ад першае нашае сустрэчы было такое, што Алесь — чалавек, з аднаго боку, рахманы, з нейкаю вялікаю нутраною інтэлегентнасцю, цяплом, які больш слухае, чым гаворыць сам, з іншага боку, нязломны, “апантаны” беларус. І не памыліўся.

А верш “Самотны” напісаны цераз некалькі гадоў пасля нашага знаёмства з Алесем. Калі ён не без плёну займаўся літаратуразнаўствам, пісаў і пра мае вершаваныя практыкаванні, меркаваў, што яны належаць да плыні “чыстай паэзіі”, г.зн. плыні аддаленай ад вострасацыяльных праблемаў і г.д. Дый сам ён, як мне здавалася, знаходзіцца на сваім “прыроджаным” месцы: тонкая літаратурная крытыка, творчая праца ў музеі Багдановіча. Што яшчэ трэба? Але ж і ён, і я, і верх менаваныя “нацыяна-

лісты", незалежна ад творчых і прафесійных заняткаў змушаныя былі працягваць займацца пашырэннем "беларускай справы", бо нас было вельмі мала, каб дазволіць "расслабаніцца". Не было яшчэ падзелу на "творцаў", "грамадскіх дзеячаў", "палітыкаў". Значыць, калі якая навала, кожны мусіў стаць пад бел-чырвона-белы сцяг (дзеля служэння "нацыянальнай ідэі", ці што?), не зважаючы нават на нутраную "самоту-незалежнасць" ад усяго і ад усіх. З гэткай вось "раздвоенасці", яскравым носьбітам якой быў і мой сябра Алесь, і паўстаў верш-пасвячэнне. (Шчыра кажучы, дык быў вельмі здзіўлены, калі па некаторым часе Алесь цалкам пералучыўся на "праваабарончую дзейнасць". Добра, пэўна, для "беларускай справы", але вялікае страта для ягонага творчага развіцця, дый, наогул, жыцця, якое ў нас такое кароткае…)

Апошнім разам мы бачыліся, здаецца, на вакзале ў Вільні ў 2007 годзе. Ён прыехаў на нейкі свой чарговы семінар, я ехаў на пахаванне маці ў Маскву. Ён неяк рана пасівеў увесь, а так мала мяняецца…

Цяжка сказаць, што цяпер з ім адбываецца "за кратамі". Але ж, зацемлю, што такіх людзей, як ён, ні духова, ні фізічна зламаць немагчыма. Зычу яму здароўя і спадзяюся ўсё ж на вяртанне да "чыстай паэзіі" — да другой ягонай "паловы". Цалкавітае падпарадкаванне колечы-якой, хай сабе самай высакароднай ідэі, не галоўнае ў жыцці.

Алег Мінкін»

*Ліст Алега Мінкіна ў ПЦ "Вясна", люты 2012 года*

## УКРАІНСКІ ПІСЬМЕННІК З МАЙДАНА — АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ: «ВАШАЯ І НАШАЯ БАРАЦЬБА НЕДАРЭМНАЯ»



*Аляксандр Ірванец на харкаўскім Майдане ў 2014 годзе. Фота з сацыяльных сетак журналіста Леаніда Лагвіненкі*

Алесь Бяляцкі ў засценках бабруйскай калоніі атрымаў пасланне ад вядомага ўкраінскага пісьменніка і перакладчыка Аляксандра Ірванца, які ў драматычныя для свайго народа часы практычна штодня знаходзіцца на кіеўскім Майдане.

Аляксандр Ірванец зычыць свайму беларускаму цёзку-палітвязню моцы і трываласці.




«Я тож Алесь, і ў Вашым веку — 53 гады. Я — українскій письменнік Олександр Ірванець.
Вам, дорогий Алесю, бажаю сили, снаги и витривалості. Бути позбавленым волі важко. Але Ваша (і наша) боротьба недаремна.
Ми переможемо!
Мы пераможам!
Слава Україні!
Жыве Беларусь!
Ваш — О. Ірванець»

Адметна, што словы падтрымкі ўкраінскі пісьменнік даслаў на беларускай паштоўцы з серыі «Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ў выцінанцы», якую выдаў Праваабарончы цэнтр «Вясна».


Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.
Артыкул 3.
Права на жыццё.

Дарагі Алесь!

Я тож Алесь, і ў Вашым веку- 53 гады. Я - українскій письменнік Олександр Ірванець.

Вам, дорогий Алесю, бажаю сили, снаги і витривалості. Бути позбавленим волі важко. Але Ваша (і наша) боротьба недаремна.

Ми переможемо!
Мы пераможам!
Слава Україні!
Жыве Беларусь!

Ваш - О. Ірванець

*Аляксандр Ірванец — вядомы ўкраінскі паэт, пісьменнік і перакладчык, адзін з заснавальнікаў культавага літаратурнага таварыства Бу-Ба-Бу. З 2000-х гадоў піша прозу і драматургію. Таксама перакладае вершы і прозу з французскай, рускай, польскай і беларускай моваў. Творы самога Ірванца перакладзены на многія еўрапейскія мовы. Яго раман «Рівне/Роўна» выйшаў у перакладзе Уладзіміра Арлова па-беларуску.*

*Алесю Бяляцкаму*

Абагрэты дзівосным святлом,
Ён паўстане, наш велічны дом, —
Для тутэйшых гасцінная хата.
Ветлы дом на вятрах чатырох,
І аблашчаны сонцам парог,
За якім — праламіліся краты.

Ты вярнуўся нарэшце дамоў,
Ты вярнуўся з турмы да сяброў,
Як і быў, нескароны і белы...

Нават сонца смяецца смялей,
Нават стала на сэрцы цяплей,
І на гэтай зямлі — завіднела!

*2014*



*Сяржук Сыс. Фота Наты Коваль*

*Сябра і паэт Сяржук Сыс прысвяціў гэты верш Алесю Бяляцкаму з нагоды вызвалення*

## АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ З АЛЕСЕМ БЯЛЯЦКІМ НА ЗНАКАМІТЫМ КНІЖНЫМ КІРМАШЫ ГЁТЭБОРГА

Міжнародны кніжны кірмаш у Гётэборгу лічыцца буйнейшай культурнай падзеяй не толькі Швецыі, але і ўсёй Скандынавіі. Традыцыйна ён ладзіцца ў другой палове верасня і складаецца з некалькіх секцыяў: паралельна з прэзентацыямі і актыўнасцямі на выставачных стэндах адбываецца шматаспектная канферэнцыя, праграма якой складаецца з семінараў і іншых мерапрыемстваў рознай тэматыкі. Зазвычай шведскія праваабарончыя арганізацыі, у тым ліку і партнёры «Вясны» — Östgruppen і Civil Rights Defenders, актыўна скарыстоўваюць гэтую міжнародную пляцоўку для інфармавання шырокай публікі  пра парушэнні правоў чалавека ў тых краінах, па якіх яны працуюць. Дзякуючы іх намаганням, там заўжды гучыць і беларускае пытанне. У 2012 годзе ў фокусе ўвагі шведскіх праваабаронцаў былі лёсы беларускіх палітвязняў.




*Справа Алеся Бяляцкага ўвайшла ў справаздачу праваабарончай арганізацыі PEN-International за 2012 год*

*Released*

**Bakhtiyar HAJIYEV:** blogger and activist, sentenced to two years for evading military service. The charge was originally brought against him in January 2011 after he posted videos online highlighting alleged fraud during the November 2010 parliamentary elections. He was arrested on 4 March 2011 after calling for an anti-government protest on social networks. Hajiyev was remanded into pre-trial detention for two-months pending his trial. While in pre-trial detention, Hajiyev was beaten and threatened with rape. Hajiyev's local attorney filed a complaint about his client's treatment, but authorities have failed to investigate the abuses. On May 18 2011, a district court in Ganja sentenced Hajiyev to two years in prison for draft evasion. Hajiyev's attempts to appeal his sentence and be released on parole have been unsuccessful. **Update:** Bakhtiyar was granted an early release by the Supreme Court on 4 June 2012. He will not be able to travel abroad without special permission for another nine months, until the period of his two-year jail sentence is over.

## BELARUS

*Imprisoned - Main Case*

**Ales BYALYATSKI (BIALIATSKI):** writer and prominent human rights activist, sentenced to four and a half years imprisonment on 24 November 2011 on charges of tax evasion. Byalyatski, head of the *Vyasna* (*Spring*) human rights centre, was a founding member of the Belarusian literary organization *Tutejshyja* (*The Locals*) and served as a former head of the Maxim Bahdanovich Literary Museum in Minsk. He was arrested on 4 August 2011 and charged with tax evasion, charges which stemmed from his reported use of personal bank accounts in Lithuania and Poland to receive funding from international donors for *Vyasna's* human rights activities in Belarus. *Vyasna* had campaigned for scores of opposition activists persecuted by the government of President Alexsander Lukashenko. The organization had been stripped of its official registration in 2003, making it extremely difficult under Belarus's economic laws to raise funds for its activities. **Update:** Byalyatski has been transferred from a detention centre in Minsk to a labour camp in the eastern city of Babruysk on 17 February 2012.

*On Trial*

***Ogtay GULALIYEV:** editor-in-chief for *Transparency* magazine and the coordinator of the Kur Civil Society, which works to alleviate the damage caused by the 2010 Kur River floods. He was detained on 8 April 2012 at a meeting with Minbashi village residents. On April 9 Sabirabad Regional Court sentenced him to an administrative arrest under Article 296 (minor hooliganism) based on a lawsuit brought by the head of Minbashi village municipality, Rufulla Gojayev. Shortly before the expiry of the 12-day detention, on 19 April, Ogtay Gulaliyev was further charged under Article 220.2 of the Criminal Code of Azerbaijan for "active resistance to orders from the authority" and "incitement of mass riots and violence towards citizens". These charges may result in three years imprisonment. On 2 May 2012, Ogtay Gulaliyev was examined by Dr. Bayali Mammadov of the Ministry of Justice's Medical Department, who found serious problems with his intestines and recommended surgery. When Ogtay Gulaliyev requested that the surgery be carried out only in the presence of his personal doctor, this was refused by the investigation body, who are required to give their permission. According to some sources he has been subject to ill-treatment and abuses by officials of the Sabirabad Region Police Department.

**Andrzej POCZOBUT:** a correspondent for the Polish daily *Gazeta Wyborcza*. Arrested on 21 June 2012 for libel against the president. Police raided the Grodno apartment of Poczobut, confiscated at least one computer and detained him for questioning, the independent news website *Charter 97* reported. Poczobut is the target of a criminal case over articles he wrote for *Charter 97* and *Belarussky Partizan*, another independent website, in which he criticised President Aleksandr Lukashenko and his domestic and international policies. It is unclear when authorities opened the case. He is being held at a Grodno prison. He faces up to five years in prison if convicted, according to Radio Free Europe/Radio Liberty. CPJ research shows that Belarusian authorities have long targeted Poczobut for his critical publications. In 2011 alone he faced detention, imprisonment, raids on his apartment, confiscation of his equipment, politicised prosecution and suspended prison term sentence on charges of libel against the president, all in connection to his critical journalism. See previous caselists. Poczobut was formally indicted on criminal charges of libelling Aleksandr Lukashenko through a series of articles critical of administration policies on 30 June. He was released from custody on that day pending trial, but he was banned from leaving Grodno.

*Non-Custodial Sentence*

**Pavel SEVERINETS:** is an opposition activist, author of several books, and a member of Belarus PEN which recently awarded him their book of the year prize. He was arrested on 19 December 2010 and charged under Article 293 of the Criminal Code of Belarus ('Organization of riots'). He was reported to have been sentenced on 17 May 2010 to three years of restricted freedom, without being sent to a correctional institution (so-called "chemistry"). **Update:** Severinets was denied release on parole again on 27 April 2012. The administration of the special detention facility confirmed his certificate of good conduct, but he was denied the release on parole because he did not admit his guilt. Severinets said that the sentence and the order are illegal.

*Harassment*

***Zhanna LITVINA (f):** head of the Belarus Association of journalists, a media-freedom watchdog. She told that border guards at Mink airport prevented her from taking a flight to the Polish capital, Warsaw, on 15 March 2012. A number of other critics of the President Aleksandr Lukashenko have also been blocked recently from taking foreign trips. Officials have declined to comment on reports that the government has compiled a list of journalists, opposition activists and human rights defenders who are forbidden to leave Belarus. Another journalist, Andrey Dunko, editor of the *'Nasha Niva'* newspaper also found out that he is among blocked from exiting when he was turned back near Lithuanian border on March 14.

*Released*

**Dimitri BONDARENKO:** journalist with Charter 97, sentenced on 27 April 2011 to two years in prison under Article 342 of the Criminal Code of Belarus for 'preparation of activities that disrupt the public order' and ordered to pay a fine for damages to public transport. He was arrested on 19 December 2010, during the mass arrests which followed protests against the flawed presidential elections, and originally charged with 'Organization of riots'. He was also accused of using the internet to call for participation in the protest and 'expressing false statements about undemocratic elections'. Bondarenko admitted his participation in the mass demonstrations, but pleaded not guilty to the other charges. It was also reported that Bondarenko was denied access to his lawyer during his detention. Released on 12 April 2012 under amnesty.

48

На стэндзе Östgruppen віселі постары з патрабаваннем свабоды Алесю Бяляцкаму і прэзентаваўся фотаальбом «За права на выбар. Партрэты асуджаных. Плошча-2010», які Праваабарончы цэнтр «Вясна» прысвяціў фігурантам крымінальных справаў, заведзеных па поствыбарчых падзеях 19 снежня 2010 года ў Мінску. Наведнікам стэнда распавядалі пра справу праваабаронцы, які за сваю дзейнасць апынуўся за кратамі, і прапаноўвалі падпісаць паштоўкі беларускім палітвязням.

Таксама праваабаронцы Östgruppen арганізавалі семінар «Палітычныя зняволеныя ў цэнтры Еўропы», на якім вядомая шведская журналістка і фатограф, арганізатар штогадовых Шведскіх дзён у Беларусі Марыя Содэрберг распавяла пра зняволеных Алеся Бяляцкага і Мікалая Статкевіча, а старшыня арганізацыі Марцін Угла заклікаў палітыкаў Швецыі і Еўрапейскага Саюза дзейнічаць больш паслядоўна і прынцыпова ў дачыненні беларускага рэжыму: «Важна, вядома, патрабаваць вызвалення палітвязняў, але — гэтага недастаткова. Акрамя таго, ЕС павінен запатрабаваць зменаў на сістэмным узроўні. У Беларусі павінны быць праведзены свабодныя і справядлівыя палітычныя выбары, свабода слова, свабода сходаў і свабода асацыяцый павінны выконвацца. У адваротным выпадку, нельга казаць пра які-небудзь дэмакратычны прагрэс».

У прысвечаных Беларусі мерапрыемствах на гэтай міжнароднай пляцоўцы ўдзельнічалі беларускія грамадскія дзеячы, актывісты і журналісты, а таксама былы камісар Савета Еўропы па правах чалавека Томас Хамарберг і былы пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан.




*Кіраўнік Östgruppen Марцін Угла і былы палітвязень, паэт Уладзімір Някляеў на стэндзе арганізацыі на кніжным кірмашы ў Гётэборгу.*
*Фота з архіва Марціна Углы*

# АКЦЫЯ «КНІГІ ЯК ПАВЕТРА» НА КНІЖНЫМ САЛОНЕ Ў МАНРЭАЛІ




У межах штогадовай акцыі салідарнасці «Кнігі як паветра», якая ладзіцца падчас кніжнай выставы-кірмаша ў Манрэалі, сталіцы канадскай правінцыі Квебек, лакальныя аддзяленні няўрадавых праваабарончых арганізацыяў Amnesty International і PEN International, а таксама Саюз пісьменнікаў і пісьменніц Квебека (UNEQ) аб'ядноўваюцца, каб прыцягнуць увагу шырокай публікі да праблемаў з правамі чалавека ў тых краінах, дзе, у парушэнне свабоды слова, за кратамі знаходзяцца пісьменнікі.

«Свабода выказвання меркавання — бесперапынная барацьба» — аб'яднаныя гэтай ідэяй арганізатары акцыі збіраюць подпісы пад петыцыямі на адрас кіраўнікоў урадаў і краінаў, якія не паважаюць правы чалавека, а квебекскім пісьменнікам тым часам прапануюць «парадніцца» з іх калегамі-вязнямі па ўсім свеце. Кульмінацыя акцыі разгортваецца падчас Кніжнага салона ў Манрэалі, гэты горад лічыцца культурнай сталіцай не толькі правінцыі Квебек, але і ўсёй Канады. Кніжная выстава-кірмаш там звычайна праходзіць у другой дэкадзе лістапада, на якую прыпадае Міжнародны дзень пісьменніка ў зняволенні — 15 лістапада, заснаваны міжнародным ПЭН-клубам. У гэты дзень літаратары Квебека збіраюцца разам, каб публічна зачытаць свае прысвячэнні вязням.

15 лістапада 2012 года на Кніжным салоне ў Манрэалі сярод дзесяці выступаў гучала прысвячэнне Алесю Бяляцкаму, аўтарам якога стаў вядомы прадстаўнік сучаснай франкаканадскай літаратуры Нарман дэ Бэльфёй.  Пасля выступу ён перадаў свой паэтычны зборнік «Мой шум» з гэтым прысвячэннем адрасату.

«Алесю, сябру невядомаму, далёкаму і ўсё ж такому блізкаму.

Бывае, што нават у тых, хто, як лічыцца, валодае імі як майстэрствам, раптам не хапае слоў, яны выслізваюць, вырываюцца… Тады застаецца толькі адно — проста засведчыць свае пачуцці і бясконцую салідарнасць. Занадта шмат пісьменнікаў у нашыя дні забываюць, што яны павінны б быць таксама — а магчыма і ў першую чаргу — грамадзянамі, у поўным сэнсе гэтага слова, а значыць — залучанымі, празорлівымі і «неадсутнымі», бачнымі ў грамадскай прасторы. ВЫ гэта зразумелі… і зараз ВЫ плаціце за гэта.

Мае думкі, мая салідарнасць і брацкія да Вас пачуцці ідуць услед за Вамі ў Вашых выпрабаваннях!

*Нарман дэ Бэльфёй,*
*сябра невядомы і ўсё ж ЗУСІМ БЛІЗКІ»*

У суправаджальным лісце з квебекскага аддзялення Amnesty International, праз якое аўтар перадаў Алесю свой зборнік, паведамлялася, што за час акцыі «Кнігі як паветра» пад патрабаваннем захавання правоў чалавека ў Беларусі было сабрана больш за 600 подпісаў, і петыцыя была перададзеная паслу Беларусі ў Канадзе. «Мы спадзяемся, што гэты ліст знойдзе Вас у добрым здароўі, што гэты праект дапаможа Вам, і што гэты сімвал надасць Вам мужнасці і надзеі» — напісалі прадстаўнікі Amnesty International.


MON BRUIT, pour Ales,
ami inconnu, lointain et pourtant si près.

Il arrive, même à celles et ceux qui, dit-on, en font métier, que les mots manquent, échappent, se dérobent. Alors, il ne nous reste plus qu'à témoigner notre affection et notre indéfectible solidarité. Trop d'écrivains, aujourd'hui, oublient qu'ils devraient être aussi, et peut-être avant tout, des citoyens à part entière, donc engagés, lucides et «présents» sur la place publique. VOUS l'avez compris… et vous écopez… Mes pensées les plus solidaires et fraternelles vous accompagnent!

Normand de Bellefeuille, ami inconnu et pourtant TOUT PRÈS

*З уласнага архіва Алеся Бяляцкага*





*Выступ Наталлі Пінчук і старшыні НСП на цырымоніі ўручэння дыплома. Фота з уласнага архіва Алеся Бяляцкага*

Яшчэ адным жэстам салідарнасці з Алесем Бяляцкім з боку пісьменніцкай супольнасці стала прэмія «За свабоду слова» ад Нарвежскага саюза пісьменнікаў. «Гэта было даволі нечакана, я не рыхтавалася да такой цырымоніі. Думаю, для яго гэта будзе сюрпрыз», — пра падзею БелаПАН распавяла жонка Алеся Наталля Пінчук, якая атрымлівала за яго дыплом на з'ездзе сяброў пісьменніцкага саюза ў Осла 25 сакавіка 2012 года. Свае дыпломы НСП уручае за «асаблівы ўнёсак у абарону свабоды слова і талерантнасці», і сярод лаўрэатаў узнагароды ў папярэднія гады была расійская журналістка Ганна Паліткоўская.

# ПАДТРЫМКА ПЕРАМОЖЦЫ «ЕЎРАБАЧАННЯ 2012» ЛАРЫН

Далучэнне да кампаніі салідарнасці з Алесем Бяляцкім шведскай спявачкі Ларын, якая ў 2012 годзе перамагла ў «Еўрабачанні», бясспрэчна, стала адной з самых яскравых і рэзанансных падзеяў. Тым больш, што Ларын прыехала ў Беларусь праз паўтары месяцы пасля свайго трыумфу на папулярным песенным конкурсе.

«У ліпені 2012 года Ларын выступала на “Славянскім базары” ў Беларусі, дзе прысутнічаў беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Падчас свайго візіту ў гэтую краіну яна сустрэлася з жонкай палітвязня Алеся Бяляцкага, прадстаўніком “Вясны” і незалежнымі журналістамі, у двухгадзіннай сустрэчы выказала сваю падтрымку палітычным зняволеным і падпісала петыцыю аб адмене смяротнага пакарання ў краіне. Пазней Ларын заявіла, што яна ўсведамляла рызыку, звязаную з “выказваннем”, у тым ліку магчымасцю быць спыненай або затрыманай у аэрапорце падчас вяртання дадому», — так мінскі візіт занатаваны ў артыкуле пра Ларын у Вікіпедыі.




Учынак спявачкі відавочна быў не «моднай прыхамаццю», а ўсвядомленым і паслядоўным крокам. Перад тым, як выправіцца на «Еўрабачанне» ў Баку, спявачка звязалася з шведскімі праваабаронцамі з арганізацыі Civil Rights Defenders, каб больш даведацца пра сітуацыю з правамі чалавека ў Азербайджане і таксама сустрэцца там з праваабаронцамі. Для азербайджанскіх актывістаў гэтая сустрэча стала пэўнай абаронай ад магчымых рэпрэсій. Падчас падрыхтоўкі «Еўрабачання» яны ладзілі кампанію «Спяваць для дэмакратыі», у межах якой прасілі музыкаў з дэмакратычных краінаў выказаць занепакоенасць парушэннямі правоў чалавека ў Азербайджане. Пасля знаёмства з праваабаронцамі ў Азербайджане, якія рызыкавалі ўласнай свабодай, Ларын вырашыла стаць сябрам Civil Rights Defenders і ў далейшым падтрымліваць працу ў галіне правоў чалавека.

*Фота Ларын апублікавала ў сваім Фэйсбуку 14 ліпеня 2012 года, на наступны дзень пасля сустрэчы з жонкай Алеся Бяляцкага, праваабаронцамі і журналістамі ў Мінску*

Падчас мінскай сустрэчы, якая праходзіла ў пасольстве Швецыі, Ларын хацела больш даведацца пра лёс Алеся Бяляцкага і іншых палітвязняў, а таксама пра тыя праблемы, з якімі даводзіцца працаваць праваабаронцам у Беларусі.




## ЛАРЫН СУСТРЭЛАСЯ З БЕЛАРУСКІМІ ПРАВААБАРОНЦАМІ

*Прэс-рэліз, 13 чэрвеня 2012 г.*

Сёння, у пятніцу 13 ліпеня, Ларын сустрэлася ў Мінску з некаторымі з самых вядомых праваабаронцаў Беларусі. Яны змагаюцца за правы чалавека ў краіне, дзе ўлады распраўляюцца з любой формай іншадумства. Больш за 600 актывістаў былі арыштаваныя ў сувязі з выбарамі 2010 года. Некалькі кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі апынуліся за кратамі, два з якіх застаюцца ў турме разам з некалькімі іншымі крытыкамі рэжыму.

Летась быў таксама арыштаваны старшыня арганізацыі «Вясна» і адзін з самых вядомых праваабаронцаў Беларусі Алесь Бяляцкі. 4 жніўня гэтага года споўніцца год з моманту яго зняволення, і ціск супраць яго працягвае ўзмацняцца. На сённяшняй сустрэчы ў Мінску Ларын гутарыла з Алесевай жонкай, Наталляй Пінчук, якая выказала занепакоенасць з нагоды таго, што ўлады ў апошні час абмежавалі харчовыя перадачы і спатканні з Алесем.

На сустрэчы таксама прысутнічаў Валянцін Стэфановіч, які з'яўляецца намеснікам старшыні «Вясны». Ён распавёў Ларын пра зневажальнае абыходжанне і катаванні з боку беларускай службы бяспекі КДБ, з якімі сутыкаюцца палітычныя зняволеныя ў турмах краіны.

Ларын занепакоеная сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі і заклікае ўсіх сваіх прыхільнікаў далучыцца і выказаць свой пратэст.
*«Без свабоды слова я б ніколі не была спявачкай. Мне хацелася б, каб у Беларусі не было палітычных зняволеных, і каб такія праваабаронцы, як Алесь Бяляцкі, маглі працягваць сваю важную працу. Ён і яго калегі ахвяруюць усім дзеля барацьбы за правы чалавека, і яны заслугоўваюць знешняй падтрымкі»*, — сказала Ларын.

На сустрэчы з Ларын таксама прысутнічалі некалькі незалежных журналістаў. Адна з іх — Ірына Віданава, заснавальніца і галоўная рэдактарка 34 Multimedia Magazine, якая апісала, як строга абмяжоўваецца свабода слова ў краіне. Некалькі альтэрнатыўных сродкаў масавай інфармацыі вядуць барацьбу супраць кантраляваных дзяржавай СМІ, якія распаў-

сюджваюць прапаганду рэжыму. Для правядзення публічных дэманстрацый патрабуецца папярэдні дазвол, а несанкцыянаваныя сходы сустракаюць міліцэйскімі дубінкамі. Праца незарэгістраваных праваабарончых арганізацый можа прывесці да пазбаўлення волі.

Сустрэча з беларускімі праваабаронцамі глыбока кранула Ларын, але і вельмі ўразіла яе той неверагоднай працай, якую яны робяць, нягледзячы на цяжкасці, з якімі ім даводзіцца сутыкацца.

*«Гэтыя адважныя людзі рызыкуюць усім дзеля барацьбы за правы чалавека. Менавіта таму я вырашыла ахвяраваць 75 000 шведскіх кронаў з ганарараў за свае выступы на працу Civil Rights Defenders дзеля падтрымкі праваабаронцаў у небяспецы»*, — сказала Ларын на заканчэнне.

Выканаўчы дырэктар Civil Rights Defenders Роберт Хорд вельмі задаволены адданасцю Ларын:
*«Важна, каб цяжкай сітуацыі ў Беларусі надавалася ўвага. Для праваабаронцаў, якіх пераследуюць, такіх як Алесь Бяляцкі, яна мае ў літаральным сэнсе жыццёва важнае значэнне. Ларын робіць каштоўны ўнёсак, скарыстоўваючы свой грамадскі статус, каб прыцягнуць увагу да працы гэтых мужных людзей».*





*Сустрэчы з Ларын у амбасадзе Швецыі ў Мінску 13 ліпеня 2012 г. Фота Андрэя Шаўлюгі*

«Усе нашыя праблемы, як мне падалося, зразумелыя ёй. Ларын распавяла, што сама мараканскага паходжання, з небагатай сям'і, і правы чалавека, правы жанчын, іх месца ў грамадстве — гэта не пусты гук для яе…», — адзначыў пасля сустрэчы праваабаронца «Вясны» Валянцін Стэфановіч. Цёплыя ўражанні ад знаёмства з Ларын засталіся і ў Наталлі Пінчук: «Было відавочна тое, што яна не фармальна паставілася да гэтай сустрэчы. Яна вельмі пранікнёна, вельмі зацікаўлена фармулявала тыя ці іншыя пытанні — як у адносінах да асабістай сітуацыі, звязанай з Алесем, так і ўвогуле ў размове пра сітуацыю ў краіне і з іншымі палітвязнямі. Ларын пакінула аўтограф уласна для Алеся: "Трымайцеся свайго сэрца і розуму!" Вельмі мудрае пажаданне. Мудрае — не па гадах, таму што дзяўчына маладая, і яна здолела такім чынам выказаць самае істотнае, што неабходна Алесю ў тых цяжкіх умовах, у якіх ён зараз знаходзіцца».

## СПЯВАЧКУ ЛАРЫН ЗАБАРОНЯЦЬ У БЕЛАРУСІ?

Пераможца «Еўрабачання-2012» Ларын апранула майку з заклікам вызваліць беларускіх палітвязняў.

З'яўленне на фестывалі «Славянскі базар» трыумфатаркі мінулага Еўрабачання — спявачкі Ларын са Швецыі нарабіла нямала шуму. Акрамя свайго выступу на цырымоніі адкрыцця фестывалю, зорка запомнілася сваім смелым і нечаканым выпадам супраць існуючага ў краіне палітычнага ладу, які называюць «апошняй дыктатурай Еўропы».
Знаходзячыся праездам у Мінску, зорка шоу бізнэсу Ларын нечакана наведала мерапрыемства з удзелам … беларускай палітычнай апазіцыі, дзе сустрэлася з жонкай палітвязня Алеся Бяляцкага і незалежнымі беларускімі журналістамі. Як апынулася, Ларын — заўзятая актывістка і змагар за правы чалавека.

*— Я доўга думала, перш чым прыехаць у Беларусь, ведаючы пра шматлікія парушэнні правоў чалавека ў гэтай краіне*, — патлумачыла сваю пазіцыю Ларын. — *Але тут ёсць людзі, якім падабаецца мая музыка. Калі б я не прыехала, гэта было б непавагай да іх. А па-другое, я прыехала, каб выказаць сваё меркаванне, таму што я свабодны чалавек.*

Пасля сустрэчы яна надзела майку з выявай палітвязня і надпісам па-ангельску: «Свабоду Алесю Бяляцкаму».
І хоць рэакцыя на смелы ўчынак еўрапейскай госці самога прэзідэнта Лукашэнкі застаецца пакуль невядомай, многія журналісты сышліся ў меркаванні, што цяпер у Беларусь пераможцы «Еўрабачання» ўезд, на жаль, забаронены…

*Публікацыя сайта «Собеседник.RU» ад 20 ліпеня 2012*

У красавіку 2013 года Ларын выказвала салідарнасць з Алесем Бяляцкім ужо са сцэны ў Стакгольме. Яна прыйшла на міжнародную канфэрэнцыю Civil Rights Defenders па пытаннях бяспекі праваабаронцаў, каб падтрымаць яе ўдзельнікаў, якія працуюць ва ўмовах рызыкі, і перадаць словы падтрымкі іх калегам, якія свабодай заплацілі за сваю дзейнасць.

Даведаўшыся пра гэта, Алесь Бяляцкі даслаў спявачцы ліст:

> «Дарагая Ларын!
>
> Хачу вельмі падзякаваць за тую маральную падтрымку, якую Вы аказалі мне ў мінулым годзе падчас наведвання Менску і ў гэтым годзе падчас міжнароднай сустрэчы праваабаронцаў у Стакгольме.
>
> Мне вельмі прыемная чыста чалавечая ўвага з Вашага боку да майго лёсу і лёсу маёй сям'і. Хачу Вам сказаць, што пастаянная падтрымка мяне, маёй жонкі і сына дазваляе мне прасцей пераносіць тую складаную сітуацыю, у якой я зараз знаходжуся. Але ў падтрымцы маюць патрэбу і яны. Таму для мяне была такою важнаю Вашая сустрэча з маёй жонкаю Наталляй. Сваёй увагаю і адкрытай пазіцыяй да правоў чалавека Вы ламаеце стэрэатып эстраднай спявачкі, які склаўся ў нас, у лепшы бок. Я таксама люблю ламаць стэрэатыпы, і тут мы з вамі сходныя. Цэлы год час ад часу па мясцовым радыё перадавалі Вашую песню. І кожны раз я атрымліваў ад Вас часцінку Вашай энергіі.
>
> *Бязмежна ўдзячны,*
> *з павагаю,*
> *Алесь Бяляцкі».*




*Аўтограф Ларын для Алеся Бяляцкага*

# СПАРТЫЎНЫЯ БАТАЛІІ

Кіраўнікі аўтарытарных краінаў вельмі імкнуцца да прэстыжных спартыўных мерапрыемстваў — факт, з якім складана не пагадзіцца. І чым у больш змрочным стане грамадзянскія правы і свабоды на іх тэрыторыі, тым больш заўзята яны змагаюцца за права правядзення ў сябе розных міжнародных спаборніцтваў. Яны такім чынам спрабуюць абяліць свой імідж, адцягнуць увагу міжнароднай супольнасці ад парушэнняў правоў чалавека. Праваабаронцы, міжнародныя арганізацыі, еўрапейскія інстытуцыі заўжды акцэнтуюць увагу на тым, што маштабныя спартыўныя мерапрыемствы ў руках такіх рэжымаў ператвараюцца ў інструмент прапаганды, і, зразумела, трымаюцца напагатове. Дзякуючы іх намаганням, імёны палітычных вязняў гучалі ў дакор беларускім уладам падчас кампаній з нагоды правядзення футбольнага чэмпіянату Еўра — 2012, які прымалі Украіна і Польшча, Чэмпіянату свету па хакеі — 2014, які праходзіў у Беларусі, і зімовых Алімпійскіх гульняў 2014 года ў Сочы.

## КАМАНДА FRONT LINE DEFENDERS НА ЕЎРА-2012

Міжнародная арганізацыя Front Line Defenders, якая займаецца абаронай праваабаронцаў, стварыла сваю каманду да Чэмпіянату Еўропы па футболе 2012 — з 11-ці змагароў за правы чалавека, якія падвяргаюцца рэпрэсіям у розных краінах, і выпусціла майкі з іх імёнамі. У гэтай камандзе былі два абаронцы з Беларусі: нумар 2 — вязень сумлення Алесь Бяляцкі і нумар 3 — Алег Волчак, які незадоўга да гэтага па абвінавачванні ў «дробным хуліганстве» быў асуджаны да адміністрацыйнага арышту, сапраўднай падставай для чаго стаў крытычны артыкул пра незаконныя арышты актывістаў апазіцыі ў краіне. Таксама ў склад зборнай рэпрэсаваных увайшлі актывісты з Азербайджана, Казахстана, Украіны, Ізраіля, Турцыі, Кіпра, Францыі і Венгрыі.







*З сайта sportshrd.org*

На вэб-старонцы кампаніі Front Line Defenders распавядала гісторыі пераследу гэтых праваабаронцаў і заклікала да салідарнасці з імі.

## АЛІМПІЙСКАЯ КАМПАНІЯ FRONT LINE DEFENDERS 2014

Кампанія салідарнасці з лозунгам «Правы. Рызыкі. Перамены!» стартавала ў Сеціве адначасова з адкрыццём XXII Алімпійскіх зімовых гульняў у расійскім Сочы, каб прыцягнуць увагу да пераследу праваабаронцаў з Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі. У спісе Front Line Defenders з 12 асобаў імя Алеся Бяляцкага суседнічала з імёнамі яго калегаў — Стэфаніі Кулаевай, Яўгена Віцішкі, Наталлі Таўбіной і Рустама Мацавым з Расіі, Аляксандры Дварэцкай з Украіны, Нацыі Гвініяшвілі з Грузіі, Анара Мамедлі з Азербайджана, Дзілрабо Самадавай з Таджыкістана, Дзілмурода Саіда з Узбекістана, Азімжана Аскарава з Кыргызстана, Розы Тулетаевай з Казахстана.

*«У той час як увага сусветнай грамадскасці прыкаваная да неверагодных здольнасцяў і ўпартасці спартоўцаў з розных краінаў свету, якія сабраліся на гэтыя Алімпійскія гульні, што павінны прайсці пад знакам спартыўнага майстэрства і сумленнай гульні, Front Line Defenders звяртае вашую ўвагу на іншых герояў, якія працуюць з вялі-*







*З сайта sportshrd.org*

*кай рызыкай для сябе, каб, нягледзячы ні на што, дамагчыся выканання базавых правоў і свабодаў іншых людзей»*, — гэтымі словамі Мэры Лолар, выканаўчы дырэктар арганізацыі, адкрывала кампанію.

*«Усе 12 праваабаронцаў, якім прысвечана бягучая кампанія, прадэманстравалі вялікую мужнасць і сумленнасць у працы над шэрагам праблемаў у галіне абароны правоў чалавека. Алімпійская каманда праваабаронцаў — пачынаючы з тых, хто, падобна Алесю Бяляцкаму з Беларусі і Азімжану Аскараву з Кыргызстана, адбывае доўгае турэмнае зняволенне, і, сканчаючы тымі, хто, падобна Стэфаніі Кулаевай і Яўгену Віцішку, сутыкнуўся з крымінальным пераследам за тое, што кінуў выклік дыскрымінацыі або абараняў навакольнае асяроддзе, — сутыкаюцца з нябачнымі цяжкасцямі ў працы па абароне правоў чалавека».*

На думку Front Line Defenders, «дакладна таксама, як энергетычна зараджаная публіка можа дапамагчы спартоўцам устанавіць новы сусветны рэкорд, грамадскасць можа істотна змяніць жыццё праваабаронцаў, выдаткаваўшы некалькі хвілінаў на тое, каб далучыцца да кампаніі», — звярталіся міжнародныя праваабаронцы да інтэрнэт-карыстальнікаў.

## ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ Ў МІНСКУ: «СПОРТ ДЛЯ СПОРТУ!»

Чэмпіянат свету па хакеі, які праходзіў у Беларусі ў траўні 2014 года, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка разглядаў як сур'ёзны шанец для паляпшэння іміджу краіны. Хакей у пэўным сэнсе стаў сімвалам

часоў яго праўлення. Пад прыкрыццём «ажыццяўлення мары ўсіх хлопчыкаў, якія любяць спорт», А. Лукашэнка стварыў уласную прэзідэнцкую хакейную каманду, у якой гуляе пад нумарам 1; заснаваў штогадовы міжнародны калядны турнір аматараў хакея «на прызы прэзідэнта»; набудаваў па краіне дзясяткі лядовых палацаў, якія істотна абцяжарваюць дзяржаўны бюджэт.

Правядзенне хакейнага ЧС-2014, паводле Лукашэнкі, павінна было ўсіх пераканаць, што Беларусь — гэта «сапраўды цэнтральнаеўрапейская цывілізаваная краіна», а «не тое, што мы чыталі ў сродках масавай інфармацыі». 2014-ы год быў абвешчаны Годам гасціннасці, А. Лукашэнка асабіста кантраляваў падрыхтоўку да чэмпіянату. Арганізатары чакалі, што за час міжнароднага спаборніцтва Мінск наведаюць 20 тысяч гасцей, для якіх будаваліся і рамантаваліся гатэлі, вызваляліся студэнцкія інтэрнаты. Для замежнікаў з квіткамі на хакейныя матчы быў уведзены бязвізавы рэжым.

Дэманструючы гасціннасць навонкі, улады, аднак, разгарнулі сапраўдную «зачыстку» ўнутры краіны. Незадоўга да старту ЧС-2014 у Мінску міліцэйскае ведамства ўзнавіла практыку адвольных затрыманняў грамадзянскіх і палітычных актывістаў, якіх пасля, па сфабрыкаваных аднатыпных абвінавачваннях у «дробным хуліганстве» і «непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі», суды каралі арыштамі на 10–25 сутак. Гэта рабілася дзеля таго, каб на час правядзення спаборніцтва ізаляваць верагодных пратэстоўцаў за грамадзянскія і палітычныя правы. Такім жа чынам пазбаўляліся і ад так званых асацыяльных элементаў — асобаў без пэўнага месца жыхарства, прастытутак, якімі мінскі Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў запоўнілі настолькі, што іх трэба было вывозіць у ізалятар пры турме ў Жодзіне. Хворых на алкагалізм людзей накіроўвалі ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі, дзе на працягу года-паўтары «лекавалі» прымусовай працай. Так улады праводзілі рэпрэсіі супраць непажаданых грамадзянаў дзеля стварэння ілюзорнай карцінкі чыстага горада ў вачах замежных турыстаў.

Пакуль сілавікі наводзілі «чысціню» на вуліцах Мінска, праваабаронцы «Вясны» тэрмінова інфармавалі Групу па адвольных затрыманнях ААН пра тое, што адбываецца ў Беларусі.

Таксама быў падрыхтаваны зварот да ўрадаў краін-удзельніц ЧС-2014 з просьбай не накіроўваць свае афіцыйныя дэлегацыі для ўдзелу ў мерапрыемствах, звязаных з чэмпіянатам, каб не даць кіраўніцтву Беларусі ператварыць міжнароднае спартыўнае спаборніцтва ў «ідэалагічнае і палітызаванае шоу беларускага аўтарытарнага рэжыму». «Спорт для спорту!» — заклікалі аўтары звароту, пры гэтым вітаючы «ўнікальную магчымасць




*Паштоўка нямецкага аддзялення Amnesty International, дасланая палітвязню падчас ЧС-2014*

для беларускага народа атрымаць асалоду ад спартыўнага чэмпіянату, арганізаванага сваёй краінай, а таксама ўніверсальных каштоўнасцяў спорту».

У звароце згадвалася, што ў Беларусі па-ранейшаму знаходзіліся ў зняволенні дзевяць палітвязняў, умовы ўтрымання і стан здароўя якіх выклікалі сур'ёзную трывогу. Таксама тое, што тры чалавекі чакалі выканання смяротных прысудаў. Што, акрамя асноўных палітычных і грамадзянскіх правоў, шырока парушаюцца сацыяльна-эканамічныя правы, у тым ліку выкарыстоўваецца прымусовая праца. Так, напрыклад, студэнты з розных навучальных установаў былі вымушаныя працаваць на так званых суботніках пры будаўніцтве «Чыжоўка-Арэны» ў Мінску, дзе будуць праходзіць гульні падчас чэмпіянату.

*«Адмовіўшыся ад удзелу ў палітызаваных мерапрыемствах чэмпіянату свету па хакеі, урады зацікаўленых краінаў дазволяць спартоўцам і заўзятарам атрымаць асалоду ад спартыўных мерапрыемстваў — без падтрымкі тых парушэнняў, якія неаднаразова абвяшчаліся грубымі, сістэмнымі і сістэматычнымі Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый і іншымі міжнароднымі органамі»*, — падводзілі рысу аўтары заявы, пад якой разам з «Вясной» пад-

пісаліся такія арганізацыі, як Civil Rights Defenders і Östgruppen з Швецыі, FIDH — Міжнародная федэрацыя за правы чалавека і LDH — Французская ліга правоў чалавека, германска-швейцарская ініцыятыва Libereco — Partnership for Human Rights, Фонд Дамоў правоў чалавека і Нарвежскі Хельсінкскі камітэт, Фінская ліга правоў чалавека, KIBHR — Казахстанскае міжнароднае бюро па правах чалавека і захаванні законнасці, LIDU — Італьянская ліга правоў чалавека, Ліга правоў і  свабодаў з Канады.

Хтосьці з гэтых падпісантаў былі ўдзельнікамі міжнароднай кампаніі за перанос Чэмпіянату свету па хакеі ў іншую краіну, іншыя ладзілі акцыі для інфармавання міжнароднай супольнасці пра парушэнні правоў чалавека ў краіне, абранай для яго правядзення.

---

**«Не гуляй з дыктатарам»** — міжнародная кампанія за перанос Чэмпіянату свету па хакеі 2014 з Беларусі ў іншую краіну, каб пакараць афіцыйны Мінск за парушэнні правоў чалавека. У красавіку 2012 года, за месяц да кангрэса Міжнароднай федэрацыі хакея (IIHF) у Хельсінкі, восем няўрадавых арганізацый з Германіі, Швейцарыі, Швецыі, Нарвегіі, Чэхіі, Славакіі і Паўднёвай Афрыкі стварылі спецыяльны сайт **www.minsk2014.no**, на якім збіралі подпісы пад патрабаваннем пераносу сусветнага першынства, і збіраліся ставіць гэтае пытанне перад удзельнікамі кангрэса IIHF.

*З сайта minsk2014.no*




Разам з праваабаронцамі за перанос ЧС-2014 з Беларусі выступалі палітычныя інстытуты Еўрасаюза і ЗША. Так Еўрапарламент звяртаўся да нацыянальных хакейных федэрацый краінаў ЕС і ўсіх дэмакратычных дзяржаў, каб тыя прапаноўвалі IIHF абмеркаваць магчымасць пераносу ЧС-2014 у іншую краіну, пакуль не будуць вызваленыя ўсе беларускія палітвязні, і  ўлады не пачнуць паважаць правы чалавека і фундаментальныя свабоды. Дэпутаты Еўрапарламента, нямецкага Бундэстага і шведскага Рыксдага размясцілі адпаведнае патрабаванне на сайце кампаніі. А спікер Еўрапарламента Ежы Бузэк нават прапаноўваў выключыць Бела-

русь з міжнародных спартыўных спаборніцтваў. Тагачасны прэзідэнт ЗША Барак Абама заклікаў адмовіцца ад ЧС-2014 у Мінску, падпісаўшы «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі».

Травеньскі кангрэс IIHF 2012 года пацвердзіў, што праз два гады Мінск прыме чэмпіянат свету. Пасля прыняцця гэтага рашэння і падчас правядзення ЧС-2014 прэзідэнт IIHF Рэнэ Фазэль неаднаразова падвяргаўся крытыцы за тое, што адмаўляў сувязь паміж узмацненнем ціску на апазіцыю і правядзеннем чэмпіянату.

*Пікет актывістаў са Швецыі, Польшчы і Беларусі за перанос ЧС-2014. Стакгольм, 2013 год. Фота з уласнага архіва Марціна Углы*




«Мы ў сваёй працы бачым іншы бок медаля… А вось старшыня Міжнароднай федэрацыі хакея хацеў бачыць свята і шчаслівыя твары… Насамрэч, адно не адмаўляе наяўнасці другога. І адно, і другое — нашая рэчаіснасць. Для нас, з аднаго боку, заўсёды праблемна казаць пра баланс — непалітызацыю спорта — пры правядзенні міжнародных мерапрыемстваў у рэпрэсіўных дзяржавах. Але мне падаецца, што калі правядзенне такіх мерапрыемстваў прыводзіць да сістэмных парушэнняў правоў чалавека, то я б, напрыклад, устрымаўся ад іх правядзення. Ну, а хто вінаваты ў палітызацыі гэтага спартыўнага мерапрыемства — гадаць не выпадае. Усю адказнасць за гэта нясуць улады. Улады, якія былі арганізатарамі гэтага чэмпіянату. Улады, якія праводзілі рэпрэсіі супраць непажаданых грамадзянаў дзеля стварэння прыгожай карцінкі напаказ. І мне падаецца, што гэта добрая нагода для кіраўнікоў міжнародных спартыўных арганізацый, каб задумацца пра такі баланс», — так пракаментаваў пазіцыю прэзідэнта IIHF Рэнэ Фазэля намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч.

Нават пасля зацвярджэння Беларусі ў якасці краіны-арганізатара сусветнага спаборніцтва, удзельнікі кампаніі «Не гуляй з дыктатарам» не здаваліся — супольна звярталіся да спонсараў, нацыянальных хакейных федэрацый і зборных, вядучых медыя сваіх краінаў з заклікам не пакідаць без увагі парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Варта адзначыць, што найбольш актыўных прыхільнікаў ідэі пераносу ЧС-2014 у іншую краіну — як, напрыклад, пра-

ваабаронцу Марціна Углу, кіраўніка шведскай арганізацыі Östgruppen, і палітыка Марэка Мігальскага, дэпутата Еўрапейскага парламента ад Польшчы — падчас чэмпіянату беларускія ўлады ўнеслі ў «стоп-ліст» і адмовілі ім ва ўездзе ў краіну.

Падчас правядзення чэмпіянату замежныя праваабаронцы рабілі розныя захады, каб пастаянна нагадваць, што ў гэты ж час беларускія ўлады незаконна трымаюць за кратамі іх калегу Алеся Бяляцкага, іншых палітыкаў і актывістаў, і працягваюць парушаць правы і свабоды сваіх грамадзянаў.



*Пікет актывістаў са Швецыі, Польшчы і Беларусі за перанос ЧС-2014. Стакгольм, 2013 год. Фота з уласнага архіва Марціна Углы*

МАРЦІН УГЛА: СПОНСАРЫ ЧС-2014 У МІНСКУ ПСУЮЦЬ САБЕ РЭПУТАЦЫЮ

Ні адна фірма, якая паважае сябе, не будзе фінансаваць чэмпіянат у дыктатарскай краіне. Пра гэта заявіў кіраўнік шведскай праваабарончай арганізацыі Östgruppen Марцін Угла, каментуючы зварот міжнародных арганізацый да спонсараў сусветнага першынства па хакеі 2014 года ў Беларусі, сярод якіх кампаніі Skoda, Raiffeisen Bank, Infront Sports&Media і Tissot.

*«Падтрымка дадзенага мерапрыемства абавязкова будзе асацыявацца з аўтарытарным рэжымам. Ні адна фірма, якая паважае сябе, не захоча такім чынам сапсаваць сабе рэпутацыю»*, — перакананы праваабаронца.

*«Наша арганізацыя выступае за адмену правядзення сусветнага першынства па хакеі ў Беларусі. Мы будзем да канца за гэта змагацца, нягледзячы на тое, што ажыццявіць гэта даволі няпроста. У той час, як пэўныя колы зацікаўленыя выключна грашовым бокам пытання, мы заклікаем зірнуць і на маральны. Я спадзяюся, што сусветная грамадскасць пачуе наш голас пратэсту, і нам удасца паўплываць на сітуацыю. У любым выпадку, мы будзем прыцягваць увагу грамадскасці да праблем Беларусі: рэгулярнага парушэння правоў чалавека, існавання палітвязняў і смяротнага пакарання. Гэта павінны пачуць і зразумець, у тым ліку і тыя, хто збіраецца фінансаваць дадзенае мерапрыемства»*, — падсумаваў Марцін Угла.

*Інфармацыя сайта charter97.org ад 20 сакавіка 2013 года.*

У транзітнай зоне аэрапорта «Мінск-2» 8 траўня 2014 г. Фота з уласнага архіва Марціна Углы



МАРЦІН УГЛА: РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ АДПОМСЦІЎ МНЕ ЗА ЗАКЛІКІ ДА БАЙКОТУ ЧС ПА ХАКЕІ

*«Мы папярэджвалі, што беларускі рэжым не будзе такім адкрытым, як ён абяцаў. І мая дэпартацыя — гэта сумны доказ таго, што мы мелі рацыю. Шкада, што гэта не дайшло да Міжнароднай хакейнай федэрацыі і яе кіраўніка Рэнэ Фазэля, які ўвесь час прасіў не змешваць спорт з палітыкай. Але маёй дэпартацыяй і масавымі арыштамі апазіцыянераў напярэдадні чэмпіянату Лукашэнка сам змяшаў спорт з палітыкай. Дарэчы, старшыня Шведскай федэрацыі хакея пасля таго, што здарылася са мной, паабяцаў падняць гэтае пытанне на міжнародным узроўні. Але больш важна, каб падымалі пытанне пра беларускіх актывістаў, арыштаваных у апошнія дні, таму што іх сітуацыя нашмат горшая за маю»*, — адзначыў Марцін Угла.

Па словах праваабаронцы, такім чынам беларускія ўлады адпомсцілі яму за актыўныя заклікі да байкоту ЧС па хакеі ў Мінску.

Вядомы шведскі праваабаронца амаль суткі правёў у транзітнай зоне Нацыянальнага аэрапорта «Мінск 2». Памежнікі адмовіліся ўпускаць Марціна Углу ў Беларусь, нягледзячы на тое, што ў яго быў квіток на матч у рамках Чэмпіянату свету па хакеі.

*Інфармацыя сайта charter97.org ад 8 траўня 2014 года*

---

**«Сумленная гульня ў галіне правоў чалавека»** — кампанію з такім пасланнем праводзіла швейцарскае аддзяленне Amnesty International.

Праваабаронцы арганізоўвалі сустрэчы, у тым ліку з удзелам прадстаўнікоў «Вясны», з рознымі групамі насельніцтва ў розных швейцарскіх гарадах, каб пашырыць інфармацыю пра грубыя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, дзе праходзіць чэмпіянат свету па хакеі. На вэб-старонцы кампаніі швейцарскія актывісты Amnesty International збіралі подпісы пад петыцыяй, якая заклікала да неадкладнага і безумоўнага вызва-

ленне Мікалая Статкевіча, Эдуарда Лобава і Алеся Бяляцкага, прызнаных уплывовай міжнароднай арганізацыяй вязнямі сумлення, а таксама да адмены смяротнага пакарання і ўсіх рэпрэсіўных законаў у Беларусі.

Апроч гэтага, кіраўніца International — Швейцарыя Манон Шык напярэдадні чэмпіянату асабіста сустракалася ў Берне з прэзідэнтам IIHF Рэнэ Фазэлем, каб данесці яму інфармацыю пра рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці і парушэнні правоў чалавека ў Беларусі.




*Сябра «Вясны» Ірына Пракопчык на фоне банера кампаніі швейцарскай Amnesty International, якой была запрошаная для сустрэчаў з насельніцтвам розных гарадоў. Фота з архіва ПЦ «Вясна»*



*Падчас выступу пра сітуацыю ў Беларусі на Генеральнай асамблеі Amnesty International — Швейцарыя. Берн, 4 траўня 2014 г. Фота з архіва ПЦ «Вясна»*



*Пікет за вызваленне беларускіх палітвязняў. Цюрых, 29 красавіка 2014 г. Фота з архіва Libereco*

**«1000 дзён у зняволенні: неадкладна вызваліце Алеся!»** — вулічны пікет у Цюрыху 29 красавіка правялі актывісты швейцарскіх аддзяленняў Amnesty International і Libereco, каб напярэдадні ЧС-2014 нагадаць пра ўнушальны тэрмін, які правёў за кратамі беларускі праваабаронца.

Удзельнікі пікету паўтарылі свае патрабаванні наконт неадкладнага вызвалення старшыні «Вясны» Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных вязняў Беларусі — Мікалая Статкевіча, Эдуарда Лобава, Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка, Андрэя Гайдукова, Васіля Парфянкова, Арцёма Пракапенкі і Яўгена Васьковіча.

Таксама актывісты Libereco стварылі на пляцоўцы change.org петыцыю з патрабаваннем спецыяльнай амністыі для палітвязняў з нагоды ЧС-2014 у Мінску, «каб праводзіць Чэмпіянат свету па хакеі без парушэнняў правоў чалавека». Зварот на імя прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі быў апублікаваны на дзесяці мовах — англійскай, рускай, беларускай, нямецкай, польскай, чэшскай, нідэрландскай, іспанскай, італьянскай і французскай. Сабраныя пад петыцыяй подпісы арганізатары кампаніі накіравалі ў Беларусь, у прэзідэнцкую адміністрацыю.




*Банер кампаніі з сайта freeales.fidh.net*

**«Хакей — усё Ok?»** — інтэрнэт-кампанію з такім пасланнем праводзіла FIDH. Праваабаронцы стварылі тры кароткія відэаролікі — пра выкарыстанне прымусовай працы, праблему са свабодай выказвання і палітычных зняволеных у Беларусі.

*«Хакей — усё Ok? У Беларусі правы чалавека парушаюцца кожны дзень. Распаўсюдзь гэтае відэа. Не маўчы!»* — кожны з ролікаў сканчаўся такім заклікам да карыстальнікаў сацыяльных сетак, якія маглі пашыраць іх праз свае акаунты з хэштэгам #NotOk.

ЕЎРАСАЮЗ АСУДЖАЕ АДВОЛЬНЫЯ ЗАТРЫМАННІ І АРЫШТЫ АКТЫВІСТАЎ У БЕЛАРУСІ

*Брусель, 16 траўня 2014 года*
*140516/03*

**Заява Еўрапейскай службы знешнепалітычнай дзейнасці па адвольных затрыманнях больш чым 30 грамадзянскіх і палітычных актывістаў у Беларусі**

Мы занепакоеныя пераследам, адвольнымі арыштамі і зняволеннем некалькіх дзясяткаў прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і апазіцыйных арганізацый напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі. Мы асуджаем прымяненне беларускімі ўладамі адміністрацыйных арыштаў у якасці інструмента, накіраванага на стварэнне ціску, страху і няўпэўненасці сярод маладога пакалення Беларусі.
Мы заклікаем улады Беларусі неадкладна спыніць гэтыя дзеянні і вызваліць усіх асобаў, несправядліва затрыманых, зняўшы ўсе абвінавачванні супраць іх. Мы таксама паўтараем наш заклік пра неадкладнае і безумоўнае вызваленне і рэабілітацыю ўсіх палітычных зняволеных.
Гатоўнасць ЕС да далейшага развіцця адносінаў з Беларуссю па-ранейшаму залежыць ад канкрэтных крокаў Беларусі ў кірунку дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закона.

«Civil Rights Defenders: 33 месяцы зняволення Алеся Бяляцкага». Шведскія праваабаронцы з арганізацыі Civil Rights Defenders падрыхтавалі да ЧС-2014 адмысловы хакейны швэдар з надпісам «Bialiatski 33» — столькі месяцаў за кратамі на той час правёў Алесь Бяляцкі.

Апублікаваўшы здымак з швэдрам на сваёй старонцы ў Facebook, кіраўнік арганізацыі Роберт Хорд паведаміў пра намер перадаць яго кіраўніку Шведскай федэрацыі хакея Крыстэру Энглунду, і распавесці яму пра тое, на якім фоне праходзіць чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску, у якім бярэ ўдзел зборная Швецыі.

Фота са старонкі Роберта Хорда ў Фэйсбуку




Дзеля гэтага 19 траўня Хорд прыляцеў у сталіцу Беларусі, прызначыўшы сустрэчу з Энглундам на «Чыжоўка-Арэне», дзе ў той дзень праходзіў матч паміж камандамі Італіі і Швецыі. «Сувенір» з прозвішчам палітвязня стаў аб’ектам пільнай увагі аховы «Чыжоўка-Арэны». Роберта Хорда двойчы затрымлівалі і праводзілі ў спецыяльнае памяшканне для дагляду асабістых рэчаў — як на ўваходзе, так і ўнутры спартыўнага комплексу. Ахоўнікі не адпускалі праваабаронцу да таго часу, пакуль па яго не з’явіўся Крыстэр Энглунд. У выніку, размова кіраўнікоў Civil Rights Defenders і Шведскай федэрацыі хакея ўсё ж адбылася.

# КАМПАНІЯ «ПАРЫЖ ЗА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА»

Мэрыя Парыжа, якая з моманту арышту віцэ-прэзідэнта FIDH выказвала яму сваю падтрымку і патрабавала ад уладаў Беларусі яго безумоўнага вызвалення, у далейшым напоўніцу ўключыліся ў міжнародны рух салідарнасці з Алесем Бяляцкім.

## ПАРТРЭТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА Ў ЦЭНТРЫ ПАРЫЖА — НАПАМІН ПРА ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД У БЕЛАРУСІ

Заўважнай падзеяй у знак пратэсту супраць палітычнага пераследу праваабаронцаў у Беларусі стала рашэнне аб усталяванні ў цэнтры французскай сталіцы білборда з партрэтам Алеся Бяляцкага.

Як паведамлялася ў афіцыйным камюніке, «гэтай акцыяй Бертран Дэланаэ, мэр горада, далучыў голас Парыжа да шматлікіх галасоў міжнароднай супольнасці, якія пратэстуюць супраць турэмнага зняволення Алеся Бяляцкага і заклікаюць да яго неадкладнага і безумоўнага вызвалення».

MAIRIE DE PARIS

Paris, le 7 mai 2012

**INVITATION PRESSE – Vendredi 11 mai à 17h30 à la Mairie du 11°**
**Dévoilement d'un portrait géant d'Ales Bialiatsiki**

Vendredi 11 mai à 17H30 sur le parvis de la mairie du XIème, Patrick Bloche, Pierre Schapira et Souhayr Belhassen dévoileront un portrait d'Ales Bialiatski, Vice-président de la Fédération Internationale des Droits de l'Homme (FIDH) et Président du Centre de défense des Droits de l'Homme « Viasna » en Biélorussie. Cette cérémonie rendant hommage à M.Bialiatski, détenu en Biélorussie depuis le 4 août 2011, aura lieu en présence des membres du Bureau international de la FIDH.

Le 24 novembre 2011, Ales Bialiatski, éminent défenseur biélorusse des droits humains, respecté par l'ensemble de la communauté internationale, a été condamné par la justice de son pays à quatre ans et demi de prison ferme en régime sévère, au terme d'un procès inique. A cette occasion, Bertrand Delanoë a rajouté la voix de Paris aux nombreuses voix de la communauté internationale dénonçant l'emprisonnement d'Ales Bialiatski et appelant à sa libération immédiate et inconditionnelle.

Site internet consacré à l'affaire Ales Bialiastki : http://freeales.fidh.net/

Date et lieu de l'événement :
**Vendredi 11 mai à 17h30**
**Parvis de la mairie du 11e arrondissement, Place Léon Blum**

*Камюніке Мэрыі Парыжа паведамляе пра акцыю салідарнасці са зняволеным праваабаронцам*



*Інтэрв'ю Сашы Кулаевай падчас акцыі. Фота Guillaume Bück*

*«Міжнародная федэрацыя за правы чалавека ўжо некалькі месяцаў, непасрэдна з моманту арышту Алеся Бяляцкага, мабілізуе ўсе даступныя міжнародныя каналы, для таго, каб аказаць уплыў на больш рашучы голас міжнароднай супольнасці за яго вызваленне. І, у тым ліку, мы звярнуліся па падтрымку ў мэрыю Парыжа, і мэр Бертран Дэланаэ заклікаў да неадкладнага і безумоўнага вызвалення з самага першага дня. З тых часоў мэрыя выяўляла неаднаразова падтрымку і сям'і Бяляцкага, і яму самому, і цяпер выказала жаданне вывесіць яго партрэт».*

*Саша Кулаева ў інтэрв'ю RFI (Міжнароднае французскае радыё)*




11 траўня 2012 года партрэт быў усталяваны перад будынкам мэрыі ў 11-й акрузе Парыжа — у гэтай акрузе знаходзіцца штаб-кватэра FIDH.

На цырымоніі прысутнічалі паслы па правах чалавека шэрагу еўрапейскіх краінаў — Швецыі, Аўстрыі, Венгрыі, Нідэрландаў, Францыі, прадстаўнікі сяброўскіх арганізацый і сябры Міжнароднага праўлення FIDH з краінаў Афрыкі, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі, Усходняй і Заходняй Еўропы і Азіі, журналісты.

*Урачысты мітынг у 11-й акрузе Парыжа 11 траўня 2012 г. Фота Guillaume Bück*

Суэр Белхасэн (прэзідэнт FIDH), Патрык Блош (мэр 11-й акругі Парыжа) і П'ер Шапіра (упаўнаважаны мэрыі Парыжа па міжнародных адносінах) выступілі з рэзкім асуджэннем бесперапынных рэпрэсій у Беларусі, запатрабавалі вызвалення ўсіх палітычных зняволеных і заклікалі да «моцнай, наглядней і адзінай» мабілізацыі ўсёй міжнароднай супольнасці.

«Я бачу сімвалічнасць у тым, што мы ўсталявалі гэты партрэт тут, у сэрцы 11-й акругі, каб выказаць нашу салідарнасць з гэтым змагаром за правы чалавека, які сёння знаходзіцца ў турме па ілжывых абвінавачваннях, і на самай справе толькі таму, што ён мабілізаваў сваю краіну на барацьбу за дасягненне дэмакратыі. Але, на жаль, Беларусь — гэта краіна, дзе правы чалавека рэгулярна абсмейваюцца, таму што няма свабоды прэсы. У рэйтынгу свабоды прэсы Беларусь займае 168 месца з 179 краін. І я таксама бачу сімвалічнасць у тым, што гэты партрэт Алеся Бяляцкага будзе ўсталяваны тут, у 11-й акрузе, таму што для Парыжа 11-я акруга — гэта месца, дзе пачыналася Вялікая Французская рэвалюцыя 1789 года.






Гэта быў першы раз, калі народ узняўся для таго, каб запатрабаваць проста свабоды. Роўнасці і братэрства таксама, але перш за ўсё, свабоды. І з гэтага моманту гэтае патрабаванне стала ўніверсальным для народаў усяго свету», — сказаў спадар Блош у сваім выступе. На яго думку, рэвалюцыйная гісторыя Парыжа абавязвае горад падтрымліваць праявы свабоды па ўсім свеце: «Парыж — гэта горад, якому гісторыяй нададзена найважнейшая роля ў пытанні дасягнення свабоды. Парыж прасякнуты паветрам народнай рэвалюцыі. У некалькіх кроках адсюль Бастылія. Парыж — гэта таксама горад свабоднай прэсы і свабоднага выказвання свайго меркавання. Ён служыў месцам сустрэчаў многіх інтэлектуалаў, палітычных выгнаннікаў, апазіцыянераў. Таму Парыж, які ведае кошт патрабаванням, павінен узяць на сябе і меру адказнасці».

Паміж выступамі ўдзельнікі мітынгу скандавалі лозунгі-заклікі да неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага.




*Сябры «Вясны» і FIDH падчас візіту беларускіх праваабаронцаў у Парыж у чэрвені 2012 г.*
*Фота з архіва ПЦ «Вясна»*




*Першы пасля турмы візіт Алеся Бяляцкага*
*ў Парыж. Фота з архіва FIDH*

Варта адзначыць, што ў сітуацыі з Алесем Бяляцкім было зроблена выключэнне: звычайна мэрыя Парыжа вывешвае партрэты французскіх грамадзянаў, якія апынуліся закладнікамі ў іншых краінах.

Пасля вызвалення Алеся гарадскія ўлады не спяшаліся прыбіраць білборд з яго выявай: напачатку партрэт быў абноўлены надпісам «Нарэшце свабодны!», з якім правісеў да першага пасля турмы наведвання Парыжа.

# ЛЁС БЕЛАРУСКАГА ПРАВААБАРОНЦЫ — ПАД УВАГАЙ ЗНАКАМІТЫХ ГАСЦЕЙ ПАРЫЖА

27 чэрвеня 2012 года Парыж наведала Аун Сан Су Чжы — легендарная бірманская актывістка, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру, якая дагэтуль неаднаразова выказвала падтрымку Алесю Бяляцкаму. Гэта была яе першая паездка ў Еўропу пасля вызвалення з-пад хатняга арышту. У супрацьстаянні з пануючай ваеннай хунтай яна паслядоўна змагалася за правядзенне ў Бірме свабодных выбараў, за што 15 гадоў правяла ў ізаляцыі. Сан Су Чжы нарэшце змагла атрымаць сваю Нобелеўскую ўзнагароду, якая чакала яе ў Осла 21 год, а таксама пабывала з афіцыйнымі візітамі ў Швейцарыі, Ірландыі, Вялікабрытаніі. У Францыі, пасля аўдыенцыі ў прэзідэнта Аланда, МЗС і сталічнай мэрыі, дзе атрымала прысвоены ёй у 1994 годзе статус Ганаровага грамадзяніна Парыжа, яна сустрэлася з праваабаронцамі.




*Сустрэча з Аун Сан Су Чжы ў Парыжы 27 чэрвеня 2012 г. Фота з архіва FIDH*

У нефармальнай атмасферы Аун Сан Су Чжы ад імя грамадзянскай супольнасці вітала Суэр Белхасэн, якая сваю эмацыйную прамову скончыла заклікам не забываць пра тых, хто па-ранейшаму знаходзіцца ў зняволенні ва ўсім свеце праз іх праваабарончую ці апазіцыйную дзейнасць.

Указаўшы на сваю майку з партрэтам Алеся Бяляцкага, яна адзначыла, што «за гэтым пераследам стаяць сотні палітычных зняволеных па ўсім свеце, пра некаторых з якіх многія нават ніколі не чулі». У адказ Аун Сан Су Чжы выказала ўдзячнасць і падтрымку ўсім тым, хто змагаецца за вызваленне палітычных зняволеных у сваіх краінах.

> «Вязні сумлення ўсяго свету, я б хацела сказаць: ніколі не адступайцеся ад сваіх прынцыпаў! Павага да чалавецтва пачынаецца з павагі да саміх сабе. Маё пасланне вам вельмі простае: калі вы паважаеце саміх сябе, не адмаўляйцеся ад сваёй барацьбы. І не думайце, што вы адныя. Часта ў Бірме мы думалі, што мы самотныя. Але наколькі мы памыляліся, я зразумела толькі падчас гэтай паездкі па Еўропе.

Я шчаслівая, што менавіта туніская праваабаронца арганізавала гэтую сустрэчу. Я была здзіўленая, калі даведалася, што людзі ў Афрыцы, у арабскіх краінах, на Блізкім Усходзе выказвалі нам сваю салідарнасць, маліліся за нас, жадалі нам поспеху. Гэта было адкрыццём, я думала, што мы так далёкія ад усіх… Хтосьці тут згадаў слова «цуд». Мне ўспомніліся словы аднаго афіцэра, які змагаўся на баку саюзнікаў у Бірме падчас Другой сусветнай вайны: «Немагчымае мы робім кожны дзень. А вось на цуд трэба крыху больш часу». З такімі словамі Аун Сан Су Чжы звярнулася да тых, хто знаходзіўся за кратамі.

## ГАНАРОВАЕ ГРАМАДЗЯНСТВА ПАРЫЖА ЯК ЗНАК ПАДТРЫМКІ ПАЛІТВЯЗНЯ

У кастрычніку 2012 года гарадскі Савет падтрымаў прапанову мэра Бертрана Дэланаэ і дэпутатаў 11-й акругі аб наданні Алесю Бяляцкаму тытула Ганаровага грамадзяніна Парыжа. Пра гэта 16 кастрычніка паведаміў сайт гарадской мэрыі. *«Алесь Бяляцкі, выдатны беларускі абаронца правоў чалавека, у 2011 годзе быў асуджаны судом сваёй краіны да чатырох з паловай гадоў калоніі строгага рэжыму па выніках несправядлівага працэсу. Ён нястомна змагаўся за правы чалавека, нягледзячы на пагрозы і кампанію дэзінфармацыі з боку дзяржавы».*

Мэр Бертран Дэланаэ, асабіста знаёмы з Алесем, уважліва сачыў за яго лёсам і ўсялякім чынам падтрымліваў. У верасні 2013 года Алесь зусім нечакана атрымаў у калоніі ліст ад мэра французскай сталіцы, прымеркаваны да другой гадавіны свайго арышту.

«Мэр Парыжа

*Парыж, верасень 2013 г.*

Паважаны сп. Бяляцкі,

Я не мог абысці маўчаннем гадавіну з моманту несправядлівага турэмнага зняволення, ахвярай якога Вы з’яўляецеся з 4 жніўня 2011 года, і хацеў бы зноў запэўніць Вас у маёй падтрымцы і глыбокай павазе, якую ў мяне выклікае Ваша барацьба за правы чалавека ў Беларусі.

Мне таксама вядома пра суровыя ўмовы, у якіх Вы адбываеце пакаранне, і я схіляюся перад Вашай мужнасцю і ўпартасцю.

Тытул ганаровага грамадзяніна Парыжа, які дэпутаты нашага горада надалі Вам па маёй просьбе ў 2012 годзе, сімвалізуе салідарнасць з Вамі і Парыжа, і парыжанаў. Другая праява гэтай салідарнасці — Ваш партрэт, які пастаянна вісіць на плошчы перад будынкам мэрыі 11-й акругі Парыжа.

Паверце, што, сумесна з FIDH, чыім віцэ-прэзідэнтам Вы з'яўляецеся, і з усімі праваабаронцамі, мы працягваем дамагацца Вашага хутчэйшага вызвалення.

Прашу Вас прыняць запэўніванні ў маёй глыбокай павазе.

*Шчыра Ваш,*
*Бертран Дэланаэ*

*Сп. Алесю Бяляцкаму*
*Старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна»*
*Віцэ-прэзідэнту FIDH»*



Le Maire de Paris

Paris, le

Monsieur le Président,

Je ne voudrais pas laisser passer la date d'anniversaire de l'injuste incarcération dont vous êtes victime depuis le 4 août 2011 sans vous témoigner à nouveau ma solidarité et vous redire le profond respect que nous inspire votre combat pour les droits de l'homme en Biélorussie.

Je sais aussi la dureté des conditions dans lesquelles vous êtes actuellement détenu et je veux ici saluer votre courage et votre détermination.

La citoyenneté d'honneur que les élus de la Ville de Paris ont décidé de vous attribuer à ma demande en 2012 est une marque forte de l'engagement de Paris et des Parisiens à vos côtés, tout comme votre portrait qui est affiché de manière permanente sur le parvis de la mairie du 11ème arrondissement.

Soyez assuré que nous continuerons à unir nos forces à celles de la FIDH, dont vous êtes le Vice-Président, et à celles de tous les défenseurs du droit pour que vous puissiez recouvrer au plus tôt votre liberté.

Je vous prie de croire, Monsieur le Président, à l'assurance de mes sentiments les meilleurs.

Bien à vous

Bertrand DELANOË

*Ліст мэра Парыжа Бертран Дэланаэ Алесю Бяляцкаму ад 11 верасня 2013 г. З архіва FIDH*




*Урачыстая цырымонія ў гонар Алеся Бяляцкага. Парыж, 10 снежня 2013 г. Фота Guillaume Bück*

На зыходзе свайго мандата Бертран Дэланаэ разумеў, што яго жаданне ўручыць ганаровае грамадзянства асабіста Алесю невыканальнае, і ён вырашыў перадаць сімвалічную ўзнагароду сыну палітвязня Адаму Бяляцкаму.

Цырымонія ўручэння праходзіла 10 снежня 2013 года, у Дзень правоў чалавека, на святочным абедзе, які мэрыя Парыжа ладзіла ў гонар FIDH. Сведкамі ўзнагароджання сталі некалькі сотнь гасцей урачыстасці, сярод якіх былі журналісты і людзі мастацтва, прадстаўнікі Французскай нацыянальнай Камісіі па правах чалавека.

Выступаючы перад прысутнымі, Адам перадаў словы бацькі, дасланыя з засценкаў бабруйскай калоніі:

«Прысуджэнне ганаровага грамадзянства Парыжа для мяне — гэта вялікі і нечаканы гонар. І я хачу падзякаваць і Савету Парыжа, і мэру Парыжа, і гарадскому савету 11-й акругі, які праявіў такую ініцыятыву, і, вядома, усім-усім-усім, хто меў да гэтага дачыненне.

Я таксама разумею велізарную долю авансу ў гэтым ганаровым грамадзянстве.

Будзем расцэньваць усе прэміі і ўзнагароды як выразны сігнал людзям добрай і нядобрай волі ў Беларусі. А мы — толькі перадатчыкі гэтых сігналаў і рэтранслятары. Адны саджаюць мяне ў турму — пасылаюць свой сігнал, іншыя — даюць прэміі, зноў жа пасылаюць іншы сігнал. Роля сімвалічнага аб’екта таксама чагосьці вартая…

Вялікае, велізарнае прывітанне ўсім нашым сябрам у Парыжы!»

Прадстаўнікі FIDH перадалі мэру Дэланаэ публіцыстычны водгук Алеся Бяляцкага на апошні перад арыштам візіт у Парыж. Успаміны пра паседжанне Міжнароднага бюро FIDH, якое праходзіла ў будынку гарадской мэрыі, праваабаронца напісаў ужо ў зняволенні, пазней яны былі ўключаныя ў кнігу «Іртутнае срэбра жыцця».

## ПАРЫЖ, ПАРЫЖ... АЛЕ Я ВЯРТАЮСЯ ДАХАТЫ

*2 снежня 2012 г., Бабруйск*

У канцы чэрвеня 2011 года было запланавана чарговае паседжанне Міжнароднага праўлення FIDH у Парыжы. Зазвычай праўленне збіраецца тройчы на год. На гэтыя сустрэчы прыязджалі віцэ-прэзідэнты, сакратары федэрацыі з усіх краёў свету. На іх абмяркоўваліся бягучыя тактычныя пытанні дзейнасці федэрацыі, датычныя гарачых кропак у свеце, дзе нашыя калегі адчайна, часта з рызыкай для жыцця, абаранялі правы мірнага насельніцтва. Таксама слухаліся і абмяркоўваліся рэгіянальныя агляды па сітуацыі з правамі чалавека — у Лацінскай Амерыцы, Афрыцы, Усходняй Еўропе. Разважалі мы і над стратэгічнымі накірункамі дзейнасці Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, у якую ўваходзяць амаль 200 праваабарончых арганізацыяў з усяго свету. І дзеля таго, каб нашая дзейнасць была выніковай і эфектыўнай, мы распрацоўвалі далёкасягальную праграму: “FIDH праз 10 гадоў”. Ініцыятарам і маторам гэтай працы была прэзідэнт федэрацыі, туніская праваабаронца Суэр Белхасэн.

Гэтым разам асноўны акцэнт сустрэчы быў звязаны з падзеямі ў арабскіх краінах паўночнай Афрыкі, і найперш у Тунісе. Язмінавая рэвалюцыя ў Тунісе была сусветнай падзеяй гэтага года. Федэрацыю ў нашых асобах прымала мэрыя Парыжа. У фокусе нашага абмеркавання быў увесь рэгіён: Туніс, Егіпет, Лівія, Марока.

Паседжанне міжнароднага бюро праходзіла проста ў будынку мэрыі, у адной з яе гістарычных залаў. Вялізная зала, падзеленая аб’ёмнымі калонамі, была распісаная каляровымі фрэскамі і абвешаная вялікімі цёмнымі карцінамі з гістарычнымі сюжэтамі. Аркавыя вокны, пераплеценыя старымі ўзорыстымі пераплётамі, пачыналіся ад падлогі



*Алесь Бяляцкі да моманту зняволення. Фота Юліі Дарашкевіч*

і цягнуліся ўгару аж да столі. У адным з вокнаў пераліваўся цёмным шклом каляровы вітраж. Ляпніна на столі і роспіс столевых плафонаў нагадвалі святочны торт, які вісеў у нас над галавой.

Сярод гэтай барокавай прыгажосці былі пастаўленыя авалам сталы, кабінкі для перакладчыкаў, на дапаможным століку афіцыянты паставілі тэрмасы з каваю і гарбатаю, пірожныя, сокі і мінеральную ваду. Нашая шматнацыянальная, разнамоўная кампанія ўселася за стол, і пачалася праца. Абліччы старажытных парыжскіх палітыкаў са здзіўленнем паглядалі на нас з партрэтаў. Хіба ж яны думалі, калі прымалі дэкларацыю аб правах чалавека для французскіх грамадзянаў, толькі пару гадоў як адмяніўшы прыгон, а затым абвясціўшы ўсіх роўнымі, вольнымі і адказнымі, што гэтая «зараза» вальнадумства распаўсюдзіцца па ўсім свеце? І што змаганне за свабоду, за свае правы стане ці не галоўнай сацыяльнай і грамадскай мэтаю




*Фота з архіва FIDH*

ў свеце на наступныя 200 гадоў? І што гэтай свабоды, якую немагчыма памацаць рукамі, але якая разлітая ў паветры, п’яніць галовы, будуць жадаць усе — і в’етнамец, і егіпцянін, і калумбіец.

Беларусы, якія ішлі ў тую асветніцкую эпоху след у след за французскімі мыслярамі, за грамадскімі і палітычнымі пераўтварэннямі, у выніку катастрофы — падзелу і акупацыі дзяржавы — апынуліся ў Расійскай імперыі. Мы былі адкінутыя і замарожаныя ў сваім развіцці ў чымсьці на стагоддзе, а ў чымсьці і на два, панеслі аграмадныя ахвяры і ўрэшце так і не дасягнулі яшчэ прымальных умоваў жыцця. Чаму так сталася? На гэтае пытанне, я мяркую, мы павінны пастаянна шукаць адказ. Можа быць, ацэньваючы старонкі мінулага жыцця, мы змаглі б больш адказна ставіцца да жыцця сучаснага і будучага.

Выступы туніскіх праваабаронцаў, адмыслова запрошаных на нашую сустрэчу, былі поўныя гонару за свой народ. Усе яны як адзін казалі, што не чакалі такога імклівага развіцця падзеяў. Аўтарытарная ўлада, якая адбудоўвалася дзесяцігоддзямі, мела магутны рэпрэсіўны апарат, кантралявала сродкі масавай інфармацыі і, здавалася б, моцна трымала людзей у страху і падпарадкаванні, вокамгненна ўпала, не вытрымала некалькіх хваляў народнага націску.

Разам з гонарам нашыя туніскія калегі выказвалі і насцярогу. Яны былі ўстрывожаныя ростам ісламскага ўплыву, а разам з ім і ўзрастаннем нецярпімасці ў грамадстве. Было багата і іншых праблемаў. Туніскае грамадства структурна перабудоўвалася, павылазілі балячкі, якія ранейшыя ўлады пры дапамозе гвалту і прымусу заганялі ўсярэдзіну. Але, гледзячы на іхнія адухоўленыя, поўныя энергіі абліччы, я па-добраму зайздросціў ім.

Цікавым быў выступ лівійскага праваабаронцы. У гэты час у Лівіі ўжо ва ўсю ішла грамадзянская вайна. Ён выступаў яшчэ больш эмацыйна за тунісцаў. Распавядаў пра жахлівы тэрор лідара Джамахерыі, які катаваннямі і забойствамі пераўтварыў людзей у маўклівы, запалоханы натоўп. І вось нянавісць, якая капілася дзясяткі гадоў, вырвалася на волю. І зараз ідзе жорсткая, крывавая барацьба за дэмакратыю і правы чалавека са зброяй у руках. У гэтай сітуацыі лівійская апазіцыя моцна разлічвае на міжнародную дапамогу.

Ягоны выступ выклікаў неадназначную рэакцыю. Праваабаронцы з арабскіх краінаў падтрымлівалі свайго калегу. Еўрапейцы тактычна маўчалі ці казалі пра неабходнасць вялікай асцярогі ва ўжыванні зброі з боку еўрапейскіх саюзнікаў лівійскай апазіцыі. Ужо было вядома пра ахвяры сярод мірнага насельніцтва пасля бамбардзіровак з еўрапейскіх самалётаў. Кідалі бомбы па лівійскім войску, а траплялі ў жанчынаў і дзяцей.

Лацінаамерыканцы ж у адзін голас асуджалі вайсковую дапамогу і лічылі яе ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы суверэннай краіны. Так, выступіў Луіс (Генеральны сакратар FIDH Луіс-Гільерма Пэрэс. — *Рэд.*) і сказаў, што калі б Калумбія знаходзілася ў падобнай сітуацыі, то лепей бы няхай яго забілі, але каб акупанты не бамбілі ягоны народ. Гаварыў ён не менш пафасна за лівійца.

«Не, — падумаў я, — гэта не наш шлях». Недарэмна 200 гадоў таму ў Менску сустракалі Напалеона хлебам-соллю. Бо адступала, і, здавалася, назаўсёды, расійская тыранія, а разам з Напалеонам прыходзілі свабода, роўнасць і братэрства. Амаль уся Лацінская Амерыка ў той час, дарэчы, усе калоніі Іспаніі здолелі тады адбіцца ад метраполіі і стаць незалежнымі. Яны выкарысталі перамогу Напалеона над Іспаніяй і замену ў звязку з гэтым каралеўскай дынастыі. Неўзабаве незалежнасць атрымала і партугальская калонія ў Лацінскай Амерыцы, Бразілія, і выбрала свайго караля.

Але хіба ж маглі мы падтрымаць бамбардзіроўкі Лівіі, да чаго нас заклікаў лівійскі калега? Гэта была праблема, якая не мела яснага рашэння і адказу. Ці каштавала свабода шасцімільённага народа некалькіх дзясяткаў, ці сотняў, ці тысячаў выпадковых ахвяраў? І ці павінныя мы рабіць такі выбар? Мы, праваабаронцы, якія лічым каштоўнасць чалавечага жыцця асновай асноваў усёй сваёй дзейнасці і ідэалогіі? Любы з нас асабіста гатовы ахвяраваць і ахвяруе багата чым: дабрабытам, уладкаванасцю, здароўем, свабодай, а некаторыя нават сваім жыццём. Але вось пастаў нас у сітуацыю, калі дзеля выратавання большай колькасці людзей трэба ахвяраваць меншай ці нават адным жыццём, і я думаю, што выбар не будзе зроблены, а калі будзе, то гэта ўжо за межамі праваабароны.

Я чамусьці згадаў, як мая маці распавядала, што падчас вайны, калі яе цётка, а мая стрыечная бабуля, тады маладая яшчэ 25-гадовая жанчына, разам з жанкамі і дзецьмі хавалася ў жыце, куды яны ледзь паспелі выскачыць з невялікай вёсачкі, якую прыйшлі паліць мадзяры, а знаёмы паліцыянт прыбег і папярэдзіў іх, дык яе гадавалы сын разравеўся ад ляку. «Задушы, бо ўсе загінем!» — загадалі суседкі. Яна не насмелілася, не змагла, не ўзяла грэх на душу. І абышлося. Мадзяры не пачулі плачу дзіцёнка. А калі б пачулі?

Закранутая гэтая праблема і ў Бібліі. У дні, калі пішу гэты ліст, на швейцы, перад сканчэннем працы, пакрыху перачытваючы Евангелле ад Яна (хтосьці прынёс і пакінуў у цэху Новы Запавет), я згадаў гэты прызабыты мной эпізод пераследавання Хрыста. Галоўнай прычынаю, чаму першасвятары і фарысеі хацелі забіць Хрыста, паводле Яна, была наступная: «Гэты чалавек багата цудаў робіць. Калі пакінем Яго так, дык усе паверацць у Яго — і прыйдуць рымляне, і завалодаюць і месцам нашым, і народам. Адзін жа ў іх, хтосьці Канафа, будучы на той год першасвятаром, сказаў ім: вы нічога не ведаеце, і не падумайце, што лепей нам, каб адзін чалавек памёр за людзей, чым каб увесь народ загінуў» (Ян 11.47-50). Але першасвятары і фарысеі ўсё ж «вырашылі забіць Яго» (Ян 11.53). Дык ці мелі яны рацыю, прыняўшы гэтае прадбачлівае палітычнае рашэнне для габрэйскага народа, для ўсяго свету?

Вось так, дзве тысячы гадоў таму гэты Канафа, лічачы Хрыста за чалавека, паставіў пытанне, на якое свет мучаецца і не можа адказаць дагэтуль. Урэшце, хтосьці мучаецца, а хто і не.

Дык вось, вяртаючыся ў парыжскую мэрыю. Дваццаць гадоў таму я, мабыць, зрабіў бы такі выбар. А зараз вось — не.

Наш лівійскі калега застаўся незадаволены вынікам абмеркавання і тэкстам рэзалюцыі, датычнай сітуацыі ў Лівіі, якую прыняло міжнароднае бюро.

Падчас перапынку я падышоў да Суэр, якая, як туніска, лепей арыентавалася ў тамтэйшай сітуацыі. «Суэр, — запытаўся я, — а ці былі праваабаронцы ў Лівіі да вайны?» Яна ўзняла пальцы на адной руцэ, гэтым паказала — мала, вельмі мала. «Мы ведаем 2–3 прозвішчы, — адказала яна, — і крыху болей у эміграцыі». Гэта значна горш, чым у нас, падумаў я.

Пасля афіцыйнага паседжання я паведаміў кіраўніцтву федэрацыі пра сваю праблему з падаткавай інспекцыяй і з тым, чым гэта можа для мяне скончыцца. Увечары ў мэрыі быў дадзены прыём у гонар туніскіх праваабаронцаў.



*Ратуша Гатэль-дэ-Віль, дзе знаходзіцца мэрыя Парыжа. Фота Luc Viatour / lucnix.be*

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ — ЗАВОЧНЫ САЎДЗЕЛЬНІК УРАЧЫСТАСЦЯЎ FIDH У ПАРЫЖЫ

У 2012 годзе ў Парыжы адзначаліся дзве важныя падзеі ў жыцці FIDH.

У лістападзе 2012 года прэзідэнт Французскай Рэспублікі Франсуа Аланд узвёў кіраўніцу FIDH Суэр Белхасэн у ранг кавалера ордэна Ганаровага легіёна. Ён прысвяціў гэтую ўзнагароду ўсім актывістам FIDH, і асабліва — тым, хто знаходзяцца ў зняволенні, сярод іх і віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі.

> «У Вашай асобе я хачу адзначыць усіх актывістаў FIDH, якія часта дорага расплочваюцца за сваю смелую барацьбу. Я думаю пра вашага віцэ-прэзідэнта спадара Бяляцкага, які пакутуе ў зняволенні ў Беларусі, вашага намесніка генеральнага сакратара Набіла Раджаба, заключанага ў турме Бахрэйна, і ўсіх сяброў вашай арганізацыі, якія сёння знаходзяцца за кратамі толькі таму, што яны патрабуюць выканання правасуддзя», — сказаў прэзідэнт Аланд падчас цырымоніі ўзнагароджання, звяртаючыся да спадарыні Белхасэн.

*Урачыстая цырымонія ўзнагароджання Суэр Белхасэн. Парыж, лістапад 2012 г. Фота з архіва FIDH*





Праз месяц, у снежні 2012 года, FIDH адзначала сваё 90-годдзе. На вечарыне, якая праходзіла ў гарадской мэрыі, у прысутнасці мноства гасцей — вядомых журналістаў, праваабаронцаў і дзеячаў мастацтва, спадар Бертран Дэланаэ ўручыў Суэр Белхасэн медаль Гран Вярмей — вышэйшую ўзнагароду горада Парыжа.

Прэзідэнт FIDH прысвяціла гэты юбілей дваццаці шасці актывістам Федэрацыі, якія на той момант знаходзіліся ў турмах у розных краінах свету. У сваім выступе яна назвала імёны тых, «хто за сваю дзейнасць расплочваецца дарагім коштам», сярод гэтых асобаў — Алесь Бяляцкі.

---

«… Гэта было дзевяноста гадоў таму … дзевяноста гадоў таму!

Шматлікія актывісты, удзельнікі розных рухаў у абарону правоў чалавека Францыі, Германіі, Бельгіі, Венгрыі, Егіпта і яшчэ дзесяці краін сабраліся, каб стварыць, на руінах першай сусветнай вайны, міжнародны рух у абарону правоў чалавека. Яны заснавалі FIDH — Міжнародную Федэрацыю за правы чалавека.



Нашыя папярэднікі хацелі пабудаваць такі свет, дзе, нягледзячы на межы, правы чалавека ставіліся б вышэй за ўсё — вышэй за партыйныя, эканамічныя ці нацыяналістычныя інтарэсы.

Ужо ў 1927 годзе яны заклікалі да прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і стварэння пастаянна дзеючага Міжнароднага крымінальнага суда. Пройдзе некалькі дзясяткаў гадоў, перш чым будзе прынятая Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, і Міжнародны крымінальны суд пачне сваю працу. З гэтага моманту правы чалавека набылі юрыдычныя рамкі, і кожны мае права патрабаваць іх выканання.

Доўгія гады ўсе мы змагаемся з ростам антысемітызму і нацыяналізму. Гэтая барацьба каштавала жыцця некаторым з нашых папярэднікаў. Віктар Баш, сябра-заснавальнік і Прэзідэнт FIDH, быў расстраляны французскай паліцыяй у Ліёне ў 1944 годзе.

Змагаючыся супраць каланізацыі і ўсіх формаў самавольства падчас «халоднай вайны» або паўсюдна працуючы над стварэннем больш справядлівага і раўнапраўнага грамадства, нашы папярэднікі сталі прыкладам для пераймання ва ўсім свеце.

Сёння, як і ўчора, нашы актывісты знаходзяцца на першай лініі фронту. Кожны дзень яны вядуць барацьбу за ўніверсальнасць чалавечых правоў: за рэальнае, а не на словах, захаванне правоў жанчын, права кожнага на правасуддзе, на свабоду выказвання, на свабоду веравызнання і на годнае існаванне.

За сваю дзейнасць ім часам даводзіцца расплочвацца дарагой цаной. У гэты вечар святкавання нашай 90-й гадавіны я думаю пра 26 актывістак і актывістаў нашай арганізацыі, якія знаходзяцца ў дадзены момант у зняволенні.

Я думаю пра Алеся Бяляцкага, нашага віцэ-прэзідэнта і старшыню ПЦ «Вясна» ў Беларусі, прысуджанага да чатырох з паловай гадоў калоніі.
Я думаю пра Набіла Раджаба, намесніка генеральнага сакратара FIDH, старшыню Праваабарончага цэнтра Бахрэйна, прысуджанага да двух гадоў турмы.
Я думаю пра Насрын Сатудзех з Ірана, якая атрымае на будучым тыдні прэмію Сахарава. Будзем спадзявацца, што дзякуючы гэтай прэміі яна зможа выйсці з ізаляцыі, у якой апынулася пасля прысуду да 11 гадоў турмы і 20 гадоў забароны на працу адвакатам. Я думаю пра трох яе калег з Іранскага праваабарончага цэнтра, якія знаходзяцца ў такой жа сітуацыі.
Я думаю пра Мухарэма Эрбея з Турцыі, віцэ-прэзідэнта Турэцкай асацыяцыі за правы чалавека, і пра яго 13 калег, якія, як і ён, знаходзяцца за кратамі.
Я думаю пра пяцёх сяброў Таварыства правоў чалавека ва Узбекістане, таксама зняволеных у турмы і калоніі.

Гэтыя праваабаронцы змагаюцца за свае свабоды і свае правы — але яны змагаюцца і за нашу свабоду, і нашы правы.

Я хачу прысвяціць нашае свята менавіта ім.

Ваша прысутнасць тут у гэты вечар кажа пра тое, што Вы падтрымліваеце нашу барацьбу. Ад іх імя і ад імя FIDH я кажу вам — дзякуй».

## ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ:
## У ФРАНЦЫІ АДЧУВАЕЦЦА ІСТОТНЫ ІНТАРЭС ДА СПРАВЫ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

На мінулым тыдні намеснік кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч наведаў з рабочым візітам Парыж. У гэтым горадзе размешчаны офіс Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH), віцэ-прэзідэнтам якой з'яўляецца вядомы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Дзякуючы велізарным намаганням FIDH, палітычныя колы і грамадскасць Францыі ўважліва сочаць за лёсам зняволенага Алеся Бяляцкага. Пра гэта сведчыць і візіт Валянціна Стэфановіча ў французскую сталіцу.

Нягледзячы на тое, што асноўнай мэтай паездкі было абмеркаванне планаў наконт далейшай дзейнасці «Вясны» ў рамках FIDH (у Федэрацыю беларуская арганізацыя ўваходзіць з 2004-га года, і Алесь Бяляцкі за гэты час двойчы абіраўся яе віцэ-прэзідэнтам), праваабаронцу давялося належную частку часу адвесці для зносін з прэсай. Валянцін Стэфановіч даў інтэрв'ю дзвюм найбуйнейшым газетам Парыжа — Le Figaro і Le Monde, Міжнароднаму радыё Францыі (RFI), а таксама французскаму часопісу Politique Internationale, які з'яўляецца адным з самых аўтарытэтных еўрапейскіх выданняў, прысвечаных міжнароднай палітыцы і дыпламатычным зносінам.

*«Тое, што Алесь з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай Федэрацыі, і офіс гэтай арганізацыі знаходзіцца ў Парыжы, выклікае цікавасць сродкаў масавай інфармацыі. Скажу, што ў прынцыпе ў гэтым плане ў Федэрацыі свая гісторыя: адзін з прэзідэнтаў арганізацыі ў 40-я гады быў забіты нацыстамі, а зараз віцэ-прэзідэнт сядзіць у турме. І такіх выпадкаў не шмат, каб віцэ-прэзідэнты FIDH траплялі ў зняволенне, хаця, канешне, многія з нашых калегаў па Федэрацыі ажыццяўляюць сваю дзейнасць у значна больш экстрэмальных умовах, чым мы (я маю на ўвазе афрыканскія лігі ці паўднёваамерыканскія). І мы вельмі ўдзячныя нашым калегам з Федэрацыі, якія прыклалі шмат намаганняў для мабілізацыі грамадскай думкі ў Францыі і па ўсім свеце, скіраванай на патрабаванне вызвалення Алеся Бяляцкага».*

*Інфармацыя сайта spring96.org ад 12 чэрвеня 2012 года.*




*Валянцін Стэфановіч падчас візіту ў Парыж у чэрвені 2012 г. Фота з архіва ПЦ "Вясна"*




*Артыкулы французскіх СМІ пра справу А.Бяляцкага*

# КАМПАНІЯ AMNESTY INTERNATIONAL «МАРАФОН ЛІСТОЎ»

У 2012 годзе Алесь Бяляцкі стаў адным з герояў глабальнай праваабарончай кампаніі «Марафон лістоў», якую праводзяць прыхільнікі Amnesty International у падтрымку людзей, пацярпелых ад грубых парушэнняў правоў чалавека.

Штогод кампанія распачынаецца ў снежні, напярэдадні Дня правоў чалавека, і праходзіць пад лозунгам «Пішам за правы! Даможамся пераменаў!». Тысячы людзей з розных краінаў свету ў знак салідарнасці пішуць лісты палітычным зняволеным, з якімі яны ніколі не сустракаліся, а таксама уладам іх краінаў. Ініцыятары кампаніі сцвярджаюць: шматкроць пераконваліся ў тым, што гэтыя лісты сапраўды могуць ратаваць жыцці людзей і мяняць іх да лепшага.

У 2012 годзе Amnesty International прасіла сваіх прыхільнікаў выступіць у абарону студэнцкай арганізацыі «Гірыфна», якую пераследвалі ўлады ў Судане, спыніць пакаранне грамадзяніна Тайваня Чыоў Хо-Шунь, які ў выніку несправядлівага суда 23 гады знаходзіўся ў камеры смяротнікаў, падтрымаць вязня амерыканскай турмы Гуантанама Хусэйна Салема Махамеда Альмерфедзі, якога там утрымлівалі ўжо дзевяць гадоў без прад'яўлення абвінавачанняў і суда, а таксама дапамагчы зняволеным праваабаронцам Наргез Махамадзі з Ірана і Алесю Бяляцкаму з Беларусі.

На вэб-старонцы Марафона ў прафайле Алеся Бяляцкага кожны жадаючы мог спампаваць паштоўку для яго, якая там была на пяці мовах — англійскай, іспанскай, рускай, французскай, арабскай, раздрукаваць яе і даслаць палітвязню. Акрамя таго, арганізатары кампаніі прапаноўвалі азнаёміцца з гісторыяй Алеся Бяляцкага і заклікалі ўдзельнікаў марафону падпісацца пад петыцыяй, адрасаванай беларускім уладам.




*Пра герояў «Марафону лістоў — 2012» распавядае бюлетэнь расійскага аддзялення Amnesty International*



## ALES BIALIATSKI'S STORY

Ales Bialiatski is a prominent human rights defender in Belarus and the chairman of the organization Human Rights Centre Viasna. He was arrested on 4 August 2011 and imprisoned on 24 November 2011 for four and a half years. Amnesty International believes that his imprisonment is intended to prevent him working to defend human rights and considers him to be a prisoner of conscience.

Ales Bialiatski was imprisoned for using his personal bank accounts in Lithuania and Poland to support his organization's human rights work in Belarus. The Belarusian authorities have refused to register Human Rights Centre Viasna since 2003. As a result, the organization is barred from opening a bank account in its name in Belarus, so it had no choice but to use bank accounts in neighbouring countries to fund its human rights work.

Ales Bialiatski did not receive a fair trial. Some of the evidence presented was unauthenticated or anonymous. The questioning of some witnesses did not relate to the charges, but instead to the human rights activities of Ales Bialiatski and the witnesses themselves.

**Show solidarity with Ales Bialiatski**

Write a letter or send a non-religious card to Ales Bialiatski in prison.

Ales Bialiatski
Penal colony No. 2
1 Sikorsky Street, Babru
213800 Mahiliou Regio
Belarus

Suggested messages for Ales Bialiatski:
I am thinking of you: **Я думаю пра цябе**
I am wishing you well: **Я жадаю табе дабра**

**Write to the President of Belarus**

- Call for the immediate and unconditional release of Ales Bialiatski and for all charges against him to be dropped.
- State that Amnesty International considers Ales Bialiatski to be a prisoner of conscience.

President Alyaksandr Lukashenka
ul. Karla Marxa 38
220016 Minsk
Belarus

AMNESTY INTERNATIONAL

Amnesty International
International Secretariat
Peter Benenson House
1 Easton Street
London WC1X 0DW
United Kingdom

September 2012
Index: EUR 49/014/2012 English

amnesty.org /individuals-at-risk




*Справа Алеся Бяляцкага ў межах «Марафону лістоў — 2012» Amnesty International*

Тамсама было размешчана відэа, у якім калега Алеся Валянцін Стэфановіч, жонка Наталля Пінчук і эксперт Amnesty International па Усходняй Еўропе Хэза Макгіл распавядалі гісторыю пераследу і заклікалі да падтрымкі беларускага вязня сумлення, гэты ролік быў перакладзены на адзінаццаць моваў.

У сакавіку 2013 года Amnesty International паведаміла, што за час кампаніі рознымі людзьмі па ўсім свеце было прынята больш за сто тысяч мераў у падтрымку беларускага праваабаронцы рознымі спосабамі — напісаннем лістоў салідарнасці, падпісаннем адрасаваных уладам петыцый за яго вызваленне, а таксама творчымі акцыямі, у тым ліку канцэртамі і светлавымі праекцыямі. У выніковым буклеце, дасланым у «Вясну» з лонданскага Міжнароднага сакратарыяту Amnesty International, прыводзіліся прыклады акцый з розных кантынентаў і шэраг краінаў, дзе падобныя меры былі прынятыя: Аўстрыя, Бельгія, Бермудскія выспы, Балгарыя, Канада, Кіпр, Чэшская Рэспубліка, Фінляндыя, Гана, Ісландыя, Ірландыя, Італія, Японія, Латвія, Люксембург, Малі, Мальта, Малдова, Манголія, Парагвай, Польшча, Партугалія, Пуэрта-Рыка, Румынія, Расія, Славакія, Славенія, Паўднёвая Карэя, Швецыя, Швейцарыя, Тайвань, Тога, Туніс, Украіна, Венесуэла, Вялікабрытанія.




*Пасля вызвалення Алесь Бяляцкі заклікаў усіх далучацца да Марафона лістоў. Фота бельгійскай Amnesty International*

*«Мяне засыпала лавінай лістоў і паштовак. Увесь Новы год я чытаў і чытаў сотні паведамленняў. Шчыра, я не прапусціў ні аднаго. Гэта быў неапісальны Новы год»*, — дзяліўся сваімі ўражаннямі ад кампаніі Алесь Бяляцкі ў роліку з заклікам далучацца да Марафона лістоў — 2015. Былы вязень сумлення зняўся ў цыкле відэаролікаў бельгійскага аддзялення Amnesty International, каб на ўласным прыкладзе распавесці, чаму важна далучацца да напісання лістоў уладам-парушальнікам, а таксама адрасаваць цёплыя словы падтрымкі людзям, чые правы былі груба парушаныя.





В Варшаве, **Польша**, уличная картина изображает Алеся Беляцкого. "Календарь сопереживания» также был сделан для Алеся, символизируя тюремную камеру, он будет передан президенту Брониславу Коморовскому.




Активистка из Познани, Польша, демонстрирует свою солидарность с Алесем Беляцким. В Польше **30,894** мер было принято по делу Алеся всего за 24 часа!

Самое главное, что все эти мероприятия объединяет это то, что они объединили людей вместе, чтобы писать письма и подписывать петиции за Алеся Беляцкого. Это произошло по всему миру от **Италии** ...





... до **Великобритании**, где Андрей Санников принял меры для Алеся во время мероприятия Марафона по написанию писем в Международном секретариате Amnesty International в Лондоне, в День прав человека ...

В **Того** женщине показали дело Алеся Беляцкого, и она написала письмо для него, двое школьников также приняли участие ...





*«Каля ста тысяч людзей выступілі ў падтрымку Алеся Бяляцкага» — справаздача Amnesty International па выніках кампаніі*




*Барыс Грабеншчакоў распачынае Марафон лістоў 2012. Фота са старонкі Сяргея Нікіціна ў Фэйсбуку*

## БАРЫС ГРАБЕНШЧАКОЎ ДАЎ СТАРТ МАРАФОНУ AMNESTY INTERNATIONAL 2012

Лісты з самага першага дня існавання Amnesty International былі галоўным інструментам у справе абароны правоў чалавека. Лісты актывістаў у абарону тых, чые правы грубейшым чынам парушаныя, накіраваныя на адрас уладаў адпаведных краінаў, аказвалі часам магічнае ўздзеянне. Усе 50 гадоў нашай гісторыі — пацверджанне таму, што ліст і подпіс мае каласальную сілу.

Пяцьдзясят гадоў таму, на пачатку 1960-х, калі не было электроннай пошты, кампутараў, факсаў, лісты пісаліся актывістамі ад рукі. Заклейваліся ў канверты з маркай і адпраўляліся ўладам.

Лісты і сёння застаюцца адным з самых дзейсных спосабаў аказаць уплыў на сітуацыю, калі гаворка ідзе пра парушэнні правоў чалавека. У лісце можна выкласці сваю пазіцыю тым людзям, хто — у сілу свайго становішча — можа паўплываць на парушальнікаў. Заклікі Amnesty International ствараюцца на аснове карпатлівай працы нашых калегаў з праваабарончых арганізацый, нашых даследчыкаў. Іх падпісваюць дзясяткі тысяч людзей у розных кутках свету. Пастаянны паток лістоў аказвае рэальнае ўздзеянне на органы ўлады, карпарацыі і іншых, у чыіх руках стрыно ўлады. Новыя тэхналогіі XXI стагоддзя спрасцілі працэс напісання і дастаўкі пасланняў. (…)

Amnesty International у Расіі ўжо на працягу многіх гадоў мае ў шэрагах сваіх прыхільнікаў шматлікіх расійскіх рок-музыкаў. Але асаблівая роля належыць Барысу Грабеншчакову, выдатнаму расійскаму музыку, паэту, выканаўцу. Ужо ў 2004 годзе Барыс Барысавіч прыйшоў на прэс-канферэнцыю Amnesty International, прысвечаную выхаду чарговага штогадовага даклада, дзе горача падтрымаў працу арганізацыі. У наступныя гады Грабеншчакоў выступаў нашым прыхільнікам у барацьбе за адмену смяротнага пакарання, заступаўся за вязняў сумлення ў Беларусі і Узбекістане, Кітаі і Эрытрэі.

Вось і цяпер Барыс Грабеншчакоў неадкладна адгукнуўся на заклік Amnesty International даць старт Марафону па напісанні лістоў 2012 у Расіі. Сустрэча з музыкам прайшла перад яго канцэртам у Маскве. Барыс Барысавіч, як заўсёды, вельмі ўважліва прачытаў усе пяць петыцый, прапанаваных да падпісання, і ўпэўнена паставіў свой подпіс пад кожным лістом.

Гэтыя лісты — разам з тысячамі іншых, падпісаных усімі тымі, для каго правы чалавека — не пусты гук, — будуць адпраўленыя ўладам Беларусі, ЗША, Тайваня, Судана і Ірана.

У кожнага ёсць магчымасць зрабіць свой унёсак у добрую і высакародную справу. Далучайцеся. Гэта зусім нескладана — паставіць свой подпіс. Мы чакаем Вашага ўдзелу. Вынікі будуць узрушаючымі.

*Артыкул з блога Сяргея Нікіціна, дырэктара расійскага прадстаўніцтва Amnesty International на сайце «Эха Масквы» ад 3 снежня 2012 г.*



Нават пасля фармальнага завяршэння Марафона лістоў — 2012 аддзяленні Amnesty International у некаторых краінах самастойна працягвалі акцыі салідарнасці з Алесем Бяляцкім.

Адной з самых доўгатэрміновых была паштовачная кампанія галандскага аддзялення Amnesty International з пасланнем «Я думаю пра цябе. Я жадаю табе дабра».

Гэтыя словы былі надрукаваны па-беларуску і па-англійску на адмысловых паштоўках, дзе на месце маркі змяшчаўся партрэт вязня сумлення, а ў радках атрымальніка — імя Алеся Бяляцкага і адрас бабруйскай калоніі. Такія паштоўкі-выразкі былі размешчаны ў сродках масавай інфармацыі, каб як мага больш людзей змаглі выказаць сваю салідарнасць.

Таксама галандскія актывісты збіралі подпісы пад патрабаваннем да беларускіх уладаў аб вызваленні праваабаронцы. У лютым 2013 года еўрапейскі каардынатар Amnesty International Хенк Хульшоф і дэпутат Еўрапарламента Гары ван Бомель сустрэліся з паслом Беларусі ў Гаазе Аленай Грыцэнка і перадалі ёй 84 тысячы подпісаў, сабраных у падтрымку Алеся Бяляцкага, разам з залатой «манетай», на якой выгравіраваны партрэт палітвязня і надпіс «Свабоду Алесю Бяляцкаму». Гэтая «манета» была яшчэ адной даволі крэатыўнай ідэяй галандскіх актывістаў.




Яны праводзілі кампанію, падчас якой больш за 6600 чалавек перавялі па адным еўрацэнце на банкаўскі рахунак беларускага пасольства з указаннем тлумачэння аплаты «на вызваленне Алеся Бяляцкага» — такім чынам заклікалі ўлады зняць сфабрыкаваныя абвінавачванні ва ўхіленні ад падаткаў і неадкладна вызваліць праваабаронцу.

Таксама быў зняты кароткі ролік, у якім ролі выконвалі супрацоўнікі галандскага офіса Amnesty International. Сюжэт разгортваўся імкліва: у офісе праваабарончай арганізацыі з'яўляецца чалавек у цывільным — без тлумачэнняў урываецца ў кабінет кіраўніка — накідваецца на яго — заляпляе рот скотчам — заломвае рукі назад —кладзе галавой на стол. Далей з'яўляюцца слайды з надпісамі: «Гэта Эдуард Назарскі» — «дырэктар Amnesty International у Нідэрландах» — «На шчасце, гэтага не адбываецца ў Нідэрландах» — «У Беларусі цалкам магчыма". І напрыканцы — застаўка з назвай кампаніі «4 тыдні за свабоду».

«Для нас было невымоўнай радасцю пачуць пра Вашае вызваленне ды пабачыць Вас зноў на волі. Мы часта пра Вас узгадвалі на працягу апошніх трох гадоў. У гэты час мы пастаянна правяралі, ці памятае пра вас пасольства Беларусі ў Нідэрландах, а праз яго — і беларускія ўлады.

Мы ведаем, што Вашае вызваленне не з’яўляецца безумоўным, як мы таго хацелі б. Мы будзем працягваць уважліва сачыць за становішчам у Беларусі, і нашая ўвага будзе асабліва засяроджаная на вызваленні Мікалая Статкевіча і Эдуарда Лобава, якія дасюль утрымліваюцца ў зняволенні. Мы радыя, што Вы можаце працягваць змаганне “Вясны” за правы чалавека ў Беларусі, і будзеце працягваць падтрымліваць нас у гэтым», — напісалі актывісты галандскага аддзялення Amnesty International у вітальным лісце Алесю Бяляцкаму ў чэрвені 2014 года.



*Фота галандскага аддзялення Amnesty International*



AMNESTY INTERNATIONAL

**Afdeling Nederland**
Keizersgracht 177
Postbus 1968
1000 BZ Amsterdam

T 020 626 44 36
F 020 624 08 89
E amnesty@amnesty.nl
I www.amnesty.nl

Viasna
c/o Mr. Ales Bialiatski, Chairman
220012 Minsk,
ul.Merzhinskogo, 8-26
BELARUS

Datum
June 26, 2014

Onderwerp
Congratulations!

Ons kenmerk

Uw kenmerk

Dear Mr. Bialiatski,

We were overjoyed to hear about your release this weekend and to see you in freedom again. You have been on our minds very regularly over the past almost three years. During this time we have made sure that you stayed on the minds of the Belarusian Embassy in the Netherlands, and through them on the agenda of the Belarusian authorities, as well. Among other actions we celebrated your 51st birthday on the Embassy's doorstep and urged them in over 6,000 bank transfer messages to drop the tax evasion charges and release you immediately and unconditionally. Almost 100.0000 people lend their signatures for your freedom!

We were honoured to host your son here in Amsterdam in December 2012 and to hear his moving story about your and his situation. He inspired and mobilised our activists and deepened our strongly felt bond with you and our obligation to fight for your release. Valiantsin Stefanovich further motivated us to continue our struggle for you and for human rights in Belarus in general when he visited us in September 2013.

We know that your release was not unconditional, as we would have wished. We will keep monitoring the situation in Belarus closely and our attention will be directed especially at the release of Mikalau Statkevich and Eduard Lobau, who still remain in prison.

We are happy that you can continue Viasna's struggle for human rights in Belarus and will continue supporting you in that. On behalf the entire Dutch section of Amnesty International we therefore wish you:

Сардэчна запрашаем дадому! Набірайцеся сіл і здароўя! З самымі цёплымі прывітаннямі,

21 ЧЭРВЕНЯ 2014 ГОДА — гэтая дата стала днём вызвалення Алеся Бяляцкага.

Амаль тры гады тысячы людзей у розных частках свету чакалі вызвалення выбітнага праваабаронцы. І ўсё ж гэтая навіна ў суботні дзень стала для ўсіх поўнай неспадзяванкаю. Не чакаў гэтага і сам вязень: «Яшчэ сёння раніцай я, як звычайна, пайшоў на працу. Затым каля 9-й гадзіны мяне выклікалі і паведамілі пра вызваленне на падставе Закона аб амністыі, пасадзілі ў машыну хуткай дапамогі і патаемна адвезлі на вакзал. Там пасадзілі на электрычку і адправілі ў Менск», — распавядаў ён ужо праз некалькі гадзінаў.

Алесь не мог разлічваць на амністыю. У 2012 годзе яму ўжо адмаўлялі ў ёй з нагоды “шматлікіх парушэнняў рэжыму зняволення”. І зараз ён заставаўся “злосным парушальнікам устаноўленага парадку адбывання пакарання”. На гэтую катэгорыю вязняў амністыя, абвешчаная з нагоды “70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў”, не распаўсюджвалася і ў яго не было ніякіх спадзяванняў на датэрміновае вызваленне. Аднак, у першы ж дзень уступлення ў сілу Закона “Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем” Алеся Бяляцкага выпусцілі з калоніі на фармальнай падставе “па адбыцці адной траціны тэрміна пакарання”. Рашэнне аб вызваленні відавочна мела палітычны кантэкст.



*У электрычцы па дарозе з Бабруйска ў Мінск. Першым Алеся Бяляцкага на свабодзе сустрэў фотажурналіст Уладь Грыдзін.*









*Дэманстрацыя салідарнасці на мінскай чыгуначнай платформе. Фота Юры Сідуна*

Улады жадалі, каб вызваленне Алеся Бяляцкага прайшло хутка і незаўважна. Але гучная і радасная дэманстрацыя салідарнасці ўсё ж адбылася. Электрычку, на якой Алесь Бяляцкі вяртаўся з Бабруйска ў Мінск, сустракалі апладысментамі. На платформе чыгуначнай станцыі "Інстытут культуры" яго з нецярпеннем чакалі родныя і сябры, калегі-вясноўцы ды іншыя праваабаронцы, дзясяткі грамадскіх актывістаў і журналістаў, палітыкі і былыя палітвязні. Пазнавалі Алеся і пасажыры, якія выходзілі з электрычкі, бо чыталі пра яго гісторыю ў газетах.

*«Менавіта тая падтрымка, якую я атрымліваў ад усіх вас, тое ўнутранае і міжнароднае ўмяшанне з дня майго арышту прывялі да майго вызвалення сёння. Без вашай дапамогі мяне б наўрад ці вызвалілі»*, — сказаў Алесь сябрам. Сустрэчу Алеся Бяляцкага, дзякуючы журналістам, глядзелі ў анлайне яго аднадумцы з іншых краінаў. Першыя словы праваабаронцы на свабодзе, усіх, хто прыйшоў яго павітаць, таксама здымалі на відэа "людзі ў цывільным", якія, не хаваючы сваёй прысутнасці, разгрупаваліся па ўсёй платформе.

## А Ф І Ц Ы Й Н А

### ЕС ВІТАЕ ВЫЗВАЛЕННЕ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

> *"Мы вітаем вызваленне беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Праз амаль тры гады пазбаўлення волі па палітычных матывах ён можа цяпер, нарэшце, уз'яднацца са сваёй сям'ёй і сябрамі.*
> *Гэта важны крок з боку беларускіх уладаў, за якім мусіць паследаваць неадкладнае вызваленне ўсіх астатніх палітычных зняволеных і поўнае аднаўленне іх грамадзянскіх і палітычных правоў. Гэта можа спрыяць паляпшэнню стасункаў паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю".*

Брусель, 21 чэрвеня 2014 года

*Прэс-канферэнцыя ў «Вясне» 23 чэрвеня 2014 г. Фота Сяргея Гудзіліна*

*«Сядзець за дэмакратычную, незалежную Беларусь — гэта нармальна».* Такімі словамі Алесь Бяляцкі распачаў першую пасля вызвалення прэс-канферэнцыю, выкрасліўшы сваё прозвішча са спісу палітычных зняволеных на майцы «Свабоду палітвязням!».







«Я спадзяюся, што маё вызваленне — гэта толькі пачатак. Я звяртаюся да беларускіх уладаў, каб на Бяляцкім не скончылася вызваленне палітвязняў. Беларусь павінна быць краінай без палітвязняў».

«Зразумела, што мая справа — гэта цалкам палітычны працэс…
Улады ставілі перад сабой мэту запалохаць грамадзянскую супольнасць. Ці дасягнулі яны гэтай мэты? Не ў такой ступені, як хацелі. Я не адступаў ад сваіх словаў і дзейнасці. Вызваленне — не звязана са зменай маёй пазіцыі. Улады вымушаныя ісці на саступкі, каб нармалізаваць адносіны з Еўропай. У Беларусі ж быў і ёсць татальны кантроль над грамадствам. Я ведаю які ціск быў на іншых палітвязняў. Нейкіх кардынальных зменаў у краіне не бачна».






*Прэс-канферэнцыя ў «Вясне» 23 чэрвеня 2014 г. Фота Сяргея Балая*

«Пісаць ці не пісаць прашэнне аб памілаванні — у мяне нават думкі такой не было. Мне двойчы адкрытым тэкстам прапаноўвалі напісаць прашэнне на імя Лукашэнкі. У верасні 2011, а пасля ў студзені 2014 пасля прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. У калоніях шмат што не гаворыцца на словах, але цябе падштурхоўваюць да пакаяння ўчынкамі, правакацыямі, усячасымі абмежаваннямі. Такая атмасфера пастаяннага ціску была створаная вакол мяне».

«Размовы пра пацяпленне адносінаў з Захадам можна пачынаць толькі пасля вызвалення ўсіх палітвязняў. Сітуацыя не мусіць быць, як у Азербайджане. У нас павінна быць свабодная зона без палітвязняў. Мы не павінны скатвацца да прызнанага дэ-факта бяспраўя і беззаконня».

## САША КУЛАЕВА: ВЫЗВАЛЕННЕ АЛЕСЯ — ГЭТА ЗНАК НАДЗЕІ ДЛЯ ПРАВААБАРОНЦАЎ, ЯКІЯ ПАДВЯРГАЮЦЦА РЭПРЭСІЯМ У ІНШЫХ КРАІНАХ



*«Вядома, гэта вельмі шчаслівы дзень. Шчаслівы дзень для мяне асабіста, для ўсіх нас, для дзясяткаў, сотняў людзей па ўсім свеце — тых, хто змагаўся за гэтае вызваленне, а такіх людзей было вельмі шмат. Гэта вялікае свята для людзей ва ўсіх краінах Лацінскай Амерыкі, у Азіі, Афрыцы, вядома ж, у нашым рэгіёне, ва Усходняй Еўропе, Цэнтральнай Азіі... Але, акрамя гэтага пачуцця свята, ва ўсіх нас ёсць пачуццё горычы — ад таго, што практычна тры гады Алесь быў у зняволенні, чаго не павінна было быць. Я цалкам згодная з тым, што сказаў Алесь падчас сваёй прэс-канферэнцыі: горка яшчэ і таму, што сітуацыя ў цэлым не змянілася. Хоць мы бязмежна шчаслівыя, што ён выйшаў на волю і зноў з намі, але мы памятаем пра ўсіх тых, хто застаецца ў зняволенні, і пра тое, што гэтая рызыка ў Беларусі па-ранейшаму існуе для ўсіх, хто займаецца праваабарончай ці апазіцыйнай дзейнасцю».*

*“Маё вызваленне пакуль занадта рана расцэньваць як пачатак станоўчых зменаў у сферы правоў чалавека ў Беларусі”*. Праз чатыры дні Алесь Бяляцкі ўжо даваў прэс-канферэнцыю для заходніх журналістаў, якая праходзіла ў Беларускім доме правоў чалавека ў Вільні.

Праваабаронца даводзіў, што Захаду не варта спяшацца з высновамі: “Пакуль у Беларусі ёсць палітвязні, ніякіх сур’ёзных перамоваў пра паляпшэнне адносінаў адбывацца не павінна”.

Менш як праз тыдзень Алесь Бяляцкі разам з калегамі з FIDH ужо сустракаўся з прадстаўнікамі Еўрапейскага Саюза ў Бруселі і Страсбургу. Ён дзякаваў ім за нястомнае змаганне за яго вызваленне і заклікаў працягнуць барацьбу за свабоду ўсіх палітычных вязняў Беларусі і сістэмныя змены з правамі чалавека ў краіне.











*Сустрэча Алеся Бяляцкага з замежнымі калегамі, журналістамі і мэрам Вільні Артурасам Зуокасам у БДПЧ 27 чэрвеня 2014 г. Фота з архіва БДПЧ*




*Праваабаронцы FIDH са спецпрадстаўніком ЕС па правах чалавека Стаўрасам Ламбрынідзісам, прадстаўнікамі Еўрапейскай Камісіі і амбасадарамі краінаў ЕС па замежных справах. Брусель, 1 ліпеня 2014 г.*




*Алесь Бяляцкі і Стаўрас Ламбрынідзіс. Брусель, 1 ліпеня 2014 г.*
*Фота з архіва FIDH*

*Працяг сустрэчы са Стаўрасам Ламбрынідзісам па-за афіцыйным кадрам. Брусель, 1 ліпеня 2014 г. Фота з архіва FIDH*





*Прэзідэнт FIDH Карым Лахіджы і Алесь Бяляцкі ў Страсбургу, дзе пройдзе шэраг прадстаўнічых сустрэчаў. 2 ліпеня 2014 г. Фота з архіва FIDH*






*"Размаўляючы з уладамі Беларусі, трэба разумець, што мяне вызвалілі не проста так. Значыць, ёсць нейкая зацікаўленасць уладаў Беларусі, каб палепшыць свае стасункі з ЕС". Алесь Бяляцкі падчас прэс-канферэнцыі ў Еўрапарламенце. Страсбург, 2 ліпеня 2014 г. Фота © European Union 2014*






*Сустрэча з новаабраным прэзідэнтам Еўрапейскага Парламента Марцінам Шульцам. Страсбург, 3 ліпеня 2014 г. Фота © European Union 2014*





*Алесь Бяляцкі з калегамі з FIDH на першай сесіі новаабранага Еўрапарламента. Марцін Шульц да пачатку спрэчак паведаміў дэпутатам пра прысутнасць беларускага праваабаронцы і нагадаў пра рэзалюцыі ЕП з патрабаваннем яго вызвалення. Еўрапарламентарыі віталі госця шквалам апладысментаў. Фота з архіва FIDH*



*Еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле запэўніў Алеся Бяляцкага, што галоўная ўмова зменаў у адносінах паміж ЕС і афіцыйным Мінскам — вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітычных зняволеных.*
*Страсбург, 2 ліпеня 2014 г. Фота з архіва FIDH*



*На сустрэчы з Генсакратаром Савета Еўропы Турб'ёрнам Ягландам гаворка ішла пра ўмовы вызвалення нядаўняга палітвязня, сітуацыю ў рэгіёне.*
*Страсбург, 2 ліпеня 2014 г.*
*Фота з архіва FIDH*




*Прэзідэнт ПАСЕ Ан Брасэр запэўніла ў поўнай падтрымцы працы праваабаронцаў у Беларусі і ад імя Асамблеі павіншавала Алеся Бяляцкага з прысуджэннем першай прэміі Вацлава Гавела ў галіне правоў чалавека.*
*Страсбург, 2 ліпеня 2014 г.*
*Фота © PACE*



Parliamentary Assembly
Assemblée parlementaire

News | Members | Work | Functioning | Events | Diary

## PACE President meets with Ales Bialiatski upon his release

PRESIDENT

Today Anne Brasseur, President of the Parliamentary Assembly of the Council of Europe (PACE), met in Strasbourg with Ales Bialiatski, President of the Belarusian human rights centre Viasna and Vice-President of the International Federation for Human Rights (FIDH). Mr Bialiatski was accompanied by FIDH President Karim Lahidji.

Mrs Brasseur used this opportunity to congratulate Mr Bialiatski in person, on behalf of the Assembly, on the award of the first Vaclav Havel Human Rights Prize. The Prize was awarded to Mr Bialiatski by the Assembly in September 2013, but the laureate, imprisoned since 2011, was unable to attend the ceremony. The President discussed with Mr Bialiatski the human rights situation in Belarus and the role that the Assembly needs to play to improve it.

"Mr Bialiatski is for us a symbol of an unbreakable commitment to human rights. I sincerely welcomed his release from prison on 21 June, and I am impressed by his strong will to continue his most valuable human rights work and his co-operation with the Assembly and the Council of Europe," said Mrs Brasseur.

"While praising Mr Bialiatski's commitment, I also want to express our full support for the work of all human rights defenders in Belarus, who are forced to fight for our common values in very harsh conditions. I am confident that this hard work will not be in vain, and I hope that with their help Belarus will soon become a truly democratic state, respecting the rule of law and human rights standards of the Council of Europe."

ПРЭЗІДЭНТ ПАСЕ:

«Упэўненая, што цяжкая праца беларускіх праваабаронцаў не марная.

Спадар Бяляцкі з’яўляецца для нас сімвалам непарушнай прыхільнасці правам чалавека. Шчыра вітаючы яго вызваленне з турмы 21 чэрвеня, я ўражаная яго моцным жаданнем працягваць сваю вельмі каштоўную працу ў галіне правоў чалавека і супрацоўніцтва з Асамблеяй і Саветам Еўропы.

Высока ацэньваючы прыхільнасць спадара Бяляцкага, я таксама хачу выказаць нашую поўную падтрымку працы ўсіх праваабаронцаў у Беларусі, якія вымушаныя змагацца за нашыя агульныя каштоўнасці ў вельмі цяжкіх умовах. Я ўпэўненая, што гэтая цяжкая праца не будзе марнай, і я спадзяюся, што з іх дапамогай Беларусь хутка стане сапраўды дэмакратычнай дзяржавай, якая паважае вяршэнства закона і стандарты Савета Еўропы ў галіне правоў чалавека».

*Ан Брасэр падчас сустрэчы з дэлегацыяй FIDH*
*2 ліпеня 2014 ў Страсбургу*



*Сябры FIDH у чаканні Алеся. Лістапад 2013 года. З архіва FIDH*




«Нарэшце свабодны!» — вітаў Алеся Бяляцкага Парыж, наведваннем якога завершыўся першы еўрапейскі візіт нядаўняга палітвязня.





*У Мэрыі Парыжа 5 ліпеня 2014 года Алесь Бяляцкі атрымаў дыплом ганаровага грамадзяніна горада — гэтае званне яму было нададзена ў кастрычніку 2012 года тагачасным мэрам Бертранам Дэланаэ. Узнагароду праваабаронцу ўручаў Дарадца мэра Парыжа па міжнародных адносінах Патрык Клюгман. На цырымонію прыйшоў і яго папярэднік П'ер Шапіра, а таксама папярэдні ітагачасны мэры 11-й гарадской акругі, якія ўвесь час клапаціліся за лёс Алеся. Фота: Guillaume Bück*



*Пасля цырымоніі ў мэрыі Алесь Бяляцкі з калегамі з FIDH былі прынятыя паслом па правах чалавека МЗС Францыі спн. Патрыцыянай Спарачына-Цьеле і прадстаўнікамі міністэрства. Фота: Guillaume Bück*

## ПРЭС-РЭЛІЗ МЭРА ПАРЫЖА АННЫ ІДАЛЬГА З НАГОДЫ ВЫЗВАЛЕННЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

MAIRIE DE PARIS

З вялікай радасцю даведалася я аб вызваленні Алеся Бяляцкага, Ганаровага грамадзяніна горада Парыжа, старшыні ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH (Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека).
Вядомы абаронца правоў і свабод чалавека Алесь Бяляцкі быў прысуджаны 24 лістапада 2011 года, у выніку несправядлівага суда, да чатырох з паловай гадоў зняволення. Яго вызваленне, пасля трох гадоў няволі, — новы крок на шляху да свабоды выказвання і дэмакратыі ў свеце.
Я хацела б яшчэ раз выказаць салідарнасць горада Парыжа з усімі жанчынамі і мужчынамі, якія штодня змагаюцца за абарону асноўных правоў. Каб прадэманстраваць нашу салідарнасць з іх барацьбой, мы бліжэйшымі днямі абновім партрэт Алеся Бяляцкага, вывешаны на мэрыі 11-й акругі горада Парыжа (плошча Леона Блюма), дадаўшы да яго цудоўнае слова СВАБОДА!

*23 чэрвеня 2014 года*

Фактычна з першых крокаў на свабодзе Алесь Бяляцкі ўключыўся ў барацьбу за лёсы палітычных вязняў — як у Беларусі, так і ў іншых постсавецкіх краінах, дзе за кратамі знаходзіліся яго калегі-праваабаронцы.

Цяпер яны мелі патрэбу ў салідарнасці Алеся Бяляцкага.


PORTRAIT

# L'opposant biélorusse retrouve la liberté

**Ales Bialiatski**
président du Centre biélorusse des droits de l'homme Viasna

ANAIS BROSSEAU

**Libéré le 21 juin, le défenseur des droits de l'homme biélorusse était détenu depuis près de trois ans pour « *évasion fiscale* ».**

**Après cette amnistie surprise, l'ancien prisonnier s'est rendu dans plusieurs pays européens pour remercier ceux qui ont œuvré pour sa libération.**

Le crâne et la moustache rasés, amaigri, les yeux cernés mais le sourire aux lèvres. L'opposant politique biélorusse Ales Bialiatski était vendredi à Paris pour recevoir le diplôme de citoyen d'honneur de la ville. Tout juste libéré, après trois ans de détention, le défenseur des droits de l'homme a rencontré ses soutiens et des dirigeants politiques à Vilnius, Bruxelles, Strasbourg, Paris et Varsovie. *« À la fin de la journée je suis très fatigué, mais ces rendez-vous sont extrêmement importants pour rappeler qu'il y a encore sept prisonniers politiques en Biélorussie et qu'il ne faut pas relâcher la pression »*, [illegible]

Ces rencontres tranchent avec le silence auquel il était soumis dans la colonie pénitentiaire de Babruisk (centre du pays), où il était emprisonné depuis deux ans. Ses codétenus avaient interdiction de lui parler. Et seules deux personnes ont pu lui rendre visite : sa femme, à trois reprises, et un envoyé spécial du Vatican. *« Il est venu le 25 septembre 2012, le jour de mon anniversaire »*, se souvient l'ancien prisonnier qui a échappé au cachot le jour de l'arrivée de ce visiteur.

Vice-président de la Fédération internationale des droits de l'homme depuis 2007, Ales Bialiatski a bénéficié d'une amnistie inattendue de la part du président biélorusse, Alexandre Loukachenko. L'opposant avait été condamné en août 2011 à quatre ans et demi de prison pour *« évasion fiscale »* en raison de l'existence de comptes polonais et lituaniens au nom de son association de défense des droits de l'homme, Viasna.

La Biélorussie d'Alexandre Loukachenko, président depuis vingt ans, est considérée comme la dernière dictature en Europe. La précédente présidentielle, en décembre 2010, a conduit à l'arrestation de nombreux opposants et entraîné des sanctions de l'Union européenne à l'encontre du président et de certains de ses collaborateurs.

La libération d'un prisonnier politique, la première depuis l'automne 2012, est perçue comme un signe d'ouverture de la Biélorussie vers l'UE. *« Le gouvernement est prêt à céder*, estime Ales Bialiatski. *L'UE peut accorder des crédits à la Biélorussie et le pays a besoin de cet argent car la situation économique n'est pas stable. »* La Biélorussie a aussi pris ses distances avec la Russie vis-à-vis de la crise en Ukraine. *« Mais il ne faut pas croire qu'il y a un rapprochement vers les valeurs européennes »*, met en garde l'ancien prisonnier qui, pendant sa détention, a suivi l'actualité grâce aux journaux et aux échanges de lettres avec ses amis.

L'engagement d'Ales Bialiatski remonte à la fin de son adolescence. Il faisait partie de groupes clandestins qui rêvaient de démocratie et de l'indépendance de la Biélorussie. À 51 ans, l'opposant compte bien rentrer dans son pays. Et reprendre le combat de la défense des droits de l'homme.

[illegible]


ÉDITION ABONNÉS

# Le prisonnier politique biélorusse numéro un est libre

Ales Bialiatski, 51 ans a bénéficié d'une amnistie « liée au 70e anniversaire de la libération de la Biélorussie des envahisseurs nazis ».

LE MONDE | 23.06.2014 à 11h29 • Mis à jour le 23.06.2014 à 11h29 |

Par Piotr Smolar

Abonnez vous à partir de 1 € Réagir Ajouter

Partager Tweeter


# Алесь Беляцкий лично получил грамоту Почётного гражданина Парижа

Опубликовано 04-07-2014 • Отредактировано 04-07-2014 в 16:46

Сергей Дмитриев

*Візіт Алеся Бяляцкага ў Парыж асвятлялі штодзённыя выданні Le Monde і La Croix, RFI — Міжнароднае французскае радыё*




*Алесь Бяляцкі — за свабоду праваабаронцаў. Фота з архіва FIDH*

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: НАША СІЛА — У БЯССТРАШНАСЦІ І САЛІДАРНАСЦІ

«Паважаныя сябры!

Я — Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» з Беларусі і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека, у якую ўваходзіць амаль дзвесце праваабарончых арганізацый з усяго свету.

Беларускія ўлады асудзілі мяне за праваабарончую дзейнасць і амаль тры гады я правёў у турме. І зараз яшчэ б сядзеў там, калі б ні каласальная міжнародная салідарнасць, якая прымусіла ўлады выпусціць мяне з турмы.

Але мой выпадак не адзінкавы. На ўсіх кантынентах, у розных кутках свету, у багатых і бедных краінах, ідзе пастаянная барацьба за свабоду і правы чалавека. Яна не спыняецца ні на хвіліну, таму што заўсёды ёсць людзі, якія хочуць зрабіць гэты свет лепшым. За сваю мару часам даводзіцца плаціць вялікую цану.

У маім рэгіёне былых постсавецкіх краінаў у праваабаронцаў усё менш магчымасцяў для працы. Усё цяжэй і небяспечней бараніць

правы чалавека. Расія развязала вайну супраць Украіны, у выніку — тысячы забітых, мільёны бежанцаў. А калі гаворыць зброя — правы чалавека адыходзяць на далёкі план.

Сітуацыя для праваабаронцаў у асобных краінах асабліва трагічная.

У Расіі праваабаронцаў забіваюць; у Беларусі садзяць у турму ці выганяюць з краіны; у Кыргызстане па ілжывым абвінавачванні асуджаны на пажыццёвае зняволенне Азімжан Аскараў; выбітныя праваабаронцы Лэйла Юнус, Інтыгам Аліеў і дзясяткі іх калегаў і журналістаў знаходзяцца ў турмах Азербайджана; Саліджон Абдурахманаў, Дзілмурод Саідаў, Азам Тургунаў у ліку іншых праваабаронцаў кінутыя ў турмы Узбекістана. І гэты спіс — ахвяраў і герояў у адной асобе — можна працягваць і працягваць.

Аўтарытарныя дыктатуры адкрыта ваююць з праваабаронцамі, абвінавачваючы ва ўсіх грахах, залічылі нас у злачынцы. Усё менш прасторы застаецца для развіцця грамадства. Закон замест таго, каб абараняць, часта выкарыстоўваецца для абмежавання правоў і свабод, для рэпрэсій супраць грамадзянскіх актывістаў.

Рэпрэсіі супраць праваабаронцаў выкліканыя жаданнем уладаў схаваць праўду, адысці ад надзённых праблем. Мы — як лакмусавая паперка, якая паказвае ўзровень беспакаранасці ўладаў, адсутнасць прававой дзяржавы, недахопы судовай сістэмы, узровень карупцыі.

Улады хочуць прымусіць праваабаронцаў маўчаць. Але мы змагаемся супраць страху і абыякавасці ў грамадстве. Мы змагаемся з прычынамі парушэнняў правоў чалавека. Мы не хочам жыць у хлусні, мы гатовыя многім рызыкаваць, каб гучала праўда.

Мара чалавека зрабіць гэты свет лепшым — непераадольная. Амаль 70 гадоў таму, у 1948 годзе, была прынятая Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Тады пасля вайны паўсвету ляжала ў руінах, існавала каланіяльная сістэма, а ў Савецкім Саюзе і Кітаі панавалі крывавыя дыктатуры. Але разбураюцца імперыі, падаюць непахісныя рэжымы, а ідэі правоў чалавека, важныя і каштоўныя для ўсіх людзей, авалодваюць усім светам.

Наша сіла, сіла «бяссільных» — так калісьці чэшскі прэзідэнт і праваабаронца Вацлаў Гавел назваў дысідэнтаў і праваабаронцаў — заключаецца ў бясстрашнасці і салідарнасці.

Дарагія сябры, давайце праяўляць салідарнасць! Давайце трымацца разам! Давайце не заплюшчваць вочы! І тады нам будзе лягчэй змяніць гэты свет да лепшага!»

*Выступ Алеся Бяляцкага на адкрыцці*
*2-га Сусветнага праваабарончага форуму*
*ў Маракешы (Марока). 27 лістапада 2014 года.*




*Маніфестацыя FIDH перад амбасадай Беларусі ў Парыжы 25 лістапада 2011 г.*
*Фота з архіва FIDH*

Калі мяне папрасілі напісаць пра выпрацоўку плана, стратэгічнае структураванне і правядзенне міжнароднай кампаніі па вызваленні Алеся Бяляцкага, я запанікавала: як змясціць на некалькіх старонак тры гады надзеяў, расчараванняў, салідарнасці, болю і чалавечага цяпла? Ды і я ў гэтым працэсе была толькі адной з вельмі, вельмі многіх.

Як не паддацца спакусе структураваць заднім днём тое, што адбывалася ў пастаянным працэсе, часам шалёным тэмпе і, у любым выпадку, неадрыўна ад эмоцый ды іншы раз больш было падобнае да адчайных кіданняў, чым да стратэгіі? У той жа час, стратэгія безумоўна мела месца. Тая ж самая, якая зноў і зноў прымяняецца сусветнай супольнасцю, калі хтосьці аказваецца за кратамі за свае перакананні, за правы, свае і іншых, за прынцыповую пазіцыю. Як гэта ні дзіўна, у працы праваабаронцы, які працуе з міжнароднай супольнасцю, вельмі шмат руціны і паўтаральных дзеянняў і рэакцый — пры ўсёй геаграфічнай і тэматычнай разнастайнасці парушэнняў правоў чалавека, алгарытмы «да каго кідацца» і «што рабіць» у прававым міжнародным полі не такія ўжо шматлікія.

Галоўная выснова, якая напрошваецца з усёй старой як свет практыкі, простая, звярніцеся вы да Караленкі альбо Заля, да актывістаў, якія па ўсім свеце арганізоўвалі кампаніі па вызваленні савецкіх дысідэнтаў, да барацьбітоў за свабоду ахвяраў паўднёваафрыканскага апартэіду ці актывістаў сацыяльных сетак у Бахрайне. Яна простая і — незвычайна складаная, асабліва, калі час супраць вас, калі праз месяцы пасля прысуду імя забываецца прэсай, калі новыя беды выкрэсліваюць з навінавых калонак папярэднія. І ўсё ж свет не прыдумаў нічога больш эфектыўнага за стары рэцэпт — ніколі не спыняць намаганні, пастаянна шукаць новыя шляхі і пры гэтым зноў і зноў праходзіць ужо пройдзенымі.

Часам гэтая руціна здаецца безнадзейнай, часам — бессэнсоўнай, і рукі апускаюцца перад свавольствам адных, цынізмам і абыякавасцю іншых. Але калі ведаеш, што ад тваіх дзеянняў залежыць свабода чалавека, арыштаванага за абарону правоў іншых, часта незнаёмых яму людзей, чалавека, з якім у цябе часта нават няма

прамога кантакту — але які, кожную хвіліну адчайна чакае тваёй дапамогі, слова «бессэнсоўна» — неўжывальнае. Яго замяняе слова «трэба». Бо іншага выйсця няма. А вось калі прыходзіць той дзень, калі ты бачыш, як чалавек, за якога ты змагаўся, аказваецца на свабодзе, абдымае сваю сям'ю і сяброў, і ты жывеш з гэтай карцінкай, якая замяняе стаўшую звыклай у дачыненні да гэтага чалавека думку пра карцар, нары або перадсвітальны развод, — ты разумееш, што гэта было не толькі «трэба», што ўсе прадпрынятыя «безнадзейныя» дзеянні мелі сэнс і ў сукупнасці далі заканамерны вынік. Што менавіта стала вырашальным фактарам нашых нячастых перамог? Мяркую, менавіта бесперапыннасць высілкаў.

Вядома, колькасць людзей, за якіх *трэба* змагацца кожны дзень і кожную хвіліну, большая за чалавечыя сілы любога з нас. І, зразумела, усім не атрымаецца дапамагчы, як бы не хацелася. Як у вядомай прыпавесці — немагчыма вярнуць у мора ўсе выкінутыя хвалямі на бераг марскія зоркі, ды і не зменяць нічога для ўсіх марскіх зорак нашы спробы вярнуць некалькіх з іх. Але для тых, якія вярнуліся ў родную стыхію, гэтыя намаганні мяняюць усё.

У сітуацыі з выпадкамі эмблематычнымі — а менавіта такой і была справа Алеся Бяляцкага, гэта прыпавесць занадта вузкая. Яго арышт не быў індывідуальным пакараннем, адарваннем ад роднай стыхіі асобнага чала-






*Абмеркаванне планаў у справе вызвалення Алеся падчас візіту сябраў "Вясны" ў Парыж. Сустрэча з Антуанам Бернарам, Суэр Белхасэн і Сашай Кулаевай у офісе FIDH. 4 чэрвеня 2012 года. Фота з архіва ПЦ "Вясна"*

века. Ён быў акцыяй калектыўнага запалохвання. Гэта быў пасыл усім праваабаронцам Беларусі, пасыл усім, хто спрабаваў рабіць супрацьлеглае таму, над чым усімі сваімі органамі працаваў аўтарытарны рэжым. Тым, хто сваёй дзейнасцю зніжаў узровень страху ў грамадстве. Яны казалі — не трэба баяцца, нават калі за вашыя дзеянні ў імя свабоды вы падвергнецеся рэпрэсіям, мы будзем побач. Мы знойдзем спосаб вам дапамагчы і мы зробім усё, каб увесь свет даведаўся пра тое, што адбываецца.

Менавіта таму арышт стваральніка і нязменнага кіраўніка ПЦ «Вясна», Алеся Бяляцкага, быў большым за адрасную рэпрэсію. Гэта была адначасова адзнака (высокая, хоць і дарагой цаной) яго асабістай ролі ў руху, папярэджанне ўсім астатнім праваабаронцам (парог пераступлены, вы — наступныя, калі не будзеце больш абачлівымі) і пасыл грамадству — не думайце, што яны змогуць абараніць вас, яны і сябе ніяк абараніць не змаглі.

Усё гэта старое як свет…

Таму і адказ праваабарончай супольнасці на арышт Алеся павінен быў быць адпаведны — мы не толькі павінны былі дапамагчы індывідуальна Алесю — вернаму і дарагому сябру, які апынуўся ў бядзе, але мы павінны былі даць зразумець і яго калегам, і ўладам краіны, што гэтая акцыя запалохвання не дасягне сваёй мэты, што салідарнасць не задыхнецца, а ўзровень страху не ўзнімецца.

У нашай працы гэтыя дзве мэты часта пераплятаюцца — бо калі «кошт пытання» для ўладаў апынецца занадта дарагім, а пастаўленай мэты (запалохвання і папярэджання пратэстаў) санкцыя не даб’ецца, шанцы на здабыццё індывідуальнай свабоды вязня ўзрастаюць. Яны моцныя — але і ў нас ёсць сіла, сіла салідарнасці, сіла міжнароднасці нашага руху, вядомасці некаторых з нашых прыхільнікаў і калегаў, а галоўнае — наша ўпартасць. Гэта не самапахвала — гэта некаторая дадзенасць, без яе мы ўсе, напэўна, проста абралі б сабе іншыя прафесіі.

Ва ўсёй гэтай руціне і цякучцы цяжка ўзгадаць, калі менавіта ты быў, дзе і што менавіта ў той момант рабіў. Выключэнне — вельмі кепскія, страшныя весткі. Я дакладна памятаю, дзе я была і якое было надвор’е, калі я даведалася пра тое, што забілі маіх калегаў Наташу Эстэміраву, Ганну Паліткоўскую, Стаса Маркелава. Таму што я іх ведала, таму што гэта было жудасна, але яшчэ і таму, што адразу станавіўся ясны ўзровень

падзеі, вышыня пераступленага парога, разбуральная сіла пасыланага сігналу. Розніца ў тым, што калі тое, што адбылося, непапраўнае, застаецца, сціснуўшы зубы, змагацца толькі з сухім астаткам — беспакаранасцю, сігналам. Калі ж чалавек жывы, але трапляе ў яму несправядлівай і кіраванай пенітэнцыярнай сістэмы, трэба адразу бегчы і нешта рабіць у абодвух напрамках: індывідуальным і калектыўным.

Я выдатна памятаю, дзе я была ў той дзень, калі мне патэлефанаваў Валодзя Лабковіч з Мінска і сказаў, што Алеся забралі. «Затрымалі або зусім?» — «Зусім». Нельга сказаць, што мы былі да гэтага зусім не гатовыя, у адрозненні ад многіх іншых выпадкаў — Алесю відавочна давалі зразумець ужо некалькі месяцаў, што арыштуюць. Не толькі давалі зразумець — ясна паказвалі, як і за што, і давалі выехаць за мяжу, каб ён там і застаўся, што было б куды лепей для ўладаў за рэзанансны арышт. З гэтым разуменнем Алесь прыехаў у Парыж у канцы чэрвеня 2011 года на міжнароднае праўленне FIDH, віцэ-прэзідэнтам якой ён тады быў. За месяц да яго арышту адбылася цалкам сюррэалістычная размова, калі ён выкладаў нам, як, на яго думку, трэба будзе дзейнічаць і працаваць пасля яго арышту. Адна справа — абмяркоўваць з калегамі, што рабіць па факце, які ўжо адбыўся, іншая — сядзець на залітай сонцам тэрасе парыжскага кафэ і весці размову, папіваючы каву, пра тое, як і што рабіць, калі… Пачуццё, што насоўваецца бяда, не пакідала нас усе наступныя тыдні, але прайшоў месяц, і ўсё было ціха. Чалавек вельмі лёгка верыць добраму. Таму напачатку жніўня я ўсё ж пайшла ў адпачынак, а раніцай апошняга дня на працы патэлефанавала Алесю — усё, ненадоўга адключаюся, але мабільнік з сабой, калі што — адразу тэлефануйце. Алесь, як заўсёды, спакойна і цёпла пажадаў добрага адпачынку. А праз некалькі гадзін патэлефанаваў Валодзя, і чамусьці як апошняя здрада гучалі ў мяне ў галаве ўсе тры наступныя гады словы «я еду адпачываць, калі што — тэлефануйце». Гэта было 4 жніўня 2011 года. Голас Алеся я зноў пачула ўвечары 21 чэрвеня 2014-га.

Нягледзячы на тое, што быў арыштаваны не абстрактны праваабаронца, а калега і сябра, уключыліся звыклыя рэфлексы.

> Першае — даведацца, **як дапамагчы «па факце»** — што з сям'ёй, што з адвакатам, што і як можна перадаць. Напісаць і адправіць ліст — а раптам дойдзе, абавязкова на яркай прыгожай паштоўцы (з кветкамі, воляй, надзеяй).
>
> Другое — **узняць інфармацыйную хвалю проста зараз**, калі яшчэ можна, магчыма, паўплываць **на меру стрымання да суда** (прэс-рэліз, рассылка па ўсіх міжнародных кантактах, падключэнне

Абсерваторыі па абароне правоў праваабаронцаў, а з іх дапамогай — офісаў пры ААН, ЕС, іншых міжнародных арганізацыях, падключыць прэсу, дамагчыся артыкулаў ад адных і тэрміновых рэакцый ад іншых…). Кошт пытання важна адразу ж заявіць як вельмі высокі. Калі шанец на лепшае і ёсць — ён нядоўгі і яго вельмі лёгка ўпусціць.

Трэцяе — **дапамагчы «асірацелай» камандзе**, у іх наперадзе нялёгкія месяцы, а магчыма, і гады. Ім трэба адразу даць адчуць падтрымку, што яны не адны, што гэта не канец, даць выстаяць. Гэта трэба ім, гэта трэба Алесю, гэта «трэба» — адказ на калектыўны выклік.

І нарэшце — **трэба пачаць выбудоўваць стратэгію абароны**. На нацыянальным узроўні гэтым зоймуцца калегі, трэба толькі дапамагаць, дзе гэта магчыма, а вось на міжнародным узроўні патрэбна каардынацыя, патрэбна **кааліцыя**. У жніўні 2011 года на сустрэчу ў Вільню з'ехаліся прадстаўнікі некалькіх дзясяткаў праваабарончых арганізацый, рэгіянальных і міжнародных. Была наладжана каардынацыя першых дзеянняў. Каб не вяртацца да гэтага, адразу абмоўлюся, што гэтая каардынацыя, нават паміж мала знаёмымі да таго паміж сабой арганізацыямі, працягвалася ўвесь час і, як часта бывае ў такіх выпадках, спараджала трывалую еднасць і душэўную цеплыню. Нейкім незразумелым чынам, не заўсёды каардынуемым чынам, калі сілы амаль канчаліся ў адных, новая кампанія пачыналася ў іншых, і ўсе гэтыя шматлікія струменьчыкі музычнага фантана зліваліся ў пастаянную мелодыю салідарнасці. **Тым не менш, пры падрыхтоўцы да поўнамаштабнай кампаніі адразу адвядзіце сілы і час на стварэнне кааліцыі і падтрыманне яе функцыянавання ў будучыні, магчыма, гэта давядзецца рабіць доўга, а эфектыўная каардынацыя таксама займае нямала сілаў і часу.**

Для палёгкі каардынацыі FIDH стварыла сайт, на якім штодзень змяшчаліся навіны на некалькіх мовах, якія дасылаліся нам, — пра сітуацыю Алеся, пра дзеянні, якія прымаліся ў яго абарону, пра рэакцыі міжнародных арганізацый. Каб рэгулярна друкаваліся ўрыўкі яго лістоў — бо мэтай арышту было менавіта прымусіць змоўкнуць яго голас.

Алесь Бяляцкі вядомы многім, ужо шмат гадоў і далёка за межамі Беларусі. Яго дзейнасць добра ведаюць многія міжнародныя арганізацыі — Amnesty International, Human Rights House, Frontline Defenders. У межах працы нашай Федэрацыі, у міжнароднае праўленне якой ён уваходзіў з 2007 года, Алесь аб'ездзіў увесь рэгіён Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі ўздоўж і ўпоперак, ездзіў з місіямі і ў зусім іншыя часткі свету. Яго ведалі




*Саша Кулаева прэзентуе сайт Freeales.fidh.net на праваабарончым форуме ў Вільні. Кастрычнік 2013 г. З архіва FIDH*

і любілі нашы сябры ў Лацінскай Амерыцы, Паўночнай Афрыцы, Азіі. Нядзіўна, што ўсе нашы калегі актыўна мабілізаваліся ў яго абарону.

Дзясяткі вядомых дзеячаў, як і сотні неабыякавых людзей, падахвоціліся ўзяць Алеся **на парукі да суда**. Як заўсёды, акцыя па зборы паручальніцтваў пераследвала некалькі мэтаў адразу. У лепшым выпадку, гэта давала ўладзе фармальную нагоду адпусціць яго, калі такі варыянт быў яшчэ для іх магчымы. У горшым выпадку (а гэта ён і быў), гэта зноў жа дапамагала адразу ж агучыць «кошт пытання», паказаць размах падтрымкі, сілу руху. Міністр замежных спраў, нобелеўскія лаўрэаты, адзін з аўтараў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Мы задавалі свой тон, улады — свой. На суд над Алесем у лістападзе захацелі паехаць назіральнікамі многія — але амаль усім адмовілі ў візе. Прэзідэнту FIDH, памятаецца, у амбасадзе сказалі, што, праз наплыў візавых заяваў у сувязі з вялікім спартовым мерапрыемствам, шэсць заяваў ад нашай каманды (уключна лаўрэата Нобелеўскай прэміі Шырын Эбадзі) нават не могуць быць разгледжаныя. З невялікімі нюансамі адмовілі і ўсім нашым міжнародным калегам. Але ўсё ж рэгіянальная група ад Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў змагла прыехаць, балазе нашыя пашпарты гэта дазвалялі — Алег Арлоў, тады кіраўнік праўлен-

ня расійскага ПЦ «Мемарыял», Артак Кіракасян, кіраўнік Інстытута грамадзянскай супольнасці ў Арменіі і я змаглі прысутнічаць на ўсіх пасяджэннях гэтага ганебнага судзілішча. Змагла прыехаць і прадстаўніца Human Rights Watch. Зала была набітая прыхільнікамі Алеся і яго перакананняў, але на той момант усе мы здаваліся такімі ж бяссільнымі і змрочнымі, як позне-лістападаўскі цёмны мінскі дзень, калі быў агучаны прысуд — чатыры з паловай гады строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Ужо на наступны дзень 35 сяброўскіх арганізацый FIDH па ўсім свеце правялі акцыі пратэсту, падтрыманыя дзясяткамі актывістаў іншых міжнародных арганізацый. Суд і хісткія надзеі, звязаныя з ім, мінулі, і кампанія па вызваленні Алеся Бяляцкага ўвайшла ў новую фазу.

Часта даводзіцца чуць, што пры запуску грамадскай кампаніі трэба вызначыцца з тактыкай — упор будзе зроблены на інфармаванне, на перакананне або на грамадскі ціск. Часта выбар тактыкі вызначае і планаваны тэрмін кампаніі. Але як быць, улічваючы, што невядома, колькі будзе доўжыцца кампанія, а жорсткія ўмовы зняволення, а таксама разбуральная сіла пасыланага самім фактам яго зняволення сігналу не дазваляюць уключаць тактыкі паступальна? Відавочна, неабходна запускаць усе адразу. Так мы і зрабілі.

Каб міжнародныя арганізацыі пачалі рухацца, іх трэба тармасіць штодня. Для гэтага неабходная першая тактыка — **якаснае інфармаванне**. Акрамя таго, неабходная ланцуговая рэакцыя, каб міжнародныя арганізацыі адчувалі, што тармосім іх не толькі мы. Павінен быць той самы грамадскі ціск, дамагчыся якога можна толькі перакананнем — у тым, што гэты прысуд несправядлівы, што яго значэнне вялікае, што кейс важны ў самых розных разрэзах. Вось гэта апошняе — іншым разам самае цяжкае. У свеце штосекундна адбываюцца сотні і тысячы несправядлівасцяў, адна за іншую страшнейшая. Як пераканаць твайго суразмоўцу, што менавіта гэтая заслугоўвае ўвагі? Іншымі словамі, трэба стварыць «кейс Бяляцкага».

У першай частцы — якаснага *інфармавання* — прыдумляць нічога не трэба, маніторынг — базавая прылада праваабаронцы. Але і ў гэтай маніторынгавай частцы варта не выпускаць з-пад увагі мабілізацыйную мэту.

Алесь — чалавек грамадскі, які аддаў гады барацьбе за свабодную грамадзянскую супольнасць. Таму ад самага пачатку мэтай нашай кампаніі было не толькі вызваленне Алеся Бяляцкага, але і асвятленне, праз яго канкрэтны выпадак, праблемы палітычных зняволеных у Беларусі і сістэматычнага і сістэмнага характару рэпрэсій (бо менавіта ліквідацыя ПЦ «Вясна» і яго рахункаў дала ўладам фармальныя падставы для арышту

кіраўніка арганізацыі, і асуджэнне Алеся наглядна паказвала ўвесь ланцужок выбудаваных уладай пастак). Таму, апроч кампаніі як такой, увесь час вёўся ўважлівы і сур'ёзны маніторынг: з дапамогай нашых калегаў у Беларусі да кожнай адвакатыўнай паездкі, да кожнага публічнага мерапрыемства або сустрэчы з журналістамі складаліся падрабязныя памяткі пра стан кожнага палітычнага зняволенага, яго здароўе, спагнанні і парушэнні ў дачыненні да яго, выпадкі ціску на яго сям'ю, доказы выбіральнасці мераў, якія ўжываліся да яго, прыкметаў палітычнага пераследу. У сілу пастаяннай пільнай увагі да кожнага з спіса актывістаў, якія міжволі сталі разменнай манетай дыпламатычных перамоваў, я дагэтуль памятаю не толькі падрабязнасці зняволення і вызвалення кожнага з іх, але часта і імёны іх блізкіх — і, упэўненая, тое ж могуць сказаць пра сябе многія мае калегі па ўсім свеце.

Для тактыкі *пераканання* гэтыя інфармацыйныя матэрыялы таксама мелі важную ролю. Але, тым не менш, мы павінны былі цвяроза разумець, што мабілізаваць грамадскую думку вакол спісу з некалькіх дзясяткаў імёнаў — а на момант арышту Алеся ў зняволенні знаходзілася некалькі дзясяткаў палітычных зняволеных — мы не зможам. Ствараючы вобраз ахвяры рэжыму — вобраз жывы, вядомы, асобасны — мы маглі пад ім, як пад нейкім сцягам, спрабаваць пераканаць свет казаць пра Беларусь, пра праблему палітычных зняволеных і страшныя ўмовах іх утрымання. Гэта часам называюць «персаніфікацыяй праблемы». Профіль праваабаронцы ў гэтым сэнсе асабліва «ясны» — бо такі чалавек арыштаваны нават не за адстойванне сваіх поглядаў, што само па сабе абуральна, а за дапамогу тым, чыіх поглядаў ён сам, магчыма, і не падзяляў; за права іх выказваць. Да мабілізацыі вакол такога вобразу лягчэй стварыць кансэнсусную падтрымку самых розных слаёў насельніцтва ў самых розных краінах. Тым не менш,

fidh

ВЯСНА праваабарончы цэнтр

**FIDH - International Federation for Human Rights**
**Human Rights Center Viasna**

**Position note**

**The Situation of Persons subject to Imprisonment or Restrictions on Freedom for politically motivated reasons**

Evidence gathered by FIDH and its member organisation in Belarus, Human Rights Centre Viasna, clearly contradicts the statement made at a press conference[1] on 14 February 2013 by the Belarusian Deputy Prosecutor, General Alyaksey Stuk, that the detention conditions of the 10 detainees currently identified by our organisations as political prisoners in Belarusian prisons and penal colonies are not different from the conditions of other prisoners. The 10 detainees suffer regular punishments that sharply exacerbate the already difficult conditions of their detention by restricting their means of support and quality of food and medical assistance. Often deprived of meetings with relatives, and subject to limits on correspondence, and constant pressure to make them write petitions for pardon, the physical ordeal of these individuals is intensified by psychological ordeals, qualifying detention conditions as inhuman and degrading treatment, prohibited by the articles 7 and 10 of the International Covenant on Civil and Political Rights and article 16 of the Convention against Torture and Other Cruel, Inhuman or Degrading Treatment or Punishment.

FIDH and Viasna hereby note that in addition to these 10 political prisoners, a number of unimprisoned Belarusian citizens are currently subject to severe restrictions imposed following prosecution in politically motivated criminal cases. This number includes 27 former political prisoners, who have been pardoned or released early in 2011 to 2013. Their convictions have not been expunged, which deprives them of numerous civil and political rights, including the right to run in elections or work as a government employee. Their names remain on "**preventive watch**" lists maintained by internal affairs agencies, making them vulnerable to regular police visits. If brought in on administrative charges three times in one year, they face "**preventative supervision**". Such supervision carries more serious restrictions and makes repeated criminal prosecution and deprivation of freedom possible.

In 2012 and early 2013, five persons were placed under preventative supervision by internal affairs agencies on the basis of administrative penalties imposed by courts in

[1]"Условия содержания "политзаключенных" "такие же, как у всех остальных осужденных" – Генпрокуратура [The conditions of "political prisoners", "the same as all other prisoners" – PGO], Interfax.by, 14 February 2013, available at http://www.interfax.by/news/belarus/125295.

*Аналітычная запіска "Вясны" і FIDH пра становішча палітвязняў у Беларусі.*

паўтаруся, уздымаючы пытанне пра вызваленне Алеся Бяляцкага, мы заўсёды даносілі і інфармацыю пра ўсіх, без выключэння, палітычных зняволеных, даказваючы сістэмны характар праблемы і патрабуючы вызвалення іх усіх як абавязковай умовы любых эканамічных ці палітычных саступак у двух- і шматбаковых адносінах.

Усебаковая грамадская дзейнасць Алеся і да арышту атрымала заслужаную ацэнку, асабліва на рэгіянальным узроўні — і для нас яе значэнне было відавочнае. Зараз жа трэба было зрабіць яе здабыткам міжнароднай грамадскасці. Менавіта для гэтага было важна наладзіць сайт, зацікавіць яго лёсам журналістаў, арганізаваць акцыі салідарнасці па ўсім свеце, надаць абстрактнаму для многіх вязню жывы і пазнавальны твар.

Каб наша меркаванне, наш крык пра дапамогу быў пачуты, нам патрэбныя былі **саюзнікі**, на чые імёны адгукаецца прэса і ўладныя людзі. Усім светам кампаніі ўдалося мабілізаваць некалькіх нобелеўскіх лаўрэатаў, якія выступілі ў падтрымку Алеся — Шырын Эбадзі, Аун Сан Су Чжы, заручыцца падтрымкай — дзе вядомых артыстаў, спевакоў, дзе дыпламатаў, дзе рэлігійных дзеячаў, дзе — мэраў гарадоў (якія прысвоілі Алесю званне ганаровага грамадзяніна іх горада, а значыць у далейшым выступалі з шэрагам ініцыятыў, накіраваных на прыцягненне ўвагі да яго справы).

*Шырын Эбадзі на працягу ўсёй кампаніі падтрымлівала намаганні FIDH у справе вызвалення Алеся Бяляцкага. Фота з архіва FIDH*




Усеагульныя намаганні прывялі да таго, што свет даведаўся імя Алеся. З’явіўся «кейс Бяляцкага», вакол якога стала можна выбудоўваць ужо больш мэтанакіраваныя намаганні.

Прымаючы пад увагу шматгадовы, зацяжны характар аўтарытарнага рэжыму Беларусі і палітычныя і эканамічныя асаблівасці яго функцыянавання, **аб’ектам уздзеяння нашай кампаніі** павінны былі з’яўляцца не столькі нацыянальныя дзяржаўныя ўстановы Беларусі, няздольныя аднавіць справядлівасць у дачыненні да Алеся ў прыватнасці, і ажыццявіць пэўныя структурныя змены ў цэлым, а тыя міжнародныя структуры, якія з тых ці іншых прычынаў, могуць мець на гэты рэжым уздзеянне або ўплыў.

Многае, напэўна, значаць пытанні правільна пастаўленай падачы інфармацыі, правільна абранага моманту, адрасата, формы. Не магу сцвярджаць, што мы заўсёды правільна знаходзілі адказы на гэтыя пытанні. У інфармацыі, якая збіраецца і перадаецца ўплывовым актарам, утрымліваўся адзін, заўсёды пацверджаны фактычнымі прыкладамі **пасыл**: «Ваш партнёр — рэпрэсіўны і несумленны, ён парушае міжнароднае права і пляміць тым самым не толькі свой гонар, але і ваш». **Заклік**, які вынікае з гэтага пасылу, быў таксама крайне зразумелы: «Пазбягайце дзелавых адносінаў з гэтым партнёрам або выкарыстоўвайце іх для таго, каб прымусіць яго паважаць міжнароднае права і імідж партнёраў — і ваш у тым ліку».

Пры гэтым кампанія павінна была быць у першую чаргу накіравана на міжнародныя арганізацыі, сябрам якіх з'яўляецца Беларусь, а значыць — абавязаная выконваць іх рашэнні і прытрымлівацца рэкамендацый. Але гэтыя арганізацыі, нягледзячы на абавязковы характар пагадненняў, рэдка маюць эканамічную і палітычную вагу, каб дамагчыся выканання сваіх рашэнняў. Таму відавочныя адрасаты нашых адчайных намаганняў, гаранты правоў чалавека ў Беларусі — АБСЕ і перш за ўсё ААН, былі для нас хутчэй мішэнямі прынцыповымі, чым рэальна моцнымі саюзнікамі. Савет Еўропы, сябрам якога Беларусь не з'яўляецца, часам менавіта ў сілу гэтага атрымлівае магчымасць для абмеркаванняў там, дзе не дамагаюцца гэтага афіцыйныя партнёры. Еўрапейскі Саюз, са свайго боку, трымае ў руках вяровачкі ад грашовага меха — і, у адрозненні ад усіх сваіх партнёраў, наўзамен элементарнага выканання міжнароднага права можа краіну адарыць або абысці шчодрасцю. Менавіта гэта робіць ЕС для Беларусі партнёра непрыемнага, дрэнна сумяшчальнага з амбіцыямі кіраўніка дзяржавы на пазіцыі «я сам усё вырашаю» — але абсалютна неабходнага. Да таго ж гістарычны балет (ад ЕС да Расіі і назад) прыносіць краіне рэальныя выгады, а значыць — тым, хто хоча дамагчыся чагосьці — скажам, вызвалення палітычных зняволеных — трэба вучыць і гэтыя балетныя па, будзь тое па-дэ-дэ або па-дэ-труа. Для далейшых, яшчэ больш вузкаскіраваных дзеянняў, нам прыйшлося вывучыць і эканамічныя пытанні, якіх мы да таго зусім не ведалі (звярнуўшыся, вядома, да экспертаў больш дасведчаных за нас у гэтых тонкасцях): прыйшлося задумацца пра банкі і фонды, якія выдаюць буйныя крэдыты, краіны, звязаныя з Беларуссю прывілеяванымі эканамічнымі адносінамі ў асноўных экспартных галінах, персоны, чые кашалькі падтрымліваюць рэпрэсіўны рэжым, або тых, хто, уласна кажучы, самі становяцца яго кашалькамі.

Некаторыя з мішэняў нашай кампаніі станавіліся нашымі саюзнікамі ахвотна, некаторыя — неахвотна, але, як той казаў, па абавязку службы, а на некаторых даводзілася ўздзейнічаць паводле прынцыпу name and shame. Адпаведна мяняліся і метады камунікацыі: у адным выпадку дастаткова было дружалюбнага візіту

(але як цяжка было яго іншы раз дамагчыся!), у іншым — закрытага ліста, у трэцім — толькі публічнае асуджэнне беспрынцыповай пазіцыі магло іншы раз прывесці да невялікіх крокаў у патрэбным нам кірунку. Але не варта пераацэньваць — былі выпадкі, дзе нам і так і гэтак нічога не ўдавалася дамагчыся. Тады даводзілася пачынаць усё з нуля або мяняць тактыку. Таму ў ліку важных сродкаў любой кампаніі павінна быць пастаянная **паэтапная праверка правільнасці абранай стратэгіі і плана дзеянняў і гнуткая сістэма перагляду намечаных шляхоў з тым, каб, магчыма, зусім іх не прытрымлівацца або прытрымлівацца па-іншаму**.



*Саша Кулаева і Валянцін Стэфановіч падчас справаздачы спецдакладчыка ААН па Беларусі ў Генасамблеі ААН у Нью-Ёрку. З архіва FIDH*

Апошняе — **аб'ём скарыстаных рэсурсаў**. Нам часта даводзілася чуць — ну так, усё гэта добра, калі ёсць вялікія сродкі. Вось тут мне хацелася б запярэчыць. Азіраючыся назад, я з упэўненасцю магу сказаць, што самыя запамінальныя акцыі, самыя смелыя рашэнні ніякіх фінансавых сродкаў не патрабавалі наогул. Вядома, на бясконцыя паездкі, падрыхтоўку матэрыялаў і пераклады для сайта, які дзейнічаў пастаянна, выдаткі былі неабходныя. Але ўсё ж асноўнай сілай заставалася надзея, салідарнасць і згуртаванасць намаганняў, тое, дзякуючы чаму да самага дня вызвалення Алеся — праз амаль тры гады пасля арышту — ніхто не мог сказаць: «Ну вось, кампанія быццам бы пайшла на спад».

Напэўна, няма сэнсу прыводзіць манатонны спіс усіх абабітых намі парогаў. Мы назалялі ўсім органам **ААН** без выключэння ад Жэневы да Нью-Ёрка, мы ўдзельнічалі ў стварэнні новага мандата спецдакладчыка ААН па становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі і часам штодзённым абмене інфармацыяй з Працоўнай групай па адвольных затрыманнях, Спецдакладчыкам па свабодзе асацыяцый і, вядома, Упраўленню Вярхоўнага камісара па правах чалавека.

У **Савеце Еўропы** нашым традыцыйным саюзнікам быў Камісар па правах чалавека СЕ, спачатку Томас Хамарберг, потым Нілс Муйжніекс — але і падтрымка ПАСЕ, у тым ліку сімвалічна выражаная самым пер-



*Праваабаронцы «Вясны», БАЖ, Беларускага Дома правоў чалавека, FIDH, Amnesty International і Міклаш Харасці падчас Генасамблеі ААН у Нью-Ёрку. 30 кастрычніка 2013 г. Фота з архіва FIDH*

шым прысуджэннем прэміі правоў чалавека імя Вацлава Гавела ў 2013 годзе Алесю. Са Страсбургскай беганінай у мяне звязаная светлая гісторыя — пераязджаючы па адным з першых колаў з Бруселя ў Страсбург са спісам палітычных зняволеных, мы літаральна на ўваходзе ў чарговы страсбургскі кабінет даведаліся пра вызваленне 11-ці чарговых вязняў і на калене ў калідоры падпраўлялі спіс, які збіраліся падаць.

У суцэльную чараду зліліся асобы ў Вене і Варшаве (дзе таксама паспеў змяніцца дырэктар БДІПЧ, пакуль Алесь не выйшаў на волю), а ўжо тым больш у Брусэлі, дзе мы бывалі пастаянна, чаргуючы кабінетныя і кулуарныя размовы з чыноўнікамі ЕС з пікетамі і прэс-канферэнцыямі. Часцей за іншых на іх бываў са мной Валянцін Стэфановіч, які ўвесь час зняволення Алеся выконваў у ПЦ «Вясна» яго паўнамоцтвы, спалучаючы іх з няспыннымі паездкамі па справе Алеся — вось у каго трэба вучыцца нязломнасці надзеі!

Праз паўтары гады бесперапынных намаганняў я заўважыла на чарговай сустрэчы, што нашы найбольш дасведчаныя суразмоўцы перасталі глядзець нам у вочы. Яны глядзелі ў акно, на дзверы або на стол, але толькі не на нас. Пасля таго, як выйшлі на свабоду ўжо многія, і спіс спатыкнуўся на лічбе 11, якую ніяк не ўдавалася пераадолець, нават дыпламат у поўным сэнсе слова Еўракамісар Штэфан Фюле, які неаднаразова аказваў нам падтрымку на самым высокім узроўні, рашуча стаў пазбягаць майго погляду — я гэта бачыла вельмі выразна. Іншым цяжкім успамінам была сустрэча ў парламенце адной еўрапейскай краіны, якая мае асаблівa развітыя эканамічныя сувязі з Беларуссю. Нас пасадзілі перад камерай у пустой зале і сказалі — «Кажыце. Не бянтэжцеся, што нікога няма, вас бачаць праз вэб-стрымінг». На той момант пайшоў ужо трэці год нашых бесперапынных спробаў пераканаць, заклікаць да дзеяння, падштурхнуць. Мы расказвалі пра Алеся, пра іншых зняволеных: Дзядка, ад якога тыднямі не прыходзяць лісты, Статкевіча, супраць якога рыхтуецца чарговая правакацыя, Васьковіча, які з 15 месяцаў восем правёў у карцары, пра здзекі над Аліневічам, які здалеў перадаць на волю наймацнейшую кнігу пра перажытае ў самай закрытай установе ультра-закрытага беларускага пенітэнцыярнага свету … распавядалі ў шалёна прыгожай, багатай і аб-са-лют-на пустой зале. Ніколі,

напэўна, я не была настолькі блізкая да поўнай безнадзейнасці. І што цікава — далейшае паказала, што па вэб-стрымінгу нас сапраўды чула даволі шмат людзей — як дэпутатаў, так і журналістаў, і на выхадзе гэтая паездка дала не менш за многія іншыя.




Падчас сутрэчы з еўракамісарам Штэфанам Фюле ў Бруселі ў студзені 2012 г. З архіва FIDH

Але ж больш за ўсё запомніліся не самі сустрэчы, а пастаянныя сумневы — ці ўсё мы робім правільна, і ці няма чагосьці такога, што мы не паспрабавалі, а, глядзіш, яно б і аказалася вырашальным. Самы страшны ўспамін — калі адзін вельмі высокапастаўлены дзеяч Еўрасаюза папракнуў мяне ў залішнім шуме па справе Алеся. «Мы маем справу з гандляром», ахарактарызаваў ён кіраўніка дзяржавы. «Зразумейце, ён думаў, што ў яго ў кулаку шмат разменных манетак, больш-менш каштоўных для гандлю. А вы са сваёй шуміхай, прэміямі, слуханнямі, міжнароднай мабілізацыяй вакол Бяляцкага пераконваеце яго ў тым, што ў яго ў руках апынуўся неразменны залаты, які ён недаацэньваў, і за які можа выманіць у нас што заўгодна. Набіваючы кошт вашаму калегу, вы падаўжаеце яго тэрмін». Я не перабольшваю — гадзінамі пасля гэтай сустрэчы перабірала ўсё, што мы зрабілі да таго часу, узважвала, задавала сабе пытанне — а ці маглі мы гэтага НЕ зрабіць? Ці павінны мы былі гэтага НЕ зрабіць? Не прэтэндуючы на ісціну ў першай інстанцыі, я думаю, што гэты аргумент быў няслушным. Я перакананая, што тое, што Алесь і астатнія палітычныя зняволеныя выйшлі на свабоду задоўга да канца сваіх тэрмінаў, што рэпрэсіўная машына дала задні ход; што на гэты раз сігнал прагучаў не ад іх — нам, а ад нас — ім, і гэты сігнал пачула ўся краіна; што розныя палітычныя і грамадскія групы былі вымушаныя жыць і дзейнічаць з пастаяннай думкай пра сваіх закладнікаў, стала магчымым менавіта дзякуючы гэтаму разнастайнаму, шматнацыянальнаму, пастаяннаму і салідарнаму руху. Я мяркую, што гэты пастаянны бой званоў ахоўваў яго і ў камеры, і ў калоніі. Таксама, як тысячы лістоў, якія атрымліваў Алесь з усяго свету, не маглі не рабіць уражання як на яго турэмшчыкаў, так і на яго сукамернікаў. І мяркую, сустрэнься я цяпер

з гэтым дыпламатам, ён, можа, і быў бы гатовы прызнаць, што і многія міжнародныя механізмы, марудлівыя па сваёй прыродзе, магчыма не круціліся б наогул, каб ні часам дакучлівая, але салідарная і паслядоўная ў сваіх патрабаваннях грамадзянская супольнасць, якая пастаянна нагадвае міжнароднай грамадскасці, што, як сказаў Марцін Лютар Кінг, “несправядлівасць дзе-небудзь — пагроза справядлівасці паўсюль”.



*Саша Кулаева і Алесь Бяляцкі. Першая сустрэча пасля вызвалення палітвязня. Мінск, ПЦ “Вясна”. 23 чэрвеня 2014 года. Фота з архіва ПЦ “Вясна”*

**Пры падрыхтоўцы выдання выкарыстана інфармацыя:**

- з архіваў FIDH (Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека) і Праваабарончага цэнтра “Вясна” і сайтаў арганізацый

fidh.org
freeales.fidh.net
spring96.org
mahilyowspring.org
palitviazni.info

- з сайтаў арганізацый і асобаў — удзельнікаў кампаніі за вызваленне Алеся Бяляцкага

4weeksforfreedom.nl
adcmemorial.org
amnesty.ch
amnesty.nl
amnesty.org
amnesty.org.ru
amnesty-international.be
assembly.coe.int
baj.by
belhelcom.org
birduino.kg
boell.de
by.soli-day.org
civicsolidarity.org
civilrightsdefenders.org
facebook.com/councilofeurope
facebook.com/LoreenTalhaoui
facebook.com/martin.uggla.7
facebook.com/robert.hardh
facebook.com/sergei.nikitin.52
frontlinedefenders.org
hfhr.pl
hrw.org
hrwatch-by.org
humanrightshouse.org
licviny.info
lit-bel.org
lphr.org
majdan.org.ua
minsk2014.no
ostgruppen.se
paris.fr
pen-international.org
politiken.dk
prava-by.info
sportshrd.org
svaboda.org
twitter.com/eminazerbaijan
website-pace.net

- з іншых адкрытых крыніцаў

be.radiovaticana.va
be.wikipedia.org
belaruspartisan.org
capefrance.com
charter97.org
delfi.lt
dw.com
eastbook.eu
echo.msk.ru/blog/echonikit
eu.thenews.pl
europalibera.org
euroradio.fm
facebook.com/leonid.logvinenko
gazetaby.com
gdansk.pl
kavkaz-uzel.eu
la-croix.com
lemonde.fr
naviny.by
nv-online.info
politis.fr
racyja.com
ru.rfi.fr
sobesednik.ru

- з выданняў

Каліноўскі Валер. Справа Бяляцкага. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2012
Мінкін Алег. Пэнаты. Паэзія. — Мінск: Логвінаў, 2007

**Паказальнік асобаў***

**А**



**Б**



* За выключэннем Алеся Бяляцкага

**В**



**Г**



**Д**



**Е**



**Ж**

## З



## І



## К



## Л

**М**



**Н**



**П**

**Р**



**С**



**Т**

**Э**



**Ю**



**Я**